УДК 78.071.(476)(092)+929Вайцюшкевіч
ББК 85.31(4Беи)
Б43

Складальнікі
Э. Дзвінская, А. Мяльгуй, П. Севярынец




*Дзякуем Станіславу Мяльгую за падтрымку выдання*

**Беларускае слова ад спеву** / склад. Э. Дзвінская, А. Мяльгуй,
Б43 П. Севярынец. — Выд. 2-е, дапоўн. — Мінск : Кнігазбор, 2018. — 312 с. [12] с. : іл.
ISBN 978-985-7207-02-2.

Другое, дапоўненае выданне кнігі прысвечана 25-годдзю сцэнічнай дзейнасці вядомага беларускага артыста Змітра Вайцюшкевіча і музычнай плыні пачатку XXI стагоддзя, у якой развівалася творчая дзейнасць спевака. Кніга ўяўляе сабой зборнік літаратурна-публіцыстычных і крытычных матэрыялаў, у яго ўключаны падарожныя нататкі, лірычныя замалёўкі, інтэрв’ю са спеваком, рэцэнзіі на яго музычныя альбомы.

**УДК 78.071.(476)(092)+929Вайцюшкевіч**
**ББК 85.31(4Беи)**

**ISBN 978-985-7207-02-2**

## Беларускае слова

Беларускае слова ад спеву,
Бо спявае ім даўніна.
Беларускае слова ад гневу,
Ад Ярылы, ад Перуна.

Беларускае слова ад ласкі —
Сведчаць вусны ды салаўі, —
Не наймалася ні ў падпаскі,
Ні ў падбрэхічы, ні ў халуі.

Беларускае слова ад злосці
На няпрошаных прыбышоў,
Асалоду п’е з чараў Мілосці,
Медавуху духу — з каўшоў.

Беларускае слова ад славы,
Ад ракі, дзе светлае дно.
Госці ўстануць з застольнае лавы,
Калі ў хату зойдзе яно.

Беларускае слова ад Бога,
Слову нашаму Бог дапамог,
Хто не любіць яго, ад тога
Назаўсёды адвернецца Бог!

*Рыгор Барадулін*

# Уступ

Беларускія рок-музыкі і барды, сярод якіх прызнаныя аўтарытэты — Лявон Вольскі, Алег Хаменка, Алесь Камоцкі, Эдуард Акулін і іншыя, адкрываюць нечаканую Беларусь, умацоўваюць векавыя традыцыі змагарных і бардаўскіх спеваў, папулярызуюць фальклор у сучасных інтэрпрэтацыях, адраджаюць традыцыі і ствараюць новыя музычныя фэсты, крочаць у нагу з часам.

Беларуская альтэрнатыўная музычная культура ўзрастае і пашырае свой уплыў у дэмакратычным грамадскім рэчышчы.

Новае выданне прысвечана творчасці аднаго з яркіх прадстаўнікоў гэтага кола — Змітра Вайцюшкевіча.

Самабытны беларускі артыст з моцным барытонам агучыў сучасную беларускую паэтычную класіку. Ён даў слова паэтам, як гэта было ў 60-я гады, запрасіў іх да шматтысячнай аўдыторыі, надаў новае жыццё забытым шлягерам. Рок-кароль у намінацыях «Спеўная паэзія», «Артыст года», «Кампазітар года», «Альбом года», ён здолеў праспяваць на высокім уздыме пафасныя высакавольтныя радкі Маякоўскага, агучыць геніяльныя барадулінскія метафары, задушэўную і цнатлівую лірыку Генадзя Бураўкіна, энергічныя вершы Някляева, ажывіў тонкія і сімвалічныя строфы старадаўняй японскай паэзіі. Майстар і знаўца вакальнай тэхнікі, адзначаны абаяннем і моцнай сілай уздзеяння, ён служыць сваёй краіне высокім выканаўчым мастацтвам.

Ён паглыбляецца ў раку роднай мовы, чэрпае з яе глыбіняў, верны гістарычнаму вопыту народа, сугучны сённяшняму дню, думкай сягае за далягляд у будучыню Еўрапейскай Беларусі.

Знаёмства чытачоў, у тым ліку маладых, з песенна-паэтычнымі скарбамі роднай зямлі ўмацуе патрыятычны дух, пашырыць цікавасць да культурнага жыцця, стане каталізатарам выспявання грамадзянскай свядомасці, натхніць на стваральную дзейнасць дзеля Бацькаўшчыны.

# Спеўны голас



Беларускі голас перадае ўсю драматычную ўнутраную нацыянальную мелодыку — жаль і боль, веліч і ахвяру, веру і любоў. Беларускі голас пазнавальны паўсюль — ягоны высокі тон, тэмбр, інтанацыі адразу адрозніш ад гарлавога нямецкага, прахалоднага балтыйскага ці грубаватага расейскага. Беларускі вакал — голас опер, арт-року і сольных канцэртаў а-капэла, голас настолькі моцны і чысты, што ад ягонае сілы ды вышыні выбухаюць шклянкі і затойваюць дыханне мільёны.

У беларусаў і лад гаворкі, і сама мяккая, пранізлівая мова, і манера вымаўлення, і аб'ём грудзей, і склад вуснаў, і струны галасавых звязак наладжаныя *крыніцай*: голас бруіцца, струменіць, звініць. Ён ці тонкі, ці глыбокі і пералівісты, ці поўны празрыстае яснасці, ці ззяючы ўсімі адценнямі зыкаў, феерычна зіхоткі, быццам пераборы арфы.

Беларускі голас ператварае наша аканне ў арыю аргана. А звонкае беларускае дзеканне і ціўканне, свісцячыя трэлі і залівістая мяккасць родняць беларусаў з найлепшымі пеўчымі птушкамі.

Беларускі голас струнна напружаны, як нервы, што працінаюць і зnітоўваюць усю істоту. Таму беларус не проста спявае — ён гучыць. Беларускія песні жальбы, абрадавыя падгалоссі Палесся і палацавая музыка Сярэднявечча — перапевы і пералівы таго голасу, які перадае лёгкімі ўсю лёгкасць гуку, вуснамі — увесь жар жарсці, у якім слова, узнятае ад паднябення да паднябесся, набывае ўласцівасці сімфанічнага цуду. Беларускі спеў, што імкнецца да вяршыняў мужчынскага лірычнага тэнару і жаночага каларатурнага сапрана, што возьме голасам і *соль трэцяй актавы*, і 20 000 герцаў, мяжу чалавечага слыху, дрыжыць, як крылы ў палёце, льецца слязамі шчасця і кранае так салодка!

Беларускі голас — сапраўды дар Божы. Менавіта меладычная гармонія чысціні і ўзнёсласці самых верхніх рэгістраў найлепш выяўляе любоў — нацыянальную ідэю Беларусі. Любы, хто прыслухаецца, зразумее, што азначае для яго гэты дар. Беларускі голас — голас малітвы, літургіі, царкоўных і касцельных хораў, псалмоў і гімнаў. Голас духа,

што падымае слухачоў у высі Валадарства Нябеснага. Спеў з самага сэрца. Евангельскі заклік!

Беларускі вакал — голас новага еўрапейскага абуджэння. Спеў, народжаны ў міжмор'і, зразумелы і Захаду, і Усходу, голас, які захлынае душу пяшчотай і ласкай з самага сэрца, яшчэ агучыць пропаведзь і малітву на хрысціянскім радыё і тэлевізіі ўсяго свету:

> Узышоў Бог пад воклічы,
> Гасподзь пад гукі трубныя.
> Спявайце Богу нашаму, спявайце!
>
> *Псалмы 46: 6–7*

*Павал Севярынец*



# Віталь Супрановіч: «Мы вяртаем у беларускае мастацтва і родны кантэкст геніяльных дзеячаў культуры»

Натхняльныя рок-гіты, змагарныя спевы, што ўздымаюць дух беларусаў, меладычна-яркія і экспрэсіўныя песні, рамантычныя балады, што грэюць сэрцы слухачоў і адкрываюць інтэлектуальныя далягляды, трапляюць на дыскі праз шчыраванне дасведчаных у справе музычнай культуры асоб. Аб прадзюсарскіх клопатах, намаганнях у галіне выдання і распаўсюдзе сучаснай беларускай музыкі мы пагутарылі са спадаром Віталем Супрановічам.

*— Раскажыце, калі ласка, якім быў Ваш шлях да прадзюсарскай дзейнасці?*

— З 1994 года я пачаў шчыльна займацца арганізацыяй канцэртаў. У 1996 годзе была створана Музычная суполка пры ТБМ імя Ф. Скарыны, непасрэдна з яе ўзнікла «Беларуская музычная альтэрнатыва». Мы заснавалі яе з Сяргеем Сахаравым (пазней ён стаў рэдактарам «Студэнцкай думкі») з асноўнай мэтай дапамагчы музыкам у выданні дыскаў і арганізацыі канцэртаў. Нешматлікія ўстановы, якія гэтым займаліся, мелі шэраг хібаў, і мы вырашылі ініцыяваць больш выніковы гуказапіс. З намі працавалі 10 найбольш актыўных сяброў.

*— Раскажыце, калі ласка, крышачку пра сябе.*

— Я нарадзіўся ў Мінску, скончыў Вышэйшае тэхнічнае вучылішча па спецыяльнасці «Станочнік шырокага профілю», захапляўся музыкай. Пазней набываў веды па спецыяльнасці «Менеджмент сацыякультурнай дзейнасці»…

Калі вы памятаеце, напачатку 90-х гадоў у эфіры гучала значна больш за 75 адсоткаў беларускай музыкі. Цікавасць выклікалі гурты «Мроя», «Уліс», «Новае неба». Спачатку я рабіў самастойныя зборкі — запісваў песні з радыё. Першы цалкам беларускамоўны дыск BMAgroup «Вольныя танцы» быў зроблены завадскім шляхам, накладам больш за 1000 асобнікаў. Пры падрыхтоўцы гэтага дыска нам давялося пазнаёміцца з усімі музыкамі, усталяваць кантакты, якія

атрымалі доўгі працяг. Тады іншыя фірмы пачалі выдаваць беларускую музыку прамысловым шляхам.

Далей мы працавалі над складанкамі з серыі «Беларускі музычны архіў», заснаванымі на архіўных і рарытэтных запісах, — такімі, як Міхась Забэйда-Суміцкі «Ластаўкі ў стрэсе», Мікола Равенскі «Магутны Божа», Сяржук Сокалаў-Воюш «Нефармальны беларус», Віктар Шалкевіч «Добрай раніцы», Станіслаў Манюшка «Песні з-пад Нёмана і Дзвіны».

Падрыхтавалі дыск Міхала Клеафаса Агінскага. Гэтай серыяй мы вяртаем у беларускае мастацтва і родны кантэкст геніяльных дзеячаў культуры.

Таксама выйшлі ў свет сольныя альбомы вядомых маладых гуртоў, з’явілася «Стылістычная энцыклапедыя» — серыя, прысвечаная асобным музычным стылям. Так, выйшаў дыск, прысвечаны «цяжкай музыцы» «Hard Life — Heavy Music», хардкору — «Hardcoreманія: чаду!», рэпу — «Пасадзіў дзед рэпку: rap not dead» і іншыя.

Мы ініцыявалі перавыданне лепшых запісаў «Народнага альбома», «Я нарадзіўся тут», «Святы вечар» і іншых. Быў створаны трыб’ют NRM, які атрымаўся ўдалым. На гэтым дыску ўпершыню заспявалі такія гурты, як «Краскі», «Лепрыконсы», «Лето» і інш.

Да 95-х угодкаў Ларысы Геніюш быў прымеркаваны супольны музычны праект «Жыць для Беларусі».

«Дыск з серыі "Беларускі музычны архіў" поўніцца адкрыццямі, яскравай паэзіяй, густоўнай музыкай», — адазваліся пра яго музычныя крытыкі. Адметны ён тым, што паміж песнямі гучыць голас самой паэткі. Стваральнікі серыі натхніліся поспехам складанкі «Жыць для Беларусі» і мяркуюць працягваць падобныя праекты на вершы іншых творцаў.

*— Якія ў Вас далейшыя намеры?*

— Мы плануем выдаць дыск да 100-годдзя Сяргея Новіка-Пеюна, перавыдаць альбом Данчыка «Мы яшчэ сустрэнемся» і альбом Віктара Шалкевіча. У кастрычніку пройдзе прэзентацыя альбома на вершы С. Новіка-Пеюна.

*— Што сёння робяць маладыя меламаны? Ці ёсць у іх свае ініцыятывы?*

— Так, некалькі гадоў таму быў створаны пры Таварыстве беларускай мовы «Фан-клуб беларускай музыкі». Цяпер яго пасяджэнні праводзяцца на сядзібе БНФ. У межах фан-клуба часта праводзяцца спатканні з выканаўцамі. Незабыўныя сустрэчы былі зладжаны з Касяй Камоцкай, з «Indiga», «IQ-48» і іншымі.

*— Як Вы ацэньваеце ролю такіх падзей, як «Рок-каранацыя» і фэсты «Басовішча», у агульным культурным працэсе?*

— Апошняя рок-каранацыя была значна лепш арганізаванай і цікавай. Актыўным яе ўдзельнікам быў сайт «Тузін гітоў». Было больш прадстаўлена рэгіянальных гуртоў, адбор намінантаў падаецца мне празрыстым і аб'ектыўным. Басовішча адбываецца ўжо 16 гадоў, і мы дапамагаем у правядзенні адборачных канцэртаў.

*— Нядаўна чытачы «Нашай Нівы» назвалі сярод кандыдатур на званне народнага паэта Лявона Вольскага. Што Вы пра гэта думаеце?*

— Думаю, што ў гэтым ёсць рацыя. Мы жывём і працуем у сітуацыі, калі існуюць спісы забароненых спевакоў і гуртоў. Таму мы не ведаем, якая на самай справе была б іх папулярнасць. Відаць, значна большая. Лічу, што музыкаў, абмежаваных у сваіх правах, трэба ўсімі сродкамі падтрымліваць.

*Гутарыла Эла Дзвінская*
*«Наша слова», 13 верасня 2006 года*

# Беларускія барды



Спеў, вырваны з самых глыбіняў беларускага сэрца, і моцны зарад беларускае паэтычнасці разам нараджаюць грымоты і маланку — беларускага барда.

Барды з’явіліся ў Беларусі тады, калі грозная эпоха войнаў, вялікіх адкрыццяў і рэфармацый пераўтварыла ўвесь свет, калі рыцары біліся з іскрамі на мячах, закаханыя спявалі серэнады, а паэты ўслаўлялі Бога. Самотныя і гордыя ваяры, барды маглі аднаасобна кінуць выклік тыраніі, узняць войска перад бітвай і заклікаць да пакаяння ўвесь народ. Бард — гэта не проста прарок, гэта яшчэ і *пра-рок*: у бардаўскіх акордах і крыках ракочуць рок-балады і цяжкі метал канца II тысячагоддзя. У сэрцы Еўропы барды прарочылі ўсё Сярэднявечча, — дагэтуль прадвяшчаюць сусветныя навальніцы.

У нацыянальным руху канца XX стагоддзя бард Сяржук Сокалаў-Воюш узрушваў шматтысячныя мітынгі рабочых і студэнтаў. Ды і цяпер лірызм Акуліна і сарказм Шалкевіча, ваярскія маршы Мельнікава і гарадскі раманс Бартосіка, блюзы Касі Камоцкай і псалмы Алеся Камоцкага робяць для Беларусі больш, чым уся афіцыйная эстрада з зорнымі ростанямі, славянскімі базарамі і канцэртамі заезджае папсы.

Зміцер Вайцюшкевіч з аксамітным і адначасова оперным голасам, геніяльны выканаўца «Развітання з Радзімай» і «Народнага альбома», улюбёнец дзяўчат, якому можна даверыць выкананне нацыянальнага гімна «Магутны Божа» на стадыёнах.

Паглядзіце на барда падчас выступу — вось ён які, беларус, унутры. Бардаўскі спеў здольны рыўком вывернуць нашу душу навонкі.

Калі вораг ужо акупаваў і вуліцы, і дамы, навокал здрада, іншая мова і чужынскія спевы — беларус дастае гітару. Бярэ яе наперавес, быццам стрэльбу, і рушыць у гушчар зыкаў, і прыдыханняў, і струннага бою. У смутны час, калі забыты Бог і занядбаная краіна, калі нават камяні гатовыя загаласіць і ўся зямля вымагае закліку, ну хаця б стогну! — чакайце на сцэне беларускага барда.

*Павал Севярынец*
*«Нацыянальная ідэя»*

# Беларуская рок-музыка: дыялог з моладдзю на яе мове
*(панарама, з’явы і тэндэнцыі)*



Цяпер шматлікія рэспубліканскія выданні, а таксама FM-радыё (далёка не ўсё) і тэлебачанне (зрэдку) пачалі звяртаць сваю ўвагу на такую сучасную (у Беларусі дакладна — контркультурную) з’яву, як беларуская рок-музыка. Пра яе можна і прачытаць у «Советской Белоруссии», і пабачыць яе прадстаўнікоў на Euronews… А што такое беларуская рок-музыка? Модныя рытмы, народжаныя пад уплывам іншаземнага шоу-бізнесу? А можа, рок — гэта тое, што ператварылася ў напрамак нацыянальнай культуры, як гэта адбылося ў шмат якіх краінах? Але што тады нацыянальнага ў тутэйшай разнавіднасці такой касмапалітычнай з’явы (калі разглядаць, напрыклад, гурты «Тяни-Толкай», «Медуза», «Новый Иерусалим»…), як рок-музыка? Калі рок-музыка на Захадзе ўжо трывала заваявала сваю слухацкую аўдыторыю, мае вялікія традыцыі і безліч супер-зорак, то беларускі рок знаходзіцца ў стане развіцця і выпрацоўкі сваіх музычных асаблівасцяў. Так, сапраўды, беларускі рок знаходзіцца ў стадыі, калі выканаўцы, як губка, убіраюць у сябе найноўшыя дасягненні сусветнай рок-культуры, узбагачаюць яе сваімі знаходкамі і напрацоўкамі на аснове нацыянальнага меладызму і фанетычных асаблівасцяў роднай мовы. Гэтыя працэсы робяць беларускую рок-музыку адной з самых заўважных мастацкіх з’яў на тле сучаснай нацыянальнай культуры. Таму сёння вельмі часта можна прачытаць звесткі пра асобных рок-выканаўцаў, пра асаблівасці іх выканаўчага почырку. Мы ж прапануем чытачам агляд таго, што адбываецца ў беларускай рок-музыцы, паспрабуем акрэсліць стылістычныя прыкметы многіх выканаўцаў рок-музыкі ў Беларусі.

Для таго, каб гэтая новая з’ява атрымала сваю гістарычную перспектыву, звернемся да пачынальнікаў беларускай рок-музыкі. І тут

трэба ўспомніць тую падзею, з якой, па-сутнасці, і пачалася гісторыя беларускай і, што важна, беларускамоўнай рок-музыкі. Маю на ўвазе першыя канцэрты беларускіх рок-гуртоў «Бонда», «Магістрат» і «Мінск» у Палацы чыгуначнікаў 30 красавіка — 1 мая 1986 года, які арганізатары з рок-клуба «Няміга» тады назвалі «Тры колеры». Назва гэтага канцэрта адлюстроўвала стылістычную разнапланавасць удзельнікаў, якія ўпершыню прадставілі на суд слухачоў свае кампазіцыі ў стылістыцы гітарнай «новай хвалі», «цяжкага металу» і поп-рока. Праз год да гэтай кагорты пачынальнікаў далучыўся легендарны рок-гурт «Мроя», удзельнікі якога ў 1986 годзе яшчэ служылі ў войску.

Гурты «Мроя», «Бонда» і «Магістрат» і склалі касцяк той з’явы, якая пазней атрымала назву «беларуская рок-музыка». Галоўнае адрозненне творчасці гэтых калектываў ад сваіх папярэднікаў («Шпакі», «Дойліды», «Сузор’е») — іх праграмы поўнасцю складаліся з песень на беларускай мове. Так атрымалася, што лёс гэтых гуртоў і выканаўцаў склаўся па-рознаму, але ў гісторыі беларускай рок-музыкі яны застануцца першымі.

Цікава, што музыканты-пачынальнікі з цягам часу сталі стваральнікамі такіх вядомых сёння беларускіх гуртоў, як «Крама», «Ulis» (былы гурт «Бонда») і «N.R.M.» (былы гурт «Мроя»). Альбомы менавіта гэтых калектываў складаюць фанаграфічны збор класікі беларускай рок-музыкі, гэтыя гурты ўпэўнена прэзентуюць на буйнейшых рок-фестывалях нашу краіну, іх канцэрты збіраюць найвялікшыя канцэртныя пляцоўкі і залы краіны.

Нельга не заўважыць, што музыканты гэтых, самых паважаных беларускамоўных гуртоў ствараюць паралельныя музычныя праекты (так званыя сайд-праекты). І лідзіруюць тут музыканты гурту «N.R.M.», якія стварылі аж чатыры сайд-праекты: застольны праект «Крамбамбуля», экстрэмальны «Zet», урбаністычны рок-гурт «Garadzkija» і фолк-мадэрнавы «Pete Paff». Музыканты іншых гуртоў таксама не адстаюць. Вось, напрыклад, гітарыст гуртоў «Крама» і «Палац» Сяржук Трухановіч разам з музыкантамі джаз-рокавага калектыву «Apple Tee» папаўняюць сваімі кампазіцыямі інструментальную фанатэку беларускай рок-музыкі. А лідар гурту «Ulis» Слава Корань часцяком выступае як акампаніятар вядомай рок-спявачкі Касі Камоцкай. І ўсе музыканты гэтых і іншых гуртоў разам узятыя — калектыўныя ўдзельнікі многіх вядомых супольных праектаў, такіх, як «Народны альбом», «Я нарадзіўся тут», «Святы вечар»…

Найбліжэйшымі спадкаемцамі «генералаў беларускага рока» з'яўляюцца тыя беларускія гурты, якіх умоўна адносяць да «сярэдняга звяна» беларускага рок-руху. Тут трэба ўспомніць найбольш прыкметныя з іх: блюз-рокавы «P.L.A.N.», экстрэмальна-фальклорны «Znich», «металічныя» каманды «Deadmarsh», «Partyzone», панк-рокавыя гурты «Neuro Dubel», «Deviation», «Żygimont VAZA», фолк-рокавы «Postscriptum», праект рэпера Аляксандра Памідорава «Pomidor/off», гурт Змітра Вайцюшкевіча «WZ-Orkiestra»…

Гэтыя музыканты маюць салідны выканаўчы вопыт, які яны з вялікай эфектыўнасцю перадаюць больш маладым выканаўцам. А яшчэ яны з'яўляюцца прафесіянальнай апорай для маладзейшых сваіх калегаў і ў любы момант могуць творча падтрымаць увесь айчынны рок-рух.

Вельмі важна для далейшага прагрэсу, каб беларускі рок меў падтрымку ў асяроддзі маладых музыкантаў. Бо без прытоку свежых творчых сіл любое творчае пачынанне дэградуе. І калі раней, гадоў 10 таму, гэтая праблема змены пакаленняў у беларускай рок-плыні стаяла вельмі востра, то цяпер сітуацыя змянілася кардынальна: шматлікія маладыя гурты самі могуць скласці даволі моцную канкурэнцыю рок-ветэранам. Такія маладыя гурты, як «Тарпач», «Indiga», «Харлі», «Tezaurus», «IQ-48», «Zig-Zag», «Таварыш Маўзер» (лаўрэаты «Басовішча-2005») будуюць своеасаблівы мост паміж пакаленнямі музыкантаў і слухачоў, дадаюць сваё бачанне да вобраза лірычнага героя, характэрнага для беларускай рок-музыкі. А яшчэ кажуць, што маладыя выканаўцы цураюцца беларускага слова. Іх песні, вобразы — найлепшы прыклад адваротнага!

Прыкметная тэндэнцыя апошняга часу — з'яўленне вельмі цікавых і музычна неардынарных рок-калектываў з правінцыі: бярозаўскі гурт «B:N:», гомельскі «Бан Жвірба», брэсцкая «Сцяна». Гэтыя гурты смела штурмуюць сталічныя канцэртныя пляцоўкі, выдаюць свае музычныя альбомы. Іх музыка — своеасаблівы сінтэз дасягненняў беларускага рока з мясцовымі меладычнымі і гарманічнымі традыцыямі, якія і перадаюць у сваіх творах музыканты правінцыйных (у станоўчым сэнсе гэтага азначэння) гуртоў, што надае музыцы гэтых выканаўцаў незвычайны шарм і актуальнасць.

Нельга абмінуць увагай такі значны кірунак працы беларускіх музыкантаў, як адраджэнне скарбаў беларускага фальклору на аснове сучасных музычных плыняў. Новы музычны стыль апрацовак нацы-

янальнага фальклору мае назву фолк-мадэрн. Традыцыі яго ў Беларусі ідуць ажно ад ужо класічных фолк-рокавых эксперыментаў ранніх «Песняроў». І за гэта беларускія музыканты лічаць Уладзіміра Мулявіна і яго ансамбль сваімі духоўнымі папярэднікамі. Вось якімі думкамі падзяліўся аднойчы вядомы беларускі кампазітар і рок-музыкант Зміцер Вайцюшкевіч: *«Уладзіміра Георгіевіча Мулявіна я лічу выдатным дзеячам Беларускага Адраджэння. І хоць творчы ўзлёт «Песняроў» прыйшоўся на савецкія часы, музыкі шмат што трансфармавалі і рабілі гэта прафесійна. Я лічу сябе, у нейкім сэнсе, прадаўжальнікам іх меладычных тэм, мулявінска-песняроўскай філасофскай ідэі, якая ў той момант толькі нараджалася і дала падставы для нашай сённяшняй працы»* («Літаратура і мастацтва» 7.12.2001). І таму лагічна, што пад песняроўскім уплывам фолк-мадэрн атрымаў сваё далейшае развіццё на беларускай рок-сцэне.

Піянерам у сінтэзе рок-музыкі, электроннага гучання і фальклору стаў гурт «Палац», лідарам і творчым рухавіком якога доўгія гады з'яўляецца кампазітар і вакаліст Алег Хаменка. Дарэчы, той жа Уладзімір Мулявін высока цаніў наватарства і шчырасць музыкантаў «Палаца». Вось што аднойчы выдатны музыка сказаў пра сваіх малодшых калегаў: «Я быў на іх сольным канцэрце, яны даюць каласальную экспрэсію. Я атрымаў задавальненне ад канцэрта» («Музычная газета», 1999, № 50).

Крыху пазней саліст гэтага гурту Юрый Выдронак заснаваў фолк-рок-шоу «Ur'ia», а былы «палацавец» Зміцер Вайцюшкевіч разам са спявачкай Веранікай Кругловай былі ініцыятарамі стварэння гурту «KRIWI», які і цяпер выконвае world-music. Праўда, у дадзены момант Зміцер Вайцюшкевіч выйшаў са складу «KRIWI» і, заснаваўшы гурт «WZ-Orkiestra», стварае канцэртныя кампазіцыі і альбомы на вершы беларускіх і замежных паэтаў.

Да яркіх прадстаўнікоў нацыянальнага фолк-мадэрна трэба аднесці і такі выдатны сваім прафесіяналізмам калектыў, як этна-трыа «Троіца». Яго ўклад у нацыянальную музычную скарбонку цяжка пераацаніць: лідар «Троіцы» Іван Кірчук і яго калегі шмат робяць для захавання бясцэнных пярлін нацыянальнага фальклору і прапаганды беларускай народнай музыкі ў Еўропе і ў свеце.

Новыя надзеі беларускага фолк-мадэрна звязаны з маладой генерацыяй гэтай плыні рок-музыкі, якія ўсімі музычнымі спосабамі

садзейнічаюць захаванню і аднаўленню сувязі пакаленняў носьбітаў фальклору і сучасных слухачоў, хоць і ў даволі незвычайным выглядзе. Сярод тых гуртоў трэба адзначыць такія перспектыўныя калектывы, як гурты «Яр», «ALTANKA», «OSIMIRA»…

Блізкія задачы па папулярызацыі нацыянальнага фальклору сярод моладзі (хоць стылістычна адрознымі ад традыцыйнага фолк-мадэрна сродкамі) ставяць перад сабой удзельнікі экстрэмальнага адгалінавання рок-музыкі, якое нават займела свой міжнародны тэрмін: pagan-metal («паганскі метал»). Беларускі варыянт музычнага экстрыму з фальклорным ухілам прапагандуюць гурты «Znich», «Kamaedzitca», «Soncavarot», «Капішча», «Твар» (адны назвы могуць сказаць слухачу так шмат!). Іх апрацоўкі накіраваны на тое, каб «ажывіць» старонкі дахрысціянскага светапогляду нашых прашчураў, рэканструяваць вірлуючую музычную стыхію, якая спадарожнічала іх жыццю і смерці.

Адзначу, што не толькі старажытныя мелодыі з’яўляюцца каталізатарамі творчасці «цяжкіх» беларускіх рок-гуртоў. Многія музыканты (напрыклад, гуртоў «Źmiaja», «Vir», «SKD», «Крок») звяртаюцца да тых тэмаў, якія традыцыйна з’яўляюцца «рокавымі» — гэта тэмы свабоды, вайны, кахання, адносін паміж людзьмі, лёсу нацыі і нашай мовы на пераломе эпох… Часцяком гэтыя складаныя тэмы яны імкнуцца гіпербалізаваць, прадставіць у сатырычным ракурсе і ў спалучэнні са звышрытмічнай і агрэсіўнай музыкай. Магчыма, сталым аматарам і знаўцам рок-музыкі гэты імпэт і напор пададуцца занадта бударажачымі, але сёння такое гучанне дамінуе ў сусветнай «цяжкай» музыцы і мае шматлікіх прыхільнікаў па ўсім свеце, у тым ліку і ў Беларусі.

У дадатак да гэтай тэмы трэба адзначыць тое, што беларускія рок-гурты вельмі шчыльна супрацоўнічаюць з фальклорнымі гуртамі і капэламі традыцыйнага фальклорнага кірунку. Успомнім тут спеўны гурт «GUDA», які разам з панк-гуртом «Neuro Dubel» запісалі варыянт песні брытанскага гурту «Depeche Mode» «I Feel You» ў фальклорным ключы. А гурту «P.L.A.N.» у стварэнні апрацовак беларускага фальклору дапамагае лідар фальклорнага гурту «Ліцвіны», вядомы фалькларыст і дудар Уладзімір Бярбераў…

Але не толькі непарыўнай сувяззю з беларускім фальклорам адрозніваецца беларускі рок-рух. Пра такога роду сувязі можна казаць і ў адносінах да такіх музычных адгалінаванняў, як беларуская медыявальная (сярэднявечная) музыка і бардаўская песня. Бо, напрыклад, многія медыявальныя выканаўцы Беларусі — у мінулым рок-музыканты.

Тут трэба ўспомніць пра лідара гурту сярэднявечнай музыкі «Вялікае Княства» Уладзіміра Давыдоўскага, які ў свой час быў гітарыстам легендарнай «Мроі». Тое ж можна казаць і пра музыкантаў гурту «Стары Ольса», многія з якіх прайшлі выканаўчую школу ў рок-гуртах, якія стваралі рок-апрацоўкі сярэднявечных мелодый.

Што ж тычыцца бардаўскай песні, то стылявыя перакрыжаванні тут назіраюцца яшчэ прыкметней: нашы рок-музыканты выкарыстоўваюць творы сваіх калегаў-бардаў для стварэння песень і альбомаў (Зміцер Вайцюшкевіч, напрыклад, стварыў альбом на вершы барда А. Камоцкага «Паравіны году»), а такія барды, як Віктар Шалкевіч, карыстаюцца прыёмамі з арсеналу рок-музыкі для надання сваім песням дадатковай эмацыянальнай вастрыні (альбом «За сто крокаў ад Вострае брамы»). І наадварот, творы, блізкія бардаўскай стылістыцы, ёсць у рэпертуары лідара «N.R.M.» Лявона Вольскага («Павешаным 1863» на верш У. Караткевіча), а таксама рок-спявачкі Касі Камоцкай (песні на вершы А. Глобуса)…

Безумоўна, каб стварыць поўную панараму такой складанай і разгалінаванай з'явы, як беларускі рок-рух, недастаткова ўзгадаць назвы гуртоў і даць іх кароткія стылявыя характарыстыкі. Значна важней нагадаць пра тое, што гэтыя рок-музыканты — сапраўдныя прапагандысты і папулярызатары роднай мовы сярод маладзёжнай аўдыторыі, прыхільнікаў якой з году ў год становіцца больш. Гэтаму спрыяе з'яўленне кампаній, якія выдаюць альбомы з беларускай рок-музыкай, дыскі бардаў, айчынную сярэднявечную музыку, запісы музычнай спадчыны Беларусі. Разам з тым музыканты робяць усё, каб новыя дыскі знаходзілі сваіх зацікаўленых слухачоў.

І таму наспеў час паставіць пытанне так: беларускімі рок-музыкантамі зроблена столькі (запіс і выданне шматлікіх беларускамоўных альбомаў, правядзенне канцэртаў і фестываляў), што яны небеспадстаўна прэтэндуюць на сваё месца ў аналах сучаснай нацыянальнай культуры.

*Анатоль Мяльгуй,*
*былы старшыня рок-клуба «Няміга»,*
*музычны аналітык*

# Генадзь Бураўкін: «Слова, акрылёнае добрым выканаўцам, запатрабаванае»



У кожную эпоху нараджаюцца свае непаўторныя песні. Мелодыя як бы гучыць за кадрам нашага жыцця, суправаджае яго падзеі, перажыванні, уплятаецца ў тканіну лёсу. Некаторыя песні, безумоўна, надаюць мудрасці і філасофскай развагі.

Музыка суправаджае развіццё пачуццяў. Калі чалавек не ведае, як прызнацца ў каханні, гэта за яго робіць песня. Потым яна становіцца сардэчным успамінам двух сэрцаў, скарбам душы.

Я ішоў да цябе ад далёкай зямлі,
З тагачасных снягоў, што даўно адмялі…

*А. Камоцкі*

Адзін з тых любімых паэтаў, хто ствараў новыя песні ў самыя розныя часы, — Генадзь Мікалаевіч Бураўкін.

«Народ прымае ягоныя песні — радасныя і зажураныя, поўныя ласкі і абуджаныя гневам. І дужа ўсцешліва і цёпла, як на прыпарных паплавах ля Полацка, бывае, калі ловіш сябе на тым, як, пачуўшы мяккія крокі зімы, пачынаеш паўтараць за Генадзем Бураўкіным: «Завіруха, мяце завіруха…» Здаецца, калісьці прыляцела песня з усесаюзнага экрана, а ўжо яе спяваюць, напяваюць, ёй усміхаюцца ў парку, у кіно, у трамваі, у чарзе па кнігі паэзіі. А колькі закаханых удзячныя паэту, што дапамог зачараваць сваёй «Зачараванай», прызнацца сяброўцы ў вернасці. Даводзілася назіраць, як пад песню на вершы Генадзя Бураўкіна на плечы юнакоў ападалі залатыя галовы каханых. На ўрачыстых канцэртах і ў застоллях, у дарогах гучаць сёння песні Генадзя Бураўкіна» (Р. Барадулін).

*— Генадзь Мікалаевіч, раскажыце, калі ласка, пра Ваша супрацоўніцтва з рознымі кампазітарамі.*

— Я зведаў усе тры формы супрацоўніцтва з кампазітарамі. Спачатку я проста пісаў вершы, зусім не спадзеючыся, што яны зацікавяць кампазітараў, вершы ўваходзілі ў зборнікі, а потым кампазітары знаходзілі іх і пісалі музыку. Так было з «Зачарованай» Ігара Лучанка і з «Завірухай» Эдуарда Ханка.

Пісаў я і з «прыцэлам» на песню. Напрыклад, «Белыя крылы» — для Эдуарда Зарыцкага, «Саперніца» — для Міколы Сацуры, «Шумі мой лес, шумі» — для Уладзіміра Будніка.

Цікава атрымалася з «Канём незацугляным». Я склаў верш, каб прапанаваць яго Эдуарду Ханку. Патэлефанаваў, прачытаў. А ў таго, аказваецца, ужо была мелодыя, вельмі блізкая да настрою майго верша, — і песня склалася лёгка і хутка. Яна ўвайшла ў рэпертуар «Песняроў» і была адной з любімых у Мулявіна.

Пісаў я і на гатовую музыку.Так нарадзіліся «Калыханка» і «Першае спатканне» Васіля Раінчыка, «Песенька пра сонечнага зайчыка» Валерыя Іванова… Я супрацоўнічаў з Ядвігай Паплаўскай, Яраславам Еўдакімавым, з «Песнярамі», «Верасамі».

*— Ваша калыханка больш за 20 гадоў гучала на тэлевізіі і закалыхвала не адно пакаленне малых. «Дзядуля, твая калыханка», — кажа ўнучка Маша. Гэты эпізод увайшоў у дакументальную стужку з Вашым удзелам.*

— «Калыханка» нарадзілася разам з нацыянальнай праграмай Беларускага тэлебачання. Шукалі лепшы ўзор песні для малых начач. У Васіля Раінчыка ўжо была мелодыя. Ён звярнуўся да мяне і сказаў: «У мяне ёсць гатовая мелодыя, няма толькі вершаў». І даў мне запіс на касеце. Аднойчы ранічкай я падняўся, уключыў запіс і літаральна за гадзіну склаў верш. «О, тое, што трэба!» — усклікнуў Васіль.

*— Лічаць, што пэўным стымулам для развіцця беларускай песеннай творчасці была перамога на Усесаюзным конкурсе ў 1961 годзе твора Міхаіла Ясеня і Ігара Лучанка «Памяць сэрца», які выконваў Віктар Вуячыч.*

— Так, але час уздыму цікавасці да нацыянальнай паэзіі, культуры прыйшоў крыху пазней. І важную ролю ў гэтым адыгралі Беларускае радыё і тэлебачанне.

На радыё доўгі час вельмі папулярнай была рубрыка «Прэм'ера песні», дзе гучалі новыя творы нашых кампазітараў на вершы беларускіх паэтаў. На тэлебачанні адным з самых любімых быў фестываль «Песню бярыце з сабой». Калі ён трансліраваўся, беларусы глядзелі толькі яго. У ім прымалі ўдзел славутыя Эдуард Хіль, Марыя Пахоменка, Анатоль Макрэнка, якія выконвалі песні па-беларуску.

Ва ўсе часы людзям хочацца ўзвышанага. І калі сярод будзённай цяжкой працы выпадалі хвіліны, калі чалавек меў дачыненне да нечага вышэйшага, гэта прыносіла задавальненне.

Дарэчы, «Песняры» ў зеніце сваёй кар'еры выступалі за акіянам і пад гучныя воплескі выконвалі песні на словы Янкі Купалы, Аркадзя Куляшова. Бясспрэчна, што гучанне было высокапрафесійным. І мяне проста абурае, калі сёння на замежных конкурсах беларускія артысты спяваюць па-польску, па-англійску, толькі не па-беларуску.

Калі чалавек спявае на матчынай мове, ён спасцігае, што ў ёй заключана ўжо свая музыка, непаўторнасць, якую лёгка выявіць.

Я шчаслівы, што мае песні гучаць, не старэюць, не сыходзяць. Гэта прыносіць мне вялікае задавальненне.

*— Чым было Вам блізкім супрацоўніцтва са Змітром Вайцюшкевічам?*

— Зміцер — не проста таленавіты, ён вельмі шчыры і светлы беларус. У не надта спрыяльны для беларускай культуры час ён падкрэслена паслядоўна працуе з нацыянальным матэрыялам. І гэта самым непасрэдным чынам тычыцца паэзіі. Для сваіх дыскаў ён адабраў найбольш яркія паэтычныя ўзоры. Яго выбар паказвае, як ён сам цэніць гэтыя вершы.

Цяпер так многа «складальнікаў вершаў», якія сачыняюць «тэксты», часам неахайныя, непрафесійныя. Зміцер, у адрозненне ад іх, добра разбіраецца, што сапраўднае ў паэзіі, а што — другаснае. Адбываецца шчаслівае яднанне паэзіі з музыкай. Я не скажу, што ўсё дасканалае, але ў кожным з альбомаў відно бясспрэчнае супадзенне трох галоўных складнікаў: музыкі, вершаў, выканання. Для вялікага поспеху песні неабходна шчаслівае супадзенне трох талентаў: кампазітара, паэта і спевака. Калі творчае яднанне адбываецца, тады песня становіцца шырокавядомай і патрэбнай. А калі ўсё на сябе бярэ адзін чалавек, часцей за ўсё эстрадны спявак, у яго звычайна ажно трох талентаў адразу не хапае — гучыць шэранькі «шырспажыў», які нічога агуль-

нага з сапраўднай творчасцю не мае. Зміцер закаханы ў паэзію, ён цалкам давярае таленавітаму слову, якое лічыць першаасновай сваіх твораў. І, практычна, заўсёды гэта беларуская паэзія, гэта роднае, матчына слова. Такое асабліва важна ў нашых сённяшніх умовах, калі беларуская мова нахабна адпіхваецца на задні план. У гэты момант ён выбірае найкаштоўнейшыя скарбы беларускай паэзіі і паказвае, якая ў іх закладзена музыка адпачатку. Ён бярэ беларускае слова і нясе яго на сцэну. На канцэрты Змітра збіраецца поўная зала, адбываецца шчырая, даверлівая сувязь сцэны з публікай. Слова, акрылёнае выдатным выканаўцам, — запатрабаванае, людзі на яго горача адгукаюцца. Дзейнасць Змітра ў мастацтве — грамадскі важная.

Акрамя таго, Зміцер блізкі мне сваімі паводзінамі, даверам да людзей, сваёй верай у высокае прызначэнне сапраўднага мастацтва. А як ён хваляваўся, чакаючы нараджэння сына, як свяціліся яго вочы, як поўніўся ён бацькоўскім шчасцем ад таго, што на зямлю прыходзіць новы чалавечак, які працягне яго жыццё, а можа, і творчасць. Зміцер прыязджаў да мяне на дзень народзінаў на лецішча з жонкай Галяй і маленькім Язэпам. І наша духоўная блізкасць з ім стала яшчэ цяснейшай!

Я ўпэўнены, што самыя галоўныя дасягненні ў творчасці — у яго яшчэ наперадзе!

*Гутарыла Эла Дзвінская*

# Рыгор Барадулін: «Мара дапамагае быць чысцейшымі»



Без шчырасці няма творчасці, без шчырасці ўсё напісанае — рамесніцкая болбач з большым ці меншым прафесійным узроўнем. Лірыка, паэтычны эпас, эпіграма, усё адно — гэта праверка сябе на шчырасць, самая суровая, самая жорсткая.

Наша паэзія імкнецца разабрацца ва ўсім, што адбываецца ў свеце, сумленна і сказаць пра гэта праўдзіва, некамплементна. Не змяніліся ў нашай роднай паэзіі і адносіны да працы, да чалавека. Беларуская паэзія па-ранейшаму дэмакратычная і глыбока народная…

Ёсць тры вечныя тэмы, на якіх правяраецца адначасова талент, майстэрства і няўтойнае ў паэзіі — шчырасць паэта, яго асоба як чалавека і грамадзяніна, без чаго не можа быць паэзіі, без чаго не можа быць перадачы сваіх пачуццяў, свайго настрою. Тэмы гэтыя — маці, Радзіма, каханая. Словы гэтыя сапраўдныя паэты пішуць, калі не на паперы, то ў душы толькі з вялікай літары» (Р. Барадулін. «Парастак радка, галінка верша»).

*— Рыгор Іванавіч, Вы, так бы мовіць, галоўны каханнявед, сэрцавед. Таму артыст звярнуўся менавіта да Вас па вершы для свайго альбома «Паравоз кахання», якія найлепш перадаюць гэта нябеснае пачуццё.*

— Я падбіраў тое, што яму падыходзіць па тэме, у яго амплуа, што яму па густу. Асноўны цяжар быў на ім, на мне — словы, на ім — музыка. Зміцер — сучасны спявак, ён дужа добра адчувае беларускае слова. Стараўся, каб паміж намі ўзнікала паразуменне. Мне было прыемна працаваць з такім чалавекам. Я таксама стараўся перадаць яму свой досвед, настрой.

*— Каханне — шчасце — сям'я. Змітру давялося сустрэць сваю доўгачаканую палавінку і стварыць сям'ю, але не заўсёды так адбываецца.*

— Ідэальны варыянт існаваў ва ўсе вякі, каб знайсці адзіную, непаўторную абранніцу. Мара аб ёй жыве ў душы — чыстая, высокая, недасягальная. У жыцці не заўсёды ўдаецца яе спраўдзіць, але імкнуцца трэба. Калі марыш пра высокае, чыстае, тады жыццё робіцца святлейшым, не будзённым. Мара якраз сваёй няўлоўнасцю, недасягальнасцю робіць нас чысцейшымі, каб чалавек трохі адарваўся ад зямлі і павітаў у аблоках.

Калыханка — гэта асобы жанр. Я рос на маміных калыханках. Пісаў іх для свае дачкі, унучкі, нават для ката. Гэта адначасова вяртанне ў свет маленства, у свет недакранальнасці, калі ўзгадваеш і калыханку, і маму, якая яе спявала. Гэта наказ, перадача спадчыны духоўнай, крэўнай, беларускай. Калыханка павінна быць на роднай мове. Калыханка на чужой мове адчужае чалавека.

*— Раней і іншыя музыкі выконвалі Вашыя песні. Як Вы да гэтага ставіцеся?*

— Больш за ўсіх зрабіў Алесь Камоцкі, мой даўні сябра, вельмі блізкі мне па духу. Ён агучыў духоўную паэзію, пераклады псалмоў. Я ўдзячны яму за яго ўвагу і ласку.

Арыгінальны таленавіты музыка і спявак, аўтар зборнікаў паэзіі, філосаф па адукацыі, ён мае развітое вобразнае мысленне. З ім заўсёды прыемна працаваць. Ён мысліць, разважае над жыццём, яго пачуцці глыбокія, у іх няма знешняга эфекту. Ягоныя песні, своеасаблівы голас запамінаюцца надоўга.

На канцэрце ва Ушачах мае землякі дужа добра яго прынялі, зала была поўнай. Алесь, як і Зміцер, ездзіць па Беларусі, хоча данесці беларускую песню, прапагандуе нацыянальную культуру, усё ідзе ад шчырасці, ад душы.

Беларускія барды не маюць дзяржаўнай падтрымкі, іх толькі зрэдку можна ўбачыць на тэлевізіі, у асноўным экран запоўнены рускамоўнай папсой. Але будзем спадзявацца, што надыдуць лепшыя часы. Будзем спадзявацца на лепшае, спадзяваннем жыве чалавек. Пакуль жыве надзея, жыве асоба!

*Гутарыла Эла Дзвінская*

# Алесь Камоцкі: «Трэба бачыць навакольны свет»



Алесь Камоцкі запачаткаваў цэлы «кантынент» у бардаўскай песні, у айчыннай фанаграфіі ўвогуле. Яшчэ ў 1986 годзе пабачыў свет дэбютны альбом А. Камоцкага «Першы сшытак», які стаў заяўкай на філасафічнасць і спавядальнасць у творчасці выканаўцы. Калі паспрабаваць прасачыць магістральныя творчыя пуцявіны А. Камоцкага, то першае, што ўражвае: ён ніколі двойчы не выкарыстоўвае раней апрабаваныя штампы поспеху і заўжды застаецца прыхільнікам пошуку новых формаў у музыцы. Мо таму за традыцыйна-бардаўскімі альбомамі «Зорка спагады», «Асяніна», «Віно дажджоў» з'яўляюцца сапраўдныя музычна-паэтычныя сюіты: «Дым», «Дом», «Дах», — адзначае музычны аналітык Анатоль Мяльгуй.

*— Раскажыце, калі ласка, як праходзіў фестываль аўтарскай песні «Культурная эвалюцыя» пад Бабруйскам у верасні 2009 года? Як кантактуюць беларускія барды, як абменьваюцца вопытам?*

— У 70–90-я гады Мінск і Беларусь быліаднымі з лідараў фестывальнай і канцэртнай дзейнасці ў жанры аўтарскай песні. *«Культурная эвалюцыя»* — гэта падзея, якая, на думку арганізатараў, здольная адрадзіць традыцыі музычна-паэтычных фестываляў на Беларусі, аб'яднаць розныя плыні ў культуры беларускай аўтарскай песні і паэзіі.

Фестываль аўтарскай і бардаўскай песні праходзіў у куце, дзе нарадзіўся В. Дунін-Марцінкевіч, на самай Бярэзіне, на ўлонні прыроды, на сядзібе «Вішнёвы сад». Некалькі дзён мы жылі ў вайсковых намётах на беразе ракі, купаліся, лавілі рыбу. Гэта была першая спроба запрасіць беларускіх і расійскіх бардаў. Арганізатарамі фестывалю былі Надзея Кудрэйка і Артур Шуляк. У праграме ўдзельнічалі Сяргей Нікіцін, Барыс і Галіна Вайханскія, Леў Анінскі, Зміцер Вайцюшкевіч, Алесь Зайцаў і калектыў «Босае сонца», гурт «Хорціца» і іншыя, усяго з'ехалася каля 300 гасцей. Для ўдзельнікаў быў паказаны спектакль

«Камедыя» ў выкананні Альтэрнатыўнага тэатра ў пастаноўцы Андросіка. Адбыўся канцэрт дзіцячай песні ў выкананні Сяргея Нікіціна, Барыса і Галіны Вайханскіх.

*— Ці даўно Вы пішаце песні, займаецеся музыкай?*

— Ужо гадоў дваццаць пяць. Аднойчы я вырашыў завязаць з музыкай, таму што ўзнікла думка, што ўсё гэта нікому не патрэбна. Захацелася нармальнага чалавечага жыцця, рабіць, зарабляць, як належыць самастойнаму мужчыну. Але прайшло некалькі гадоў, і мне стала зразумела, што ў кожнага свая лінія жыцця. А патрэбны камусьці гэтыя песні ці не — гэта пытанне не першай і не трэцяй важнасці. Музыка — гэта як хвароба. Яе можна ці вылечыць, ці вырваць з коранем, альбо прыняць і несці ў сабе. Вылечыць не атрымалася… Я многа сустракаюся з хлопцамі і дзяўчатамі, пачынаючымі музыкамі, дзялюся з ім вопытам, часам расказваю пра свае памылкі.

Са Змітром Вайцюшкевічам цікава працаваць, ён звычайна ажыццяўляе ўсё задуманае і запланаванае, дакладны ў сваіх кроках. У нас падобны стрыжань у характары.

*— Як жыць, каб цябе паўсядзённа запаўняла лірыка, замілаванне навакольным светам?*

— Трэба жыць вельмі проста. Трэба, каб ты быў неабыякавым да людзей, якія жывуць навокал, каб заўважаў, што акрамя цябе, тваёй хаты ёсць цэлы свет — гарады, вёскі, рэчкі, лясы. Што ты жывеш вясной, летам, восенню, і калі будзеш уважлівы, адчуеш, як квітнее сад ці ападае лісце, усцілаючы дол. Большасць людзей не пражываюць простыя рэчы, а лезуць у складанасці. Большасць маіх вобразаў не супадаюць з іншымі паэтычнымі асацыяцыямі. Бадай, у гэтым і заключана сутнасць вершаваных і песенных намаганняў. У творчасці я шчыры да ўпору. Не магу паступіцца тым, што сам дэклараваў у вершах і песнях. Паўтара дзясятка гадоў я сябрую з Рыгорам Барадуліным. Сапраўднае шчасце, калі ёсць у жыцці такі чалавек, з каторым складаецца поўнае паразуменне. Няма важнейшага за тое, чым чалавек, які цябе разумее. Ідэя альбома з псалмамі выкрышталізавалася за дзве ночы. Цяпер я хачу перавыдаць ізноў гэты дыск. Гэта найвышэйшая, чыстая, святая паэзія, падуладная асобам з унутранай душэўнай чысцінёй. Яна адлюстроўвае адносіны аўтара словаў з жыццём, з Богам, уменне слухаць, што прамаўляюць Вышыні.

*Гутарыла Эла Дзвінская*

# Алесь Камоцкі.
# Псалмы Давідавы

Відавочна, што біблейская тэматыка даўно ўжо стала дамінуючай, у тым ліку і ў сучасным музычным мастацтве. І не толькі дзякуючы сусветнаму поспеху тандэма Эндру-Лойд Уэбер і Цім Райс, якія стварылі шэдэўр акурат сучаснай музычнай культуры — рок-оперу «Езус Хрыстус — супер-зорка».

Проста хрысціянская музыка і мастацтва маюць шматвекавую класічную традыцыю асэнсавання, што дазваляе ёй знаходзіць водгук мільёнаў хрысціян у розных краінах свету.

Наяўнасць традыцыі не перашкаджае выкарыстоўваць для пашырэння ідэй хрысціянства і найноўшыя сродкі папулярных стыляў — рока, фолка, а нават і рэп-музыкі ды джаза. На стыку гэтых стыляў і ў Беларусі з’яўляюцца праграмы новай хрысціянскай музыкі.

Нагадаем сапраўдную музычную падзею 1999 года — калядны рок-праект розных беларускіх артыстаў «Святы вечар», велікодны ды калядны альбомы гурту «New Cosmopolis», філасофскі альбом «Аднова Тэзаўруса» гурту «Tesaurus»…

З гэтага шэрагу і альбом «Псалмы» знанага беларускага барда Алеся Камоцкага, які зрабіў сваю спробу асэнсаваць старажытныя паэтычныя радкі, што тут гучаць у паэтычных інтэрпрэтацыях народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.

Трэба нагадаць, што псалмы — гэта творы рэлігійнай тэматыкі, назва якіх паходзіць ад грэчаскага «psalmos», што значыць пахвальная песня, урачысты рэлігійны песняспеў, малітва. Паэтычная форма і метр псалмоў грунтуюцца на сінтаксічным паралелізме — варыяцыях адной і той жа тэмы — ці на выказваннях, якія знаходзяцца паміж сабой у адносінах своеасаблівай падпарадкаванасці.

Псалтыр, альбо Кніга псалмоў, — адна з кніг Старога Запавету, якая змяшчае 150 розных паводле зместу твораў рэлігійнай лірыкі, аўтарства якіх прыпісваецца старажытнагабрэйскаму цару Давіду (не раней за IV ст. перад н. э.).

Першым перакладчыкам Псалмоў на старабеларускую мову быў Францішак Скарына («Псалтыр», 1517, «Малая падарожная кніжка», 1522). Скарына ў прадмове да Псалтыра адзначаў: «*Псалём жэстокое сэрцэ мякчыць і слёзы з него, якобы соісточніка, ізводіт…*»

Далей былі пераклады псалмоў І. Фёдарава, С. Полацкага, а таксама бліжэйшых нашых сучаснікаў — І. Луцкевіча, В. Сёмухі. І вось слухачы змогуць пазнаёміцца з несумненнымі мастацкімі вартасцямі філасофскага асэнсавання псалмоў аўтарства Р. Барадуліна, які і адкрывае дыск уласным чытаннем малітвы «Ойча наш».

Вельмі чуйным сааўтарам паэта на дыску «Псалмы» выступае Алесь Камоцкі — сапраўдны класік беларускай аўтарскай песні. У ягоным выкананні зафіксаваны 23 трэкі з псалмамі, а паводле некаторых з іх напісана на дзве-тры музычна-паэтычныя тэмы. Прычым дзеля стварэння адпаведнага духоўнага настрою Алесь спачатку цытуе той ці іншы псалом у класічным перакладзе Івана Луцэвіча, а пасля — спявае сваю музычную версію на верш Р. Барадуліна.

У выніку таго, што на дыску прадстаўлены псалмы розных відаў — хваленні, прашэнні, прароцтвы, а таксама нечаканы псалом Давіда «На адзінаборства з Галіяфам» (ён узяты з перакладаў В. Сёмухі, апублікаваных мінскім выдавецтвам «Бацькаўшчына» ў 1995 годзе), мы маем узор яскравай хрысціянскай музычна-паэтычнай кампазіцыі паводле Псалтыра. У ёй з усёй глыбінёй біблейскай першакрыніцы (напрыклад, у шырокавядомых псалмах 102 і 103) услаўляецца Божая ласка да чалавека, якога Бог вядзе праз усе няшчасці, праз жыццёвыя небяспекі і спакусы, праз адзіноту да неўміручасці і вечнасці.

Таму мы зноў паўтараем за нашым першадрукаром ягоныя словы: *«Псалём ест ангельская песьнь, духоўный тэм'ян вкупе пеніем веселіть і душу учіть»*.

Чысты, узнёслы голас Алеся, ягоная чуллівая гітара, якая нагадвае першакрынічны псаломны інструмент — гарфу, падкрэсліваюць вядомую ўжо раней рысу творчасці А. Камоцкага — ягонае імкненне да лірычнага суперажывання, да ўсталявання падсвядомага кантакту са слухачамі…

І хоць узнікаюць некаторыя меладычныя асацыяцыі з узорамі ранейшай творчасці барда, усё ж трэба адзначыць іх арганічнае спалучэнне з вершамі Р. Барадуліна, якія разам ствараюць цэльнае музычнае палатно лірычна-філасофскага кшталту.

Нагадаем, што кампакт-дыск і магнітафонная касета «Псалмы» былі запісаныя і выдадзеныя ў Польшчы знанай фірмай «Magton» (яна была пэўны час нават адным з фундатараў прызавога фонду «БАСовішча») пры падтрымцы Цэнтра Грамадзянскай адукацыі «Польшча — Беларусь» і знакамітага сваімі беларускімі ініцыятывамі польскага БАСу

(Беларускага аб'яднання студэнтаў). У афармленні дыска было выкарыстанае жывапіснае палатно дачкі паэта Ілоны Барадулінай. Такім чынам, мы маем яшчэ адзін высокамастацкі ды арыгінальны ўнёсак у скарбонку беларускай хрысціянскай музыкі і дыскаграфіі. А нам, слухачам, трэба памятаць, што да Бога з малітвай трэба звяртацца — залішнім ніколі не будзе!

*Анатоль Мяльгуй*
*«Кніжны свет», № 32, 10.08.2000, Мінск*

# Аляксандр Мілінкевіч: «Музыкі – лідары свабоднага духу»



Аляксандр Мілінкевіч, лаўрэат прэміі імя А. Сахарава Еўрапейскага Парламента, лідар грамадскага праваабаронча-асветніцкага аб'яднання «Рух "За свабоду"» знаходзіць час для праслухоўвання лепшай сучаснай беларускай музыкі, лічыць папулярных бардаў сваімі сябрамі і паплечнікамі.

*— Раскажыце, калі ласка, якую ролю адыгрывала беларуская песня ў жыцці Вашай сям'і? Якія засталіся ўспаміны з дзяцінства, звязаныя з музыкай?*

— Мой бацька, заслужаны настаўнік Беларусі, 25 гадоў быў дырэктарам 1-й гарадзенскай школы, адной з самых выдатных у горадзе. Ён выкладаў геаграфію, глыбока вывучаў краязнаўства. Ён сабраў багатую калекцыю паштовак і фатаграфій з відамі Гародні і Беларусі.

Дома ў нас была велізарная калекцыя пласцінак з запісамі класікі, опернага мастацтва і папулярных выканаўцаў, захаваўся стары патэфон, які і сёння спраўны. Шкадую, што ў свой час не скончыў музычную школу, як да гэтага схіляла матуля, а ўвесь вольны час аддаваў баскетболу.

Бацька граў на скрыпцы, мама любіла спевы, бабуля добра спявала. Мне запомніліся іх спевы не ў горадзе, а больш на вясковай прасторы. Памятаю сялянскія вяселлі — звонкія, жартаўлівыя, гаманлівыя. Мой дзед Аляксандр Мілінкевіч да ўсяго быў выдатным сватам і выдатна ведаў фальклор.

Жонка Іна таксама любіць беларускую музыку, у маладосці яна скончыла музычную школу па класу фартэпіяна, цяпер хоча больш вольнага часу прысвяціць музыцы, шукае ноты.

*— Хто з беларускіх артыстаў Вам больш блізкі па духу?*

— Віктар Шалкевіч, мой сябра і паплечнік, пранікнёны беларус, які адыграў значную ролю ў фарміраванні нацыянальнага духу многіх сучаснікаў, і майго таксама. У сярэдзіне 80-х гадоў мы былі ўдзельнікамі аднаго з першых нефармальных грамадскіх аб'яднанняў «Пагоня». Ім кіраваў вядомы археолаг, прафесар Міхась Ткачоў, мой сябра. Мы збіраліся ў Музеі гісторыі рэлігіі ў Гародні, былым базыльянскім кляштары. Дыскусія па нацыянальных пытаннях, моўныя дыспуты, гістарычныя лекцыі, канцэрты музыкаў вызначалі моцны Адраджэнскі рух у тыя часы. Адным з актыўных удзельнікаў творчых сустрэч быў Віктар Шалкевіч, яго роля была значна большая, чым паэта і барда. Я быў знаёмы і неаднаразова сустракаўся з літаратарамі, якія былі аўтарытэтамі ў Гародні, — Васілём Быкавым, Аляксеем Карпюком, Данутай Бічэль-Загнетавай.

Пазней, назапасіўшы абшырны матэрыял па гісторыі Гародні і ваколіц, я вёў на працягу амаль 10 гадоў на мясцовым тэлебачанні асветніцкую і краязнаўчую перадачу «Гарадніца», а затым заснаваў і ўзначаліў вядомую грамадскую арганізацыю «Ратуша».

Адраджэнскія працэсы ў часы пасля перабудовы ішлі ў дзвюх плынях: у Заходняй Беларусі вызначалася моцная цяга да культуры — краязнаўства, гісторыя архітэктуры, патрэба ў аднаўленні старажытных помнікаў, культавых забудоў. Ва Усходняй Беларусі назіраўся ўздым грамадскай актыўнасці ў сувязі з падтрымкай і лекаваннем чарнобыльцаў, змаганнем за іх правы.

У нас шмат выдатных музыкаў. Я вельмі цаню і Лявона Вольскага, і Змітра Вайцюшкевіча. Рок-музыкі ў нашай краіне — сімвал волі, лідары свабоднага духу. Ад іх патрабуюць быць амаль апосталамі, амаль святымі.

Заўважана, што выдатныя асобы ў літаратуры і музыцы выспяваюць у пераломныя, складаныя эпохі, калі абвостраны грамадскія пачуцці і спадзяванні. У спакойныя, «бюргераўскія» часы менш нараджаецца яскравых твораў мастацтва.

*— Вам даводзілася слухаць выступы нашых музыкаў за мяжой, на святкаванні 90-х угодкаў БНР і пры іншых нагодах. Як успрымаюць беларускіх артыстаў?*

— Мы — не правінцыя і не ўскрайкі Еўропы. Палякі, французы, немцы і іншыя слухаюць нас з захапленнем і інтарэсам. Нам трэба шырока адраджаць нашу арыгінальную нацыянальную культуру,

музыку, літаратуру, бо толькі так мы можам заваяваць аўтарытэт і павагу ў Еўразвязе.

У нас ідуць зараз працэсы фарміравання нацыі, паглыблення нацыянальнай свядомасці, дэсаветызацыя, еўрапеізацыя, развіваюцца іншыя добрыя тэндэнцыі. Нацыянальны каларыт мусіць падкрэсліваць нашу непаўторнасць.

Беларускае грамадства павінна аб’яднацца на глебе нашых нацыянальных каштоўнасцяў. Мы мусім усвядоміць сябе нацыяй са сваімі інтарэсамі і перспектывамі. Толькі Беларусь са сваёй самабытнай культурай, традыцыямі і гісторыяй уяўляе інтарэс для еўрапейцаў, толькі дэмакратычная Беларусь можа заняць сваё пачэснае месца ў адзінай сям’і народаў Еўропы.

*Гутарыла Эла Дзвінская*



# Лявон Вольскі: «Паветрам свабоды дыхаю я»



Больш за 12 гадоў рок-гурт «N.R.M.», які стаў сімвалам маладога энергічнага беларускага Адраджэння, крочыць наперадзе, разгортваючы магутную хвалю незалежнай беларускай музыкі. Са значным поспехам прайшлі гастролі гурту ў ЗША. Мы сустрэліся з Лявонам Вольскім у студзені 2007 года, напярэдадні выхаду новага альбома «N.R.M.».

*— Раскажыце, калі ласка, пра тое, чым быў насычаны мінулы год.*

— Мы збіралі матэрыял для новага альбома «06». Усе трэкі ўжо прапісаныя, справа засталася толькі за міксамі, за звядзеннем у адзінае цэлае. Альбом будзе складацца з 14 песень, некаторыя з іх шырока вядомыя. Насуперак законам шоу-бізнесу мы ігралі новыя песні на канцэртах.

Мы шмат ездзілі па свеце, выступалі з канцэртамі ў Празе, Берліне, Бруселі, Стакгольме, не кажучы пра Польшчу, дзе наш гурт даволі раскручаны. Давялося шмат карыстацца грамадзянскай авіяцыяй.

За гэты год пашырылася культурная інтэграцыя са Шведскім Каралеўствам. Нашым падарожжам паспрыяў амбасадар Швецыі на Беларусі Стэфан Эрыксан. Ён, як і калісьці Джордж Крол, праяўляе вялікую цікавасць да беларускай культуры, свабодна размаўляе па-беларуску, з задавальненнем наведвае творчыя вечарыны. З разуменнем і гасціннасцю прыняў нас слынны культурны дзеяч Швецыі Томас Нарданстад. Ён стварае фільмы пра свабоднае мастацтва, наведаў Бірму, Кітай. Вясной 2006-га ён здымаў сюжэт на плошчы Каліноўскага. У Стакгольме нам давялося выступаць на эксперыментальнай пляцоўцы Шведскага Каралеўскага драматычнага тэатра.

За тры дні пашчасціла завітаць у Злату Прагу. Два тыдні бесперапынна ішоў фестываль сучаснай музыкі. Мы выступалі ў парку разам са слыннымі рок-гуртамі з Вялікабрытаніі.

*— Вашы песні адкрываюць вялізны ўнутраны прастор духу, даюць веру ў перамогу, натхняюць на няспынны рух да яе, пазбаўляюць людзей страху. Ваша песня «Усё роўна мы пераможам!» («Гадзючнік») была прызнана адной з лепшых песень года.*

— Так. Якраз гэты кліп у нашым выкананні здымаў Томас Нордастад.

Будзем займацца новымі альбомамі, скіроўваць усе намаганні, каб аматары іх хутчэй атрымалі. У студзені ў Беластоку мы ўдзельнічалі ў праекце, які ладзіць найбуйнейшая польская дабрачынная арганізацыя «*Вялікі аркестр Каляднай дапамогі*». Мэта такіх мерапрыемстваў — сабраць сродкі на дапамогу хворым дзецям, захаваць ім жыццё праз медычную дапамогу і ўдасканаленне дыягностыкі.

*— На думку аднаго з сучасных аўтараў, «"N.R.M." зрабіла для беларускай ідэі больш, чым усе палітычныя партыі нашай эпохі».*

— Мне прыемна даведацца пра такое меркаванне. Але насамрэч мы проста сур'ёзна займаліся творчасцю, не думаючы, што за намі пойдзе моладзь. Нам падабаецца пісаць песні, занатоўваць тое, што нараджаецца адразу, так бы мовіць, прыходзіць звыш. Нашы песні даволі нязмушаныя, у іх шмат гумару, добрых жартаў.

Мы нічога не робім на замову. У сённяшнім рэчышчы культурнай катастрофы лічу, што рок-музыкам трэба кансалідаваць намаганні, ісці адзіным фронтам.

*— Ваш дзед Віталь Вольскі быў адным са старэйшых беларускіх пісьменнікаў, навукоўцам, аўтарам п'ес «Несцерка», «Цудоўная дудка», «Дзед і Жораў», натхнёным вандроўнікам. Бацька, Артур Вольскі стаў любімым дзіцячым паэтам і перакладчыкам. Якое месца ў Вашым жыцці займалі яго вершы?*

— Яны заўсёды са мной, з самага дзяцінства, і я разумеў, што гэта натуральна, і так павінна быць. Думаю зрабіць складанку на дзіцячыя вершы, куды б увайшлі не толькі творы майго бацькі, але і іншыя дзіцячыя вершы, якія добра кладуцца на музыку.

Хацелася б зрабіць гэта хутчэй, бо мая дачушка Адэля падрастае. Яна таксама спявае і малюе. Мая жонка Ганна — сёння прадзюсар «Крамбамбулі», яна паспяхова займаецца гэтым праектам.

*— Раней Вы шмат малявалі, удзельнічалі ў выставах, а ці працягваеце цікавіцца выяўленчым мастацтвам?*

— Так, канешне. Нават у машыне раблю замалёўкі з натуры, апрацоўваю вершы. Плануем далей здзяйсняць праект з «Нашай Нівай» і рабіць коміксы. На коміксы я хварэў яшчэ з дзяцінства, мы з хлопцамі знаходзілі іх у розных часопісах, абменьваліся, але ў нашай краіне гэты жанр чамусьці не развіты. У лепшыя часы я з радасцю штомесяц ствараў коміксы для часопіса «Бярозка», калі мастацкім рэдактарам у ім быў Міхал Анемпадыстаў. Да таго ж у мяне выйшлі два зборнікі вершаў, я пішу прозу і публіцыстыку.

*Гутарыла Эла Дзвінская*
*«Новы час», 16 красавіка 2007 года*

# Сяброўства творцаў



Алесь Пушкін — гасцінны і добразычлівы чалавек. Моладзь, пабываўшы ў яго на сядзібе ў Бабры, наперабой расказвала пра пейзаж над рэчкай, пра катанне на конях.

Вольны мастак, нон-канфарміст, лаўрэат прэміі «За свабоду думкі» імя В. Быкава, ён ладзіць адкрытыя пленэры, перформансы, удзельнічае ў грамадскіх кампаніях, робіць пастаноўкі ў тэатры, піша дэкарацыі да спектакляў. У цэрквах і касцёлах Віцебшчыны і Магілёўшчыны назаўсёды застануцца абразы і роспісы, зробленыя Алесем Пушкіным, былым ваяром-інтэрнацыяналістам. Мастак і яго сям'я сябруюць з артыстамі і музыкамі, абменьваюцца творчымі візітамі.

— *Колькасць Вашых выстаў складана пералічыць?*

— У рэспубліканскіх выставах удзельнічаю з 1986 года. Браў удзел у міжнародных выставах (Расія, Нямеччына, Чэхія, Літва — гэта персанальныя, у розныя гады — 1990–2000-я). Нядаўна мне прадставілася магчымасць зрабіць выставу ў шведскім горадзе Кальмар. Бобр наведаў у 2008 годзе Ако Карлсан, сябра Партыі Зялёных Швецыі. Ён, як і я, жыве ў рэгіёне, таму яму хацелася паглядзець наш кут. Госць распавёў аб галерэі сучаснага мастацтва, якая існуе ў іх горадзе, дзе кожныя тры месяцы змяняецца экспазіцыя з дэманстрацыяй твораў нямецкіх, шведскіх, амерыканскіх мастакоў.

Мною былі адабраны 17 прац. Асаблівае значэнне меў партрэт Георгія Бортніка, святара, расстралянага ў 1951 годзе за тое, што ён вёў казані на роднай мове. Яшчэ мне хацелася паказаць свае вясновыя шпакоўні, да якіх прыклалі руку розныя вядомыя асобы. Выставу ў горадзе Кальмар прадстаўляў куратар Марцін Шчыблі.

— *У Вас ёсць вопыт супрацоўніцтва з тэатрам?*

— Першы досвед працы па афармленні спектакля ў мяне быў у 1993–1994 гадах, калі ў Беларускім драматычным тэатры імя Я. Коласа

ў Віцебску разам з рэжысёрам В. Маслюком мы ставілі п’есу «Кароль Лір» (прэм’ера адбылася 17 красавіка 1994 года). Другі спектакль паводле п’есы «Фрэкен Юлія» Аўгуста Стрындберга я аформіў у тым жа тэатры, рэжысёр Грышкевіч, прэм’ера была 21 снежня 1997 года. Афармляў сцэну і касцюмы 7 Міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі ў Віцебску ў 1994 годзе.

*— Якую ролю адыгрывае сучасная беларуская музыка ў жыцці Вашай сям’і?*

— Мы сочым за дыскаграфіяй беларускай музыкі, я прывожу з падарожжаў музыку тых краёў, дзе бываю. Рэдка, але бываем на імпрэзах, штомесяц наведваем з сынам Міколкам канцэрты ў раённай музычнай школе, бяром з ім урокі музыкі. З дачкой Марылькай танчым пад музыку.

*— Што любяць спяваць дзеткі?*

— Пакуль толькі калыханкі.

*— Якія ў Вас асацыяцыі выклікаюць спевы З. Вайцюшкевіча?*

— Пазітыўны настрой, ягоны моцны, мужчынскі, прыгожы голас, які вельмі вар’іруецца — ад магутнага эпічнага да пяшчотна-лірычнага, не можа не падабацца і не хваляваць слухача! Плюс выразная свядомая беларуская скіраванасць яго творчасці.

*— Чым ён Вам блізкі па сваёй любові да свабоды і творчасці?*

— Ён блізкі тым, што спявае па-беларуску, на вершы беларускіх паэтаў, перапявае і класіку народнай творчасці. Што да свабоды і любові да яе — то яна адчуваецца найбольш, калі ён спявае тэксты У. Караткевіча, як мне падаецца, ды калі ставіць свае подпісы пад адозвамі за свабоду і раўнапраўе беларускай мовы ў нашай краіне. Яшчэ Зміцер — удзельнік канцэртаў «Салідарныя з Беларуссю».

Улетку быў канцэрт з яго ўдзелам у дзіцячым лагеры адпачынку на рацэ Бобр, а ў нас ён спяваў у хаце, калі прыязджаў на Каляды — 14 студзеня 2009 года разам з цяжарнай жонкай Галяй — я іх маляваў, пачаў партрэт сямейны…

Увогуле Зміцер Вайцюшкевіч — рэдкая з’ява цэльнага, буйнога, ярка-лірычнага артыста ў наш час, які магутна, шчодра фантаніруе сваёй творчасцю, радуючы нас і саграваючы сваім цяплом, працаздольнасцю, маладой няўрымслівасцю.

*Гутарыла Эла Дзвінская*

## «З дальняй старany дадому»

Ніколі б не праспявалася, не прагучала пад нябёсамі ні гэтая песня, ні многія-многія іншыя, што ўвайшлі ў народ, сталі часцінай яго жыцця, калі б не было ў нашай сённяшняй культуры бліскучага паэта Уладзіміра Някляева. Неяк ён сказаў, што працуе ў жанры песні выпадкова, ды наўрад ці гэта так. Ім напісаны выдатныя вершы і паэмы, але ў кожнай хаце спяваюць на свяце «Гуляць дык гуляць…», і выпадкова такое не здараецца. Людзей можна падмануць чым заўгодна: законамі, газетнымі артыкуламі, тэлевізійнымі праграмамі, толькі нікога не падманеш песняй. Песню альбо спяваюць, альбо не, і для таго, каб яна заспявалася, ой, колькі душы і сэрца, колькі таленту трэба ўкласці ў кожны гук, у кожнае слова…

«Уладзіміру Някляеву ўдавалася і ўдаецца здзяйсняць гэты цуд, талент у яго ад Бога, душы і сэрца — ад бацькоў, ад роднай зямлі, дзеля якой усім нам працаваць, на якой жыць і спяваць» (Ігар Лучанок «Крылатая песня»).

Былы старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Уладзімір Някляеў згадзіўся сказаць некалькі слоў пра свой кантакт з аўдыторыяй і супрацоўніцтва з музыкамі.

*— Уладзімір Пракопавіч, Вы ніколі не цураліся публічных выступаў. Наколькі Вам патрэбен кантакт з чытачом не праз кнігу, не праз тэкст, а непасрэдна?*

— Шчыра кажучы, той патрэбы, якая была некалі, сёння я не адчуваю. Але не толькі ў непасрэдным кантакце, але і ў кантакце праз кнігу. Вось сёння ў мяне ляжаць гатовыя да друку кніга паэзіі «Кон», кніга прозы, кніга эсэ і паэтычнай драматургіі. Апошнім часам я пішу пераважна прозу. Нядаўна напісаў аповесць пад назвай «Уся Еўропа», фрагмент з яе публікаваўся ў літаратурным дадатку да газеты «Новы час».

*— Якім было Ваша супрацоўніцтва з тымі, хто піша музыку?*

— У кожнага кампазітара свой тон і свой рытм. Часцей яны дзяліліся са мной новымі мелодыямі, на якія я знаходзіў вершы. Я меў адпачатку

так званую рыбу, да якой дапасаваліся вершаваныя тэксты. У свой час супрацоўнічаў з сотнямі кампазітараў, напісалі песні — разышліся. Са Змітром Вайцюшкевічам нашы адносіны сталі сяброўскімі, ёсць з кім сябраваць, ёсць з кім гаварыць пра жыццё.

Зміцер патэлефанаваў мне ўпершыню ў 2003 годзе, калі мы не былі яшчэ з ім знаёмыя, і сказаў, што напісаў некалькі песень на мае вершы. Я адказаў: «Калі ласка, можаце напісаць яшчэ». Так у 2006 годзе выйшаў альбом «Танга з ружай», які склалі 12 песень на мае вершы. Там ёсць розныя мелодыі — энергічныя, драматычныя, чуллівыя. Мяне здзівіла, што нават верш пра самалёт удала спалучыўся з мелодыяй. Песню «Наш сцяг» я напісаў пазней, у 2008 годзе.

Вельмі патрэбны сёння вобраз беларуса, якога можна паважаць і якім можна любавацца. Зміцер такі вобраз увасабляе. Гэта не тое, што тыя карлікі і скакункі, якія вымаўляюць адны і тыя ж словы на эстрадзе. Як бы шмат іх ні было, яны — бязлікія, песні іх аднолькавыя, а словы — прымітыўныя. Зміцер стаіць на беларускім шляху і не збочвае. Ён можа быць суперзоркай Беларусі. Душа яго шырокая, прасторная і светлая, як Нёман. Мне аднаму з першых ён выканаў песню, напісаную на Нёмане, — «Пад ранне».

Зміцер далучыўся да Клуба аматараў пары (КАП). Клуб існуе ў Мінску ўжо 20 гадоў. Туды ўваходзяць спартоўцы, бізнесоўцы, у нас ёсць прэзідэнт клуба, свая атрыбутыка, герб, гімн.

*— Адна з Вашых літаратурна-музычных сустрэч у рамках кампаніі «Будзьма» адбылася ў сценах Крэўскага замка.*

— Так, і мы яшчэ не раз збяромся там. Мы чыталі вершы, спявалі песні. Гэта мясціна знакавая для Беларусі. Для мяне яна важная не толькі тым, што я нарадзіўся паблізу. За сваю гісторыю Крэўскі замак быў сведкам многіх гістарычных падзей. У 1385 годзе ў Крэўскім замку былі прыняты ўмовы аб'яднання Літвы і Польшчы пад уладай Ягайлы (Крэўскай уніі). Пад рэшткамі замкавых сценаў, на руінах нашай гісторыі прайшло маё дзяцінства. Адсюль я беларус. Нацыянальнасць — не запіс у пашпарце, а мова, гісторыя і культура, да якіх ты належыш.

Быць беларусам — гэта не тое, што памахаць ручнікамі і заспяваць «Лявоніху», што было і ў савецкія часы. Важна, каб наша гісторыя, філасофія, гуманітарная навука былі прызнанымі на вышэйшым узроўні. Так было і будзе. Вечны, неўміручы дух народа застанецца.

*— На якіх сучасных выканаўцаў Вы больш звяртаеце ўвагу?*

— Мяне цяжка чымсьці здзівіць. Я прыдзірлівы да музыкі — шмат давялося папрацаваць з найлепшымі айчыннымі меладыстамі і з геніяльным Мулявіным. І яшчэ я дачэплівы да словаў, бо як да сябе, так і да іншых маю даволі высокія патрабаванні ў паэзіі, нават у песеннай паэзіі, хоць гэта і зусім іншая штука.

На жаль, у большасці кампазіцый, якія даводзіцца часта чуць, няма ні словаў, што б запалі, ні акрэсленых мелодый. Гук найчасцей глушыць — думаю, так зроблена для таго, каб прыхаваць словы, якія папросту не дацягваюць.

Добра, што моладзь спрабуе штосьці рабіць, намацвае шлях. Лявон Вольскі з Памідоравым ды «Neuro Dubel» — нармалёвыя хлопцы, сваю справу яны ведаюць і робяць якасна. З маладзейшых хіба «Testamentum Terrae» і «Рокаш» ужо акрэслілі сваю лінію. І гнуць яе. Прыемна было паслухаць. Малайцы! «Дзецідзяцей» вельмі хутка займелі папулярнасць, імклівà, я б сказаў. Голас пранікнёны, тэксты чуллівыя. Гэты гурт, дарэчы, як ніхто іншы, дэманструе тэндэнцыю тэатралізацыі папулярнай музыкі.

Што да новага свежага праекта «У нескладовае»… Даволі ўдалае сумяшчэнне непадобных між сабой вакалаў… Мелодыкі і рэпу. Харызма Аляксандра Памідорава ўзмацняе насычаны эмацыйна тэкст. І аранжыроўка — прывабная. «Адзіноцтва» Akute лашчыць вуха прыемнай мелодыяй, але за ўласна музыкай крыху губляецца, як на мой погляд, вакал.

У кожным разе, можна без перабольшання сказаць, што сёння ў Беларусі музыканты развіваюцца і ствараюць нешта новае насуперак рэаліям. І гэта не можа не цешыць. Я спадзяюся папрацаваць бліжэйшым часам і са Змітром, і з нашымі беларускімі гуртамі. Яшчэ не ўсё спета, пра што хацелася б спяваць. Ёсць вершы, якія таго чакаюць.

*Гутарыла Эла Дзвінская*

# Нёмана чыстая плынь



Нёман — немы раман нацыянальнай ідэі. Выцякаючы з самых глыбіняў беларускае душы, Нёман збірае ў адно ўсю празрыстасць, усю чысціню Заходняй Беларусі, скрозь прасякнутай тонкімі капілярамі рэчак і ручаёў.

Нёман — улюбёны напой невычэрпнае рамантычнасці. Творцы ў захапленні ад Нёмана. Нёман — плынь свядомасці найлепшае беларускае паэзіі: Міцкевіч, Колас, Купала, Геніюш чарнільнымі струменьчыкамі працягвалі нёманскія прытокі ў вечнасць. Не трэба абсалютнага слыху, каб пазнаць мелодыку Нёмана і ў гімнах Агінскага, і ў операх Манюшкі, і ў фальклорных зборніках Чачота. Затуманены Нёман ператварае Беларушчыну са сну ў рэальнасць, з рэальнасці — у казку, з зямнога — у нешта паветранае і нябеснае.

Нёман бруіць вадзіцай з усіх крыніцаў усіх сталіцаў ВКЛ і задзіночвае Наваградак з Вільняй, Крэва з Трокамі, Гародню з Нясвіжам.

«Плыве з-пад Святое гары Нёман» — назваў свой захапляльны нарыс пра Беларусь Юрка Віцьбіч. Невыпадкова так. Бо Нёман — галоўная пульсуючая жыла беларускага хрысціянства. На мапе канфесій басейн Нёмана ўтварае навукова зарэгістраваны німб. Менавіта тут канцэнтруецца большасць каталіцкіх парафіяў ды праваслаўных прыходаў Беларусі і амаль палова пратэстанцкіх грамадаў. Панямонне, дзе цэрквы, касцёлы і малітоўныя дамы па-сямейнаму глядзяць у вокны адно аднаму на цэнтральных плошчах, і ёсць тым самым месцам сустрэчы, якое нельга змяніць. Панямонне, напоўненае жывой вераю.

Тут нават мары дыхаюць Духам Святым. Плыве з-пад Святое гары Нёман.

*Павал Севярынец*

# «Рэчка мая радзінная»



Так склалася, што на Гарадзеншчыне нарадзіліся, правялі дзяцінства ці пэўны час жылі або бывалі многія творцы. Калыска Нёмана… А дзе ж, калі не над калыскай, ствараюцца самыя задушэўныя, цудоўныя песні!

Сапраўды, тут спявае ўся зямля, гамоняць лугі, лясы, пералескі. Можа, таму разам з Нёманам так свабодна і шырока струменіцца і другая — песенная — рака. У звонкім яе патоку перапляліся амаль дзясятак галасоў.

«Пад ціхі шолах сасновых бароў, пад працяглы шум лазы і ракітніку ды чароту над Нёманам складаліся легенды і быліны аб родным краі, які стаіць між салаўіных гаёў і дуброў», — адзначаў Анатоль Бялевіч.

Дзяцінства Кастуся Міцкевіча, народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, прайшло ў Мікалаеўшчыне, незвычайна прыгожых мясцінах — жывапісныя лясы, велічная рака Нёман знайшлі ў душы юнака водгукі пачуццяў. Родныя мясціны Акінчыцы, Ласток, Альбуць апетыя паэтам у паэме «Новая зямля».

«У кожным моманце з’яў прыроды ўсё для мяне было напоўнена глыбокім інтарэсам і сэнсам, і кожны элемент прыроды меў для мяне свой твар, сваю акрэсленую індывідуальнасць. Я жыў пераважна ўнутраным светам, светам вобразаў і мрой, пра які я нікому не казаў», — пісаў пазней паэт пра сваё дзяцінства. У апавяданні «Нёманаў дар» Якуб Колас пісаў: «Нёман быў нервам сяла, які будзіў яго жыццё і прымушаў чутка прыслухоўвацца да таго, што робіцца вакол. І ўсе важнейшыя справы былі так ці іначай звязаны з Нёманам. Тут, на беразе, што так блізка падыходзіў да сяла, збіраліся сяляне і радзілі свае рады».

Калі-небудзь сярод нашых краязнаўчых музеяў з’явіцца і музей Нёмана. Магчыма, у Стоўбцах, Новым Свержані, Мастах або Любчы. Аднойчы князь Міндоўг, перапраўляючыся праз Нёман, убачыў на беразе прыгажуню. У гонар жонкі Міндоўг назваў месца Любеч.

Пра Нёман і пра яго лясы пісаў Анатоль Астрэйка. І ў яго характары было штосьці ад неўтаймаванай прыроднай стыхіі, калі цесна, немаг-

чыма адчуваць сябе ў рамках звыклай штодзённасці. Сэрца ж ірвецца туды, дзе так адчувальны і ход гадоў, і вечнасць часу.

Каля Нёмана жылі Пятрусь Броўка, Пятро Глебка. У краі адвечных песень, казак прагучалі непаўторныя, крыштальна чыстыя, як нёманскія хвалі, вершы Паўлюка Труса (1904–1929). Усё ў творчасці паэта авеяна пачуццём радасці і любові да роднага краю, свайго народа. Яго бор «смуглабровы», а цені купаюцца ў даліне, плаваюць на лузе абветраным чоўнам, а малатарня звініць гулкім рогатам.

«Нёман — гэта невады рыбы, духмянае сена, скошанае на прырэчных лугах», — пісаў Уладзімір Караткевіч у кнізе «Зямля пад белымі крыламі». Сюды ўвесь час цягнуўся Адам Міцкевіч з чужыны: «Нёман! Рэчка мая радзінная, празрыстаю плынню ты амываў мне, малому, далоні. Айчына мілая, Літва, ты як здароўе. Той табою даражыць, як сваёй крывёю, хто страціў цябе». Тут жылі героі Міцкевіча: князь Мешка, і Гражына, і пан Тадэвуш.

З Нёманскім краем звязана жыццё іншых дзеячаў беларускай літаратуры. Так, у Гудзевічах некалькі гадоў сваёй маладосці правяла вядомая паэтэса Ларыса Геніюш. На могілках у гэтай вёсцы спяць вечным сном яе продкі. Калысцы сваёй маладосці яна прысвяціла верш «Гудзевічы». І ў сталым узросце Ларыса Геніюш, якую называюць беларускай Ахматавай, бывала ў Гудзевічах, пра яе ёсць многа матэрыялаў у мясцовым музеі.

У гэтым краі працавалі многія фалькларысты, збіральнікі народнай творчасці.

Так, у пасляваенны час вёску Котчына наведаў патрыярх беларускай музычнай культуры Рыгор Раманавіч Шырма. Пазней Мастоўшчыну наведвалі вядомыя музыказнаўцы і фалькларысты Э. Н. Ледаховіч, А. С. Ліс, І. К. Цішчанка, Л. В. Таўлай, Г. А. Барташэвіч. У вёсках Сінявічы, Галубы, Дубна, Заполле, Кулёўшчына, Зарудаўе яны запісалі шмат цудоўных песень.

На Гарадзеншчыне жылі і працавалі таленавітыя людзі, якія спрабавалі свае сілы ў літаратуры, пісалі вершы, апавяданні, стваралі казкі. Тут варта нагадаць імя казачніка Івана Герасімавіча Мазалеўскага (1894–1984), які нарадзіўся ў в. Вайнілавічы, апошнія гады жыцця правёў у Мастах. Ад яго ў пасляваенны час запісаў шэраг казак фалькларыст Леў Бараг. Адна з іх — «Разумны хлопчык» — у перакладзе на нямецкую мову змешчана ў зборніку «Беларускія народныя казкі», што выйшла з друку ў Берліне.

У Міневічах у сярэдзіне мінулага стагоддзя часта бывала вядомая польская пісьменніца Эліза Ажэшка. Яна наведала навакольныя вёскі Глядавічы, Лунна, Багатырэвічы, Паніжаны, любіла адпачываць на цудоўных берагах Нёмана. На мясцовым матэрыяле Э. Ажэшка стварыла аповесці «Хам», «Нізіны», «Дзюрдзі», знакаміты свой раман «Над Нёманам».

Ва ўсіх вандроўках яе найбольш цікавілі людзі. Пакуль мужчыны займаліся рыбалоўнымі справамі на рацэ, яна наведвала суседнія вёскі. Усюды яе сустракалі вельмі добразычліва. Яна заўважала, што «люд у тых ваколіцах абходзіцца лагодна, ветліва; нават незнаёмых вітае па-старому: "Нех бэндзе пахвалёны!" — і гасцінна іх прымае, калі патрабуе выпадак».

Дом пісьменніцы стаяў у старым запушчаным садзе і глядзеў вокнамі на Нёман, а непадалёку пралягаў глыбокі, цёмны, маляўнічы роў, які спускаўся да ракі. Знаўцы сцвярджаюць, што тут стаяла альтанка са столікам, за якім працавала пісьменніца. Калі агледзецца з гэтай пляцоўкі навокал, то з іх думкай можна пагадзіцца: адсюль адкрываецца панарамны від на Нёман і ваколіцы. Шырокая рака ў карунках лясоў, квітнеючыя лугі, рачная прахалода настройвалі на задуменны лад і адпачынак.

У лісце свайму сябру, вучонаму-этнографу Яну Карловічу ў Варшаву (1882) літаратарка адзначала дабратворны ўплыў на яе наднёманскай прыроды: «Міневічы ў сэнсе здароўя служаць добра… Даўно не пачуваю сябе так добра, як гэтым летам. Да сённяшняга дня было горача, вечары цёплыя, ціхія, зорныя, выдатныя». Надыходзячая восень сваімі ледзь прыкметнымі пераменамі прыцягвала ўважлівы позірк пісьменніцы: «...Надвор’е выдатнае, Нёман цудоўны; дрэвы яшчэ зялёныя, хаця ж яны ўбіраюцца ў залатое адзенне».

# З вуліцы Нёманскай — да Варшавы і Парыжа



Пранікнёныя, светлыя, рамантычныя балады пра мора і зоры, дождж і снег, унутраны свет чалавека, краіны, дзе нараджаюцца мары і надзеі, падабаюцца слухачам розных узростаў. Падарожнічае па свеце добры трубадур, дыхае мелодыямі і вершамі, збірае ў дарожную сумку тырольскія вальсы, лэмкоўскія пёсэнкі, скандынаўскія сагі і японскія казкі, каб пасля падарыць усёй грамадзе. Чакаюць яго паўсюль дарослыя і дзеці, асабліва на свята. Хіт Змітра Вацюшкевіча «Я нарадзіўся тут» стаў знакавым для новага пакалення аматараў сучаснай беларускай музыкі.

— *Раскажыце пра той куточак, дзе Вы жылі з маленства.*

— Канешне, маёй калыскай быў Нёман. Я нарадзіўся ў горадзе Бярозаўцы на вуліцы Нёманскай. Пазней сям'я жыла на Наваградскай, там і зараз жывуць сваякі, а ў музычную школу я хадзіў на вуліцу Лідскую, што вымагала 15 хвілін хады. Малыя, мы цікавіліся ўсім навакольным светам, глядзелі, як дабудоўваліся пазнейшыя карпусы на гуце (шклозаводзе «Нёман»).Часта прыязджалі хлопцы з Ліды, чулася навокал беларуска-польская гаворка, такая родная, знаёмая. Нарадзіўшыся ў 1971-м, я падрастаў з Незалежнасцю. З хлопцамі ў дзяцінстве мы бавілі час «у партызанах» — па лясах, па кустах маліны, у грыбах, на рацэ. У хату забягаў, каб з'есці кавалак хлеба з шынкай і зноў бегчы на волю. Рэчка, на якой ты вырас, заўсёды здаецца самай чыстай, вялікай, няспыннай. Потым мне даводзілася глядзець з вышыні на дняпроўскія хвалі, хадзіць па берагах Дзвіны і Віслы, але самы мілы для мяне ўсё ж Нёман.

— *У Вашых песнях шмат трапяткіх слоў пра каханне, пра цеплыню хатняга ачага, пра пяшчоту і ласку матулі, і таксама шмат суму па былым. Скажыце, калі ласка, некалькі слоў пра Вашу матулю.*

— Маю маму завуць Лідзія Імпалітаўна Вайцюшкевіч. А дзеда па-сапраўднаму звалі Імполем. Ён паходзіў з Ляхавічаў. У маленстве ў тым мястэчку стаяла паўразбураная царква, да якой мы дзеці бегалі. Мая мама — вельмі простая, добрая і файная жанчына. Паўжыцця яна была занята ў гандлі, у далейшыя гады працавала на шклозаводзе. Мне часта даводзілася ёй дапамагаць, аднойчы некалькі зменаў працаваў за яе ў цэху. Мама была адносчыцай. З гарачай печы бяруць чырвонае, распаленае шкло на шчыпцы і перадаюць далей на апрацоўку. Вядомыя майстры па шклу на гуце выраблялі вазы, мазаіку, плафоны для свяцільняў, біжутэрыю. У нас у хатах ва ўсіх былі вырабы з рознакаляровага шкла, посуд, сувеніры.

Спяваў я з самага дзяцінства. Ведаў, што існуе такі цуд, як каханне, яшчэ з дзіцячага садка. Адчуванне лірыкі было з самага пачатку. Але калі мне было тры з паловай годзікі, бацька загінуў. Яго звалі Янак, ён быў вельмі добрым і таленавіты чалавекам, музыкам, вядомым на Бярозаўскіх і Лідскіх абшарах. Ён іграў на тубе (басавы інструмент), гітары і спяваў, выступаючы ў мясцовым Доме культуры; перачытаў усю бібліятэку ДК. Праз яго мне перадалося захапленне музыкай. У школе я займаўся ў гуртку, у духавым аркестры, а пасля паступіў у Лідскую вучэльню, у клас кларнета. У Мінску скончыў вучэльню імя Глінкі па класу вакалу і Дзяржаўны ўніверсітэт культуры.

*— А калі Вы зразумелі патрэбу спяваць па-беларуску?*

— Гэта адбылося ў 1992 годзе. Надзвычай важнымі былі фальклорныя экспедыцыі 1993, 1996, 1998 гадоў, у якіх мы ўдзельнічалі разам з «Палацам». У першай экспедыцыі на Магілёўшчыне і Гомельшчыне з намі была дачка Івонкі Сурвілы — Паўлінка. Яна добра ведала англійскую, нямецкую і іншыя мовы, добра гаварыла па-беларуску, але зусім мала па-руску. Мы хацелі паказаць ёй шмат цікавых мясцін.

Тыя песні, што запісваліся падчас экспедыцый, выкарыстоўваліся ў творчасці гуртоў «Палац», «KRIWI». У тыя гады я пазнаёміўся з Лявонам Вольскім, Касяй Камоцкай і іншымі, адчуў імкненне да прыгожага мастацкага слова. Вельмі рады, што пазнаёміўся з паэзіяй Леаніда Дранько-Майсюка, Алеся Разанава, Адама Глобуса і пасябраваў з самімі аўтарамі.

*— Толькі што Вы вярнуліся з Польшчы, дзе прайшла прэзентацыя Вашай новай праграмы.*

— Разам з калектывам «WZ-Orkiestra» мы прынялі ўдзел у трох канцэртах у Польшчы. У Варшаве ў Новым тэатры адбылася прэзе-

нтацыя новага альбома «Месяц і сонца». Мы вельмі хваляваліся, але публіка прыняла нас даволі цёпла. Таксама мы ўдзельнічалі ў фестывалі «Маланка» з мэтай папулярызацыі лэмкоўскай культуры. Гэта вясёлая імпрэза прайшла ў цэнтральным Доме культуры з удзелам украінцаў, беларусаў, англічан, немцаў, якія жывуць ці вучацца ў Польшчы. Народу было так шмат, што не было дзе стаць, як селядцоў у бочцы. Наведвальнікаў свята частавалі ўкраінскай ежай, баршчом, блінамі, агуркамі. Гэтыя паслякалядныя дні былі напоўненыя святлом, радасцю і сяброўскімі сустрэчамі.

*— Вы ўжо не першы раз прыязджаеце ў Польшчу?*

— Так, мне даводзілася выступаць у буйных і маленькіх гарадах. У мяне, як у чалавека, народжанага ў Заходняй Беларусі, ёсць асаблівая цікавасць да культуры нашых суседзяў. Па-польску спяваю, чытаю, стараюся выкшталцоўваць веданне мовы. Што датычыцца іншых прац, то лічу, што адзін з нашых апошніх праектаў на вершы У. Маякоўскага быў удалы. 24 сакавіка 2007 года ў Варшаве ў Малым тэатры адбудзецца прэзентацыя названага праекта. А яшчэ яна пройдзе ў сядзібе ЮНЭСКА ў Парыжы і ў Расейскай амбасадзе.

*— Зміцер, Вы часта падарожнічаеце па свеце, і ў выніку гэтых творчых вандровак нараджаюцца новыя песні, супольныя музычныя праекты і дыскі. Нагадайце, калі ласка, у якіх краінах Вы неслі беларускае слова.*

— Геаграфія нашых выступленняў пралягае ад Казахстана да Прыбалтыкі. За 12 гадоў сцэнічнай дзейнасці я пабываў з канцэртамі ў Расіі, Літве, Латвіі, Германіі, Фінляндыі, Нарвегіі, Італіі. Наш італьянскі праект меў назву «Бэла, чао!» Гэта была своесаблівая праява ўдзячнасці гаспадарам, якія прымалі летам на аздараўленне дзяцей з пацярпелых рэгіёнаў Беларусі. Італьянскія песні гучалі на беларускай мове, а нашыя «Бывайце здаровы, жывіце багата», «Іншым часам» — на італьянскай мове, і пасля яны выйшлі, запісаныя на асобным дыску. Мы пабывалі ў горадзе Мадэне, наведалі тыя мясціны, дзе нарадзіўся Лучана Паварроці і дзе вырабляюць машыны «Ферары». Найбольш запомнілася падарожжа ў Нарвегію ў 2003 годзе, калі наш калектыў ва Ф’ёрдзе ўдзельнічаў у фестывалі музыкі ў стылі этна, арганізаваным Еўрапейскім вяшчальным саюзам. У тым мерапрыемстве, якое можна параўнаць з Еўрабачаннем, былі прадстаўнікі Афрыкі, Еўропы, Амерыкі, адбываліся вельмі ўдалыя канцэрты, цёплыя сустрэчы. Да

нас падыходзіла шмат людзей, яны цікавіліся жыццём нашай краіны, нашай культурнай спадчынай, імкнуліся вывучаць беларускую мову.

*— У сваёй творчасці Вы развіваеце хрысціянскія традыцыі. З ранейшых прац слухачам вельмі падабаўся супольны альбом «Святы вечар». У гэтым годзе Вы выступілі з калядным канцэртам. Ён пачаўся з пяшчотных калыханак, такіх, якімі, мабыць, Марыя люляла калісьці маленькага Ісуса.*

— Так, бо я сам — бацька. І таму, натуральна, мне хацелася скласці калыханкі для свайго сына Андрэя на вершы Рыгора Барадуліна, Алеся Камоцкага, Міхала Анемпадыстава, Віктара Шведа з Беластока. Гэты традыцыйны від спеваў улагоджвае душу, навявае добрыя думкі, цешыць і малых, і старых. На дыску, які выйдзе восенню, будуць калыханкі для дарослых і для душы.

*— Час ад часу Вы ажыццяўляеце дабрачынныя акцыі, наведваеце дзіцячыя дамы і садкі.*

— Так, але раблю гэта не толькі я адзін, а разам са сваімі сябрамі — музыкамі і бізнесоўцамі. У гэтым годзе мы з Лявонам Вольскім і Алегам Хаменкам выступалі ў Дзяржынскім дзіцячым доме. Проста мы адчулі неабходнасць зрабіць нешта канкрэтнае — даць кожнаму дзіцяці сваю валізку з бананамі і цукеркамі, парадавацца і паспяваць разам з імі.

*— Як складваюцца Вашыя стасункі з іншымі артыстамі?*

— З усімі прадстаўнікамі беларускай незалежнай эстрады ў мяне вельмі добрыя адносіны. Мы збіраемся з сябрамі, дыпламатычна абмяркоўваем усе пытанні, заўсёды ў нас ідзе шчыры дыялог. І канешне, кожнаму з нас патрэбен час, каб узбагаціць выяўленчыя музычныя сродкі, папоўніць эмацыянальныя рэзервы, асэнсаваць свае месца і шлях на беларускай музычнай прасторы.

*— На заканчэнне скажыце, калі ласка, калі слухачы змогуць зноў сустрэцца з Вамі?*

— Наступны наш канцэрт адбудзецца ў Мінску 8 сакавіка. Гэта будзе новая праграма на вершы Уладзіміра Някляева.

*Гутарыла Эла Дзвінская*
*«Наша слова», 15 лютага 2006 года*

# Песня паклікала ў дарогу



Тут, у Гродзенскай вобласці, на Лідчыне, адчуваецца былая веліч Вялікага Княства, моц і неўміручасць яго духу. У 1323 годзе князем Гедзімінам быў заснаваны Лідскі замак, а ў 1410-м лідская харугва прымала ўдзел у Грунвальдскай бітве. У старажытным замку з яго магутнай вежай цяпер час ад часу збіраюцца рыцары з розных клубаў і краін і ладзяць турніры.

У цэнтры Бярозаўкі, дзе беластвольныя гонкія прыгажуні выцягнуліся вышэй за пяціпавярховыя дамы і гойдаюць галінкамі з подыхам ветрыку, узвышаюцца карпусы вядомага прадпрыемства. Сосны, такія ж вялізныя, паўсюль абсыпаюць дол шышкамі. Паветра, насычанае пахам хвоі, чысцюткае, нібы сам крышталь. Дубы ў гаі над Нёманам за некалькі кіламетраў ад цэнтра гарадка не менш дзівосныя і старажытныя, кожнаму гадоў за дзвесце.

Журчыць-струменіць Нёман, абхінаючы водмелі. Жывіцай напаўняюць паветра сосны, карэньчыкамі ўплятаюцца ў пясчаны бераг. Казачная мясціна.Тут, у Бярозаўцы, нарадзіўся натхняльнік стварэння і выканаўца папулярнага сучаснага хіта, што чуецца з кружэлак, гучыць на аўтарадыё, захоўваецца з мелодыямі мабільных тэлефонаў, — «Я нарадзіўся тут».

Вуліца Нёманская невялічкая, яна знаходзіцца ў трох хвілінах хадзьбы ад гуты. Залюбаваўшыся магутным дубам, што ўзнёс купу над страхой дома і ружовымі флоксамі ў агародзе, я спынілася на хвіліну. Тут да мяне падышла добрая і гасцінная жанчына і ветліва запрасіла зайсці.

У доме — утульна, прыгожа, дываны — у пярэстых вясёлых колерах, фіранкі бялюткія і накрухмаленыя, у акенка глядзяць кветкі. На сцяне — абраз Божае Маці ў раме. У шафе, як у музеі, захоўваюцца разнастайныя шкляныя вырабы: крышталёвыя вазы, кубкі. У белым празрыстым кашпо — лімончыкі, яблычкі, вінаград — літыя, каляровыя. Ды ёсць яшчэ розныя жывёлкі — зубраняты, рыбкі, ракі.



«Вось у гэтай хаце, а ёй больш за 100 гадоў, мы і жывём. Некалькі хат, наша і суседнія, былі пабудаваны адразу пасля адкрыцця гуты. Усе мы на шклозаводзе працавалі — бацька і маці Змітра таксама, — распавяла Марыя Аляксандраўна Вайцюшкевіч, цётка спевака, бацькава сястра. — Нас у сям'і было 7 чалавек дзяцей, жылі мы небагата, амаль усе браты і сёстры працавалі тут».

Сапраўды, з 12 тысяч насельнікаў мястэчка больш як чатыры тысячы заняты працай на прадпрыемстве. Больш за 44 гады рабіў на заводзе майстрам Казімір Антонавіч Хлябовіч, дзядзька артыста. Разам з калегамі адзначаў 100-годдзе прадпрыемства ў 1983 годзе.

## «У краіне сотняў парушаных храмаў»

Добразычлівая Марыя Аляксандраўна і яе муж Казімір Антонавіч пачаставалі мяне за гаворкай смажаным шчупаком і сваёй вішнёўкі прапанавалі, бо акурат у гэты дзень у гаспадара быў дзень народзінаў. А потым ён правёў мяне па ціхіх вуліцах гарадка, расказваючы пра былое.



— Мясціны ў нас маляўнічыя, у Нёмане шмат рыбы — шчупакоў, акунёў, плотак. Грыбоў штогод кілаграмаў трыццаць збіраем. Была ў нас у Бярозаўцы праваслаўная царква, але яе ў 1954 годзе спалілі. Ведаеце, такія былі часы. На месцы былога касцёла, якраз на яго фундаменце, паставілі інтэрнат для будаўнікоў. Тады дзяцей мы патаемна хрысцілі ў нашай хаце, я запрашаў бацюшку, ён прыязджаў здалёк, і так дзетак пятнаццаць ахрысціў, у тым ліку свайго пляменніка. Дзякуй Богу, усё вяртаецца на месцы свае, парушаныя храмы адбудоўва-

юцца зноў. Збудавалі новую царкву, цагляную, яшчэ прыгажэйшую. І касцёл новы ўзвялі нашыя бярозаўскія жыхары. Мне даводзілася дапамагаць у гэтым ксяндзу.

— Зміцер звычайна ў нас гасцюе, як прыязджае, — распавяла Марыя Аляксандраўна. — Аднойчы чую здалёк — песня гучыць. Голас далятае раней, будзіць наваколле моцнай хваляй. Гэта ён прыехаў, ідзе па вуліцы. Падыдзе, узрадаваны, нас абдыме, куранятак, гусей, сабачку і свінку прылашчыць.

— Ён у кожным лісціку бачыць нешта дзівоснае, прыгожае. Толькі не ўсе яго ў нас тут ведаюць. Раней, калі песні гучалі па першым канале радыё, ды яшчэ адна з мелодый была абрана песняй года, то людзі прыходзілі да нас у хату, дзячылі, казалі добрыя словы. Змітру падаравалі сімвалічны знак — пачатак усіх дарог, такі, як стаіць у Мінску на Кастрычніцкай плошчы.

— Бацька Змітра быў таленавіты і вядомы на Лідчыне, — падзялілася ўспамінамі спадарыня Марыя. — «Янак, заспявай!» — прасіла яго ўся грамада, як збіралася разам. І ў маці дужа добры голас быў. Мы называлі яе «наша Русланава». Толькі Янаку не пашчасціла, ён патрапіў у дарожнае здарэнне на матацыкле і загінуў вельмі маладым. Дзіму было толькі тры годзікі. Сваіх дзяцей у нас няма, і мы дапамагалі гадаваць яго, як свайго. А потым, як скончыў 8 класаў, ад дому адарваўся і пайшоў у вялікі свет, паехаў у музычную вучэльню ў Ліду, а потым у Мінск. У Дзяржаўны інстытут культуры. Цяпер мы самі да яго прыязджаем на вялікія канцэрты. Аднойчы бачыла — незнаёмы дзядуля стаяў каля сцэны з кветкамі і плакаў. «Я гэту песню на лецішчы пачуў, так яна мне ў душу запала, усё шукаў выканаўцу — і вось знайшоў!».

## «Дзе спрадвеку гучыць наша мова, булатны клінок»

З тых часоў шмат павандраваў спявак па свеце, быў на гастролях у Польшчы і Балгарыі, Італіі, Нарвегіі, Германіі, спявае па-польску, па-італьянску і па-японску, а больш за ўсё па-беларуску. Складае рамантычныя песні на вершы вядомых паэтаў у сучаснай інтэрпрэтацыі. Самы дарагія суайчыннікам, бадай, творы з розных альбомаў: «Я нарадзіўся тут», «Дзе мой край» на вершы У. Караткевіча, «Наш сцяг» Уладзіміра Някляева.

Збор «Месяц і сонца» напісаны на словы японскіх паэтаў у перакладзе Алеся Камоцкага, а ў іх чуецца плёскат нёманскіх хваляў, бачацца пясчаныя сцяжынкі ў векавечным гаі.

Веру, што здзейсніцца мара мая —
Тымі мясцінамі ціха прайсці
І, адчуўшы, што чакала мяне родная зямля,
Больш не шукаць сабе новых мясцін.

*«Радзіма»*

*Эла Дзвінская*
*«Наша слова», 1 жніўня 2007 года*



# Самародкі з Бярозаўкі

## Ад родных ніў



Бярозаўка — невялічкі гарадок на Лідчыне ў Гродзенскай вобласці, размешчаны ў маляўнічым кутку каля Нёмана, абнесены векавымі дубровамі з розных бакоў. Край народных талентаў, самародкаў з мясцовых глыбінь, зямля працавітых і шчодрых людзей прыцягвае да сябе сваёй непаўторнай прыгажосцю. Тут знаходзіцца славуты шклозавод «Нёман», прадукцыя якога вядома на трох кантынентах свету. Вытворцы цудаў са шкла, мастакі і майстры святкуюць восенню 125-годдзе прадпрыемства.

Як расказваюць паданні, мястэчка было заснавана ў XIX стагоддзі, а будаўніцтва гуты распачата абшарнікам Зянонам Ленскім у 1883 годзе. Далейшыя гаспадары гуты Юліус Столе і Вільгельм Краеўскі запрашалі працаваць на Беларусь бельгійскіх, нямецкіх і польскіх адмыслоўцаў.

Абразчыкі вырабаў са шкла захаваліся яшчэ з 2–1-га тысячагоддзяў да нашай эры. Адзін з іх — чаша Тутмаса III, датаваная 1450 г. да н. э. Сама шкловыдзімальная трубка была вынайдзена ў Старажытным Егіпце.

Сусветныя шэдэўры здзіўляюць сваёй далікатнасцю і тонкасцю. Калісьці яны захоўваліся ў музеі шкла завода з часоў Ю. Столе і В. Краеўскага.

Венецыянскае шкло здаўна вылучалася філіграннным узорам і размалёўкай эмаллю, чэшскае — пышнай гравіроўкай у спалучэнні з разьбой і шліфаваннем, англійскі крышталь — бліскучым алмазным граненнем, галандскае шкло — тэхнікай пункціравання алмазам.

На нёманскай гуце ў XIX стагоддзі посуд і мастацкае шкло выраблялі метадам прасавання, свабоднага фармавання з бясколернага каляровага празрыстага шкла. Прасаваныя і фармаваныя вырабы дэкарыравалі пластычнымі аздобамі — каляровымі ніцямі, фігуркамі жывёл, птушак.

# Нёманская ніць



Каля печы спякотна. Рухі майстроў у цэнтры цэха на ўзвышшы каля печы нагадваюць таямнічае дзейства на сцэне. Майстар бярэ частачку плаўкага боскага агню і лепіць старанна з яго жывую істоту альбо нейкі прадмет.

Валеры Багінскі — знаны і аўтарытэтны майстар па шклу. Ён працуе на заводзе з 1975 года, мае тытул «Майстар залатыя рукі», носіць званне народнага мастака. Валеры Багінскі — карэнны жыхар з Бярозаўкі. Сакрэты прафесіі, адчуванне формаў шкляной пластыкі перадалося яму ад бацькі.

Майстар апранае нарукаўнікі і рукавіцы, бярэ з печы кавалак белага шкла. На нашых вачах ён выдзімае некалькі розных дэкаратыўных вазаў. Яны — вялікага памеру, каляровыя, святочныя.

У гарачай печы плавіцца белае шкло. Сульфід цынку і пудра з каляровай крошкі дадаюць адценняў. Да асноўнай масы памочнік шчыпцамі дабаўляе пласцінкі з каляровага шкла.

Пакуль майстар апрацоўвае згустак, круціць і выдувае з горна, мяккая маса паступова набывае колер, становіцца барвянай, потым — рубінавай, іграе кроплямі. Ваза хутка застывае.

Акрамя вялікіх прадметаў майстар Валеры Багінскі для душы робіць унікальныя выявы: шкляных буслоў, конікаў. У перапынку дэманструе разнастайныя скульптуркі. Вось на палічцы — Беласнежка і сем гномаў, паляўнічы з кабанчыкамі, самурай з мячом, касатка на грэбені хваляў. Майстар трымае сваю марку. Для губернатара Гародні давялося яму вырабляць цудоўнага аленя, у якога на галаве крыж узвышаецца паміж рагоў. Для алімпійцаў выплаўлялі фігуркі спартоўцаў — каноэ з грабцамі.

Другі адмысловец выдзімае сувенір з сакрэтам. Апрацоўвае круглы кавалак шкла, дадае гнуткую пасмачку. Ствараецца ўражанне, быццам бы ўнутры зялёнага яблычка завёўся вусень. На прэс-машыне з белага шкла вырабляюць празрыстыя і ажурныя вазы для садавіны. З рук майстроў выходзяць сувеніры, скульптурныя кампазіцыі. А яшчэ ў

Бярозаўцы робяць кубкі, узнагароды для фестываляў і спаборніцтваў. Аднойчы нават выплаўлялі вазу для Сталіна з яго партрэтам.

Шклозавод у Бярозаўцы быў трэцім па велічыні ў Савецкім Саюзе. Росквіт беларускага шкла пачаўся ў 60-я гады з прыходам на шклозавод «Нёман» прафесійных мастакоў. У 70–80-я гады яны звярталіся да стварэння выразных пластычных рэчаў, фігурных дэкаратыўных кампазіцый, вітражоў, набораў посуду, імкнуліся ўвасобіць сродкамі мастацкага шкла тэмы значнага грамадскага зместу.

У станаўленні беларускага шкла адыгралі ролю ўкараненне ў вытворчасць арыгінальных тэхналагічных вынаходніцтваў, удасканаленне старажытных тэхнік традыцыйнага шкла. Адметнымі былі прыёмы з выкарыстаннем рэльефных узораў кары дрэў мастачкай В. Дзівінскай, накладкі пры ўжыванні ціхага выдзімання і пракатнага маліравання ў мастака У. Мурахвера. Мастак года А. Федаркоў удасканальваў гарачае дэкарыраванне вырабаў сульфідна-цынкавай ніццю шкла. Менавіта гэты спосаб аздобы атрымаў назву «нёманская ніць».

Лепшыя работы 90-х гадоў адметныя разнастайнасцю тэхнік формаўтварэння і дэкарыравання, багатай асацыятыўнасцю, метафарычнасцю вобразнага ладу.

Раней ад Таліна да Камчаткі ехалі мастакі, каб фармаваць шматколерныя вітражы. Такой вялікай была іх цяга да ўвасаблення манументальных кампазіцый, архітэктурнага дэкору будынкаў. Каляровае шкло выплаўлялася ў гаршковай печы, а сыравіна пастаўлялася з Казахстана. Маштабныя вітражы, што ўпрыгожылі культурныя ўстановы рэспублікі, фармавала ў Бярозаўцы заслужаны дзеяч мастацтваў Нінэль Шчасная. Яе каляровыя кампазіцыі перадавалі ўсю прыгажосць і багацце нашай зямлі. Блакітны, зялёны і жоўты колеры стваралі адну паэтычную сімфонію.

Зараз вытворчасць вітражоў, на жаль, спынена, як лічаць, з-за яе нерэнтабельнасці. Але дызайнеры распрацавалі эскіз літога вітража на фасадзе завода з тысячы кавалкаў шкла. Скутыя металічным каркасам часткі свецяцца колерамі на сонцы.

Вырабы вядомага беларускага прадпрыемства спалучаюць сучасны дызайн і класічныя формы. Узоры нёманскага шкла былі ўдастоены міжнароднай узнагароды Еўропы за якасць у Парыжы ў 1998-м, плацінавай зоркі ў 1999 годзе і Міжнароднай зоркі за лідарства ў 2007 годзе.

## Легенды горада майстроў

Завіталі мы зноў у госці да ветэранаў завода Марыі Аляксандраўны і Казіміра Антонавіча Хлябовічаў. З ласкай і спагадай спадарыня Марыя частавала клёцкамі з грыбамі ды сочывам з брусніцаў — сваімі традыцыйнымі стравамі.

Сорак чатыры гады рабіў майстрам на гуце гаспадар сядзібы. «Прыходзіў летам ад печы дадому, а кашулю — хоць выкручвай, бо мокрая ад поту», — згадвае жонка.

Хата добрых гаспадароў на вуліцы Нёманскай не простая. Яе будавалі яшчэ па загаду паноў Столе і Краеўскага для першых працаўнікоў. У шэранькую хату ў асяродку дубоў ды яблынь у ліпені 1971 года прынеслі з Бярозаўскай радзільні маленькага хлопчыка. Падросшы і ўзмужаўшы духам, хлопец гэты напісаў музыку для вядомай песні, так бы мовіць, хіта цэлага пакалення.

Так, цёця Маруся і дзядзька Казімір Антонавіч шчаслівыя, што прыклалі руку да выхавання свайго хросніка Змітра Вайцюшкевіча. Падтрымалі яго захапленне музыкай, паспрыялі развіццю таленту. З асаблівым замілаваннем слухае песні спадарыня Марыя. Родныя задаволены, што прыкіпеў пляменнік сэрцам да роднай зямлі, замацоўваецца тут, аднаўляе на Нёмане свой хутар — Вайцюшкі. А тут і госці, паэты ды вандроўнікі, рады патрапіць да яго.

Мясціны тут проста цудоўныя. Зойдзеш у лес, праз паўгадзіны — паўнюткі кошык баравікоў. Красуюцца пад дубамі і соснамі лісічкі, курачкі ды рыжыкі. У Нёмане ходзяць чароды рыб, плешчуцца плоткі, шчупакі. Шчодры край поўны сваімі цікавымі гісторыямі, казкамі, спевамі і калыханкамі.

*Эла Дзвінская*
*«Новы час», 14 лістапада 2008 года*

# Кларнет



Сям'ю добрых працавітых людзей Брылёў не абмінула гора фашысцкай навалы. Адну з дачок у ліхія часы схапілі нямецкія карнікі і разам з іншымі юнакамі і падлеткамі вывезлі ў Германію на прымусовыя працы. У канцы вайны маладзенькая Волечка апынулася у канцлагеры ў Антверпене.

Там яна сустрэла сярод іншых палонных высокага стройнага бельгійца Рэнэ, які працягнуў ёй руку дапамогі і ратаваў яе ў цяжкія хвіліны. Пасля вайны Вольга ўзяла з ім шлюб і засталася жыць у Бельгіі. У іх нарадзіліся дзве сімпатычныя дачушкі.

У пасляваенныя гады на вёсцы жылося цяжка. Воля цудоўна шыла для сваіх дачок і пасылала сястры Ганне строі для яе дзяўчат на Беларусь. Адна з іх, Маруся, памятае, як дзядзька Рэнэ званіў па тэлефоне і ветліва размаўляў з пляменніцамі. А потым, як часы сталі больш спрыяльныя, Вольга пачала прыязджаць да іх са сваёй сям'ёй. Вокны ў хаце былі расчынены, маці, спадарыня Ганна, гатавала смачныя беларускія стравы: клёцкі з грыбнымі начынкамі і галубцы. Стравы, прысмакі і ласункі перадаваліся праз акно на стол. Даўжэзны стол стаяў пад дрэвам. Звычайна пры вялікай колькасці гасцей вячэралі пад раскідзістым дубам. Хаце ўжо тады было гадоў семдзесят. У гэтыя хаты засялялі першых майстроў па шклу, потым хаты перайшлі іх нашчадкам. Майстэрства гутнага шкла перадавалася з пакалення ў пакаленне. І дубу, мусіць, гадоў сто з гакам было.

Воля любіла ўзгадаць старыя вясковыя звычкі і з дачушкамі хадзіла варушыць сена.

А то адпраўляліся дружна за грыбамі ў лес, паспявалі адвесці душу, нагуляцца ды нагаварыцца ўволю з сястрыцамі і матуляй. Плёскаліся ў нёманскіх хвалях, як у дзяцінстве. Любаваліся, як чыстая вада з зялёнымі космамі водарасцяў, што звіваюцца ад хуткасці плыні, амывае бераг.

Упершыню зрабіць узаемны візіт у Бельгію і наведаць цётку Вольгу Марыя і яе муж змаглі толькі ў 80-я гады мінулага стагоддзя. Маруся з

мужам добра зараблялі, бо абое працавалі на гуце. Муж — майстрам па шклу, а яна — загортвала тонкі і бліскучы хрустальны посуд у паперу. Праз добрую працу змаглі сабраць пэўныя сродкі на падарожжа. У Марусі з мужам сваіх дзяцей не было. Затое былі сёстры, пляменнікі і іншыя сваякі. У Бельгіі вырашылі набыць усім родным ды суседзям падарункі і пачастункі. Але быў яшчэ асаблівы клопат.

Ведала Маруся, што малодшы яе пляменнік — вельмі чулы да музыкі. Відавочна, што хлопчык адораны незвычайным голасам і адчуваннем мелодый. Музыка была ў яго крыві ад нараджэння, ад бацькоў. Яна адкрывалася яму павольна, па меры ўзрастання яго душэўных сіл. Чулая душа будучага кампазітара ўспрымала свет як скарбонку цудаў і прыгодаў. Не аднойчы ён прыслухоўваўся, як хуткаплынным ручайком льюцца гукі ў лясной цішы. Магутны Нёман гартаваў ягоны дух.

Блізкімі і сугучнымі яго думкам стануць словы паэта:

Закрасуйся, Нёман, іскрамі крыніц,
панясі духмяны водар медуніц.
Ты разліся, Нёман, між палёў, дарог
у вясновых казках, песнях перамог.

Развіты музычны інстынкт, узмоцнены пастаяннымі заняткамі, працай над сваім талентам, зможа прывесці яго да вышыняў. Яго музыка будзе свежай, рамантычнай, узнёслай.

Цётцы, якая любіла і даглядала яго, як сына, параілі набыць хлапцу выкшталцоны музычны інструмент. Не якую-небудзь драбніцу везла яна з мужам з-за мяжы. Ён будзе далей іграць на ім, прыслухоўвацца да яго гукаў. Старанні цёці Марыі на ўдзячнай глебе ўражлівай юнай душы далі добры ўраджай.

Яна прывезла каштоўны інструмент у футляры, а хлопчык, як зачараваны, круціўся каля стала і адчуваў, што вось-вось адкрыецца таямніца. Збываюцца ягоныя запаветныя мары.

Гісторыю пра кларнет, які яму падарыла цёця Марыя, Зміцер Вайцюшкевіч расказаў на адным з канцэртаў. Кларнет, а лепш сказаць — цётчын клопат, і вызначыў яго далейшы лёс. У 90-я гады ён стаў заўважаным кларнетыстам, якому прадказвалі поспех на сцэне.

*Эла Дзвінская*

# Зміцер Вайцюшкевіч: у авангардзе беларускай культуры XXI стагоддзя

*(кароткі нарыс творчасці знанага выканаўцы і кампазітара)*



Зміцер «Тодар» Вайцюшкевіч — вядомы беларускі спявак, кампазітар і музыкант, нарадзіўся 20 ліпеня 1971 года ў мястэчку Бярозаўка Лідскага раёна Гродзенскай вобласці. Мае музычную адукацыю — у 1990 годзе скончыў музычнае вучылішча ў Лідзе, а таксама Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры па класу кларнета (1995) і музычнае вучылішча імя Глінкі ў Мінску па класу вакалу (1995).

Як таленавіты музыкант-мультыінструменталіст кампазітар стаў вядомым пасля выступленняў і запісаў у складзе гурту «Палац», з якім музыкант супрацоўнічаў з дня заснавання — з 1992 года. Першы альбом гэтага гурту быў выдадзены ў 1995 годзе і называўся аднайменна — «Палац». На гэтым дыску разам з іншымі вядомымі беларускімі фолк-мадэрн-выканаўцамі Алегам Хаменкам, Юрыем Выдронкам Зміцер Вайцюшкевіч дэбютаваў як спявак, выканаўца на кларнеце, жалейках. Тое, што Зміцер трапіў у кампанію такіх шматгранных і творчых асобаў, як Хаменка і Выдронак, штурхнула яго да першых спробаў уласнай творчасці ў галіне кампазіцыі і аранжыроўкі. І такія спробы паўтараліся пазней. Праца ў складзе «Палаца» прынесла для Змітра станоўчыя вынікі — тут ён атрымаў вядомасць, набыў вопыт сумеснага грання ў гурце, у апрацоўцы нацыянальнага фальклору. І ў тым, што ў 1993 годзе «Палац» быў прызнаны па выніках міжнароднага музычнага фестывалю RFI (Radio France Internationale) адным з лепшых калектываў Усходняй Еўропы, ёсць вялікая заслуга Змітра Вайцюшкевіча, які разам з лідарамі «Палаца» А. Хаменкам і Ю. Выдронкам стварылі гэтую легенду беларускай фолк-рок-музыкі.

Прыйшоў час, і музыкі «Палаца» выявілі свае сольныя творчыя амбіцыі. У выніку размежавання Алег Хаменка застаўся з «Палацам», а Зміцер Вайцюшкевіч і Юрый Выдронак у 1997 годзе сталі ўдзель-

нікамі world-music-гурту «KRIWI». Разам з вакалісткай Веранікай Кругловай гэтыя былыя «палацаўскія» музыканты бралі ўдзел у шматлікіх еўрапейскіх фестывалях, а таксама ў запісе дыскаў і відэакліпаў. Так у 2000 годзе на «Рок-каранацыі-99» гурт «KRIWI» быў адзначаны галоўнай Каронай, а відэакліп з удзелам Веранікі і Змітра «За туманам» быў адзначаны як лепшы ў краіне. Тым жа часам на прэстыжным конкурсе «Musika Vitale» ў Берліне гурт «KRIWI» быў таксама прызнаны лепшым.

Менавіта тады ў Змітра Вайцюшкевіча з'явілася імкненне да ўдзелу ў супольных праектах, а шырэй кажучы — да сольнай дзейнасці. Так, на «Народным альбоме», які быў адзначаны як лепшы музычны праект на «Рок-каранацыі» ў 1997 годзе, Зміцер Вайцюшкевіч выканаў песню на верш Міхала Анемпадыстава «Аргентынскае танга», запісаў партыі кларнета, флейты, клавішных інструментаў.

Наступным крокам да асабістай сольнай кар'еры стаў удзел у праекце беларускіх рок-музыкантаў «Святы вечар — 2000», у якім Зміцер Вайцюшкевіч выступіў са сваім асабістым акампаніруючым калектывам, які потым набыў вядомасць пад назвай «WZ-Orkiestra».

Яшчэ адзін альбом, які быў названы «Падзеяй 2000 года» і ў якім прыняў удзел З. Вайцюшкевіч, — супольны праект «Я нарадзіўся тут». У ім Зміцер спяваў, іграў на клавішных інструментах, джамбі, мандаліне, кларнеце, сапілцы, займаўся праграмаваннем. Але галоўны вынік удзелу ў ім бачыцца ў тым, што Зміцер (разам з Веранікай) выдатна выканаў у стылі рэгі галоўную песню праекта «Я нарадзіўся тут», шмат іншых вядомых беларускіх песень — «Нёман», «Бывайце здаровы!», якія ў яго інтэрпрэтацыі адразу сталі нацыянальнымі хітамі. Акрамя гэтага, Зміцер, бадай, упершыню выступіў як кампазітар — стварыў і запісаў «Радзінную песню», кампазіцыі «Выпі, братка», цудоўную «Беларуску» (на верш Л. Геніюш), якія вызначылі патрыятычны пафас усяго гэтага праекта.

Акрамя гэтага Зміцер Вайцюшкевіч у складзе «KRIWI» і сольна ўдзельнічаў у запісе праектаў «Вольныя танцы: слухай сваё» (1999), «Вольныя танцы: альтэрнатыва_by» (2001), «Viza Незалежнай Рэспублікі Мроя» (2003), а для праекта «Personal Depeche» (2003) Зміцер Вайцюшкевіч запісаў кавер на песню сусветна вядомага гурту «Depeche Mode» «I Want You Now» ды заспяваў яе на англійскай мове…

І ўсё ж мара пра свой калектыў не давала спакою Змітру. І ў 2001 годзе ён быў блізкі да яе ажыццяўлення. Музыкант запісвае і выдае свой

першы буйны музычны праект — песенны цыкл «Цацачная крама» на вершы знанага беларускага паэта Леаніда Дранько-Майсюка. У яго запісе прымалі ўдзел некалькі выканаўцаў, якія пазней увайшлі ў склад «WZ-Orkiestra». Гэты праект выклікаў вялікі рэзананс у рэспубліканскім друку, на беларускім тэлебачанні, меў поспех у беларускіх і польскіх слухачоў.

Вось што распавядаў Зміцер Вайцюшкевіч карэспандэнту газеты «Літаратура і мастацтва» (07.12.2001) адносна свайго новага захаплення — музычнага прачытання вершаваных радкоў: «Для мяне Леанід Дранько-Майсюк адкрыў цудоўны свет паэзіі. Праўда, мне доўгі час даводзілася працаваць з фальклорнымі тэкстамі, і гэта была неабходная для працы са Словам база. Выпадкова (альбо невыпадкова) я сустрэў такога самабытнага, цудоўнага паэта, як Леанід Дранько-Майсюк, які вельмі простымі словамі можа выказаць вельмі глыбокія думкі… Я ўдзячны Леаніду за тое, што ён адкрыў для мяне незвычайны свет цудоўнай паэзіі, свет мастацкага Слова… Праз музыку мне хацелася б падкрэсліць ці трансфармаваць вобразы, якія закладзены ў вершах. Бо ў нас была адна задача — паказаць персанажы, сугучныя сённяшнім нашым рэаліям».

У праекце «Цацачная крама» ўпершыню ў сваёй творчасці Зміцер Вайцюшкевіч аднаасобна выступіў у ролі кампазітара тэматычнай музычнай праграмы. Якія ж акалічнасці штурхнулі Змітра да музычнай кампазіцыі? У тым жа газетным артыкуле Вайцюшкевіч сцвярджае: «Мне, дарэчы, заўсёды хацелася прадоўжыць тое, што не паспелі ў поўнай меры ажыццявіць "Песняры", у рэпертуары якіх было шмат буйных форм — песенных цыклаў і рок-опер. Ды і Уладзіміра Георгіевіча Мулявіна я лічу выдатным чалавекам, дзеячам Беларускага Адраджэння. І хоць творчы ўзлёт "Песняроў" прыйшоўся на савецкі час, музыканты шмат чаго трансфармавалі, і рабілі гэта вельмі прафесіянальна. Я лічу сябе ў нейкім сэнсе прадаўжальнікам іх меладычных тэм, мулявінска-песняроўскай філасофіі, якая ў той момант толькі нараджалася і дала творчыя падставы для нашай сённяшняй працы».

Дзякуючы такому кампазітарскаму падыходу, Вайцюшкевічу ўдалося, як падкрэслівала ў свой час газета «Звязда» (ад 08.05.2002), стварыць «…запатрабаваны прадукт, які мае і камерцыйны поспех, і мастацкую вартасць. "Цацачная крама" — рэч вельмі простая, а некаторым людзям пасля першага праслухоўвання здаецца нават банальнай… Потым, пасля нейкага асэнсавання, слухачы адкрываюць

для сябе некалькі філасофскіх і этычных ідэй, закладзеных у паэзіі Дранько-Майсюка». У тым, што так адбываецца са зместам праграмы, бачыцца вялікая роля музычнага матэрыялу, створанага Змітром Вайцюшкевічам. Дарэчы, прэзентацыя «Цацачнай крамы» з вялікім поспехам адбылася не толькі ў Беларусі, але і ў варшаўскім Малым тэатры (Польшча).

Паралельна з «Цацачнай крамай» ішла праца над першым альбомам Змітра Вайцюшкевіча, на якім ён прадставіў свой новы гурт «WZ-Orkiestra». Гэта быў дыск апрацовак беларускага фальклору «Балады» — своеасаблівую вяршыню Змітра Вайцюшкевіча як наватара ў інтэрпрэтацыі беларускага фальклору (2002).

Эксперымент палягаў у тым, што шматлікія народныя тэмы былі пакладзены Вайцюшкевічам на аўтарскую музыку і такім чынам слухачам былі прапанаваны варыянты асабістага «прачытання» фальклорных тэкстаў. Акрамя гэтага, на «Баладах» адбылася прэзентацыя гучання гурту «WZ-Orkiestra» — высокапрафесіянальнага акустычнага калектыву, якому пад сілу не толькі фальклор, але і world music, і добрага французскага густу шансон, кабарэтовыя мелодыі і гарадскі раманс. Працай над гэтым дыскам гурт пачаў сваю гісторыю, але ж наперадзе былі гастролі Змітра Вайцюшкевіча і «WZ-Orkiestra» са сваёй музыкай у Нарвегіі (там яны сталі лаўрэатамі фестывалю «European broadcasting Union», г. Фердэ, 2003), у Польшчы (з музыкамі гэтай краіны Зміцер шчыльна супрацоўнічае ў межах супольных праектаў «Todar & Cheremshina», «Todar & Kvartet YORGI», «WZ-Orkiestra & Verhovyna»), Славеніі, Нямеччыне, Швецыі, Францыі, Італіі, Эстоніі, Літве і Латвіі…

Значным этапам у творчасці Змітра Вайцюшкевіча стала праца над альбомам «Паравіны году» (2003) на вершы знанага беларускага барда і яго даўняга сябра Алеся Камоцкага. І тут няма супярэчнасці, памятаючы, што кампазітар і выканаўца ўжо меў вопыт супрацоўніцтва з іншым паэтам — Леанідам Дранько-Майсюком у рамках праекта «Цацачная крама». На гэтым дыску, бадай, упершыню песні Змітра былі аранжыраваны ў стылі шансон, так бы мовіць, з французскім «акцэнтам», у духу Джо Дасэна — лірычна, мякка і пранікнёна. Гэта дасягалася цудоўнымі мелодыямі і рознастылявымі аранжыроўкамі песень, такіх, як «Прыйдзі, мой каханы», «Пошукі адказаў», «Раскажы мне пра дождж». А таксама з дапамогай вельмі мяккага, магчыма, трохі старамоднага інструментальнага суправаджэння інструменталістаў

гурту «WZ-Orkiestra» — баяніста Алеся Шувалава, скрыпачоў Ксеніі Мінчанкі і Алеся Пузыні і іншых музыкантаў. Слухачы прынялі стыль гарадскіх песень-рамансаў Змітра Вайцюшкевіча з захапленнем, пра што сведчылі, напрыклад, пастаянны ўдзел Змітра і першыя месцы яго твораў у хіт-парадзе тэлевізійнага музычнага форуму «На скрыжаваннях Еўропы», што ладзіла Беларускае тэлебачанне.

Наступны, 2004 год быў для Змітра Вайцюшкевіча багатым на новыя праграмы і альбомы. Нагадаем толькі дыск з запісам супольнага праекта «Бывайце здаровы / Bella Ciao!», чарговы альбом выканаўцы «Паравоз кахання» на вершы народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. Першая праграма была беларуска-італьянскай: на ёй па-беларуску загучалі вядомыя італьянскія мелодыі, а беларускія, у тым ліку і самога Вайцюшкевіча, — на італьянскай мове. У гэтым альбоме Змітру дапамагалі даўнія сябры-музыканты: Алесь Памідораў («La Balera»), Віктар Шалкевіч («Бывайце здаровы»), Вераніка Круглова (яны разам выканалі геніяльны беларускамоўны варыянт «Развітання з Радзімай» М. К. Агінскага), Лявон Вольскі («Наша фэлічыта»). Сутнасна гэта быў альбом-стылізацыя пад выканаўчую манеру зорак італьянскага бельканта і эстрады розных гадоў. На дыску ёсць сапраўдныя шэдэўры. Маю на ўвазе знакаміты італьянскі партызанскі марш «Bella Ciao!», новае жыццё якому ў Беларусі даў беларускі спявак.

Вельмі важным этапам у творчасці З. Вайцюшкевіча стаў цыкл песень на вершы Рыгора Барадуліна, які быў выдадзены ў альбоме «Паравоз кахання» (2004). Гэта вельмі сур'ёзная кампазіцыйная праца, і, як заўважана ў кнізе В. Мартыненкі і А. Мяльгуя «222 альбомы беларускага року і не толькі…»: «Чым прываблівае Зміцер? Бадай, сваім імкненнем да высокай паэзіі. У яго не песні з моднымі тэкстоўкамі, а чуллівыя асэнсаванні паэтычнага вобраза».

Што ж тычыцца музычных аранжыровак альбома «Паравоз кахання», то ён падаецца стракатым, і, як адзначана ў цытаванай вышэй рэцэнзіі В. Мартыненкі: «Стылістычна настрой альбома вандруе ад мексіканскай румбы праз джаз да ледзь не этна-рока, а таму прыйдзецца даспадобы акурат прыхільнікам так званага мэйнстрыма, які ўсмоктвае ўсё, калі яно далікатна з'яднанае каларытнай асабовасцю артыста» (с. 265–266). Кожная з 13 кампазіцый альбома «Паравоз кахання» — невялікая лірычная навела, сюжэтным цэнтрам якой з'яўляецца шчымлівая гісторыя кахання, якая апавядаецца вершава-

нымі радкамі, пакладзенымі на цудоўную музыку. Трэба адзначыць, што паэзія Рыгора Барадуліна знайшла вельмі ўражваючы адпаведнік у выглядзе сучасных мелодый і аранжыровак Змітра Вайцюшкевіча. Гармонія мелодыі і слова твораў альбома «Паравоз кахання» яшчэ раз падкрэсліла сучаснасць паэтычных радкоў народнага паэта.

Бадай самым спрэчным у творчасці Вайцюшкевіча стаў яго альбом на вершы рускага рэвалюцыйнага паэта Уладзіміра Маякоўскага «MW» (2005). Гэта праца выклікала шмат пытанняў у тых, хто прызвычаіўся да тонкай вобразнасці беларускага паэтычнага светаўяўлення. Не апошнім было і пытанне аб мове твораў: чаму па-руску, у Беларусі ж існуюць беларускамоўныя пераклады вершаў гэтага знакамітага аўтара?

Але Зміцер на гэтыя пытанні меў свой адказ: маўляў, Маякоўскі, які нам вядомы як палымяны рэвалюцыйны паэт, быў і пранікнёным лірыкам, што было вельмі блізка кампазітару Вайцюшкевічу. Да таго ж, і творчы ўзор Вайцюшкевіча — Уладзімір Мулявін — у свой час звяртаўся да паэзіі Маякоўскага. І, як адзначаў кампазітар, ягоная задача была ў тым, каб паказаць Маякоўскага сапраўднага — паэта з тонкай, закаханай і стомленай душой. Здарылася так, што лепшымі прыхільнікамі новага альбома сталі расійскія слухачы, для якіх, у вялікай ступені, і быў выдадзены альбом «MW». Высокую ацэнку гэты альбом атрымаў і ад супрацоўнікаў музея Маякоўскага ў Расіі, якія адзначылі глыбокую музычную распрацоўку лірычных вобразаў твораў Маякоўскага.

Гэты ж год прынёс у творчую скарбонку Змітра Вайцюшкевіча альбом «Месяц і сонца. Японія па-беларуску», створаны па ўзорах японскай песеннай паэзіі ў паэтычных перакладах на беларускую мову Алеся Камоцкага. Ідэя гэтага праекта ўзнікла ў Змітра падчас яго знаёмства з японкай Масако Тацумі, якая жыве ў Мінску. Яна адабрала для беларускага кампазітара старадаўнія песні, якія ў гэтай краіне ведае кожны японец. Напрыклад, японскую народную песню «Сакура», ці песні «Сын мора», «Радзіма». Альбо песню «Свята ў вёсцы», якая стала сапраўдным хітом у Беларусі, з поспехам выконвалася Змітром на фестывалі беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне, на фолк-фестывалі «Вольнае паветра» пад Крупкамі ў 2006 годзе.

Вядома, што еўрапейская і беларуская музычныя традыцыі вельмі розняцца ад усходняй меладычнай традыцыі, як ладава, так і інтанацыйна. Таму Вайцюшкевічу і музыкантам гурту «WZ-Orkiestra» прыйшлося шмат папрацаваць, каб вядомыя японскія творы ў іх выкананні

не толькі захавалі японскі каларыт, але і набылі беларускі музычны «акцэнт». Да запісу альбома «Месяц і сонца. Японія па-беларуску» спрычыніліся не толькі ўдзельнікі «WZ-Orkiestra», але і беларускі рэп-выканаўца Алесь Памідораў («Збіраючы чайнае лісце»), паэт Адам Глобус, які перад кожнай японскай песняй чытаў свой верш-хоку. Так у дыскаграфіі Змітра Вайцюшкевіча ўпершыню з'явіўся паўнацэнны японска-беларускі літаратурна-музычны праект.

Такі шчыльны творчы графік — канцэрты, фестывалі, студыйныя запісы, рэпетыцыі — толькі загартавалі Змітра і ягоных паплечнікаў з гурту «WZ-Orkiestra». Цяпер ім пад сілу любыя творчыя задачы: ці то стварэнне альбома на вершы Уладзіміра Някляева «Танга з ружай», ці выданне дыска «Песні з доўгай шуфляды». Нагадаю, што за працу над імі Зміцер Вайцюшкевіч і гурт «WZ-Orkiestra» былі адзначаны Рок-каронай на «Рок-каранацыі — 2006» у намінацыі «Спеўная паэзія». Альбо выданне да 60-годдзя Дзіцячага фонду ААН UNICEF альбома з цудоўнымі «Калыханкамі», які называюць сапраўдным падарункам ад кампазітара Вайцюшкевіча ўсім беларускім дзецям. Дарэчы, у працы над ягонымі калыханкамі прынялі ўдзел знакамітыя асобы беларускага TV-шоу-бізнесу — Ларыса Грыбалёва, Тамара Лісіцкая, а таксама ўдзельніца гурту Ксенія Мінчанка, старыя сябры-музыканты Алесь Памідораў і Юрый Выдронак…

Калі ўявіць усё тое, што зроблена Змітром Вайцюшкевічам за 16 гадоў, на працягу якіх ён стварае і выконвае музыку, — ад удзелу ў гурце «Палац» і да сённяшніх праектаў, — то разам са слухачамі мы маем права сцвярджаць, што гэта справа ажыццёўлена таленавітым артыстам, у асобе якога найлепшым чынам спалучыліся лепшыя якасці выканаўцы і кампазітара, шоу-мэна і прадзюсара, рокера і фолк-спевака. Зміцер Вайцюшкевіч — сапраўдны беларускі кампазітар і музыкант, які сваім талентам і творчай энергіяй ужо сёння стварае сучасную Беларускую Культуру XXI стагоддзя.

*Анатоль Мяльгуй, музычны аналітык*

# Кіраўнік рок-гурту, фестываляў, рок-каранацый



Алег Хаменка — заснавальнік беларускага фолк-мадэрна, лідар легендарнага гурту «Палац». Упэўненая моц і вера ў сябе спалучаюцца ў ім са спакоем, мяккасцю, памяркоўнасцю. Унутранымі рысамі — талерантнасцю, інтэлігентнасцю — ён нагадвае Уладзіміра Мулявіна. Ці можна ўявіць сабе Алега, які размаўляе не на роднай мове? Акрамя працы ў гурце, Алег цудоўна спраўляецца з роляй тэле- і радыёвядучага, крытыка, выкладчыка.

Гурт «Палац» пад яго нязменным кіраўніцтвам браў удзел у фестывалях у Заходняй Еўропе і ў краінах СНД. У 1993 годзе «Палац» патрапіў у дзясятку лепшых калектываў Усходняй Еўропы па выніках фестывалю «Радыё Франс Інтэрнасьональ». Атрымліваў узнагароды і прэміі на фестывалях «Славянскі базар», «Маладзечна 93—98», «Азія-Даўсы» (Казахстан), «Басовішча 95—2007» (Польшча), «Суклегас» (Літва), «Рок-каранацыя 95—2008», «Казачы круг 2001», «Краіна Мрії 2004» (Украіна). Шматгалосныя спевы, спалучэнне розных народных інструментаў, смелае выкарыстанне магчымасцяў сучасных сінтэзатараў вызначаюць яго стылістыку. За 18 гадоў, што існуе гурт, з яго выйшлі ў сольнае плаванне многія музыканты.

— *Спадар Алег, раскажыце, калі ласка, крышачку пра сябе.*

— Нарадзіўся я ў красавіку 1967 года ў Мінску. Вучыўся ў агульнаадукацыйных «чыжоўскіх» школах: 117-й — да сёмага класа і 43-й — з сёмага па дзясяты, ды ў бліжэйшай музычнай № 2, па класу трамбона. У 1990 годзе я скончыў МІК па спецыяльнасці «кіраўніцтва аматарскім аркестрам», а ў 2007 — аспірантуру БДУКіМ па спецыяль-

насці «культуролаг». Выкладаю прадмет «Тэхналогіі прадзюсарскай дзейнасці ў сферы музычнага мастацтва» на кафедры менеджменту сацыяльна-культурнай дзейнасці БДУКіМ. Перадаю досвед юнакам, тым, хто пачынае гэты шлях. Зразумела, як і ўвогуле ў свеце, у беларускіх музыкаў ёсць свая стратэгія развіцця. Вывучаеш спачатку тое, што зроблена папярэднікамі ў гэтай сферы, назапашваеш уласны досвед, потым спрабуеш яго асэнсаваць. Магчыма, у маёй творчасці цяпер можна дазволіць сабе ўжо больш асэнсоўваць.

Працу ў «Палацы» мы пачыналі ў 1992 годзе з асяродка маладых прафесійных музыкаў, якія мелі густ і адчуванне розных музычных стыляў. Асновай для нашага аб'яднання быў беларускі аўтэнтычны фальклор, які выконваўся музыкамі як у арыгінальным гучанні, так і ў стылёвых апрацоўках.

І па сённяшні дзень у складзе гурту акрамя вядомых музычных інструментаў (гітара, труба, акардэон, сінтэзатары) выкарыстоўваюцца традыцыйныя аўтэнтычныя беларускія інструменты: ліра, дуда, жалейка, дудка, сурмы. У творчасці гурт ужывае матэрыял, сабраны ў фальклорных экспедыцыях.

Напачатку нашай дзейнасці з дзесяці песень дзве былі аўтарскімі, іншыя творы былі па матывах беларускіх фальклорных песень і абрадаў. Думаем, што ў будучыні суадносіны будуць 80/20 адсоткаў адпаведна аўтарскіх і фальклорных песень. Мае кампазіцыі таксама не ў баку. Чаму гэта не фальклор, калі і я — частка народа, я — частка гэтага кола?

*— Пад мянушкай «Тодар» у складзе гурту выступаў Зміцер Вайцюшкевіч?*

— У 1992 годзе ў складзе «Палаца» былі 5 чалавек: я, Зміцер Карабач, Юры Белякоў, Юры Выдронак і Зміцер Вайцюшкевіч. Зміцер быў запрошаны ў каманду як вакаліст. Акрамя фолк-накірунку ў нас была ідэя праекта танцавальна-спеўнага джаз-тэатра, ці «кабарэ-бэнда». Маленькі аркестр, задуманы, каб ствараць спеўную музыку накшталт Эдзі Рознера. (Ці як аркестры ў фільме Кустурыцы.) Я, як асноўны саліст, сябе ў гэтай праграме не бачыў, а Зміцер падыходзіў ідэальна. Накірунак фолк-мадэрн пайшоў у нас развівацца хутчэй. Зміцер знайшоўся і ў гэтым праекце. Пачаў іграць на саксафоне, дудзе, у яго было цікавае сола на жалейцы, ён спяваў больш прафесійна, чым некаторыя іншыя ўдзельнікі калектыву, і быў у «Палацы» вельмі неабходны. Нават калі ён распачаў уласныя праекты, яшчэ доўга выступаў у складзе «Палаца».

Зміцер — вельмі творчы чалавек, таленавіты вакаліст, інструменталіст, з выдатнымі кампазітарскімі здольнасцямі, пластыкай. Мы разумелі, што яму заставацца не ў сваёй ролі цяжка, бо гэта значыла б абмяжоўваць і падаўляць яго творчае развіццё.

*— Нагадайце, калі ласка, некалькі каляровых эпізодаў з сумеснай працы са Змітром або проста сяброўска-творчых адносін, вандровак, выступаў.*

— Я чамусьці згадаў, як гадоў 15 таму мы вярталіся з «Басовішча». У адным вялікім аўтобусе ехалі музыкі амаль з усіх рок-гуртоў, агулам — чалавек сорак. І на адным з «цыгарэтных прыпынкаў» каля фур з дальнабойшчыкамі да ўсёй нашай шумнай і не зусім цвярозай кампаніі падышоў нейкі замызганы шафёр з Расіі і папрасіў даць яму грошы «на паесці ці гарэлку». Беларускіх грошай практычна ні ў кога не было, і ніхто яму не дапамог. Адзіны толькі Зміцер адказаў, што ёсць пяць даляраў і калі той чалавек іх хутка памяняе, то можа даляр узяць сабе… (на той час бутэлька гарэлкі каштавала менш за даляр). Той шафёр узяў грошы, кудысьці хуценька пабег і знік. Увесь аўтобус пачаў насміхацца з Дзімкавай наіўнасці. Аднак, калі ўжо мы пачалі выязджаць на шашу, той шафёр бягом пераняў аўтобус і вярнуў гэтыя чатыры даляры. І ўсе музыкі адчулі няёмкасць перад Дзімам за свае насмешкі ды няверу ў людзей.

Увогуле, Зміцер бывае розным: гарэзлівым, сумным, правакацыйным, шалёна-вясёлым, разгубленым. Можа безадказна спазніцца на выступ ці недавучыць словы, тэкст песні. Але ва ўсім гэтым — Зміцер Вайцюшкевіч.

*— Улетку Вы былі мастацкім кіраўніком фестывалю «BelaMusik-2009», які праходзіў на пляцоўцы аэраклуба «Баравая» пад Мінскам. Якія ўражанні засталіся пасля гэтага свята?*

— Вельмі адчувальны недахоп «фестывалю фестываляў», дзе маглі б сабрацца героі ўсіх музычных прэмій, узнагарод, цырымоній, што праводзяцца на Беларусі. «Рок-кола» і «Рок-каранацыя» ладзяцца ў канцэртных залах, а «Басовішча» — за межамі Беларусі». Жывы гук на адкрытым паветры — гэта больш натуральная форма існавання актуальнай музыкі.

У старадаўнія часы, калі свята ў беларусаў было вялікім, музыкі выходзілі з палацаў і сядзіб на вуліцу, да людзей, да натуральнага ландшафту. Мы запрасілі на фестываль сапраўдных зорак — «J: Морс»,

«Краму», «Дзецідзяцей», «Гарадскія», «Без білета» і інш. Гуртоў багата, а музычнай індустрыі ўвогуле бракуе, ды і музычнага бізнесу таксама. Але калі зараз нічога не рабіць, то і спадзяванняў на гэты конт не будзе. «BelaMusik» мусіць звярнуць на гэта ўвагу.

*— На гэтым тыдні адбылася 14-я ў гісторыі найноўшай беларускай музыкі «Рок-каранацыя». Якія вынікі гэтай падзеі?*

— «Рок-каранацыя» прайшла даволі добра, хаця ўвесь вечар прыйшлося моцна гукаць у мікрафон. Карону атрымалі «Без білета». Я думаю, што, магчыма, гэтым хлопцам зараз патрэбна такая адзнака і падтрымка больш, чым іншым, каб лепш развівацца і самаўдасканальвацца. Адзначаныя каронамі таксама былі «Ляпис Трубецкой», «Крама», Open Space, «Жнюв», Naka, Neuro Dubel, «Князь Мышкін», Зміцер Вайцюшкевіч, The Toobes ды іншыя.

*— Ці ёсць у Вас іншыя захапленні ў жыцці па-за прафесійнай дзейнасцю?*

— Я даўні прыхільнік гандболу, більярду і аўтаспорту. Не фанат, але імкнуся сачыць за спаборніцтвамі.

*Гутарыла Эла Дзвінская*
*«Наша слова», 10 сакавіка 2010 года*

# Тры кіты беларускага фолк-мадэрна




Гурт «KRIWI» ўвайшоў у шэрагі беларускай музычнай эліты імкліва і грунтоўна. Ідэя зарадзілася яшчэ ў сярэдзіне 90-х гадоў у нетрах гурту «Палац», дзе спярша стварылася своеасаблівая творчая лабараторыя разнастайных фолк-эксперыментаў, а потым і самастойная адзінка «KRIWI», якую склалі адзін з натхняльнікаў «Палаца» Юры Выдронак, мультыінструменталіст Зміцер Вайцюшкевіч.

Да іх адразу далучылася вакалістка Вераніка Круглова, бубнар першага «Уліса» Кірыла Шэвандо і знакаміты басіст Валер Вашкоў, а потым, па выхадзе Выдронка, — і гітарыст Піт Паўлаў. «KRIWI» не задумваўся як сталы рок-гурт, а проста як адчынены праект дзеля выхаду беларускай музыкі на еўрапейскія прасторы. «KRIWI» быў задуманы як праект для мабільных паездак. Пачатак і развіццё яго былі файнымі», — узгадвае яго кіраўнік Юры Выдронак.

Магчыма, асноўная прычына поспеху — у цудоўным спалучэнні вакальных дадзеных Кругловай і Вайцюшкевіча ці ў адсутнасці рэпетыцый (выступы «KRIWI» пабудаваныя на імправізацыях). Факт у тым, што пасля «Песняроў», «Палаца» ды «Троіцы» музыкі знайшлі свой падыход да беларускай аўтэнтыкі і абвясцілі пра нараджэнне новай — «крывіцкай».

«Крыві, або крывічы, як іх называлі пазней, старажытнае племя, якое прыйшло на тэрыторыю Беларусі некалькі тысячагоддзяў таму з Індыі і з’яўлялася носьбітам унікальнай культуры, якая захавалася да сённяшніх дзён, — гаворыцца ў прадмове да дыска "Гэй, лёлі". — На старажытнаіндыйскай мове "крыві" — гэта "крыніца", "чалавек-хмара", "мех для вады". Гурт "KRIWI" заснаваны ў 1996 годзе на базе folk-modern студыі "Палац". Стыль вызначаецца як art-modern folk — спалучэнне старажытных традыцый гарлавых спеваў і сучаснага з элементамі імправізацыі і авангарду».

Дыск «Гэй, лёлі» запісваўся ў берлінскай студыі «Soundman». Ад самага пачатку праектам заняўся адзін з прадзюсарскіх цэнтраў Берліна, які потым атрымаў сімвалічную назву «Belpunkt». Канцэрт-

ныя трэкі паходзяць менавіта з берлінскага перыяду жыцця, калі гурт дапрацаваўся нават да звання «лепшага этнік-гурту Берліна», выязджаў на гастрольныя маршруты кшталту Берлін–Парыж–Туніс і быў прадстаўлен на шэрагу фірмовых кампіляцый этнікі заходняй прадукцыі, — пісаў Вітаўт Мартыненка.

Пераход да эклектыкі найперш быў звязаны з прыходам у гурт гітарыста «N.R.M.» Піта Паўлава. В. Круглова і З. Вайцюшкевіч папрасілі яго падыграць ім на фэсце «Басовішча’98». Там, уласна, і прайшоў першы канцэрт «залатога складу» «KRIWI». Альбом «За туманам» быў запісаны літаральна праз некалькі тыдняў пасля знаёмства з Паўлавым.

З альбомам «За туманам» праект студыі «Палац» набывае поўную самастойнасць. Сфарміраваўся «залаты» склад «Kriwi»: Вераніка, Тодар ды Піт. Адбыліся і стылёвыя змены — музыкі адмовіліся ад «фолк-мадэрна» і прыхіліліся да найбольш актуальнага (прынамсі, у Цэнтральнай Еўропе) world music.

«Запіс «За туманам» цудоўным чынам спалучае тры музычныя «пачаткі» «KRIWI»: акапэльны («На турэцкіх палях», «Каліна»), электронны (напрыклад, другі трэк) і выкананне рок-гуртам («Добры дзень», «Агу, вясна»), — адзначыў Сяргей Будкін. — Дзеля спробы апошняга да «KRIWI» часова далучыліся вядомыя музыкі — бубнач Кірыл Шэвандо і басіст Валер Башкоў. Яны ўзялі ўдзел у запісе альбома і некалькіх канцэртах. Акрамя традыцыйных рок-н-рольных інструментаў у альбоме выкарыстана шмат духавых — тут разгарнуў свой талент Зміцер Вайцюшкевіч. Усю гэтую музычную рознакаляровую карціну дапаўняў вакал Веранікі Кругловай.

За два тыдні з дапамогай гукааператара Аляксандра Марозава альбом быў «даведзены да розуму» на студыі Белдзяржрадыё. Амаль усе песні — народныя («Светлая Зоя» напісана Пітам і падпраўленая Змітром Лукашуком). І без таго вядомая ў народзе «За туманам» пасля гэтага альбома набыла проста шалёную папулярнасць. У альбоме яна прысутнічае ажно ў двух варыянтах — акустычным і металічным. На другі пэўны хіт — «Агу, вясна» — быў зняты кліп, які не сыходзіў з экрана тэлевізіі некалькі месяцаў.

«З гэтым альбомам "KRIWI" журналісты ды крытыкі залічылі ў вышэйшую музычную лігу, а Круглова замяніла Касю Камоцкую на троне рок-князёўны. Колішняе "адгалінаванне" "Палаца" прыканцы 90-х станецца інтэрнацыянальным музычным праектам — у ім будуць

іграць музыкі з Нямеччыны, Польшчы, Ізраіля, Ірана, Бангладэш ды іншых краін свету», — адзначаў Сяргей Будкін.

Натуральна, што вакалістка Вераніка Круглова стала вартасным нашчадкам Касі Камоцкай на троне беларускай рок-князёўны паводле вынікаў «Рок-каранацыі-99», а вакаліст Вайцюшкевіч не аднойчы выйграваў намінацыі «Артыст года», «Альбом года», «Кампазітар года».

«Нельга забываць, што і сольным праектам Юрыя Выдронка скаралася намінацыя "Традыцыі і сучаснасць", "Рок-каранацыя-2000". А пачыналася ўсё з альбома "Гэй, лёлі!" гурту "KRIWI"», — пісаў Вітаўт Мартыненка.

*Па старонках інтэрнэту*



# Ад «Палаца» да «Ur'ia»



Юры Выдронак — беларускі музычны дзеяч і фальклярыст, які спрычыніўся да дзейнасці гуртоў «Палац» і «KRIWI», ачольвае фальклорны гурт «Ur'ia», аўтар ідэі рэжысёр і арганізатар рэспубліканскага фестывалю сучаснага фальклору «Таўкачыкі» (2000, 2004), рэжысёр дакументальных фільмаў. Выдронкам было рэстаўравана больш за 50 гадзін гучання аўдыя- і відэазапісаў каляндарна-абрадавай песеннасці Чарнобыльскага рэгіёна. Альбом у дзвюх частках «Каляды. Рожство. Шчодрэц» сабраў у сабе матэрыял з экспедыцый і рэстаўрацыйных фондаў, а таксама тое, што прыносілі нам людзі на касетах.

Юры нарадзіўся 10 сакавіка 1966 г. у мястэчку Койданава (зараз Дзяржынск). Сваю першую экспедыцыю арганізаваў у 11 гадоў на раскопкі Кальвінскага замка (Койданава). Знойдзеныя рэчы XV–XVII стст. былі перададзены ў краязнаўчы музей. З 12 гадоў ён пачаў сваю творчую кар'еру на сцэне як музыкант. Скончыў музычную школу па класу трубы. Займаўся ў Мінскім музычным вучылішчы імя М. Глінкі па класу валторны. З 1984 па 1986 г. хлопец служыў у войску.

У 1986 г. Юры паступіў у Мінскі інстытут культуры, дзе адначасова вучыўся на дзвюх кафедрах: эстраднай і духавой. Яго дыпломную працу, партытуру з уласнай апрацоўкай народнай габрэйскай песні «Хава-Нагіла», заказалі некалькі аркестраў адразу пасля выпускнога экзамена па дырыжыраванню.

З 1990 г. Юры Выдронак кіраваў прафесійным рэтра-джаз-бэндам «Дворец кукурузных палочек» (пазней гурт «Палац»), вёў працу па адраджэнні музыкі Эдзі Рознера. Паралельна ў яго ішла праца і эксперыменты з народнай беларускай музыкай.

У 1992–1999 гг. ён быў мастацкім кіраўніком гурту «Палац», а ў 1996–1999 гг. — мастацкім кіраўніком гурту «KRIWI». З 1999 г. Юры ачольвае фальклорны гурт «Ur'ia».

У 1993 г. кампазіцыя «Русалкі» стала адным з фіналістаў 150 краін свету конкурсу-фэсту «Дыскавэры-93» (Парыж, Францыя). З гэтага часу развівалася сумесная праца з сусветна вядомымі музыкантамі

і дзеячамі культуры, такімі, як старшыня Асацыяцыі гарлавых спеваў доктар Транг Куанг Хай (Францыя), Мурат Іргаліеў (Казахстан), Кшыштаф Вярніцкі (Еўрапейскі Вяшчальны Саюз), Славамір Круль Фолк-Тайм (Польшча) і інш.

Дарэчы, Юры Выдронак — першы ў Беларусі, хто выкарыстаў лічбавыя носьбіты да запісу навукова-фальклорных экспедыцый. Ён — заснавальнік папулярнага сярод моладзі музычнага накірунку фолк-мадэрн.

Юрыя можна смела называць тым музыкантам, дзякуючы якому сучаснае ўвасабленне музычнага фальклору напачатку 90-х набыло адметныя, нават дзёрзкія рысы.

У1995–2000 гг. Ю. Выдронак выконваў ролю мастацкага кіраўніка рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Фолк-мадэрн-студыя "Палац"».

У 1996 г. Юры прэзентаваў лекцыю і сваю дакументальную стужку «Вяртанне да вытокаў» аб сваіх экспедыцыях, этнаграфічнай рабоце і эксперыментах з архаічным фальклорам ва ўніверсітэце г. Канстанц (Германія). Музычныя кампазіцыі і інтэрв'ю, фрагменты яго канцэртаў можна ўбачыць і пачуць на тэле-радыёстанцыях шматлікіх краін свету:

Бі-Бі-Сі (Брытанія), DW, Мерыдыян 13, Мульці-Кульці Берлін (Германия), Радыё Гданьск (Польшча), нацыянальных праграмах Італіі, Швецыі, Турцыі, Пакістана, Кітая, Ізраіля… і так далей, госць шматлікіх міжнародных фэстаў: «TanzFolkFest» (Германія), «Славянскі базар» (Беларусь), «Voice of Asia» (Казахстан), «Musyka Ludow Polnocy» (Польшча), «Suklegos», «Skamba, skamba, kankliai» (Літва), «Folkopranie», «Folkfest», «Mikolajki Folkove», «Transkrypcia», «Muzyka w museum», «Muzyka świata», «Folki» (Польшча), «Colours of Ostrava» (Чэхія), «Barwy dzwienku» (Польшча) і так далей.

У 1998–2005 гг. ён працаваў над выданнем мультымедыйнага CD «Каляды. Рожство. Щодрэц», складзенага з рэстаўраваных архіўных стужак і ўласных запісаў беларуска-амерыканскай экспедыцыі 1993 г.

«Атрымалася цікавая фанаграфічная панарама калядак, шчадровак, а таксама песень на свята Хрыстовага Нараджэння ў цудоўным выкананні народных спевакоў з розных рэгіёнаў Беларусі, з абавязковым праслаўленнем працавітых гаспадароў ды іхніх дзяцей, з пажаданнем дабрабыту. "Насталі калядкі — гаспадару парадкі". У гэтых народных спевах захавалася ўсё, што ўжо цяжка знайсці ў еўрапейскай каляднай

музыцы: чысціню фальклорных крыніцаў, паэтычнасць мовы і векавую мудрасць народа», — піша А. Мяльгуй.

Гэтыя фальклорныя творы і цяпер захапляюць сучасных прафесійных музыкаў сваёй глыбінёй, меладызмам. І не дзіва, што многія песні з альбома «Каляды. Рожство. Щодрэц» ужо ёсць у рэпертуары многіх вядомых гуртоў ад «Песняроў» да «Палаца» і «Госціцы».

1999 год стаў адметны працай над выданнем першага ў Беларусі аўдыя-мультымедыйнага кампакт-дыска «Ur'ia» «Весначуха».

У 2000, 2004 гг. Ю. Выдронак арганізаваў рэспубліканскі фестываль сучаснага фальклору Фолк-мадэрн-фэст «Таўкачыкі» (першы ў Беларусі фестываль сучаснага фальклору).

«Спецыфічнае гучанне электрагітары Юрыя Выдронка ў атачэнні экзатычных бубнаў і баса дапаўняе феерычную акустычную атмасферу і адсылае слухачоў да эпохі 60-х гадоў, якую музыкі пераасэнсоўваюць пад маркай выкарыстання лямпавага саунду.

Відэакліп "Весначуха-балбатуха" доўгі час знаходзіўся сярод лідараў "Кліп-абоймы на беларускім тэлебачанні" ды ў ратацыі на першым музычным канале. Юры Выдронак дадаў да гэтай версіі новыя фарбы ды аздобіў сам дыск відарысамі палотнаў фантаста-мастака Язэпа Драздовіча.

Што датычыць вакальных партый, дык у песнях дамінуе палескі гарлавы стыль у інтэрпрэтацыі Выдронка. Сярод жаночага "вакальнага саду" гурту голас лідара адрозніваецца асаблівай рэльефнасцю», — адзначаў Анатоль Мяльгуй.

У 2000–2002 гг. Юры Выдронак — навуковы супрацоўнік Белдзяржуніверсітэта культуры, а ў 2002–2003 — навуковы супрацоўнік Белдзяржінстытута праблем культуры.

У 2006 г. адбылося выданне другога альбома «Ur'ia» «Калі-чакра».

Сярод масіву прадстаўнікоў «фолк-мадэрна» «Ur'ia» вылучаецца адразу — сваім драйвавым гітарным, часам рок-н-рольным, гукам у спалучэнні з вялікай колькасцю інструментаў, сваёй містычнасцю і гарлавым вакалам самога Выдронка.

З новай кружэлкі былы ўдзельнік гуртоў «Палац» і «KRIWI» Юры Выдронак і прэзентуе песню «На Вялікадню», якую лічыць адной з самых удалых песень у альбоме: «Не проста спалучыць блюз з беларускімі архаічнымі песнямі, але ў нас гэта атрымалася!» З гэтай песняй «Ur'ia» вяртаецца ў музычную прастору. «Нас не бачна, бо мы не падпадаем пад той музычны фармат, які сфарміраваўся дзякуючы

Беларускай тэлерадыёкампаніі. У іх свае песні і скокі, яны самастойна абіраюць тых, хто мусіць прадстаўляць краіну на міжнародных фестывалях», — кажа Юры.

У 2007 г. адбылося выданне трэцяга альбома «Рай коню» і CD «Каляды» частка ІІ. У 2008 г. Юры ўдзельнічаў у арганізацыі фестываляў «Таўкачыкі на Каляды» і «Таўкачыкі на Юр'я».

У 2009 г. быў арганізаваны фестываль «Таўкачыкі на Дзяды» ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы. Паралельна ішла ў Юрыя рэжысёрская праца над відэакліпамі гурту «Ur'ia» і цыклам дакументальных стужак па этнаграфіі і культуры Беларусі.

*З архіва Юрыя Выдронка*

## «Дзе дзяўчаты, як дождж залаты»



Нямала вандроўных дарог праехаў беларускі артыст разам з энта-фолк-гуртам «GUDA». Супольныя канцэрты Тодара і гурту «GUDA» адбываліся як на Беларусі, так і ў замежжы. Адзін з такіх выступаў прайшоў у Мінску ў вялікай канцэртнай зале клуба імя Дзяржынскага.

Народныя бел-чырвона-белыя строі выпраменьваюць унутранае святло, зачароўваюць. Нацыянальнае адзенне выканаўцаў, аздобленае прыгожымі, выверанымі вякамі арнаментамі, нясе ўнікальную інфармацыю пра нашу мінуўшчыну. Народныя строі ўвасабляюць моц і трываласць народнага духу, пацвярджаюць вернасць традыцыям.

У цэнтр канцэртнай праграмы кіраўнік паставіў дзяўчат — прыгажунь, майстрыц, працаўніц, ад пачатку канцэрта адвёўшы сабе ролю пастушка, які грае на дудачцы і прыслухоўваецца да дзявочых спеваў. У белай кашулі і нагавіцах, ён выходзіць на сцэну босы. Спявак — часцінка свайго народа, яго светлая крынічка, празрысты званочак.

У старадаўніх жаночых спевах заўсёды было шмат шчымлівага жалю, тугі, векавога цярпення. А таксама — светлай красы і пяшчоты. Старажытныя абрадавыя песні мелі мэту абароны ад ворагаў, разбурэння страху. У веснавых і вясельных спевах дзяўчат багата задзірыстасці, галасістасці, гумару і жартаў. Узнята, урачыста гучаць велікодныя спевы.

Верны лепшым традыцыям, артыст найбольш цэніць духоўнае багацце свайго народа.

Як распавяла адна са спявачак Вікторыя Міхно, этна-фолк-гурт «GUDA» быў створаны ў 1992 годзе, калі маладыя людзі, студэнты і навукоўцы, аб’ядналі свае намаганні, каб даследаваць старажытную гісторыю і культуру сваёй зямлі. Адным з кірункаў іх дзейнасці стаў эксперыментальны пошук у галіне архаічнай спеўнай спадчыны. Этнаграфічныя экспедыцыі, у якіх адбываўся непасрэдны кантакт з жывымі носьбітамі традыцыі, работа з аўдыя- і відэазапісамі, стасункі з

этнамузыколагамі і фалькларыстамі дазволілі на працягу дзесяцігоддзя пераняць асаблівасці старадаўняй спеўнай манеры.

У зборы і запісах песняў выканаўцам дапамагалі такія даследчыкі, як У. Васілевіч, Т. Варфаламеева, Г. Кутырова-Чубуля.

Гурт прымаў удзел у Міжнародным фестывалі «Балтыка-2005» у Літве, выступаў на фестывалях сярэднявечнай музыкі і этнафолкмузыкі ў Польшчы, Прыбалтыцы, а таксама на беларускіх музычных фэстах. У 2006 годзе адным з іх быў фестываль этнічнай музыкі «Вольнае паветра» ў Крупках, дзе прадстаўлялі сваю творчасць такія гурты, як «Троіца», «Палац» і іншыя.

Удзельнікі музычнага гурту «GUDA» займаюцца ў асноўным навуковай і педагагічнай працай. Выканаўца Любоў Сівурава выкладае ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтва, Вольга Емяльянчык — у Полацкім дзяржаўным універсітэце.

Калектыў даволі часта выконвае народныя спевы на навуковых канферэнцыях, выступае перад студэнтамі з мэтай папулярызацыі і працягу даследавання традыцыйнай народнай музыкі. У праграме прыняў удзел фальклорны тэатр «Поўня», які ўзначальвае мастацкі кіраўнік Вольга Тарасевіч.

Аснову рэпертуару складаюць абрадавыя песні — найбольш архаічны пласт традыцыйнае народнае культуры. Многія песні ўжо не сустракаюцца ў жывым выкананні — яны ўзноўленыя паводле нотных запісаў. Выканаўцы гурту «GUDA» практыкуюць голасны спеў, які паходзіць ад гучнага спеву на адкрытым паветры, найперш песні вясновага-летняга цыклу, большасць вясельных ды радзінных песень.

Песні выконваюцца акапэльна. Разам са Змітром Вайцюшкевічам дзяўчаты выканалі такія спевы, як «І ў нядзельку рана», «Медуніца», «Зара мая вячэрняя» і іншыя. Такія мерапрыемствы яднаюць шчырых прыхільнікаў беларушчыны, мацуюць дух дэмакратычнай супольнасці. У канцы праграмы спявак па просьбе аўдыторыі выканаў песню на вершы У. Караткевіча «Дзе мой край».

*Эла Дзвінская*
*«Наша слова», 17 сакавіка 2008 года*

## «Калі ўзноўлена песня, вернута народу — адчуваю, што жыву і працую нездарма»

Любоў Сівурава — кіраўніца калектыву «GUDA», дацэнт кафедры менеджменту сацыяльна-культурнай дзейнасці, выкладчыца творчых дысцыплінаў. Яна распрацавала і вядзе навучальны курс «Фестывальны менеджмент». Спадарыня Любоў скончыла аспірантуру ІМЭФ, Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы па спецыяльнасці «Культуралогія». Натхнёна і метадычна яна займалася навуковай, даследчыцкай працай у галіне этналогіі, сучаснай аматарскай творчасці, прыкладной этнамузыкалогіі.

Матуля двух сыноў, цудоўная жонка, спадарыня Любоў усё ж лічыць, што трэба жыць творчасцю, і бачыць у ёй вялікі сэнс. «Маёй маці 75 гадоў, яна — чалавек спеўнай культуры, голас у яе моцны, яе сілкуе творчасць. Мама паходзіць з Жабінкаўскага раёна, песеннага краю. Там мы ў свой час запісалі 3 касеты вясельных песень».

Спадарыня Любоў Сівурава распавяла пра гісторыю стварэння гурту «GUDA».

— У 1995 годзе я была навуковым супрацоўнікам Інстытута праблем культуры. Па роду дзейнасці мы наведвалі розныя фестывалі з навукова-метадычнымі мэтамі. Нас вельмі ўразіла падзея ў Барысаўскім раёне ў вёсцы Мёдча, дзе праводзіўся міні-рэгіянальны фестываль. Мы пазнаёміліся з Антанінай Абрамовіч, якая кіравала мастацкім калектывам, ладзіла экспедыцыі да бабуль і дзядуляў па збору фальклорнага матэрыялу. На зваротным шляху ў аўтобусе мы сталі спяваць так, як спяваюць у нас на вёсцы. Гучней за ўсіх спявала моладзь. Адна з падарожніц, Ірына Мазюк, запрасіла нас на сустрэчы моладзевага творчага аб'яднання. З таго часу мы пачалі развіваць нашу творчую дзейнасць. Мы сустрэліся з песнямі высокага кшталту, але пры запісе іх ноты не фіксуюць ні тэмбральнай афарбоўкі, ні інтанацыі, непаўторных адценняў спеву. Таму мы запісвалі іх на магнітафон непасрэдна. Больш як 10 гадоў мы працуем над зборам матэрыялу і не можам спасцігнуць усёй глыбіні зместу песень, вяршынь выканальніцкага майстэрства народных спявачак.

У 2000 годзе нам прадаставілі студыю на радыё, і мы на працягу чатырох гадзін запісалі альбом з 20 песень.

Аднойчы мы знайшлі нотны запіс 1911 года прыгожай старадаўняй песні «Медуніца, медуніца лугавая», узнавілі, прыдумалі канон, — дзеліцца ўражаннямі сп. Любоў. — Калі вяртаецца страчаны твор, у песні знаходзяць водгук людзі розных пакаленняў, яна становіцца актуальнай, зразумелай слухачам розных узростаў, — гэта важна для нас. Закладзены ў гэтым глыбокі сэнс: песня надае маральнае і эстэтычнае выхаванне, нясе мудрасць продкаў, перадае базавыя каштоўнасці беларускага народа. Нельга дапускаць, каб песні страчваліся з ужытку. Трэба фіксаваць як мага больш народных песень. У Літве, напрыклад, гэты культурны пласт захоўваецца пры падтрымцы дзяржавы на нацыянальным узроўні, на запісы выдаткоўваюцца сродкі, дыскі захоўваюцца ў фанатэках.

У гучанне гурту «GUDA» ўносяць свае непаўторныя адценні старэйшыя прадстаўніцы нашага калектыву — Кацярына Акімава, Таццяна Яцкевіч, Вольга Тарасевіч, Вольга Карабцова. Тры разы на тыдзень мы збіраемся, інтэнсіўна працуем над голасам, слыхам, сугуччам.

Сёння сапраўдны нефармальны лідар нашага калектыву — Вікторыя Міхно, яна ўмее ладзіць з людзьмі, умее навучыць спевам, выхоўвае моладзь. Вікторыя — біёлаг па адукацыі, скончыла аспірантуру, напісала дысертацыю.

Вольга Емяльянчык — прадстаўніца старэйшага пакалення, выкладчыца Полацкага ўніверсітэта, выкладае гісторыю, займаецца антрапалогіяй, рыхтуецца абараніць дысертацыю. Яна — адна з пачынальніц нашага руху. У Вольгі найлепшыя вакальныя здольнасці.

Малады склад калектыву прадстаўляюць: Наталля Краўцова, выкладчыца БДУКіМ, праектны менеджар, Ганна Емялёва, якая скончыла магістратуру, абараняе магістарскую дысертацыю, працуе ў музеі Вялікай Айчыннай вайны, Дар'я Зуева — студэнтка трэцяга курса, Таццяна Бароўка, студэнтка БДУПУ імя Танка. Ёсць падрыхтоўчая група і новы напрамак: спевы, танцы, старажытныя народна-пабытовыя танцы, карагоды.

Зміцер Вайцюшкевіч — нам як родны брат, сябра. Ён вырас на фальклоры і глыбока яго разумее. Палітра яго талентаў — найярчэйшая, галасавы апарат яго — цэлы аркестр. Хацелася б, каб ён развіваў далей фальклорны кірунак.

Упершыню мы выступалі разам з «WZ-Orkiestra» ў 2007 годзе. Наш супольны канцэрт праходзіў у Варшаве. Ехалі ўзімку, памятаю, было сурова, снежна. Хваляваліся, хацелася не схібіць, ісці ў адзіным тэмпе. Спачатку мы спявалі акапэльна, са свечкамі стоячы ў цемры, хацелі настроіць слухачоў на таямнічасць. Потым выходзіў Зміцер з аркестрам, і мы выступалі супольна. У канцы слухачы яшчэ раз запрасілі нас, і мы выканалі яшчэ тры блокі песень.

Мы самі шыем строі для канцэртаў, кашулі і спадніцы альбо замаўляем майстрыцам. На кожны дзень народзінаў замаўляем і робім які-небудзь элемент строю.

Змітру на дзень народзінаў мы падаравалі пас, асноўны элемент мужчынскага строю. Без вышыванага паса мужчына не мог з’яўляцца на людзях. Пас павінен яго ахоўваць.

Мы падарылі яго на доўгую дарогу і добрае жыццё і заспявалі: «Сыпце пшаніцу, карміце коняў». Так праводзілі сябры жаніха з нявестай. Нядаўна падаравалі капар-шапачку з вушкамі і стужкамі Вікторыі Міхно.

Нашы выканаўцы старэйшага складу замужам, гадуюць сынкоў і дачушак. Мы перадаём жаночую абрадавую культуру, захавальнікамі і транслятарамі якой здаўна былі жанчыны.

*Гутарыла Эла Дзвінская*
*«Наша слова», 24 сакавіка 2010 года*

# Паветраныя акварэлі



Андрэй Лабчэўскі — інтэлігент, віртуозны піяніст, кампазітар, дый проста чалавек, адораны сяброўскай шчырасцю, гумарам і фантазіяй. Карыя вочы робяць па арбіце кола ў 360 градусаў, уяўляючы свет сваіх мар, незвычайны свет.

— Я далучыўся да «WZ-Orkiestra» прыкладна ў 2004 годзе, — расказвае піяніст. — Да гэтага ён існаваў у выглядзе квартэта. У 2011 годзе «WZ-Orkiestra» адзначыць 10-годдзе. «WZ-Orkiestra» — дзецішча Змітра Вайцюшкевіча. Ён запрасіў розных выканаўцаў, каб рэалізаваць агульную ідэю. У тым і ёсць задавальненне, што кожны з удзельнікаў калектыву любіць абсалютна розную музыку, уносіць свой кампанент, адкрывае сваю музычную плынь.

Гісторыю «WZ-Orkiestra» распачыналі Зміцер, Алег Івановіч, Ксенія Мінчанка. Яны выступалі даволі паспяхова, але потым вырашылі абагаціць музычную палітру і ўключыць фартэпіяна з рытм-секцыяй.

У складзе групы ўсе музыкі непаўторныя і арыгінальныя. Акрамя таго, кожны працуе яшчэ з іншымі калектывамі і артыстамі. Аляксандр Шувалаў — лепшы баяніст на Беларусі. Ён выкладае ў Беларускай акадэміі музыкі. Сябар. Гурман. Сусед. І, па сакрэту скажу, вельмі прыемны і акуратны чалавек ва ўсім…

Алег Івановіч — шыкарны аранжыроўшчык, — працягвае Андрэй. — Яго музыку выконваюць розныя зоркавыя групы, напрыклад «Atlantica», «Дрозды». Ён з’яўляецца аранжыроўшчыкам майго мюзікла «Раман + Юлія» ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі.

Ксенія Мінчанка — неардынарная жанчына з цудоўнымі вакальнымі данымі, непераўзыдзеная рукадзельніца. Яна з густам стварае прыгожыя дэкаратыўныя рэчы, вядзе заняткі па спевах у гуртку «Зорачка» ў Цэнтры дзіцячай творчасці. А самае галоўнае, яна — сонейка нашага калектыву. Сярод розных па характары, асаблівасцях і інтарэсах мужчын яна сапраўды ўвасабляе сутнасць правільнай, на наш погляд, жанчыны: шчырасць, дабрыню, радасць бачыць гэты свет і нас.

Максім Кот-Кузьма — праграміст, дызайнер. Ён стварае вэб-сайты, электронныя канцэпцыі. Музыка — гэта яго хобі. Але — паслухайце, як ён іграе на кантрабасе. Клас! Гэта мой сябра. Мне вельмі пашэнціла сустрэць у жыцці такога чалавека на сваім шляху. Ён духоўны ва ўсім: у адносінах да працы і жыцця.

Сам Зміцер — заўзятар, ён працуе вельмі шмат. Адзін з нямногіх выканаўцаў, ён запісаў за апошнія гады ўжо больш за 14 дыскаў. Застаўся верным свайму кірунку, працуе вельмі шмат. Асновай яго поспеху з'яўляецца працавітасць і шчаслівы шанец.

Звычайна Зміцер найграе нам сваю новую мелодыю — і кожны з нас стварае партыю для свайго інструмента. Мы збіраемся і рэпетыруем перад запісам новых альбомаў. У кожнага калектыву ёсць працэс творчы, рэпетыцыйны, канцэртная дзейнасць і, безумоўна, арганізацыйная праца.

Андрэй Лабчэўскі кіруе сваім музычным калектывам «Дыліжанс-jazz» ужо 12 гадоў. За гэты час ансамбль на гастролях пабываў у многіх краінах, удзельнічаў у міжнародных музычных фестывалях і конкурсах. У калектыве працуюць таленавітыя і ўжо прызнаныя джазавай аўдыторыяй музыкі — Кацярына Кошалева, Яўгенія Лятун, Антон Машкала, Андрэй Церабеж, Карэн Карапецян, Улад Мазуркевіч і інш.

Андрэй — аўтар музыкі да спектакля «Раман + Юлія», пастаўленага Валерыем Анісенкам і Кацярынай Тарасавай па п'есе Дыяны Балыка ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі.

Сам піяніст і кампазітар закончыў Мінскае музычнае вучылішча па класу эстраднага фартэпіяна, вучыўся у Беларускай акадэміі музыкі па класу кампазіцыі, і Беларускім інстытуце праблем культуры ў накірунку менеджмента шоу-бізнесу.

Таксама А. Лабчэўскі выступае з Тэатрам рускага рамanса Ірыны Фашчылінай. Адзін з апошніх праектаў тэатра ў 2009 г. — праграма «Кінараманс», дзе былі сабраны ўрыўкі са старых фільмаў з вядомымі мелодыямі. Але гэта не толькі відэашэраг, самае галоўнае адбываецца на сцэне. Увасабленне ўсімі вядомых кінасюжэтаў у новым гучанні зараз, у зале.

Андрэй спрабаваў сябе і ў амплуа тэлевядоўцы. Ён вёў на тэлеканале «Лад» рубрыку «Кулінарны джаз» і зрабіў традыцыяй запрашаць на праграму людзей творчага кірунку: акцёраў, музыкаў, выканаўцаў. Гатуючы экзатычную ежу, ён вёў з імі гутарку аб мастацтве і творчасці.

— Зразумела, што, каб весці кулінарную праграму, трэба ўмець добра і якасна гатаваць, а для візуальнай падачы шыкоўна афармляць стравы. І нават тут у артыстаў ёсць свой маленькі сакрэт. Справа ў тым, што грымёркі часта знаходзяцца насупраць памяшкання повара. Калі повар гатуе далікатэсы, то ў нас ёсць магчымасць паназіраць за мастацтвам прыгатавання смачных страў, а пашанцуе — і пакаштаваць, а шанцуе перманентна.

Спецыфіка нашай працы ў тым, што зарабіць на творчасць і жыццё канцэртнай дзейнасцю амаль немагчыма, бо вялізныя сродкі ідуць на арэнду залы і на іншыя выдаткі, таму музыкі зарабляюць на жыццё, напрыклад, іграючы ў рэстаранах і кавярнях, а таксама на карпаратыўных святах.

Гэта не значыць, што ўзровень выканання ніжэйшы, наадварот, да ўсёй праграмы ўладальнікамі выстаўляюцца патрабаванні высокага густу і майстэрства, рэпертуар абмяркоўваецца загадзя. Вядома, што «Мурку» ці «Крыжачок» выконваць мы не будзем ні пры якіх ўмовах. Для гэтага існуюць «аматары» музыкі, якія да прафесійнай дзейнасці не маюць ніякіх адносінаў. Калі мы граем, напрыклад, у італьянскім рэстаране, то ўздымаем агромны пласт італьянскай музыкі, у французскім — французскай.

*Эла Дзвінская*

# Баян — душа мелодыі



Аляксандр Шувалаў — адзін з лепшых беларускіх баяністаў, лаўрэат міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў, у тым ліку Міжнароднага конкурсу баяністаў і акардэаністаў у Клінгенталі (Германія, 2002), Міжнароднага конкурсу «AccoHoliday» (Кіеў, 2006). Поўны жыццесцвярджальнай энергіі, гумару, цеплыні, ён часам крыху падобны на вайсковага камандзіра. Аляксандр супрацоўнічае з Алесем Камоцкім і Змітром Вайцюшкевічам, выступае ў складзе вядомага калектыву «WZ-Orkiestra». Баян адкрывае душу мелодыі, ён захапляе залу лірызмам і глыбінёй пачуцця, віртуознасцю. Аляксандр Шувалаў браў удзел у музычных фестывалях у розных краінах: Францыі, Іспаніі, Германіі, Італіі, Фінляндыі ў такіх праграмах, як эстрада і джаз, фальклор, народныя калектывы. На баянных святах музыкі ў Літве, Польшчы і Чэхіі ён дзяліўся творчасцю ў сваім улюбёным рэчышчы. Выступаў на днях культуры Беларусі ў Іране, натхняўся лацінаамерыканскімі рытмамі ў Каракасе, быў на гастролях у Кітаі.

*— Дзе Вы нарадзіліся? Адкуль прыйшло захапленне музыкай?*

— Я нарадзіўся ў 1977 годзе ў сям’і ваеннага музыкі. Мой бацька Аляксандр — прафесійны скрыпач, маці Святлана выконвае класічную музыку на фартэпіяна, сястра таксама грае на ім. Бацька некаторы час служыў у Германіі, дзе мы жылі з ім у дзяцінстве, а потым сям’я пераехала ў Слуцк. Там і сёння працуюць мае бацькі. Спасцігаць азы майстэрства пачаў у Мінскай музычнай вучэльні імя Глінкі ў класе вядомага педагога, дацэнта Мірона Іванавіча Булы. З гэтым выкладчыкам, потым — прафесарам, я ішоў па жыцці на працягу 10 гадоў, скончыўшы Дзяржаўную акадэмію музыкі і магістратуру БДАМ. Сёння выкладаю ў БДАМ па класу баяна і джазавай імправізацыі.

*— Раскажыце, калі ласка, дзе Вы выступалі ў апошнія гады ў Мінску?*

— Выступаю з сольнымі канцэртамі. Адзін з такіх канцэртаў адбыўся ў Малой зале Палаца Рэспублікі і быў звязаны з творчасцю Астора П'яцолы, аднаго з заснавальнікаў аргенцінскага неафальклярызму. Другі канцэрт быў прысвечаны музыцы Яўгена Глебава.

Баян, акардэон — гэта нашы народныя інструменты, і тое, што італьянскія, французскія і нямецкія музыканты звяртаюцца да іх, ці не сведчыць пра тое, што наша культура даўно перасягнула геаграфічныя межы.

Трэба сказаць, што разуменне такіх інструментаў як народных сёння ўжо не актуальна. Цяпер ужо баяністы, акардэаністы з краін Еўропы выконваюць шмат сучаснай музыкі, пералажэнні класічных твораў, выкананыя для розных інструментальных саставаў.

*— Як Вы адчуваеце перспектыву развіцця баяннай музыкі?*

— Магчымасці сучаснага баяннага выканання — неабмежаваныя. На гэтым інструменце можна выконваць сімфанічную музыку, народную, джазавую, сучасную эстрадную. Баян зараз адрадзіў сваю папулярнасць, у многіх беларускіх групах прысутнічае голас баяна. Ён можа нават імітаваць духавыя інструменты: габой, кларнет, фагот. Сучасны баян дазваляе выкарыстоўваць вялікую колькасць рэгістраў. Я звычайна выкарыстоўваю матавыя (не пісклявыя) рэгістры, каб змякчыць гучанне.

*— Раскажыце, калі ласка, пра выкладанне ў Беларускай акадэміі музыкі. Як складваюцца Вашыя стасункі са студэнтамі?*

— У Беларускай акадэміі музыкі я выкладаю баяннае выкананне і джазавую імправізацыю. У гэтым годзе паступіў 21 студэнт, усе натхнёныя маладыя людзі, з марай аб будучыні. Калісьці мой выкладчык Мірон Іванавіч Була ішоў у нагу з часам, нічога не навязваў, але падштурхоўваў на самастойныя пошукі, заахвочваў рабіць свае апрацоўкі. Тады яшчэ ніхто не ведаў, напрыклад, пра аргенцінскага кампазітара Астора П'яцолу, творы якога насычаны аргенцінскімі танцавальнымі рытмамі. Было цікава разгадваць загадкі гэтай музыкі. І сёння я імкнуся выкладаць так, каб у студэнтаў пашыраўся вопыт праслухоўвання музыкі, той, якая прывівае густ і развівае: гэта добрая класіка, джаз. Каб узрасціць музыканта, патрэбна не толькі педагагічнае майстэрства, але і стараннне самога студэнта, які павінен быць у пастаянным творчым

пошуку, знаходзіць нотную літаратуру і іншы матэрыял. Інструмент нямала каштуе, для студэнтаў гэта ў некаторай ступені праблема. Але той студэнт, які думае пра будучыню, клапоціцца пра набыццё якаснага інструмента.

Мая жонка Алена таксама выкладае музыку — у чацвёртай школе г. Мінска. Яна выдатна валодае домрай, мандалінай. Алена брала ўдзел у запісах канцэртаў Алеся Камоцкага. Там далікатна гучаць яе ноткі.

*Гутарыла Эла Дзвінская*
*«Наша слова», 23 верасня 2009 года*



# Сонейка



Ксенія Мінчанка — адзіная дзяўчына «WZ-Orkiestra». Яе вочы — як буйныя спелыя вішні, а голас — лёгкі і светлы — перагукваецца з нябеснымі стварэннямі. Голас Ксюшы гучыць у песні «Сакура цвіце» на дыску «Месяц і сонца».

Ксенія нарадзілася ў Мінску. Род Мінчанкаў ішоў па дзеду, але ў вайну той, хто прымаў на фронт, украінец, памяняў прозвішча з «Мінчанкоў» на «Мінчанка». Маці паходзіць з Капыля, а бацька — з вёскі Кулакоўшчына. Мама Ксюшы цудоўна адчувае мовы, яна — прыроджаны філолаг, тата — добры спецыяліст у галіне фізікі і хіміі, скончыў Маскоўскі энергетычны інстытут. У маладосці яны моцна захапляліся спортам — тэнісам, лыжамі, самба, баскетболам.

— Тата грае на баяне і гітары, ён з дзяцінства акружаў мяне спевамі, а матуля грала на фано, — падзялілася ўспамінамі Ксенія. — Я станавілася на табурэтачку і падпявала. Я многім абавязана бацькам, што яны выхавалі мяне ў каханні і прыстойнасці. У дзяцінстве займалася ў спеўным дзіцячым калектыве «Зорачка», потым — у школе № 4 з музычным ухілам, іграла на скрыпцы. Далей была вучоба ў Дзяржаўным інстытуце культуры. На чацвёртым курсе я прыйшла выкладаць спевы дзецям у «Зорачку». Акрамя скрыпкі я граю яшчэ на гітары, дудцы, джамбеі альбо дарбуку (афрыканскі і арабскі бубны). Мне вельмі падабаецца працаваць з дзецьмі — яны вельмі шчырыя, творчыя і непаўторныя. За 12 гадоў работы яны навучылі мяне, бадай, больш, чым я іх — далі вялікі вопыт. Мне хацелася б шчыра падзякаваць маёй настаўніцы з дзяцінства — і ў спевах, і ў рабоце з дзецьмі, і наогул у жыцці (як я яе называю, «сэкондрэ мадрэ» — другая мама), сапраўды адданаму чалавеку сваёй працы, Прафесіяналу і ў вакале, і ў фальклоры, і ў рэжысуры — Але Міхайлаўне Навіцкай. Дай Бог ёй моцнага здароўя і цярпення на доўгія гады! Яшчэ ёсць адзін новы цікавы праект «Кумалёнтрэ» — гэта чыста беларуская назва, проста такая загадка.

Зараз я і Таццянка, Сяргейка, Марынка граем беларускія песні ў нашых апрацоўках, фолк розных краін — і з гэтага выраслі таксама песні і музыка аўтарскія. Многія песні мы выконваем з альбома «Паглядзі», якія я запісала яшчэ 8 гадоў таму — там ёсць і аўтарскія, ёсць і беларускія песні ў маёй апрацоўцы. І вельмі цікавыя песні нарадзіліся зусім нядаўна. Спадзяюся на доўгае творчае жыццё нашага гурту.

*— Як пачалася Ваша праца ў «WZ-Orkiestra»?*

— У аркестры Змітра партыю скрыпкі выконваў напачатку Алесь Пузыня. Потым ён нечакана з’ехаў у Амерыку, а замест яго запрасілі мяне. У хуткім часе мы адправіліся ў Польшчу, потым выступалі ў Нарвегіі. Я вельмі паважаю ўсіх нашых хлопцаў з калектыву «WZ-Orkiestra» — яны эксклюзіўныя, непаўторныя, душэўныя, такія вясёлыя, жартаўлівыя ў падарожжах! Мы аб’ехалі з імі ўсю Польшчу. У мужчынскія музычныя гурты звычайна дзяўчат не бяруць. У «Песняроў» і «Палацы» не было дзяўчат, каб не ствараць спрэчак, каб ніякія ўзаемныя адносіны не перашкаджалі творчасці. Таму і я на некаторых канцэртах, і асабліва ў паездках, трымалася, як баец з кулямётам.

*— Якую песню Вы лічыце найбольш моцнай?*

— Мне падабаецца спяваць са Змітром «Паланэз». Геніяльныя словы напісаў Сяржук Сокалаў-Воюш.

Дахі мястэчак, стрэхі вёсак, вежы замкаў і палацаў,
Гонкіх храмаў звонкі адгалосак
Клічуць да сябе, бо немагчыма з гэтым краем развітацца!

Мы спяваем гэту песню на вяселлях і на радзінах па просьбе родных людзей. Адна з нямногіх песень, пры слуханні якой мужчыны пачынаюць уставаць і плакаць.

«Сакура» — таксама мне вельмі блізкі матыў. З альбомаў мне падабаюцца «Месяц і сонца» — амаль увесь, «Балады» — таксама.

Я па натуры адналюб. Добра стаўлюся да людзей. Веру, што галоўнае ў жыцці ўжо прыйшло — цяпер трэба працаваць і працаваць над сабой. Пэўны час я шукала ісціну, прыглядалася да розных канфесій і цэркваў, і вось калі патрапіла ў Львове ў праваслаўную царкву XV стагоддзя ў Шаўчэнкаўскім Гаі, адчула — вось тут прысутнічае ўсё вялікае і галоўнае. Найпрыгажэйшага, чым праваслаўныя храмы, я нічога не бачыла.

Калі чалавек знайшоў вялікі алмаз, то не стане разменьвацца на розныя дробязі. Ласка Божая — найвялікшая каштоўнасць у жыцці. Калі ў манахаў на Афоне запытваюцца: «Як справы, як вы жывяце?» — «Дзякуй Богу за ўсё!» Бо людзі разумеюць, што галоўнае — жыць у згодзе з Богам і па яго Слову.

У кожнага ў жыцці свой шлях. Адзін ідзе да Госпада з крыжам сям'і, другі — самотны. Як каму належыць быць. Не трэба хвалявацца на гэты конт, усё, што трэба, — прыйдзе. Галоўнае — пастарацца ўспрыняць усё з міласцю, мужнасцю і шчырасцю.

Я вельмі рада, што ў Змітра нарадзіўся сын, якому надалі такое прыгожае біблейскае імя. Спадзяюся, што праз гэты шлях адбудзецца штосьці вельмі добрае ў яго лёсе.

*Гутарыла Эла Дзвінская*

# «Душа просіць песні»



Аднойчы восеньскім вечарам за кубачкам гарбаты мы ўзгадвалі розныя музычныя плыні. Хацелася даведацца пра культурныя традыцыі, на якіх заснавана творчасць спевака і кампазітара, і што яму блізка ў сусветным музычным мастацтве.

— Ува мне ўсё беларускае з дзяцінства жыло падсвядома. Я ведаў, што ёсць свет паэзіі Бураўкіна, Барадуліна, але гэта быў тонкі гук, яшчэ незразумелы.

*— Спадар Зміцер, хто з музыкаў паўплываў на Вашу творчасць? Кім Вы захапляліся ў 80-я гады на айчыннай і замежнай эстрадзе?*

— Найбольш паўплывалі «Песняры». Яны неаднаразова выступалі ў нас у Лідзе. Уладзімір Мулявін быў выхаванцам ваеннага аркестра. Ён добра валодаў гітарай, адзін з першых пачаў іграць на электронных інструментах. Выступленні У. Мулявіна ўзрушылі грамадскасць, гэта быў на тыя часы наватарскі калектыў.

Уражвала ў юначыя гады гісторыя спевака і акцёра Дэвіда Боўі, які заўсёды ішоў наперадзе культурнай хвалі. Ён быў вядомы ўплывам на розныя пакаленні музыкаў — ад металістаў да рокераў, ад выканаўцаў дыска да электроннай музыкі. Выдатна граў на саксафоне, запісаў некалькі дзясяткаў дыскаў, рабіў шмат эксперыментаў у музыцы, здымаўся ў кіно, вывучаў жывапіс і мастацтва. Адзін з яго хітоў «Man of the world» круцілі нават амерыканскія астранаўты ў час высадкі на Месяц. А вырас ён у адным з бяднейшых кварталаў Лондана. У 1984-м запомніліся тры вінілавыя дыскі — зборкі музыкі Дэвіда Боўі. Мне і маім сябрам, вядома, падабаліся «Дэпеш Мод» і «Крыданс», вандруючы аркестр і, канешне, легендарная брытанская група «Ролінг-стоўнз». Павагу выклікала рок-спявачка з Тэнэсі Ціна Цёрнер, якая нарадзілася ў сям’і баптысцкага святара і пачала спяваць з 18 год.

У 1986 годзе я паступіў у Лідскую музычную вучэльню. Цікавіўся інструментальнай і джазавай музыкай. Пазней слухалі Віктара Цоя, «Ассу», «Акварыум» Барыса Грабеншчыкова. Марк Нопфлер быў для мяне вельмі актуальным. Музыка ў стылі кантры-блюза, гарадскога

блюза, арт-рока, якую выконвала група «Даэр Стрэйтс», і дзейнасць яе лідара — гітарыста Марка Нопфлера адчувалася вельмі блізкай. Вытанчаныя мелодыі і бездакорныя аранжыроўкі прыцягвалі.

Надышла перабудова і спадзяванні на перамены ў грамадстве. У тыя часы пачыналіся «Праграма А», «Взгляд» і іншыя новыя праекты на тэлебачанні і ў музыцы. У інтэрнаце Лідскай вучэльні мы з сябрамі праводзілі дыскатэку з песнямі Цоя — «Мы ждём перемен», «Группа крови на рукаве» і іншымі. Слухалі шмат класікі, у вучэльні дамінавалі канцэрты духавой музыкі, канцэрты для кларнета. Займаўся кларнетам 6 гадзін у суткі. Асноўнымі прадметамі, якія патрабавалі больш высілкаў, былі гармонія, сальфеджыа, літаратура. Вялікі ўплыў на выхаванцаў мела выкладчыца Лідскай вучэльні — Бэла Аронаўна Зусман. Дырэктар вучэльні размаўляў па-беларуску і заахвочваў сваім прыкладам.

Думаў, куды буду далей паступаць вучыцца — у Варшаву, Маскву ці Піцер. Калі ўжо здаў уступныя іспыты ў Беларускі дзяржаўны інстытут культуры і паступіў, на прыступках яго мяне сустрэў Уладзь Шварцкопф, барабаншчык гурту. Ён запытаўся, ці не хачу я паспрабаваць салістам «Палаца» на праграме «Рэтра» Уцёсава. Гэты гурт тады меў назву «Дворец кукурузных палочек». Туды я патрапіў на працу ў 1990 годзе. Першыя гастролі прыйшліся на Дзень беларускага пісьменства. Хутка гурт пачаў ісці наперад, усё выпадковае адышло ўбок, засталася, у асноўным, беларуская музыка.

У 1992 годзе прымаў удзел з Міхаілам Фінбергам, Ігарам Лучанком у фестывалі беларускай песні, з яго пачыналіся традыцыі Маладзечна. Я выступаў з песняй «Белая, белая, русая, русая», але не прайшоў у першы адборачны тур.

*— Якім быў Ваш першы музычны твор?*

— Першым я напісаў аргенцінскае танга для «Народнага альбома». Хацелася быць нахабным, не банальным, адчувальным. У творчасці кіруюся інтуітыўным шляхам. Я сам сабе мастацкі кіраўнік, галоўны рэжысёр, дырыжор, бухгалтар. Ёсць два падыходы да працы: адзін — калі ў цябе ёсць замоўца, і добра, калі ён не дыктатар. Другое — калі замоўца і прадзюсар — ты сам. Ты сам складаеш сабе план, сам рызыкуеш.

*— З кім з вядомых артыстаў Захаду Вам даводзілася сустракацца? Якія ўражанні гэтыя сустрэчы прынеслі?*

— Мы ўдзельнічалі ў шматлікіх фолкавых фестывалях. Артысты, якія граюць на саксафоне і кларнеце, заўсёды падміргваюць адзін

аднаму як калегі. У Польшчы даводзілася выступаць і размаўляць з Рышардам Рынкоўскім. Мы выступалі з ім у Падляскай філармоніі ў Беластоку. Канцэрт быў падсумаваннем акцыі «Святочная пасылка». У часе канцэрту ў холе філармоніі Звяз польскіх гарцыраў збіраў грошы на святочную дапамогу суайчыннікам за мяжой. У Казахстане я быў разам на адной пляцоўцы з Тота Кутунья. Ён, таксама як і яго бацька, з дзяцінства граў на трубе і ўдарных, рана пачаў спяваць і пісаць музыку. Ягонай візітоўкай стала песня *L'italiano***.** Пераможца фестывалю ў Сан-Рэма, Еўрабачання, ён пісаў песні для Джо Дасэна, у тым ліку кампазіцыю *Le jardin du Luxembourg*, сачыняў і спяваў італьянскія і французскія хіты.

Выклікае мой інтарэс гурт «Хунхурту» з Тувы, які грае з 1992 года, адметны па манеры гарлавога спеву. Гэта невядомая, але ў той час вельмі даступная музыка, якая каранямі сыходзіць у гукі прыроды. Уявіце сабе прахалоднае свежае паветра, дзе высока над узроўнем мора раскінуліся дзікія стэпы, бурныя рэкі, моцныя арлы, хуткія коні і юрты. Усё гэта ў музыцы з рытмам і гучыць!

Вельмі ўразіла мяне спявачка Цэзарыя Эвара з Выспаў Зялёнага Мыса, яе прыклад мяне натхніў. Цэзарыя, поўная жанчына, маці трох дзяцей, бабуля, была гордасцю свайго маленькага гарадка Мандэлы. Яе песенныя гісторыі складаліся ў морны — народныя балады. Для жыхароў культурнай сталіцы выспаў Цэзарыя Эвара стала ў 80-я гады сімвалам. Потым чарнаскурую Папялушку заўважыў парыжскі прадзюсар. Цэзарыя была не падобнай на французскіх шансанье. У яе былі «саудаджы». Гэта маленькае слова перакладаецца, як «пачуццё светлай тугі па Радзіме». Адзіная мова, на якой яна спявала, — крэольскі старажытны дыялект, адначасова падобны на ўсе мовы раманскай групы. Пад музыку, якая нагадвала сумесь шансонных традыцый і басановы, босая Цэзарыя выходзіла на значныя пляцоўкі свету і расказвала пра свой народ. Чаму беларускай песні не быць такой вядомай у свеце?

*— Зміцер, якія формы музычных твораў больш прывабныя для Вас і ці спрабавалі Вы сябе ў іншым амплуа?*

— Зразумела, песенныя мне больш блізкія, я даўно працую ў песенным рэчышчы. Складаныя формы таксама цікавяць. У «Палацы» на камп'ютары рабіў больш буйныя формы. Спрабаваў пісаць музыку для кіно.

*— Скажыце, калі ласка, як выпрацоўваліся Вашыя творчыя прынцыпы?*

— Цяжка ўвесь час быць свежым, чыстым, юным. Важна развіваць тое, штоназапашана, у чым ужо ёсць вопыт. Асцярожна аберагаць тое, што зроблена. Не трэба быць увесь час рупарам, глашатаем, але часам проста трэба радавацца жыццю, пагаварыць з кожным дадзеным днём. Ёсць галоўнае ў жыцці — тваё блізкія людзі, дом, зямля, Радзіма, мова.

*— Як Вам удалося пазбегнуць спакусаў, якія суправаджаюць рок-музыку і яе выканаўцаў?*

— Трывала пазбег спакусы не спяваць па-беларуску. Ішоў інтуітыўна, бачачы, як усе ідуць у адзін бок, адчуваў, што трэба ісці ў іншы бок. Цяпер важна апраўдаць высокі давер. Маю досвед і разуменне, у якія авантуры не трэба ўваходзіць.

*— Напэўна, вельмі духоўна ўзбагачае сяброўства з паэтамі, пісьменнікамі?*

— Усім нам аднолькава баліць за Беларусь. Балела Быкаву, Караткевічу. Не ад болю працуеш, але баліць. Рыгор Барадулін — высокамаральны чалавек, вялікі аўтарытэт для мяне. З Уладзімірам Пракопавічам мы часта спрачаемся, жартуем. Ён сам ад пачатку ўяўляе мелодыю для сваіх вершаў.

*— Дзе Вам лепш працуецца?*

— Дома, на Нёмане, стварыў сабе неабходныя ўмовы для працы і адпачынку. У траўні так хораша з самай раніцы спяваюць салаўі, што міжволі душа просіць песні.

*— Хто Ваш лепшы сябра?*

— Адзін з закадычных сяброў — Зміцер Папоў. Мы з ім шмат разам прайшлі ў жыцці. Ён мяне эмацыйна падтрымлівае і падмацоўвае. Зміцер — гаспадар будаўнічай фірмы, бізнесоўца, будуе аб’екты па Беларусі.

*— Якая была самая запамінальная сустрэча са слухачамі?*

— Вельмі цёплыя ўражанні засталіся ад Маладзечна, Гомеля, Магілёва. У Гародні такія сустрэчы ўжо сталі традыцыйнымі. Але ёсць, канешне, куткі, дзе імя «Вайцюшкевіч» нічога не значыць.

*— Хто дапамагае Вам арганізоўваць канцэрты ў рамках кампаніі «Будзьма»?*

— Большасць канцэртаў я арганізоўваю сам. Спадар Генадзь Шэпелеў, які працуе на чыгунцы ў Оршы, прыкладаў шмат намаганняў

для гэтага, мы з ім у цёплых адносінах. Мяне кранае цеплыня і зацікаўленасць гледача. «Ты — спявак прыгажосці», — сказаў аднойчы Алесь Пушкін.

*— Ці ёсць нейкія жаночыя імёны, якія адыгрывалі важную ролю ў Вашым жыцці, здзівілі Вас?*

— Для мяне пэўнае значэнне мае імя Вераніка, мае для мяне значэнне імя Алена, бо ўладальніца гэтага імя мела значэнне для мяне. Вераніка Круглова, Алена Мелех — гэтыя дзве жанчыны былі маімі жонкамі ў мінулым. Мае для мяне значэнне імя Кася і шмат яшчэ якіх імёнаў. Яшчэ ведаю, што ў Польшчы ўсе Касі, іх настолькі там шмат, што касой не скосіш.

*— А якія імёны ў Вашай творчасці сустракаліся?*

— У маім альбоме ёсць песня пра Святлану, да таго было шмат народных песень, у якіх той ці іншай рыфмай сустракаліся Ганначкі, Галечкі, Касечкі. Не адзін мой альбом быў прысвечаны пэўнаму жаночаму імені.

*— Рысы жаночага ідэала для Вас?*

— Тры жанчыны для мяне ўвасаблялі ідэал. Бабуля, мама і цётка Марыя. Ад матулі адчуў эмацыйны строй, бабуля несла мудрасць, цётка — жыццёвую навуку. Мама была добрая, упартая, прынцыповая, не дзьмула мне ў дупу. Толькі страціўшы яе, я адчуў, як трэба цаніць матуль, іх клопат і турботу. Збіраў усё жыццё тое, што можа назвацца ідэалам. Вось і знайшоў сваю Галю, якая гэтаму ідэалу адпавядае. Яна ўзначальвае хор ІВА-кампаніі, кіраўнічка і дырыжорка хору.

*— Што змянілася ў Вашым жыцці з нараджэннем сына Язэпа?*

— Мы адчулі сябе маладзейшымі за свае гады. Адчуваю шмат радасці, хлопчык расце вясёлы, усмешлівы. Ён увесь час пасміхаецца, нават калі плача, усё роўна здаецца, што пасміхаецца.

*— Дзе Вы чэрпаеце сілы, якія спрыяюць творчасці?*

— На маім нёманскім хутары. І яшчэ кожны тыдзень я хаджу ў лазню. Хачу асабіста пазнаёміцца з кожным з кіраўнікоў раённых Дамоў культуры, з загадчыкамі аддзелаў культуры раёна, пагаварыць з імі, наколькі яны здольныя разумець і несці беларускае слова народу. Трэба нешта даваць. Калі аддаеш, то і атрымліваеш.

*Гутарыла Эла Дзвінская*



# Сугучнасць сэрцаў

Concordia parvae res crescunt, iscordia maximae dilabuntur*.

*Салюстый, І ст. да н. э.*

Малады, творча скіраваны калектыў «Concordia Chor» узначальвае Галіна Казіміроўская. Гэты аматарскі хор сабраў у свае шэрагі людзей розных прафесій і ўзростаў, якіх яднае любоў да музыкі і жаданне спяваць.

Вялізныя глыбокія вочы, адухоўлены погляд. Дырыжор і кіраўнік хору — Галіна Казіміроўская, жонка Змітра Вайцюшкевіча, жанчына з вялікім унутраным прасторам духу,

* Пры зладжанасці і малыя справы растуць, пры разладзе — і вялікія гінуць.

*любоўю да музыкі, мастацтва. Разам з Ксеніяй Мінчанка, Ганнай Хітрык і сваім маленькім сынам Язэпам яна прымала ўдзел у праграме «Мой сябра анёлак». Спадарыня Галіна падзялілася думкамі пра жыццё і творчую дзейнасць.*

— Наша сям’я была вялікай (у бацькоў было васьмёра дзяцей), музыкальна-артыстычнай. Усе з дзяцінства захапляліся музыкай. Мама — скрыпачка, тата — інжынер, інтэлектуал, знаўца музыкі і тэатра, працаваў у навуковай установе. Некаторыя з нас сталі прафесійнымі музыкамі, другія маюць іншыя прафесіі, але частковую музычную адукацыю і здольнасці маюць усе. Зараз усе ўжо даволі дарослыя і маюць сваіх дзяцей, якіх таксама выхоўваюць у яднанні з музыкай. Але лёс склаўся так, што амаль усе мае браты і сёстры насяляюць розныя краіны. Як гаворыць мой тата: «Мы Казіміроўскіх па зямным шары тонкім слоем намазваем». Мы раслі ў творчай атмасферы, былі маленькай музычна-тэатральнай трупай. Заўсёды рабілі касцюміраваныя тэатральныя пастаноўкі, спявалі і танчылі. Ні адно свята не абыходзілася без хатніх спектакляў ці канцэртаў, на якія заўсёды запрашалі суседзяў, сяброў. Сваю адукацыю я пачала ў 1-й музычнай школе па класу скрыпкі, але завяршала ўжо ў класе харавых спеваў. Мне да гэтага часу наш школьны хор «Тоніка» падаецца самым лепшым і сапраўдным — там вучылі не спяваць ноты, там вучылі слухаць, адчуваць музыку. Гэта была сапраўдная магія, якая на ўсё жыццё захапіла мяне. Далей, як і марыла, былі вучылішча, а затым — Беларуская акадэмія музыкі, дзе я займалася па спецыяльнасці «Харавое дырыжыраванне». Паралельна з вучобай пісала харавыя творы, рабіла апрацоўкі народных песень, працавала ў габрэйскай гімназіі з вучнёўскім хорам.

Пасля заканчэння Акадэміі паехала ў Галандыю да маёй сястры, якая мае там прыватную музычную школу і выкладае фартэпіяннае майстэрства. Там у перыяд з 2004 па 2006 г. я працавала з дарослым аматарскім хорам, а таксама выкладала спевы і сальфеджыа.

Вярнуўшыся дадому, вырашыла рабіць штосьці сур’ёзнае ў Беларусі. У 2006 годзе я паступіла на працу ў Беларускую дзяржаўную харавую капэлу імя Рыгора Шырмы. Было цікава спяваць сур’ёзную музыку, працаваць на адной сцэне з рознымі аркестрамі і бачыць выдатных дырыжораў. Харавы калектыў быў створаны ў 1939 годзе і носіць імя яго заснавальніка — Рыгора Раманавіча Шырмы. Ствараўся

ён з мэтай прапаганды беларускай народнай песні і аб’ездзіў у свой час увесь Савецкі Саюз. З цягам часу рэпертуар капэлы пашырыўся і складаецца з твораў самых розных эпох і кампазітараў: В.-А. Моцарта, Р. Шумана, А. Брукнера, А. Брамса, А. Дворжака, Г. Берліёза, І. Гайдна, К. Бенгверэла, Д. Кабалеўскага, С. Баха, Л. Бетховена, Дж. Пучыні, Д. Шастаковіча, П. Чайкоўскага і іншых.

Пазней я заснавала самастойны аматарскі калектыў — «Concordia Chor». Мы стварылі гэты хор у праграмісцкай кампаніі ІВА з яе супрацоўнікаў. Цёплы асяродак сяброў, якія бачаць у гэтым адпачынак пасля асноўнай працы, рэалізацыю сваіх музычных здольнасцей і жаданняў, а таксама і душэўную падтрымку. Харавыя спевы акрыляюць людзей. Хор наш камерны, складаецца прыкладна з 25 чалавек. Мы спяваем розную музыку: тут і харавая класіка, і старажытная музыка, і сучасная. Вялікае месца ў рэпертуары займаюць народныя песні, прычым не толькі беларускія, але і ўкраінскія, рускія, кубінскія і нават японскія. Мы выступаем у гарадах Беларусі і ў замежжы. Ксёндз са Смаргоні, які пазнаёміўся з дзейнасцю нашага хору, запрасіў нас выступіць у сваёй парафіі. У нас рознастылёвая манера выканання. Больш цікавіць шматгалоссе — спаконвечная народная манера спеваў.

Не так даўно з маёй ініцыятывы ўзнікла канцэртнае агенцтва «BelArtSound». Наша мэта і мара — папулярызаваць харавое мастацтва, ствараць умовы для яго развіцця. У агенцтве працуюць людзі, улюбёныя ў музыку, творчыя асобы, якія імкнуцца зрабіць усё, каб мара стала рэальнасцю. Мы плануем праводзіць у Беларусі харавыя фестывалі, арганізоўваць харавыя канцэрты, увогуле, распачынаць свята музыкі. Таксама будзем прыкладаць намаганні, каб прадстаўляць беларускую харавую культуру ў іншых краінах і адкрываць Беларусь для харавых калектываў усяго свету.

У траўні збіраемся правесці першы спеўны форум. Хочам запрасіць «Госціцу» — таленавіты калектыў, які ўзначальвае Ларыса Сімаковіч. «Госціца» — адзіны ў Беларусі тэатр аўтэнтычнай і архаічнай музыкі і харэаграфіі, які перайшоў мяжу этнаграфізму і звяртаецца да гледача на сучаснай мове танца мадэрн.

Эксперыментам можна лічыць і тое, што пасля шматлікіх аўтарскіх музычна-пластычных дзей Л. Сімаковіч прыйшла да ўвасаблення музычнага матэрыялу, да якога ў свой час звярталіся такія сусветна вядомыя харэографы, як Дж. Робінс, М. Бежар, І. Кіліян. Таксама ха-

целася б запрасіць лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, кампазітара Вячаслава Кузняцова**.**

На мой погляд, у нас не хапае фестываляў для развіцця харавых спеваў. Двух такіх вялікіх і сур'ёзных музычных падзей, як фэст «Магутны Божа» і Фестываль праваслаўных спеваў, усё ж недастаткова. Арганізацыяй канцэртаў у свеце акадэмічнай музыкі займаецца Міністэрства культуры.

*— Якія яшчэ кірункі музыкі Вам блізкія?*

— Люблю спяваць джаз, блюз, а яшчэ bossa nova. Бразілія, увогуле, мая краіна. Мне падабаецца ездзіць з канцэртамі, вандраваць. Я шмат якую музыку люблю, калі гэта якасна, калі гэта смачна. Канешне, вельмі хочацца прафесійнага росту, хочацца ствараць музыку, эксперыментаваць, а можа, пашанцуе, і стану калісьці каля сімфанічнага аркестра…

*— Якія перавагі Вы аддаяце ў літаратуры?*

— Гэта руская класіка, добрыя сучасныя творы (Л. Уліцкая, сёстры Талстыя, Ф. Іскандэр, Ісак Бабель), старыя англійскія раманы, гісторыка-філасофскае чытанне, Тэфі — мая настольная кніга, перачытваю яе 100 разоў.

*— Не маглі б Вы адкрыць сакрэт, як пазнаёміліся з Вашым мужам Змітром?*

— Пазнаёміліся выпадкова, у мяне на лецішчы. Я запрасіла сваіх сяброў, а яны — Змітра. Атрымаўшы адукацыю ў класічнай музычнай плыні, я ўвогуле не ведала пра існаванне альтэрнатыўнай музычнай культуры. І калі сябры мне сказалі, што прыедзе вядомы беларускі бард, мне гэта ні аб чым не гаварыла. Яго прозвішча мне не было знаёмым. Калі ён сказаў: я — Зміцер Вайцюшкевіч, я адказала: а я — Галіна Казіміроўская. Потым ён запрасіў мяне на традыцыйны канцэрт 20 ліпеня на свой дзень народзінаў, у малую залу КЗ «Мінск». Я прыйшла ў класічным строі, у белай кашулі, як, на маю думку, варта ісці на канцэрт, і, канешне, з першых гукаў мяне прыбіла да крэсла. Я была пад вялізным уражаннем і праніклася гонарам, што ў Беларусі такое ёсць, што так прыгожа гучаць песні на беларускай мове. Мне падалося, што такі непаўторны спеў накіраваны менавіта мне, хаця песні, безумоўна, пісаліся раней — ну, гэта таксама адзін з талентаў Змітра.

*— Ці адчуваеце Вы сабе самай шчаслівай жанчынай, якой столькі пяшчотных і трапяткіх слоў прысвечана?*

— Менавіта так, а як жа можа быць яшчэ!

*— Якім Вы хацелі б зрабіць Ваш дом?*

— У вялікім горадзе шмат шумоў перашкаджаюць чуць унутраную музыку. Нам бы хацелася жыць на тым самым хутары, які Зміцер адшукаў на беразе Нёмана. Ён набыў яго ў мясцовага дзядулі. Ад дзеда Зміцер даведаўся, што калісьці яго бацька сватаўся да дзедавай дачкі. Гэта быў пэўны знак лёсу.

*— Аб чым марыце для Вашай сям'і, для сына?*

— Хачу выхаваць добрага, вольнага чалавека. Хачу вырасціць сябра! Мне ў дзяцінстве трошкі не хапала паразумення з бацькамі, хацелася большай цеплыні. У Язэпкі ёсць відавочныя музычныя здольнасці, што і не дзіўна. Ён слухае гук юлы і паўтарае яго дакладна. Ён адрознівае голас бацькі, калі чуе яго ў нейкім запісе, уважліва слухае і, як удзячны слухач, апладзіруе пасля кожнай песенькі. Калі гаварыць аб прафесіі — не буду чагосьці навязваць сыну і падганяць яго. Калі я выйшла з Акадэміі музыкі, падумала, што толькі зараз і варта ў яе паступаць, каб глыбей усвядоміць, спасцігнуць музыку, а не прабегчы палову па паверхні, а штосьці ўвогуле вызубрыць дый забыць.

Цяпер я думаю аб тым, каб у сына быў добры асяродак, каб ведаў родную мову, ну і самае галоўнае, каб быў здаровенькі.

*Гутарыла Эла Дзвінская*
*«Наша слова», 28 красавіка 2010 года*

# Зміцер Вайцюшкевіч: песні старыя — гучанне новае




У маі адзначаецца 100-гадовы юбілей заслужанага работніка культуры Беларусі, паэта-песенніка Адама Русака (1904—1987). На вершы паэта напісана каля 300 песень, некаторыя з іх сапраўды сталі народнымі. Дастаткова ўзгадаць такія песні, як «Бульба», «Ой бярозы ды сосны», «Бывайце здаровы». Менавіта гэта песня, якая стала ў свой час лейтматывам тэлепраекта «Старыя песні пра галоўнае», дала назву новай праграме спевака і кампазітара Змітра Вайцюшкевіча і яго «WZ-Orkiestra». Што прыцягвае сучасных кампазітараў да творчасці і асобы паэта? Гэтае пытанне мы накіроўваем Змітру.

— Паэзія Адама Русака прадстаўляецца мне вельмі шчырай і адкрытай. Дый пачуццё Радзімы ў Русака вельмі блізкае мне як кампазітару. Можна доўга спрачацца аб прастаце яго паэзіі, але так ёміста пісаць сёння могуць толькі адзінкі. Адам Русак — гэта пэўная паэтычная традыцыя, гэта Паэт з вялікай літары і добры прыклад для сучасных тэкставікоў. У гэтым сакрэт поспеху Русака як паэта-песенніка.

*— Песні на словы Русака — своеасаблівае адлюстраванне таго часу, які сышоў з XX стагоддзем. Ці лёгка было Вам, сучасным выканаўцам, працаваць з такім музычным матэрыялам?*

— Так, былі пэўныя праблемы. Справа ў тым, што той час, у які жыў Адам Русак, быў супярэчлівым, складаным. І гэта адбілася на творчасці паэта. У яго зборніках шмат вершаў, прысвечаных сельскагаспадарчай тэматыцы, партыі, правадырам. Але і ў той час людзі хацелі жыць, кахаць. Таму, як у сапраўднага паэта, у Русака было шмат твораў, якія сёння па-за кан'юнктурай. Думаю, што таленавітыя вершы могуць гучаць сучасна ў любы момант.

*— Хто з беларускіх выканаўцаў задзейнічаны ў праграме «Бывайце здаровы»? Ці будзе праграма выдадзена ў выглядзе асобнага кампакт-дыска?*

— У нашай праграме гучаць песні на словы Адама Русака, аўтарства беларускіх кампазітараў Ісака Любана, Ігара Лучанка, Юрыя Семянякі, Уладзіміра Алоўнікава. Акрамя таго, у праграме гучаць дзве мае песні на словы паэта. Выконваць гэтыя песні на канцэртах акрамя мяне і групы «WZ-Orkiestra» будуць Алег Хаменка («Палац»), Надзея Мікуліч, Валянціна Карэлікава, а таксама ўнучка Адама Русака — Крысціна Грыгалюнайтэ, якая толькі пачынае сваю кар'еру на сцэне. Што датычыцца магчымасці выдання запісаў гэтай праграмы, казаць пра гэта пакуль што рана. Калі гэта адбудзецца, дык толькі восенню. Таму што калектыў «WZ-Orkiestra» і я заняты рэалізацыяй некалькіх буйных міжнародных праектаў. Але спачатку мы хацелі б прэзентаваць беларускім слухачам першую частку вялікай праграмы на вершы Рыгора Барадуліна. У Польшчы нам прапанавана праца над сумеснымі праектамі з беластоцкім ансамблем «Чарамшына». Мы сумесна будзем выконваць песні з рэпертуару групы «WZ-Orkiestra» і песні, якія я пісаў для групы «KRIWI». Акрамя таго, пачынаецца праца над сумесным польска-беларускім праектам з квартэтам «Ёрге». Музыканты квартэта — лідары польскай этна-музыкі. Калі гэты праект стане рэальнасцю, то магчымасць прэзентаваць яго адкрываецца не толькі ў Беларусі і ў Польшчы, але і ў іншых еўрапейскіх краінах.

*Анатоль Мяльгуй*
*2004 год*

# У Вольнай студыі



Папулярны выканаўца і музыка Зміцер Вайцюшкевіч сольнымі праектамі займаецца з 2000 года, выпусціў каля дзясятка ўласных альбомаў. Валодаючы ўніверсальным голасам, ён выконвае і шансон, і народныя песні, і джаз. Больш за ўсё на свеце Зміцер цэніць уласную свабоду, але лічыць сваім абавязкам нагадваць пра свабоду іншых.

*— Зміцер, беларускія творцы — у розных галінах мастацтва — нярэдка наракаюць на адсутнасць свабоды творчасці. А вось ты і твая творчасць, як мне падаецца, якраз і ёсць прыклад гэтай самай свабоды. Ты нідзе не служыш, пішаш песні і даеш канцэрты па ўсёй Беларусі і за мяжой. Ці адчуваеш ты сябе насамрэч свабодным?*

— Пытанне, на першы погляд, простае. Вядома ж, можна сказаць, што я свабодны чалавек, бо нідзе не служу. Я — вольны артыст, і вельмі рады, што выбраў такую прафесію. Але прафесія не гарантуе свабоды. Артыст можа працаваць, прыкладам, у філармоніі і быць залежным. Быў час, калі і я быў занесены ў гэтак званыя «чорныя спісы». А для некаторых чыноўнікаў спісы гэтыя і да гэтай пары існуюць, таму часам па-ранейшаму складана ладзіць канцэрты. Але ўсё ж не параўнаеш сітуацыю з тою, якая была. Сёння ўжо нікому не растлумачыш, як было цяжка ладзіць канцэрты гады два-тры назад… І сённяшняя адносная свабода падобная да хадзьбы па лязе брытвы: крок улева, крок управа — і трапіш у пастку і мецьмеш праблемы. Але, прызнаюся, мне падабаецца так балансаваць. У мяне імідж «лагоднага артыста»… Я заўсёды казаў, што канцэрт у нейкіх сховішчах, на кватэрах — гэта ўсё вельмі прыгожа. І калі мы будзем жыць у вольнай краіне, андэграўндныя канцэрты не павінны знікнуць, на іх — непаўторная атмасфера. Але сёння для беларускага грамадства патрэбныя канцэрты і зімой, і летам, і ўвесну, каб узнікала атмасфера рэспекту

да беларускай культуры, нягледзячы на перашкоды, якія былі і цяпер з'яўляюцца час ад часу.

*— Дык як дамагчыся ўласнай свабоды ў несвабоднай краіне?*

— Трэба, па-першае, любіць сваю справу. Я не крычу, што я свабодны, я проста раблю праграму ці альбом у тым музычным напрамку, якога для мяне раней не існавала. Так, я стараюся быць свабодным, я хачу быць свабодным да канца. Я стараюся не гуляць у такія гульні, не залазіць у такія пасткі, з якіх немагчыма пасля вылезці. Мне больш падабаюцца творчыя гульні і авантуры.

*— У цябе адбываецца безліч канцэртаў па ўсёй Беларусі. А як у цябе ідзе праца над новымі песнямі і праграмамі? Ці патрэбен для гэтага нейкі тайм-аўт, ці новыя мелодыі прыходзяць па дарозе дзе-небудзь паміж Мар'інай Горкай і Ганцавічамі?*

— Мелодыі прыходзяць па-рознаму. І не толькі мелодыі. Я пачаў пісаць нейкія словы — тэксты для перадачы «Простыя словы», якую я вяду на «Аўтарадыё». Штотыдзень я апісваю свае падарожжы ці проста аналізую жыццё. І гэты аналіз, часам банальны, прымітыўны, прыводзіць мяне да ацэнкі самога значэння слова. Таму ў жніўні я акурат і ўзяў тайм-аўт, каб папрацаваць над двума праектамі. І будзе яшчэ трэці праект — альбом на вершы шведскіх паэтаў у перакладах Алеся Разанава, Рыгора Барадуліна, Змітра Плакса. Гэта вельмі цікавая і вельмі складаная праца, яна цягнецца ўжо тры гады. У выніку мае атрымацца пэўнае чараўніцтва, таму што большасць шведскіх вершаў не маюць акрэсленага рытму.

*— Я даўно заўважыў адну рэч. Калі ў незнаёмай аўдыторыі невядомы для гэтай аўдыторыі выступоўца бярэ ў рукі гітару, — зала тут жа перанастройваецца на павышаную хвалю ўвагі. З чым гэта звязана, як ты лічыш?*

— Я магу толькі пра сябе сказаць і пра тое, што бачу са сцэны. Калі гучаць адзін ці два інструменты, застаецца вельмі шмат вольнага паветра, музыка не перашкаджае чуць словы. Я не супраць перкусій ці нейкіх, як кажуць палякі, «пшэшкаджаек», але менавіта гэтыя «перашкаджайкі» не даюць слухачам звярнуць увагу на словы. Сучасныя людзі развучыліся гаварыць адзін з адным. «Як справы?» — «Нармальна»; «Прывітанне». — «Прывітанне». І ўсё. Ты пытаешся, як я жыву? Дык пачакай, паслухай, як я жыву, калі гэта табе цікава. Для чалавека важна

ў зале, за сталом, пры вогнішчы — дзе заўгодна — пачуць адказы на пытанні, якія ён задае сам сабе кожны дзень. Мы ўсе кожную раніцу, кожны Божы дзень, цвярозыя ці не вельмі цвярозыя, вясёлыя ці сумныя, задаём сабе адныя і тыя самыя пытанні: навошта тое адбылося, хто я такі, што я раблю тут, чаму ў нас такая краіна, ці патрэбная нам свая мова і г. д.

*— То-бок чалавек з гітарай нагадвае старажытнага гусляра, які пад музыку прамаўляў нейкія актуальныя для свайго часу рэчы?*

— Мне падабаецца гэтае параўнанне, яно прыгожае. Так, гусляр, які спявае, — гэта і паэт, і музыка, які можа «трымаць» аўдыторыю. А гэта вялікае мастацтва, якому, на жаль, не вучаць.

*— Як тут не згадаць купалаўскага Гусляра, якому князь гаворыць: «Запяеш да душы, дасі ўцеху гасцям — поўны гуслі насыплю дукатаў…» Ці ставіла цябе жыццё перад падобным выбарам?*

— Падобны выбар існуе цягам усяго жыцця музыкі. Магчыма, мне ў нейкім сэнсе больш пашчасціла на добрых людзей, якія дапамагаюць і не патрабуюць за гэта нейкай платы. А так у жыцці кожнага творчага чалавека бываюць моманты, калі трэба не жыць, а выжываць. І тады з'яўляюцца прапановы, ад якіх вельмі складана, а то і немагчыма адмовіцца. Гэта вельмі добрая навука. І ўсё ж ніколі не варта звязваць сваё канцэртнае жыццё з людзьмі няшчырымі. Матэрыяльны бок не мае тут аніякага значэння. Ты ўсё роўна мусіш сканаваць сітуацыю. Так што жыццё ставіла мяне перад такім выбарам, дзякуй Богу, не шмат разоў. А на добрых людзей мне шанцавала болей.

*— А «ў падзямелле глянь, князь…» Ці павінен пясняр задаваць уладару падобныя пытанні?*

— Увесь час пясняр у той ці іншай форме мусіць нагадваць грамадству, а значыць, і ўладзе, пра пэўныя праблемы. Аднак я не хачу трактаваць сябе гэткім рупарам для нагадвання. Я хачу спяваць па-беларуску, хачу спяваць на вершы розных паэтаў, і гэтага для мяне дастаткова. Ты нагадваеш людзям пра беларускую песню, яны падыходзяць пасля канцэрта і кажуць: «Да, Дима, проблемы у нас с белорусской песней, надо её поддерживать. Как стыдно, что мы не разговариваем по-белорусскому…» І гэтак дзесяцігоддзі цягнуцца — нашы людзі лянівыя. Таму нагадваць варта. Іншая справа, што артыст сам сабе мусіць выбраць форму нагадвання.

*— Зноў жа, ты выступаеш супраць смяротнага пакарання. Дык што, серыйныя забойцы і гвалтаўнікі непаўналетніх павінны жыць, ды яшчэ на ўтрыманні грамадства?*

— Грамадства павінна за свае грошы іх утрымліваць, таму што для некаторых пажыццёва зняволеных жыццё — пакута. І, прыкладам, забойца павінен усвядоміць гэтую доўгую пакуту. Дзяржава і грамадства, па-першае, мусяць быць больш гуманнымі, а па-другое, больш шырока глядзець на гэтую тэму. Паўтараюся, жыццё бывае страшнейшым за смяротную кару.

*— Уяві сябе суддзёй на Нюрнбергскім працэсе. Ты змог бы дараваць жыццё Гімлеру ці Гітлеру?*

— Я не хацеў бы, каб мяне так трактавалі. Я не суддзя, я выбраў сабе іншую прафесію. Памятаю адзін з фільмаў Кіслеўскага, дзе расказваецца гісторыя суддзі, які абвясціў смяротны прысуд. Разумееш, гэта больш важна для самога суддзі — пакінуць чалавеку жыццё. У судовай практыцы здараюцца памылкі, нявіннага чалавека могуць асудзіць на смерць. Таму, мне здаецца, мы павінны бараніць не толькі падсудных, але і нашых суддзяў, і нашых адвакатаў.

*— Тэлеканал «Белсат» паказаў у запісе твой канцэрт у Кракаве, які адбываўся на адкрытай пляцоўцы, ішоў дождж... Пры якіх умовах ты можаш адмяніць свой выступ?*

— Ну, з-за дажджу я выступ ніколі не адмяню. Артыст выступае ў розных месцах і пры розных абставінах. Кракаў — вельмі прыгожы горад, Варшава — прыгожая, шмат дзівосных гарадоў у Еўропе. Але я хачу выступаць часцей менавіта ў Беларусі. З беларускімі людзьмі ў правінцыі мала хто размаўляе па-беларуску са сцэны. Народныя артысты, якія сёння ездзяць па Беларусі, чамусьці забываюцца на бабуль, якія скончылі беларускія школы, на старшынь калгасаў, на нашых добрых вясковых людзей, якія хочуць чуць беларускую песню. Канцэрты на жніве таксама патрэбныя, але людзі хочуць чуць беларускае слова не сезонна, а круглы год, і не толькі на дажынках, а ў розных вёсках, гарадах і мястэчках, у вялікіх і малых залах, на палетках і ў вайсковых частках. Вайсковыя часткі — асобная тэма. Каб у мяне была такая магчымасць, я аб’ехаў бы ўсе вайсковыя часткі ў Беларусі.

*Гутарыў Міхась Скобла*

# Зміцер Вайцюшкевіч: па дарозе з Віцебска ў Токіа



У Віцебскай абласной філармоніі сёння ўвечары прайшоў канцэрт вядомага беларускага барда Змітра Вайцюшкевіча і «WZ-Orkiestra». І хоць публікі сабралася няшмат, чалавек сто пяцьдзясят, зала вельмі цёпла сустрэла экс-саліста легендарных гуртоў «Палац» і «KRIWI».

На пачатку канцэрта Вайцюшкевіч прызнаўся: «Я не дзіўлюся, што людзей прыйшло не супершмат. Але я даўно хацеў трапіць у Віцебск, увогуле выехаць кудынебудзь з горада-героя Мінска. Хочацца, каб беларуская песня была і па-за межамі сталіцы». Яшчэ спявак не ўстрымаўся, каб не пахваліцца, што неўзабаве адправіцца са сваім новым праектам у Японію, дзе дасць некалькі канцэртаў. «Паслязаўтра я буду ў Токіа, затым — у Кіёта», — паведаміў музыкант.

Для віцебскіх слухачоў Вайцюшкевіч цягам паўтары гадзіны спяваў кампазіцыі са сваіх ранейшых альбомаў на вершы Уладзіміра Някляева, Алеся Камоцкага, Уладзіміра Маякоўскага, Рыгора Барадуліна, а таксама песню «Суседка» з апошняга, дзясятага ў творчасці музыканта, альбома «Лірыка» на вершы Генадзя Бураўкіна. А няклеяўскія «Хрызантэмы» сталі ў Віцебску прэм’ерай. Падчас канцэрта Зміцер увесь час жартаваў з публікай. Прадстаўляючы песню «Пані ў гадах», Вайцюшкевіч супакоіў самых маладзенькіх слухачак: «Дзевачкі, не перажывайце, у вас гэта ўсё яшчэ наперадзе». Перад тым, як праспяваць «Мірныя людзі» на верш Андрэя Хадановіча, бард пацікавіўся: «Ці ёсць тут хто з віцебскай ідэалогіі?» Песенька гэтая пра асноўнае жаданне беларуса — «каб толькі не было вайны, а там хай будзе, як будзе…» А вось песеньку з немудрагелістым тэкстам «Чувіха клёвая гуляла з Лёваю, а сёння прашвырнулася са мной», па словах Змітра, у маладосці любілі спяваць нашыя класікі — Барадулін, Бураўкін і, нібыта, Караткевіч.

Па сваёй звычцы на развітанне Вайцюшкевіч выканаў «Бывайце здаровы». Але зала, стоячы, доўга не адпускала спевака, і ён пад гучныя апладысменты праспяваў яшчэ «Я нарадзіўся тут». «Дзякуй вам за тое, што вы так паважна прынялі мяне, і гэты свой першы канцэрт у

Віцебску я запомню», — сказаў бард. Як падалося, гэта быў не проста дзяжурны камплімент, а словы ад сэрца.

Канцэрт З. Вайцюшкевіча ў абласной філармоніі арганізавала творчая група *No Logo Promo.*

*Яна Ільіна*
*«Культура»*

## У Наваполацкай філіі ТБМ

21 лютага, у Міжнародны дзень роднай мовы, у бібліятэцы імя Я. Коласа ў Наваполацку адбылася сустрэча з музыкам Змітром Вайцюшкевічам. Канцэрт арганізавалі сябры Наваполацкай гарадской арганізацыі «Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны».

Бібліятэчная зала ледзь змясціла ў сабе ўсіх аматараў творчасці Змітра Вайцюшкевіча, які праспяваў песні на словы Г. Бураўкіна, У. Някляева, Р. Барадуліна, шведскіх і японскіх паэтаў. Паміж цудоўнымі спевамі музыка распавёў пра свае вандроўкі з канцэртамі па свеце, аднак сп. Зміцер зазначыў, што значна большае задавальненне яму прыносяць творчыя сустрэчы на сваёй Радзіме.

Між іншым, апошні тур па ўсёй Віцебскай вобласці адбыўся дзякуючы ініцыятыве «Будзьма». Музыка пры гэтым не губляе надзею, што некалі адбудзецца і вялікі канцэртны тур па ўсёй Беларусі.

Падчас сустрэчы адбываўся конкурс на лепшае пытанне, прызы — дыскі Змітра Вайцюшкевіча — былі прадстаўлены ТБМ. Слухачы даведаліся пра хуткае павелічэнне сямейства Вайцюшкевічаў, пра бараду — як сімвал барацьбы з гламурам на музычных пляцоўках Беларусі. Шматлікія аматары спеваў сп. Змітра набіваліся да яго ў госці на разрэкламаваны хутар. Музыка абяцаў усіх прыняць, асабліва ў час вясновых прац на раллі.

Сустрэча са Змітром Вайцюшкевічам у свята роднай мовы стала доказам еўрапейскасці і папулярнасці беларускай культуры, прынесла шмат прыемных пачуццяў і ўсмешак усім прысутным.

***02.2009***

## Канцэрт у Бабруйску

Музыка выступаў пад акампанемент гітары. Песні ў большасці сваёй былі на беларускай мове. Але час ад часу ён спяваў рускамоўныя, польскамоўныя і японскамоўныя песні, а адзін з куплетаў песні «Бывайце здаровы, жывіце багата…» спяваўся па-італьянску. Паміж песнямі спадар Вайцюшкевіч распавядаў пра свае замежныя канцэрты, пра ўражанні, якія засталіся ад наведвання іншых краін, пра гісторыю сваёй творчасці… Тэматыка песень, якія выконваліся на канцэрце, была лірычнай — аб жыцці, аб каханні…

На наступны дзень спявак выступаў у Мінску, а праз некалькі дзён — у Францыі.

*03.2009*

## Творчая сустрэча ў Гродне

Сустрэча са спеваком прайшла ў межах агульнабеларускай кампаніі «Будзьма!». На сустрэчы можна было таксама пазнаёміцца з новымі музычнымі і кніжнымі навінкамі. Арганізатары прыезду Змітра Вайцюшкевіча падрыхтавалі таксама разнастайныя конкурсы, прызы і падарункі. Сам музыка сказаў: «Гэта быў нармальны канцэрт, сустрэча сяброў і землякоў. Я ж сам гарадзенскі, з Бярозаўкі!»

Некаторым гродзенцам, збольшага студэнтам ГРДУ імя Я. Купалы, пашчасціла пачуць выступ Вайцюшкевіча летась на «Днях шведскай культуры». Сам музыка ўзгадвае, што з сапраўдным канцэртам апошні раз быў у Гродне год дзесяць таму, яшчэ з «Палацам». Гэтым разам пасля Гродна музыку чакаюць Беласток, Варшава, Кракаў.

Творчая сустрэча адбылася ў памяшканні Таварыства беларускай школы (вул. Будзённага, 48а-44).

## Над шырокім Дняпром

Першы канцэрт спевака ў Магілёве адбываўся ў малой зале гарадскога Дома культуры 29 сакавіка і сабраў амаль поўную залу. У арганізацыі мерапрыемства прынялі ўдзел Магілёўская філія Таварыства беларускай мовы і Магілёўскі гарадскі цэнтр культуры і адпачынку.

— Мармуровыя сцены, крэслы з багатай абіўкай — усё гэта паставіла пячатку паважнасці на атмасферу ў зале, і публіка рэагавала на мяне

стрымана, толькі слухала. Але напрыканцы яна не вытрымала і дала волю сваім эмоцыям, спявала і танцавала разам са мной, — падзяліўся ўражаннямі ад канцэрта Зміцер Вайцюшкевіч.

Падчас выступу прагучалі песні на беларускай, польскай, японскай мовах з розных альбомаў Змітра Вайцюшкевіча. Пасля музычнай часткі была арганізавана сустрэча са спеваком. Цягам яе ўсе прысутныя маглі задаць пытанні свайму ўлюбёнаму выканаўцу і пачуць на іх адказы, паведамляе «Будзьма».

## У горадзе Радзівілаў

Выступ З. Вайцюшкевіча ў зале Нясвіжскай бібліятэкі адбыўся ў канцы ліпеня 2009 года.

— Гэта была своеасаблівая арт-тэрапія, — распавяла нясвіжская паэтка Наталля Бордак. — Слухачы далучаліся да імправізацый, пляскалі ў далоні, пасля канцэрта шчыра ўсміхаліся адзін аднаму. Але ж загадчыцы бібліятэкі далі строгую вымову. «Пра што ён спяваў?» — дапытваўся намеснік па ідэалогіі. «Ну, пра ваўкоў, пра пеўняў, пра каханне, — пацiскала плячыма загадчыца бібліятэкі. — А што?»

У жніўні Зміцер зноў прыехаў у Нясвіж са сваёй сям’ёй. Хор пад кіраўніцтвам Галіны Казіміроўскай выступаў у Нясвіжскім фарным касцёле. У хоры спяваюць прадстаўнікі розных прафесій: эканамісты, праграмісты і інш. У доўгіх шэрых світках, з нотамі ў руках, яны трымаліся ўрачыста і ўзнёсла. Пакуль спадарыня Галіна кіравала хорам, Зміцер трымаў на руках маленькага Язэпа.

## Спяваем з дзецьмі

Канцэрты спевака Змітра Вайцюшкевіча адбыліся 30 чэрвеня ў Крупскім гістарычна-краязнаўчым музеі і дзіцячым летніку мястэчка Бобр.

«Мне падабаецца выступаць для дзяцей, спяваць ім пра звяроў, пра лес. Яны добра ўспрымаюць і разумеюць гумар, стараюцца зразумець усе словы».

## «Балады»



Калі артыст быў удзельнікам славутага гурту «KRIWI», мы прызвычаіліся да ягоных стромых еўрапейскіх тураў, таму я не здзівіўся, што на прэзентацыю альбома «Балады» мне ўпершыню давялося трапіць восенню 2002 года ў Польшчы, адкуль Зміцер скіраваўся ў Швецыю, Нямеччыну і толькі потым — у Беларусь.

Публіка пасля канцэрта выходзіла, вельмі характэрна абмяркоўваючы выступ Змітра Вайцюшкевіча: «Taki nudny? Ale jaki fajny!»

Так, «Балады» — вельмі смелы і вельмі ўнікальны эксперымент на беларускім музычным рынку. Спявак, кампазітар і мультыінструменталіст З. Вайцюшкевіч рызыкнуў заваёўваць публіку не моднымі рытмамі і хітовай пралічанасцю канструкцый і твораў, а глыбінёй і высокім прафесіяналізмам.

Вайцюшкевіч пераканаў, што не ўсё страчана для густоўнага прадукту, бо нават айчынныя прэзентацыі праходзілі зусім не ў пустых залах, а музычны кіёск на канцэртах зазнаваў даўно забытае паняцце — чарга. Што так прываблівае публіку ў альбоме «Балады»?

Бадай, пры жаданні тут можна вылучыць і своеасаблівыя хіты, хоць яны зусім не падобныя на ўлюбёнцаў хіт-FM-эфіру. Да такіх я залучыў бы «Зялёны дубочак», «Не сячы, мой татулька». Іх ведаюць усе — ад фанатаў экстрэмальнага дэз-металу да прыхільнікаў опернага мастацтва. Яны ўвайшлі ў зборнік «Hard Life-HeavymusikII» у версіі знакамітага рок-гурту «Зьніч», а другую выконвалі ў розных варыянтах і славуты оперны тэнар Міхась Забэйда-Суміцкі, і лідар гурту «Троіца» Іван Кірчук. Але Змітру Вайцюшкевічу ўдалося разгарнуць новыя таямніцы энергетыкі нават у вядомых творах. Дый у самой тэкставай рэдакцыі тут упершыню адчуваецца выразная прысутнасць яцвяжскіх дыялектаў беларускай мовы:

Зэлэный дубочак на бок похіліўся.
Молады козачок, чого зажурыўся?

Чы волы прысталы, чы з дорожкі збіўся?
(Ці маскалі клічуць? Ці ў дзеўку ўлюбіўся?)

А вось апошні ўсходні варыянт развіцця сюжэту, які ёсць у Забэйды-Суміцкага, у Вайцюшкевіча адсутнічае, затое з’явілася нешта новае:

Зайшоў да карчомкі, водочкі напіўся,
Там люды стоялы, мяне осуждалы,
Ой, судныя люды. Што вы судаетэ:
Што ў мяне на сэрцы, то вы не знаетэ.

Па сутнасці, гэта ўжо зусім новая песня, з іншай вобразна-мастацкай палітрай і нават сюжэтам.

Зрэшты, Зміцер пабудаваў такую мудрагелістую структуру альбома, што ніводзін твор нельга разглядаць паасобку, што тая «Казка» без «Заходу», што тое «Гора» без «Труны», «Журавы» без «Паветра». Назвы баладаў чаргуюцца з назвамі сэнсава-настраёвых інструментальных інтрадукцыяў, якія і дадаюць часам звычайнай фалькорнай песні драматызму сюжэту і канцэптуальнасці баладнай філасафічнасці. Сюжэт, драматургія, тэксты. Што ж музыка?

Бадай, Вайцюшкевіч і ягоныя калегі з «WZ-Orkiestra» засталіся ў гэтым альбоме ў той жа плыні, што і «KRIWI» — артыст захаваў вернасць абранаму мастацкаму сродку ды ідэйнай крыніцы — беларускаму фальклору, але стылістычна пашыбаваў у такія сферы непазнанага, што параўнаць яго можна толькі з Горанам Брэгавічам, які сербскім фальклорам у сваёй інтэрпрэтацыі скарыў усю Еўропу.

Як і Брэгавіч (таксама, дарэчы, гадаванец славутага гурту «Bialo Dugme»), Вайцюшкевіч смела выкарыстоўвае фальклорны матэрыял у сваіх кампазіцыях, таму твор «Даніла» ў гэтым альбоме падаецца цалкам як народны, а «Журавы» — музыка Змітра, словы народныя. Аўтар тонка пільнуе мяжу, калі публіка схільная абвінавачваць таго ж Брэгавіча ў плагіяце сербскага фальклору пад сваім імем, а Кірчука — у залішняй смеласці выдаваць свае асабістыя фантазіі як фальклор. Вайцюшкевіч, здаецца, цвяроза разгаліноўвае свае творы ў рэчышчы фолк-рока і класічную народную спадчыну.

*Вітаўт Мартыненка*
*«Голас Радзімы». № 41, 09.10, Мінск*

# Цацачная крама



Першы айчынны праект, разлічаны як на дзяцей, так і на дарослых, з’явіўся ўжо ў новым стагоддзі. Задума зрабіць падобны альбом паўстала яшчэ падчас працы Вайцюшкевіча ў «KRIWI». У 2000 г. зусім выпадкова Тодар пазнаёміўся з вядомым паэтам Леанідам Дранько-Майсюком — было гэта ў сценах БТ на здымках адной з тэлепраграм. У Тодара было жаданне адысці ад апрацоўкі фальклорных песень, у Дранько-Майсюка — зрабіць музычна-драматычны твор.

Звязка такіх двух розных людзей дала плён. Ужо праз некалькі месяцаў пасля тае сустрэчы ў студыі «Беларускіх песняроў» пачаўся запіс. Тодар да гэтага часу сышоў з «KRIWI», і з пабочнага праекта «Цацачная крама» пераўтварылася ў яго дэбютную сольную працу. Са складам музыкантаў праблем не было: у запісе ўзялі ўдзел скрыпач «KRIWI» Алег Пузыня, студэнт Інстытута культуры Алег Івановіч (гітара), на трамбоне падыграў Зміцер Бударын з аркестра Фінберга, на кларнеце ды флейце граў сам Тодар. «Песня пра няшчаснага казла» выклікала ў яго асацыяцыі з усім вядомай «Калыханкай», таму ён запрасіў яшчэ і Ядвігу Паплаўскую. Ейны голас можна пачуць у «Казле» і ў абедзвюх песнях гандляра.

«Цацачная крама» стала, бадай, першай удалай спробай спалучыць паэзію, тэатр і музыку. 10 незабыўных вобразаў-песень (няшкодны Воўк, баязлівы Барсук, незалежны Зубр і г. д.) радуюць дзетак ды прымушаюць задумацца дарослых, бо «цацкі не абы-якія, не драўляныя і пустыя, не гліняныя, глухія, а ўсе як ёсць жывыя». Разам з тым «ЦК» выяўляецца, як зборнік музычных стыляў — тут ёсць вальс, раманс, полька, элементы джазу ды фолку, і нават дыска ў стылі «Army of Lovers». Такога пярэстага спалучэння не было нават у суперразнастайным «Народным альбоме».

Спявак выконвае ролю гандляра, што прапаноўвае набыць тую ці іншую цацку, а потым сам у яе і пераўтвараецца. Прэзентаваў, дарэчы, гэтую праграму Тодар на тэатральным фэсце ў Пархове. Да жалю, ідэі пастаноўкі «Цацачнай крамы» на сцэне Купалаўскага тэатра і на Вольнай сцэне так і засталіся нерэалізаваныя. Але працяг праект усё ж атрымаў: праз год, калі група Вайцюшкевіча набыла назоў «WZ-Orkiestra», «Цацачная крама» была выдадзеная ў Польшчы ўжо на польскай мове. А ў 2003 г. Вайцюшкевіч, пасля фолкавага альбома «Балады», здзівіць музычную грамадскасць рускамоўнай праграмай на вершы Маякоўскага. «WZ-Orkiestra» адыдзе ад фолкавых эксперыментаў і зойме нішу гэткага «гарадскога ансамбля».

*Сяргей Будкін*

# «Паравіны году»



Еўропа 20-х гадоў мінулага стагоддзя. Кароткі міжваенны перапынак, кароткі рывок эканомікі, мастацтва… У модзе факстрот, неаімпрэсіянізм, мадэрнізм. Пра кастрычніцкі пераварот у Расіі ведалі хіба з-за наплыву нова-эмігрантаў. Імёны і творчасць такіх кампазітараў, як Эрык Саці, Марыс Равэль, Клод Дэбюсі, пакінулі нязгаснае святло ў душах многіх наступных пакаленняў і паўплывалі на шырэйшы спектр жанраў і мастацтваў. Напрыклад, таго ж Эрыка Саці ведае нават рок-пакаленне праз інтэрпрэтацыі ягоных твораў «Гімнапедэя» брытанскім гуртом «Sky» у 80-я гады. Вось і Зміцер Вайцюшкевіч…

У дадзеным ягоным альбоме якраз і адчуваецца дух тае эпохі. Нават больш за тое: і назвай сваёй — «Паравіны году» ён сягае да вызначальных традыцый тых часоў або найбольш уплывовых папярэднікаў (прыгадайце славуты цыкл Клода Дэбюсі «Паравіны году»). З шырокай сольнай дыскаграфіі былога фронтмэна гурту «KRIWI» Змітра Вайцюшкевіча гэты альбом будзе, бадай, лепшым паказнікам нястомнага руху наперад у развіцці артыста, бо ён быў прыняты публікаю нават з большым энтузіязмам, чым ягоныя «Балады». Песня «Прыйдзі, мой каханы», напрыклад, імкліва скарыла ўсе беларускія хіт-парады на тэлевізійных каналах і FM-радыёстанцыях яшчэ перад выхадам кружэлкі ў свет. Але сам Зміцер Вайцюшкевіч 27 снежня 2003 года ў сваім інтэрв’ю «RadioPolonia» Яраславу Іванюку выказаўся так пра дыск: «Нічога неардынарнага ў гэтым праекце няма. Гэта проста наша традыцыя — меладычная, паэтычная, простая для слыху».

Альбом «Паравіны году» цалкам базаваны на паэзіі славутага беларускага барда Алеся Камоцкага, і, па шчырасці, папярэднія звесткі пра яго збянтэжылі шмат каго з пільных даследчыкаў-музыколагаў.

Дзве такія каларытныя і розныя фігуры ў адной абгортцы — што гэта атрымаецца?

Атрымалася супер! Звяртанне Алеся Камоцкага да лірыкі апынулася натхняльным адкрыццём для эстэта Вайцюшкевіча. Гранічна ідэальнае спалучэнне выйшла, калі ажно першая спроба пазнаёміцца з вынікам

такога, здавалася, дзіўнага творчага саюза натыкаецца на немагчымасць адарвацца, і ты яшчэ ў краме слухаеш сакавітыя гукі «Piano», вірлівае танга «Пошукі адказаў», настальгію рамanса «Ты прымусіла пецць».

Асабліва неверагодныя адкрыцці спасцігаеш тут, натыкаючыся на песні, добра знаёмыя. Напрыклад, «Раскажы мне пра дождж», чароўнай мелодыяй якой сам Алесь Камоцкі яшчэ дзесяць гадоў перад тым, у верасні 1993 года скарыў хіт-парад радыё «Liberty» (Мюнхен), адзіны на той час беларускі музычны плебісцыт. Не верылася нават, што гэты эвергрын здольны загучаць лепш, але ж сталася. Мелодыя і тут пазнаецца лёгка, але ў Змітра Вайцюшкевіча праз віртуозныя аранжыроўкі чуецца зусім іншая музыка. Вось бы Змітру шчэ прыйшло натхненне пераспяваць мега-хіт Камоцкага «Гаспадыня ранішняй зоркі»!

Дарэчы, аранжыроўкамі ў альбоме «Паравіны году» займаліся адмыслоўцы, з якімі Зміцер цяпер працуе. Як і папярэднія альбомы Змітра Вайцюшкевіча, «Паравіны году» запісваліся ў студыі «Беларускія песняры» (з лютага па жнівень 2003 года). Гукарэжысёры — Барыс Далгіх і Сяргей Раінчык.

*Вітаўт Мартыненка*
*«Bielarus». № 491, 15 снежня 2003 года, New York*

# «Гаспадыня Зорнага палаца – Мілосць»



Два месяцы таму выйшаў новы музычны праект Тодара. Яго распаўсюд прыйшоўся на 70-годдзе народнага паэта Беларусі Рыгора Іванавіча Барадуліна, якога спявак вельмі шануе. На дыску запісаны голас самога паэта, які метафарызуе кожны лірычны твор.

Колькі беларускіх жанчын і дзяўчат будуць шчаслівыя, пазнаўшы саміх сябе ў вобразах найпенкнейшых прыгажунь. Арыстакратка кахання, Актрыса, Гаспадыня Зорнага палаца, — яны заслугоўваюць замілавання і пакланення, вернасці сваёй непаўторнай прыгажосці. А кагосьці жывіць і натхняе мара аб ёй, яшчэ не знойдзенай, доўгачаканай, вытанчанай і далікатнай, якую пашле лёс. Той, з якой спаткаць першую зорку на небе, з якой дзяліць шчасце, радасць і гора, ісці па жыцці, усё перамагаючы. Таямнічнасць, мройнасць, нявыказанасць прысутнічае ў словах і нотах.

Здольны той жыццём рызыкаваць,
Хто прыйшоў у гэты свет, каб закахацца,
Я прашуся ў парабкі да Вас,
Гаспадыня Зорнага палаца.

«Так адбылося, — распавёў Зміцер Вайцюшкевіч, — што да нашага папярэдняга альбома "Паравіны году" дачыніўся Рыгор Іванавіч і напісаў уступ. Мы пазнаёміліся з ім падчас працы, і, зразумела, з’явілася патрэба напісаць новы альбом на вершы дзядзькі Рыгора».

Збор спеваў адухоўлены ўзнёсласцю, адзначаны артыстызмам і густам. Аўтар «Цацачнай крамы», «Паравінаў году» пераўзышоў сябе ранейшага, паглыбіўшыся ў творчасць старэйшыны беларускай паэзіі.

«Не ведаю і не бяруся гадаць, хто ў паравозе машыніст, хто памочнік машыніста, — напісаў у прадмове У. Някляеў. — Але каб паравоз кахання засвістаў і памчаў ад станцыі да станцыі, машыністу з памочнікам,

аўтарам музыкі і вершаў давялося справіцца з дзвюма процілеглымі задачамі: Рыгору Барадуліну стаць прасцейшым за Рыгора Барадуліна, а Змітру Вайцюшкевічу — складанейшым за Вайцюшкевіча. На шчасце, ніхто з іх са сваімі задачамі дарэшты не справіўся, таму ў вершах песень няцяжка ўгадаць аўтара кніг "Рум", "Нагбом", а ў музыцы — аўтара "Паравінаў году". І менавіта тое, што, зрабіўшы крок адзін аднаму насустрач, кожны з іх застаўся самім сабой, абумовіла арганічную цэласнасць іх сумеснай працы».

«Канешне, я ведаў паэзію Рыгора Іванавіча і да гэтага, — гаворыць Зміцер Вайцюшкевіч. — Цяпер я зразумеў яго як асобу, і таму ён застаецца для мяне суперцікавейшым чалавекам. Мне выпаў шанец спрычыніцца да яго духоўных здабыткаў, адчуць уплыў барадулінскага светапогляду. Рыгор Іванавіч даў мне стос вершаў, я выбраў трынаццаць лірычных твораў і паклаў на музыку. Чатыры з іх — жаночыя вобразы, іншыя — гэта мары, мроі, і яшчэ адна песня пра надыход Новага года. Мы сустракаліся з дзядзькам Рыгорам, размаўлялі, хадзілі па горадзе. Ён распавядаў шмат цікавага пра сваіх лепшых сяброў Васіля Быкава і Уладзіміра Караткевіча. Для мяне больш важны дзядзька Рыгор як чалавек, які можа служыць добрым прыкладам для старых і для маладых, ён заўсёды бачыць светлыя бакі ў жыцці, вучыць не губляць надзею, змагацца за лепшае, поўны добрага гумару і аптымізму. Ён натхняе сваімі вершамі, знаходзіць непаўторныя вобразы. Вельмі важна, як ён працуе з мовай, захоўвае жывое беларускае слова і нараджае новыя словы, надае мастацкі каларыт вушацкай гаворцы».

У кожнага чытача сваё прачытанне вершаў народнага паэта, ёсць свае любімыя старонкі яго паэзіі. Але большасць землякоў удзячныя народнаму паэту за дабрыню, лагоднасць, замілаванне прыродай, казачную пяшчоту яго твораў, за жаданне зразумець і быць верным слову Госпада.

*Эла Дзвінская*
*«Моторостроитель», люты 2005 года*

# Танга з ружай



Выканаўцу Вайцюшкевічу заўсёды было цікавае не простае перакладанне вершаў на музыку, а шчыльнае паглыбленне ў паэтычную свядомасць вершатворцаў. Праспяваныя ўжо былі Леанід Дранько-Майсюк, Алесь Камоцкі, Рыгор Барадулін, Уладзімір Маякоўскі. У гэтую вясну прыйшла чарга Уладзіміра Някляева…

Уладзімір Някляеў адносіцца да так званых «паэтаў-сямідзясятнікаў», сярод якіх таксама вылучаюць Алеся Разанава, Яўгенію Янішчыц і іншых. У Вайцюшкевіча атрымалася музычна ўвасобіць досыць разнастайную тэматыку вершаў паэта, увасобіць і аб’яднаць у адно «Танга з ружай». Драматычныя някляеўскія вобразы расстанняў, адзіноты, састарэлых успамінаў, распаведзеныя пад дзіўныя аранжыроўкі з баянам, кантрабасам і скрыпкамі, песцяць у душы слухача ўсхваляванне, і дыхаецца па-новаму…

Можна сказаць, што ўвесь альбом — гэта скончаны вобраз тэмпераментнага кавалера з ружачкай у зубах, «стамлёнага любоўнай драмай». Але разам з тым песні разнастайныя. З гэтых песень можна смела пачаць вывучаць Вайцюшкевіча, калі па нейкім збегу абставінаў менавіта «Танга» стане для кагосьці першым знаёмствам з яго творчасцю.

У гэтых песнях можна шукаць і чаканага працягу ўлюбёных Змітром і яго сфармаванай публікай шансонных матываў. Цікава, што пэўны слухач знойдзецца на кожную з гэтых шансонных кампазіцый Змітра, і гэта вельмі добра, таму што і праспявана ўсё на вершы Някляева (асветніцкая дзейнасць, вялікі дзякуй за яе), і выканана ўсё якасна (рэдкасны дэфіцыт, на жаль). Але ёсць шэраг песень на гэтай кружэлцы, якія павінны спадабацца амаль кожнаму — то-бок універсальныя хіты, якія можна слухаць бясконца. Хутчэй за ўсё невыпадкова, што менавіта гэтыя хіты размешчаны спачатку і напрыканцы альбома — яны выконваюць, так бы кажучы, канцэптаўтваральную функцыю. У выніку ўсяго мы можам назіраць дзве ідэальныя грані: «Вечаровыя цені» (дзе і шэпт, і рыканне… не хапае толькі страснага «р-р-р»!) з сумнай, пранікнёнай «Дарогай» і загадкавы, фальклорны, выкананы

амаль кірчукоўскім голасам з нябёс «Воўк» з апошняй, вельмі светлай, аптымістычнай кампазіцыяй «Адзін». Ды што казаць… Усім танчыць вайцюшкевічаўскае танга!

«Для мяне танга — гэта жыццёвы шлях, нейкая ўнутраная барацьба. Спроба калі не адказаць, то хаця б ізноў задаць сабе звычайныя пытанні: дзеля чаго мы, хто мы, з кім мы?» — кажа Зміцер Вайцюшкевіч.

*Таццяна Засусвецкая*
*30.06.2006*



# Па слядах паэта рэвалюцыі і лірыка



21 верасня 2005 года Зміцер Вайцюшкевіч прэзентаваў журналістам адразу два новыя альбомы: «Месяц і Сонца» і «MW». «MW» — альбом на вершы Уладзіміра Маякоўскага. «Маякоўскі прыцягвае да сябе слухачоў. У адносінах да яго ёсць шмат пазітыўнага, але і шмат несправядліва негатыўнага… Маякоўскі — гэта такі вялікі штамп для нас, пакалення дзяцей Савецкага Саюза, пакалення нашых бацькоў. Многія як бы жывуць штампам у дачыненні да Маякоўскага, а мне б хацелася разбурыць яго. Паказаць, што Маякоўскі быў проста добрым, геніяльным паэтам». Дадамо, што «натхняўся» Зміцер трохтомнікам Маякоўскага, выдадзеным яшчэ ў 1953 годзе.

Першыя кампазіцыі для гэтага альбома былі запісаныя два гады таму, і толькі зараз, нарэшце, ён пабачыў свет. Зміцер Вайцюшкевіч вельмі шкадуе, што да гэтага моманту не дажыў Уладзімір Мулявін, таму што ён таксама выконваў песні на словы Маякоўскага. Акрамя таго, Вайцюшкевіч адзначыў, што хацеў бы выступіць разам з Аленай Камбуравай, але перамоваў на гэтую тэму пакуль не было.

Праца над вершамі Маякоўскага стала для Змітра эксперыментам. Па-першае, хацелася зразумець, што значыць спяваць па-руску. Па-другое, з’явілася патрэба зрабіць цэльную канцэптуальную праграму, дзе б ён змог паказаць, як убачыў сябе ў Маякоўскім. Па-трэцяе, зразумець самога сябе. Уладзімір Маякоўскі — адна з самых неадназначных фігур рускай паэзіі, паэт рэвалюцыі і тонкі лірык. Для Змітра прынцыповым было не спяваць пра рэвалюцыю. Таму ў праграме ёсць месца любоўным перажываванням, захапленню паэта Парыжам, Нью-Ёркам і Пецярбургам і шмат чаму іншаму.

*Культура, 22 верасня 2005 года*

## Энергія Маякоўскага

*Зміцер Падбярэзскі: «Апошні час Зміцер Вайцюшкевіч — адзін з найбольш актыўных артыстаў беларускай папулярнай музыкі, калі мець на ўвазе хоць бы колькасць выдадзеных альбомаў. А вось тое, што ён, безумоўна, найбольш featureзнабаковы, шматаблічны выканаўца, дык з гэтым спрачацца не будзе ўжо дакладна ніхто. Зміцер, вітаю цябе ў студыі Беларускай Свабоды! Прапануючы засяродзіць увагу на дзвюх праграмах, а менавіта японскай і Маякоўскай, не ўстрымаюся, каб нетактоўна не пацікавіцца: а ці праўда, што пасля таго, як ты звярнуўся да творчасці Маякоўскага, цябе ледзь не абвінавацілі ў здрадзе беларушчыне?»*

Зміцер Вайцюшкевіч: «Гэта не былі абвінавачанні, але лагер беларускамоўных слухачоў падзяліўся. Хацеў бы суцешыць гледачоў. Мне ж суцяшацца няма чаго! Проста трэба было заспяваць па-расейску толькі добрую паэзію. Маякоўскі — вельмі такая дзіўная постаць, ён — паэт, цікавая асоба».

*Падбярэзскі: «Назваць Маякоўскага паэтам-песеннікам можа хіба што толькі вялікі фантазёр. Вось «Песняры» ў свой час практычна абламіліся на ягоных вершах. Дый табе давялося, відаць, шукаць нетрывіяльных і цалкам нечаканых музычных рашэнняў. Ад чаго ты адштурхоўваўся?»*

Вайцюшкевіч: «Ад свайго сэрца, ад такога свайго прымітыўнага разумення паэзіі, таму што я не выхаваны ў паэтычным асяродку. Я толькі цяпер прыходжу да паэзіі, дзякуючы добрым паэтам: дзядзьку Рыгору, Алесю Камоцкаму, Уладзіміру Някляеву, Уладзіміру Маякоўскаму. Пачынаеш разумець сэнс слова — што значыць слова для мяне, што значыць слова ўвогуле для нас. Таму лічу, што Маякоўскі ўсё ж такі атрымаўся ў мяне. Там не толькі Маякоўскі, там вельмі магутная энергія Маякоўскага. Але там, па-першае, што для мяне было важна…»

*Падбярэзскі: «І вельмі магутная, прабач, энергія Вайцюшкевіча…»*

Вайцюшкевіч: «Не ведаю як, але сэрца там маё ёсць, і вельмі шмат асабістага ў гэтым праекце».

*Падбярэзскі: «Праграма ўжо паказвалася ў Маскве, у музеі паэта. А скажы шчыра: ты задаволены тым, што, па сутнасці, абставіў расейцаў?»*

Вайцюшкевіч: «Калі я выступаў у музеі Маякоўскага, мне было вельмі прыемна, і быў вялікі гонар за Беларусь, што мы не правінцыялы. І гэта адчувалі гледачы. Такія старэнькія бабулі інтэлігентныя, там у дзясятым пакаленні масквічкі, як іх называюць…»

*Падбярэзскі: «Из бывших…»*

Вайцюшкевіч: «Ну так… Некаторыя з іх, відаць, яшчэ памяталі жывога Маякоўскага, але было і шмат маладых людзей, сучаснае пакаленне. Зала ўзнялася, для мяне гэта была найвялікшая падзяка з боку маскоўскай публікі. І я думаю, што праграму на вершы Маякоўскага трэба паказваць не толькі ў Маскве — у Варшаве, у Кракаве, пра што цяпер вядуцца перамовы. Спадзяюся, у наступным годзе будзем яе паказваць і ў Парыжы, можа быць, у невялікіх залах, але…»

*Падбярэзскі: «Дый да Нью-Ёрка варта было б даехаць, чаму ж не?!»*

Вайцюшкевіч: «Так, безумоўна!»

*Падбярэзскі: «І прызнайся: ты задаволены Маякоўскім?»*

Вайцюшкевіч: «Шчыра кажучы, я два гады думаў, задаволены я ці не. Я задаволены. Гэта вельмі моцная праграма, мне не сорамна за яе. Я ўжо цяпер чую водгукі на яе людзей абсалютна рознага выхавання, сацыяльнага статусу. Яны ўвогуле не чакалі такога Маякоўскага. Калі слухаюць — не ведаюць, на чые вершы, яны здзіўляюцца, што гэта Маякоўскі. Для мяне гэта найлепшы камплімент. І яшчэ магчымасць на паэзіі Маякоўскага паказаць сваю асобу».

*Падбярэзскі: «Зміцер! У мяне такое ўражанне, што за ўзятым тэмпам ты не паспяваеш ужо сам. Наагул, як думаеш, ці на працяглае жыццё разлічаныя твае праграмы? Прабач ужо чарговую нетактоўнасць…»*

Вайцюшкевіч: «Цяпер у мяне такі вось перыяд, калі мне хочацца працаваць і рабіць, можа быць, усяго крыху замнога… Але я думаю, што ў жыцці кожнага чалавека настае такі перыяд, калі можна спакойна паглядзець на стос гэтых дыскаў і падумаць: сэнс які гэта мела ці не мела? Цяпер гэта дае мне прыемнасць працы, прыемнасць кантактаў з публікай, з культурай. Я нічога не ведаў тры гады таму пра Маякоўскага, два гады таму я ўвогуле нічога не ведаў пра японцаў. Цяпер трохі пачынаю нешта ведаць і разумець. Гэта не проста праекты «поматросил и бросил» — гэта праекты, якія мяне выхоўваюць, гэта праекты, якія

ў маім жыцці займаюць вельмі важнае месца. Тое ж самае тычыцца і паэзіі дзядзькі Рыгора Барадуліна. Гэта надоўга!»

*Падбярэзскі: «Ці ты ведаеш, што група дзеячаў беларускай культуры вылучыла кандыдатуру дзядзькі Рыгора на атрыманне Нобелеўскай прэміі?»*

Вайцюшкевіч: «Канечне! Мне будзе вельмі прыемна, калі мой сааўтар атрымае прэмію!»

*Падбярэзскі: «Так, калі ты гэтаму паспрыяеш…»*

Вайцюшкевіч: «Вельмі б хацелася. Калі я магу нечым дапамагчы…»

*Падбярэзскі: «А цяпер павандруем далей ад Бруклінскага моста на Захад, туды, дзе ён робіцца ўжо Усходам. Дарэчы, «Усход-Захад аркестр», сімвалічна, так? Італія — можна зразумець. А вось Японія цябе чым «купіла»?»*

Вайцюшкевіч: «Па-першае, тым, што гэта большы Усход, чым Расея. Мы да Расеі, якая знаходзіцца на Ўсход ад нас, ставімся па-свойму: пазітыўна, негатыўна — шмат такіх розных нюансаў. А Японія — гэта такая планета зусім невядомая, са сваімі штампамі — з самураямі, з кіно, з сушы. Ну што яшчэ? З Фудзі там… Сумо! І мне здалося гэта вельмі цікавым. Я задаволены, што не на сваю музыку, не на беларускія вершы рабілася праграма, а на японскія, якія перакладзены ўжо на беларускую мову Алесем Камоцкім. Там дзесяць песень, але толькі дзве — мінорныя, якія вельмі падобныя да нашых — палескіх, прынамсі. Яны гучаць сучасна, часам нават для беларускага вуха — ну проста вельмі!»

*Падбярэзскі: «Магу з табой пагадзіцца, паслухаўшы хоць бы такую песню, як «Сын мора»… Зміцер! Я не магу ўявіць цябе, прабач, вялікім знаўцам хітрыкаў нацыянальнай японскай музыкі… Як жа ты выблытваўся з гэтай сітуацыі?»*

Вайцюшкевіч: «Я не пісаў музыкі. Я займаўся крэатывам мелодый і гармоній, якія былі прыдуманы японскімі кампазітарамі, японскім народам. Тут маё адчуванне Японіі, такая своеасаблівая сустрэча беларускай планеты і японскай планеты. Я быў абмежаваны функцыямі музычнымі, я быў абмежаваны мелодыямі. З другога боку, было вельмі прыемна зрабіць гэта добра. І, мне здаецца, гэта атрымалася».

*Падбярэзскі: «Зміцер, ты ж разумееш, што людзі з Усходу вельмі ж далікатныя. Ці чулі ўжо японцы тое, што было створана, і што яны казалі? Ці, можа, прамаўчалі?»*

Вайцюшкевіч: «Ініцыятар праекта Масако Тацумі сказала, што ўсё гэта — супервыдатна! Менавіта перад тым, як пачыналася праца, яна выказала такое пажаданне, каб мы на Японію глянулі сваімі беларускімі вачыма, адчулі беларускім сэрцам. Глобус тут дадаўся вельмі такім жорсткім мантажом. Я прыдумаў нешта вар’яцкае, што назваў «аўдыякіно», «аўдыякінематограф». Гэты дыск можа ўбачыць кожны па-свойму. Мне паэзія Глобуса вельмі падабаецца, бо ў ёй ёсць менавіта тая таямніца, якая прываблівае, якая прыцягвае да сябе. Альбо адштурхвае некаторых. Але ж гэта — самая галоўная мэта мастацтва: прымусіць чалавека думаць, альбо здзіўляцца, альбо абурацца, адчуваць нешта».

*Тузін гітоў*



# Знак Скарыны яднае

Новая праграма Змітра Вайцюшкевіча «Месяц і сонца», якую аматары музыкі мелі магчымасць паслухаць у канцэртнай зале «Мінск» 22 верасня 2005 года, перадае віртуальнае падарожжа па Краіне ўзыходзячага сонца. Квецень дрэваў, шолахі траў, ранішнія туманы, магутныя і недакранальныя вяршыні гор — гэтыя вобразы паўсталі перад гледачамі. Вабіла і прагулка па ўзбярэжжы акіяна, блуканне па светлых мялізнах, дзе ходзяць чароды маленькіх рыбак, захапляла мелодыя сельскага свята.

Малады артыст перадаў бачанне Краіны ўзыходзячага сонца вачыма шчырага беларуса. Ён знайшоў у старадаўняй японскай паэзіі шмат сугучнага сучаснасці, агульначалавечага. Пашырыў свой далягляд, каб лепш зразумець і палюбіць нашу краіну. І вось у ходзе выступлення зноў адбываецца змена тэматыкі, быццам бы вяртанне дадому, дзе няспынным рухам ідзе жыццё на гаспадарцы: спее жыта, пяюць пеўні, пасвяцца на лузе коні, і ў нядзелю ідзе народ да храма, каб уславіць і падзячыць Бога. І зноў — вясёлы кірмашовы пляц, дзе гучаць спеў і жарт, чуецца зычанне дабрабыту і шчасця, урадлівасці, цяпла і ўтульнасці ў хаце. Атрымалася цёплая восеньская праграма, якую б варта

было слухаць на вялікай плошчы сярод моцнага гурту народу. Тыя, каму пашанцавала бачыць новы канцэрт Змітра, адчулі, што адбылося прыгожае восеньскае свята музыкі, дзе было радасна чуць беларускую гаворку з вуснаў знакамітых мэтраў мастацтва і культуры, а таксама дзяўчатак-студэнтак.

Ствараць сцэнічныя вобразы Змітру дапамагалі ўдзельнікі яго аркестра: Ксенія Мінчанка, Юрась Мартынаў, Аляксандр Сазонаў, Алег Івановіч, а з імі разам — Аляксандр Памідораў. Пранікнёна гучалі патрыятычныя вершы Адама Глобуса, якія акцэнтавалі беларускую тэматыку. Праграма, у якой прымаў удзел з чытаннем вершаў паэт і мастак Адам Глобус, суправаджалася цудоўным шматкаляровым відэашэрагам.

«Знак, 500 гадоў таму прывезены Скарынам з Італіі, аб’яднаў пад адной вокладкай традыцыйную японскую паэзію і сучасную беларускую музычную культуру, — піша ў прадмове да новага альбома Міхал Анемпадыстаў. — Спалучаючы рознае, мы ствараем сваё, і кола часу рухаецца наперад».

*Эла Дзвінская*
*«Наша слова», 5 кастрычніка 2005 года*



# «Месяц – жоўтая лодка»




19 кастрычніка 2008 года адбыўся канцэрт Змітра Вайцюшкевіча, на якім былі прэзентаваны новыя песні на вершы знанага мэтра паэзіі, публіцыста і грамадскага дзеяча Генадзя Бураўкіна.

Яны складуць лістападаўскую праграму пад назвай «Лірыка» і напрыканцы года выйдуць асобным дыскам. Новая праграма будзе адметнай элементамі року.

Слухачы з цеплынёй успрынялі папулярныя творы на словы Р. Барадуліна, У. Някляева, Л. Дранько-Майсюка, А. Русака. «Спявак знайшоў адэкватны музычны стыль, які адпавядае вершам сучасных беларускіх класікаў, — кажа публіцыст і паэтка Валянціна Аксак. — Створаныя ў сілаба-танічным рытме, яны падразумяваюць магчымасць быць пакладзенымі на музыку, іх ад пачатку напаўняе сугучнасць спевам. Іншая справа — праспяваць Маякоўскага, але і тут артыст набірае вышыню шчырасцю і палымянасцю пачуццяў».

З далікатнасцю і прафесійнасцю музыкант падыходзіць як да вядомых паэтычных узораў, так і да не дужа знаных, і яны ў яго выкананні становяцца маленькімі шэдэўрамі.

Набліжаючыся да фальклорных матываў, артысты «WZ-Orkiestra» кіруюцца беларускай фальклорнай мелодыкай, адчуваюць народную стыхію, насычаную ўнутраным драматызмам, як гэта яскрава бачна ў баладах «Зялёны дубочак», «Даніла» і іншых.

Адбылася прэм'ера некалькіх песень на вершы з новага цыкла «Лірыка». Мяккасць, стрыманая расчуленасць, задушэўнасць, уласцівыя бураўкінскай лірыцы, спалучаюцца з багатай аркестроўкай. У песнях «Твая пяшчота», «Месяц — жоўтая лодка», «Суседка» праступаюць непаўторныя абрысы паэзіі трапяткога майстра. Слова, сагрэтае ўтрапёным пачуццём, напаўняе радасцю беларускую душу.

«Я прыемна ўражаны новымі адкрыццямі, якія прапануе таленавіты спявак, — кажа пастаянны наведвальнік праграм, амбасадар Каралеўства Швецыі спадар Стэфан Эрыксан. — Каб заахвоціць спевака да сумеснай творчасці, мы прапанавалі яму вершы сучасных шведскіх паэтаў у перакладзе Дз. Плакса, ён паглыбляецца ў іх, рыхтуе для іх музычную афарбоўку».

*Эла Дзвінская*

* * *

«Тузін гітоў» наведаў прэзентацыю дзясятай кружэлкі Змітра Вайцюшкевіча «Лірыка» на словы выдатнага беларускага паэта Генадзя Бураўкіна. Альбом быў заяўлены як рокавы. І Зміцер хваляваўся за тое, ці ўспрымуць змены ў яго творчасці даўнія аматары і сябры. «Я — роookер!», — часам па-над залаю ўзлятаў крык апантанага спевака.

Пераход выканаўцы да рокавай эстэтыкі быў прыязна спатканы яго прыхільнікамі: і маладзёнамі, і сталымі мужчынамі, і «панямі трошкі ў гадах»… Бадай, упершыню за доўгі час публіка кінулася на танцпляц, бо сама музыка вымагала поўнага энергетычнага абмену ды руху. Экспромтны хор дзяўчат так чыста ды ўдала выводзіў мелодыі, падпяваючы Змітру, што ён нават выказаў пажаданне дадаткова падзапісаць «хор» да песняў у студыі, ад чаго, па яго меркаванні, кампазіцыі толькі набудуць у размаху ды гучанні.

Выканаўца крыху перажываў адмоўныя водгукі ды рэакцыі на яго новы музычны імідж, таму на працягу ўсяго выступу апеляваў да вядомага беларускага музычнага крытыка Змітра Падбярэзскага, ад якога атрымаў адмоўную рэцэнзію на свой эксперымент акурат незадоўга да прэзентацыі.

Першая частка канцэрта — непасрэдна прадстаўленне новага альбома, у які збольшага ўвайшлі малавядомыя вершы Бураўкіна. Вайцюшкевіч распачаў яе разам з аўтарам тэкстаў, які ў сваю чаргу зачытаў верш, што вельмі незвычайна слухаўся ў клубнай прасторы. Але спадар Генадзь знайшоў патрэбныя словы і ў такой нязвыклай для яго атмасферы.

*Тузін гітоў*

# «Спі, мая кветачка!»



На прэм'еры сваёй новай праграмы «Калыханкі», што днямі адбылася ў Малой зале канцэртнай залы «Мінск», спявак Зміцер Вайцюшкевіч смела заявіў: «Мы зрабілі рэвалюцыю ў калыханках!» Калі каардынатар праграм Дзіцячага фонду UNICEF Юлія Ляшкевіч папрасіла Змітра запісаць адну калыханку для праекта, ён запісаў значна больш, а менавіта — дзесяць. «Вайцюшкевіч — яркае ўвасабленне таго, што калі таленту шмат, то яго абмежаваць нельга!» — уражана Юлія.

Сам Зміцер таксама задаволены зробленым: «Мы цяпер маем магчымасць зрабіць новую беларускую песенную традыцыю для нашых дзяцей. У першую чаргу мы павінны пісаць для дзяцей. Ды і ўсе мы былі або і цяпер ёсць дзеці».

Такое меркаванне спевака бачна і ў тэматыцы песень. Калыханкі — гэта песні не толькі для дзяцей, але і для дарослых, для закаханых, для душы. Словам, якраз для той аўдыторыі, што сабралася на канцэрт. «Да таго ж у гэтым праекце была магчымасць паяднаць усіх маіх сяброў — беларускіх паэтаў, — прызнаецца Зміцер Вайцюшкевіч, — Уладзіміра Някляева, Леаніда Дранько-Майсюка, Рыгора Барадуліна, Міхаіла Анемпадыстава…»

Па рэакцыі гледачоў можна адчуць, што найбольш упадабалі яны «Калыханку для закаханых» на словы Уладзіміра Някляева (уся зала хорам падпявала: «Я цябе закалышу-у-у… Залюляю-залюля-а-ю…»), «Калыханку для дарослых» на верш Міхаіла Анемпадыстава, які напісаны 12 гадоў таму, а таксама чароўную пяшчотную калыханку «Спі, мая кветачка», праспяваную Ксеніяй Мінчанка.

Колькасць гледачоў-слухачоў у зале адпавядала якасці канцэрта — звыклы для Вайцюшкевіча поўны аншлаг. Пераважную большасць складалі дарослыя: напэўна, бацькі ці будучыя бацькі намагаліся вывучыць як мага болей з прэзентаваных калыханак. І недарэмна, бо

дыск у фізічным увасабленні прысутным убачыць не давялося. А калі нават у будучыні надарыцца, то набыць усё адно не ўдасца: паколькі праект дабрачынны, дыскі не прадаюцца, а толькі дорацца. Падчас канцэрта Вайцюшкевіч таксама заахвочваў гледачоў галасаваць за кліп «Спі, мая кветачка», каб яго часцей паказвалі на Першым музычным канале. «Ён таго варты», — пераконваў Вайцюшкевіч.

*Вальжына Корсак*
*«Народная воля», 12.01.2007, № 7–8*



# Даверлівае слова да слухачоў




Музычны крытык Анатоль Мяльгуй на старонках «Новага часу», падсумоўваючы вынікі працы кампаніі за 2009 год, піша: «Грамадская ініцыятыва "Будзьма" сёння — гэта безупынная плынь канкрэтных спраў, праектаў, накіраваных на тое, каб адрадзіць у беларусаў павагу да ўсяго беларускага: літаратуры, паэзіі, выяўленчага мастацтва, музыкі. Але найперш да роднай мовы. Для дасягнення гэтай мэты рэгулярна праводзіліся сустрэчы пісьменнікаў і музыкаў не толькі са сталічнымі слухачамі, але і жыхарамі невялікіх мястэчак і вёсак».

«У рамках кампаніі "Будзьма" мы аб’ехалі розныя куткі Беларусі, — распавёў Зміцер Вайцюшкевіч. — Адбылося каля 400 канцэртаў».

Падчас канцэртаў Зміцер нязмушана размаўляе са сцэны са сваімі слухачамі.

Гаворыць з марай, з пастаноўкай пытання: «Ці ёсць у вас на вёсцы кавярня, традыцыйная "Івушка" ці "Падарожная"? А на якой мове напісана ў ёй меню? Ці ёсць там мачанка, селядзец ці "сальцісон з шынкаю"? У Польшчы, у Нямеччыне ці ў Японіі, дзе я быў, госці стараюцца дагадзіць кухару, ламаюць язык, стараючыся прагаварыць на роднай ягонай мове прыемныя яму словы. Ці будзе ж у нас гаварыцца па-беларуску?

Варта ездзіць да людзей, спяваць, хадзіць у народ, і не толькі перад выбарамі.

Бывае, што кіраўнікі мясцовых аддзелаў культуры не могуць сказаць слова па-беларуску», — падкрэсліў спявак.

«Ці можна ў нас назваць 10 самых папулярных песень, якія ўсе ведаюць? "Купалінка", "Бывайце здаровы, жывіце багата". У Японіі такія песні лёгка назавуць, і той не японец, хто іх не ведае, а, напэўна, карэйскі шпіён».

«Калыханкі ўсім патрэбны, — распавядае любімы спявак шырокай аўдыторыі. — Трэба, каб людзі навучыліся адзін аднаго шкадаваць, ставіцца з цяплом, берагчы адзін аднаго. Уяўляеце, дзяўчынка возьме сваю бабулю за руку і скажа: давай, я табе паспяваю калыханку, мая

родная, а ты адпачні, не турбуйся, дарагая, бо ты ж столькі напрацавалася за цэлы дзень! У той бабулі і сэрца растане. Можа, і Міколка заспявае калыханку свайму бацьку, і ён палагаднее душой, і нешта ў свеце пераменіцца.

Свой пакінуў сонны трон
Сынаў сын, самотны сон,
Не спыняецца нідзе,
Сонных дзетак спаць кладзе.

*Р. Барадулін. «Будзільнік»*

Для мяне з’яўляецца важным сведчанне адной жанчыны, — кажа артыст. — У яе ў жыцці была цяжкая сітуацыя. І калі яна ставіла для сваёй маці песню са словамі: "Дай мне руку і пойдзем", тая бабуля рабіла ўпэўненыя крокі і адчувала сябе больш моцнай».

*Эла Дзвінская*



# Лідар «WZ-Orkiestra» перамог на «Зорным рынгу»

Зміцер Вайцюшкевіч перамог у інтэрактыўным шоу тэлеканала СТВ экс-вакаліста ВІА «Синяя птица» Аляксандра Звяровіча.



5 снежня 2009 года на канале СТВ на «Зорным рынгу» сышліся Зміцер Вайцюшкевіч і Аляксандр Звяровіч, экс-вакаліст ВІА «Синяя птица».

Зміцер Вайцюшкевіч выйшаў супраць гурту свайго саперніка адзін. На рынгу трымаўся нязмушана, нібы гэта і не запіс на дзяржаўным тэлеканале, а выступленне дзе-небудзь на гарадской сцэне Львова ў часе чарговага фэсту «Be Free».

Спяваючы «Я нарадзіўся тут», Зміцер зрабіў заўважны акцэнт на словах пра «белыя і чырвоныя кветкі». Каментатары шоу, якія час ад часу з'яўляліся ў кадры, пры гэтым эмацыйна падкрэслілі: «Наш чалавек, наш!»

Большасць пытанняў Вайцюшкевічу задавалі па-беларуску, на беларускай мове было пазначанае ягонае імя побач з нумарам тэлефона для галасавання. Зміцер, натуральна, размаўляў на роднай мове.

Аляксандра Звяровіча не менш цёпла віталі на сцэне. Шмат хто са слухачоў прыгадваў пры гэтым пра сваю маладосць. Аднак вынікі галасавання зафіксавалі ўпэўненую перамогу лідара «WZ-Orkiestra»: 5364 галасоў супраць 3943.

*«Наша Ніва», 6 снежня 2009 года*

# Мой сябра анёлак



У жыцці кожнага чалавека наступаюць перыяды сапраўднага шчасця. З'яўленне на свет маленькіх анёлкаў-дзетак на пэўныя моманты надае крылы нам самім, дарослым. Вясёлыя званочкі, нястомныя выдумшчыкі, няўрымслівыя балбатушкі, яны ўвесь час абнаўляюць жыццё, расквечваюць колерамі самыя пахмурныя дні.

Адчуўшы такія светлыя моманты ў жыцці, Тодар захацеў падзяліцца імі са сваімі сябрамі і прыхільнікамі яго творчасці.

Дарэчы, дзеці, асабліва маленькія, больш блізкія да веры. Яны вераць, што лялькі і цацкі ўначы ажываюць, размаўляюць паміж сабой. І насамрэч упэўненыя, што можна сустрэць маленькага светлага пасланніка сярод руплівых пчолак на лузе, які імгненна ляціць дапамагчы ў добрых справах. Або — сярод снежаньскіх сумётаў. Хлопчыкі і дзяўчаткі, шкаляры, як Рома і Вася, імкнуцца быць лепшымі. Адзін марыць «кожнаму зайграць вясёла па мястэчках, вёсках, сёлах», а другі — з працавітай Мартай сядзець за першай партай».

А яшчэ прыспеў момант набліжэння Калядаў, калі спеўкі, калядкі ствараюць асаблівую атмасферу сямейнага цяпла.

Ой, анёлку, мы так рады,
Што на блізкія Каляды
У кожнай хаце і кватэры
З ласкай нам адчыняць дзверы.

«Звон звініць, звон звініць, звон звініць грамчэй», — спяваюць дзеткі, ходзячы з бліскучай зоркай і казой па гасцях.

І мы дзіцятку-Богу паклон дайма,
Хвала на Узвышніх заспявайма.

Так з’явіўся на свет новы альбом на вершы маладога паэта А. Кавалеўскага «Мой сябра анёлак». Зміцер запрасіў розных выканаўцаў, у кожнага з іх сваё тонкае адчуванне сустрэчы з анёлкамі ў сферы музыкі. У вершах Арцёма Кавалеўскага сабрана разнастайнасць тонкіх тонаў: матывы Марка Шагала — «ноч вялікай чорнай рыбай праплывае між двароў», «гурба, белая авечка, пасярод двара адна» і Экзюперы — анёлак пралятае на бліскучай камеце і адпачывае на бліжэйшай зорцы.

«Дарагія мае і шаноўныя беларусы, беларускі, беларусікі, дзяды і бабулі, усе тыя, хто жывуць на нашай зямлі! — сказаў артыст. — Беражыце адно аднаго, і калі раптам у некага з вас анёлак некуды сышоў, папрасіце яго перад абразом, каб ён вярнуўся. Я думаю, што ён вернецца. Усім, хто мае анёлка, жадаю не згубіць яго. Трымайцеся сваіх анёлкаў, не расчароўвайце іх. Вясёлых святаў, усяго найлепшага, бывайце здаровы, жывіце багата!»

## Песенькі і пра сапраўдных анёлаў там ёсць

Цалкам гэтая праграма вельмі нагадвае цёплую, светлую казку. Песні, у большасці непрацяглыя па часе, выступаюць у ролі фрагментаў цэлага, утвараючы разам добра знітаванае палатно. Калі ўлічыць той момант, што адрасаваныя ў першую чаргу дзецям запісы з’яўляюцца ў нас надзвычай рэдка, Зміцер Вайцюшкевіч, Арцём Кавалеўскі і ўсе рэалізатары гэтай праграмы зрабілі неацэнны калядны падарунак.

«Мой сябра анёлак» мае поўнае права звацца сумесным музычным праектам, зважаючы на колькасць запрошаных да ўдзелу ў ім музыкаў. Найбольш удала, на маю думку, упісаліся ў праект Святлана Бень, Наста Някрасава, Яўгенія Лятун і, што зусім нечакана, Янка Маўзэр. Літаральна для кожнай песні Зміцер Вайцюшкевіч як кампазітар здолеў адшукаць адпаведную інтанацыю, дакладна вызначыўшы настрой вершаванай асновы, што зрабіць было вельмі не проста. Плюс — адметныя аранжаванні, якія не паўтараюцца, якія дакладныя і адначасова надзвычай няхітрыя, што толькі дапамагае натуральнаму ўспрыманню кожнай песні.

Не вазьмуся вылучыць якую-небудзь з песень. Адзначу толькі, што «Хто з анёлкам пасябруе» можа зрабіцца гімнам прасунутай моладзі малодшай узроставай групы. І тое, што многія з гэтых песень будуць выконвацца ў беларускамоўных садках, — бясспрэчна.

Уся праграма робіць уражанне моцна знітаванай, сэрцам прачутай і ўвасобленай на нейкім напружаным, высокім эмацыйным уздыме. Яна, безумоўна, застанецца ў гісторыі беларускай музычнай культуры, таму што на дзесяць галоваў перавышае ўсё тое, што было прапанавана Беларуссю для таго ж дзіцячага «Еўрабачання». Бо там, прабачце, мы часцей за ўсё сустракаемся з сінтэтыкай, прадуктам генетычна мадыфікаваным, а тут — справа прынцыпова іншая. Натуральны прадукт вельмі высокай якасці!

*Зміцер Падбярэзскі*



# «І веру, веру без сумнення, што будзе жыць і мой народ»



20 траўня ў Доме ветэранаў адбыўся канцэрт Змітра Вайцюшкевіча, на якім была прэзентавана новая праграма спевака на вершы класіка беларускай літаратуры Уладзіміра Караткевіча. Большасць песень былі напісаны 8–9 гадоў таму пры падтрымцы Алеся Сушы. Песні пакладзены на вершы з кнігі «Быў. Ёсць. Буду».

Як і раней, Вайцюшкевіч нагадвае пра гадавіны з дня нараджэння пісьменнікаў і паэтаў, збірае публіку на важныя падзеі, прыцягвае ўвагу да творчасці класікаў, упарта ідзе сваім шляхам.

На канцэрце прысутнічалі лепшыя сябры і паплечнікі Уладзіміра Караткевіча — Рыгор Барадулін і Генадзь Бураўкін.

«Уладзімір Караткевіч насамрэч быў адкрытым, непасрэдным. Ён вяртаў беларусаў да беларускасці, да нашай гісторыі, — сказаў, выйшаўшы на сцэну, народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін. — Гэта быў князь крывіцкага духу».

«Караткевіча проста немагчыма не любіць, — адзначыў выканаўца музычных твораў. — Ён розны: і патрыятычны, і лірычны, і хітраваты, і вясёлы, і жартаўлівы. Я б хацеў, каб людзі шукалі адказы на пытанне — што такое Беларусь? Караткевіч адказвае, што па-беларуску можна паказваць самыя высокія і глыбокія пачуцці і расказваць пра гэта. І няма розніцы паміж вялікімі мовамі свету і беларускай мовай дзякуючы таксама Уладзіміру Караткевічу».

Вайцюшкевіч добра адчуў і ўвасобіў караткевічаўскую «ўпартасць хваль» і «мовы залатую сталь».

Тон спеваў ад пачатку праграмы смутны, змрочны. Нават праз спробу імправізацыі гучыць напружаная думка пра лёс зямлі і людзей. Выклікае роздум балада Караткевіча пра конных архангелаў.

Конныя скачуць архангелы
Па дарогах планеты маёй.

Верш быў створаны ў 60-я гады. Аўтар тэксту ўзгадваў у першапачатковым варыянце Сталіна і Гітлера, потым словы былі замененыя. Паэты — заўсёды правідцы, бачаць на дзесяцігоддзі наперад. Песня гучыць актуальна і напружана. Архангелы — вобраз вярхоўнай духоўнай улады. Зноў паўстае актуальнае пытанне: ці будзе зло вяршынстваваць?

Бяздумныя, падшыя, светлыя,
Поўсць на німбах расце,
Замест сумлення — дубінка,
І замест сэрца — касцет.

Уссядае мана на правым,
Здрада — на левым крыле.

Рэдактарам кнігі «Быў. Ёсць. Буду» Караткевіча ў тыя гады быў пазначаны Рыгор Барадулін. Была гаворка, што хацелі адтуль нешта зняць, але мастак П. Драчоў зрабіў такі макет, што нічога не выкінеш; так і надрукавалі — на мяжы дазволенага.

Спявак бярэ на сябе вялікі цяжар. Ён намагаецца ўзняць дух народа, раскатурхаць бязвольную санлівую свядомасць, абудзіць гонар і годнасць.

Гэта не проста — стаяць на баку праўды. Зразумела, што спявак як ніколі раней адчувае боль за Айчыну. Адзін з галоўных вершаў Караткевіча «Дзе мой край» дае адказ: «Там, дзе людзі ніколі не будуць рабамі».

Аптымізму надае габрэйскі матыў: «І веру, веру без сумнення, што будзе жыць і мой народ».

Як мае быць, у праграме багата лірыкі. Рамантычна і задумліва гучыць раманс «Ўкруг месяца туманнае гало». Звыштонкая мелодыя «Мора гранітныя хвалі» пераносіць слухачоў у светлыя месцы і выклікае моцныя апладысменты.

Раней складзеная песня пра Венеру нагадвае пра спрадвечны кодэкс гонару беларускага шляхціца:

Адзінае, што ёсць на свеце:
Сумленне, братэрства, каханне.

*Эла Дзвінская*
*«Наша слова», 26 траўня 2010 года*

# «Чэрэмшына» і Вайцюшкевіч: «Тое, што на сэрцы»



Беларускі спявак Зміцер Вайцюшкевіч выдаў сумесны альбом з гуртам «Чэрэмшына» пад назвай «Тое, што сэрцы». Выканаўца кажа, што гэта плён шасцігадовай супрацы з фолкавым ансамблем з Падляшша.

Чарговы блокбастар ад Вайцюшкевіча, толькі ён міжнародны. Дыск называецца: «Тое, што на сэрцы» Тодар і «Чэрэмшына». «Чэрэмшына» — гэта польскі ансамбль, удзельнікі якога жывуць на самай мяжы з Беларуссю на Падляшшы ў мястэчку Чэрэмха. Дыск ствараўся на працягу пяці-шасці апошніх гадоў, мы доўга яго рыхтавалі і запісалі ў мінулым годзе. У асноўным, песні Вайцюшкевіча і беларускія народныя.

Прэзентацыя дыска «Тое, што на сэрцы» пройдзе ўвосень пры падтрымцы амбасады Польшчы ў Беларусі. У Мінску дыск можна будзе набыць у краме галерыі «Ў». Ён будзе ўяўляць сабой багата аздобленае выданне з буклетам. Мяркуецца зладзіць прэм’еру дыска і на Падляшшы.

*«Радыё Рацыя»*
*5 жніўня 2010 года*

# Дзеля суседства і ўзаемапаразумення паміж народамі

Прадстаўляючы беларускую культуру ў розных краінах на далёкіх кантынентах, беларускі артыст узбагачае сябе ведамі культурных пластоў.

У такіх вандроўках спявак усталёўвае грунтоўныя кантакты з музыкамі, прадзюсарамі, фатографамі, мастакамі. Ён сустракаецца з сусветна вядомымі зоркамі, амбасадарамі, грамадскімі дзеячамі і дзеячамі культуры першай велічыні, прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў замежжы.

Зміцер Вайцюшкевіч удзельнічае ў фэстах з насычанай і разнастайнай праграмай: канцэртах, фотавыставах, спектаклях, кінапаказах, дыскусіях. Усе мерапрыемствы нязменна праходзяць у перапоўненых залах і выклікаюць вялікую цікавасць удзельнікаў і прадстаўнікоў прэсы.

У сяброўстве розных народаў і культур нараджаюцца новыя супольныя музычныя праекты. Яны спрыяюць добрасуседству і ўзаемапаразуменню, служаць паяднанню народаў.

«Гэта быў творчы культурны эксперымент, важны для слухачоў у нашых краінах, — адзначыла, згадваючы альбом «Месяц і сонца», спадарыня Масако Тацумі. — Я нічога не навязвала артыстам, а прадастаўляла поўную свабоду выбару, акрэсліўшы толькі выкананне некалькіх твораў».

Спявак бярэ ўдзел у Днях беларускай культуры, у канцэртах салідарнасці з Беларуссю, удзельнічае ў праектах «Музыкі свету ў падтрымку Беларусі», у дабрачынных акцыях «Вялікі аркестр каляднай дапамогі».

Ён верны свайму кірунку, ідзе па ім упэўнена, смела, эксперыментуючы і адкрываючы новае. Перш за ўсё, спявак цэніць вагу і сэнс роднага слова, верны нацыянальным традыцыям. У тым — яго пакліканне і місія ў сучаснай музычнай культуры. Спалучэнне паэтычных вобразаў з непаўторнымі мелодыямі надаюць яго творчасці своеасаблівую адметнасць.

«Абуджанае грамадства, — пісаў Сяргей Дубавец, — гэта зусім не абавязкова ўсе дзесяць мільёнаў беларусаў. Маральная большасць, што робіць гісторыю, звычайна складае статыстычную меншасць ад усяго насельніцтва. Галоўнае, што гэтым людзям больш за ўсіх трэба, што яны бачныя іншым, што яны ўвесь час перадаюць іншым святло

сваёй ідэі. На нейкае імгненне здаецца, што ў поле гэтага святла патрапіла ўся нацыя… Яно — прамень чыстай энергіі, што ахоплівае мноства народу. Гэта можна параўнаць з агульным уздымам публікі на рок-канцэрце. Зразумела, чаму абуджэнне грамадства ў Беларусі ў часы перамен ішло пад музыку рок-гуртоў, што з'явіліся тады па ўсёй краіне. Гэта было неверагоднае натхненне, няспынны рух, якім кіравала прамяністая зорка».

# У клубе «Працоўня» ў Варшаве



У Варшаве адбыўся канцэрт беларускага музыкі Змітра Вайцюшкевіча. Яго выступ у клубе «Працоўня» складаўся з песень розных гадоў, аднак Зміцер прэзентаваў частку новай праграмы на тэксты польскага паэта Рафала Ваячака, якую выконваў упершыню. На канцэрце пабываў Зміцер Гурневіч.

На канцэрт Змітра Вайцюшкевіча, які даволі часта бываюць у Варшаве, сабралася вельмі шмат публікі, якая чула ягоныя песні ў жывым выкананні ўпершыню.

Першая частка выступлення складалася з песень з праектаў «Цацачная крама», «Паравіны году», «Паравоз кахання» і апошняй кружэлкі на словы Уладзіміра Някляева «Танга з ружай». Маладая публіка напачатку вельмі нясмела рэагавала на ягоныя прапановы падпяваць, аднак пасля некалькіх хвілін жартаў ды жывога кантакту са слухачамі зала разам спявала ягоныя хіты.

Вялікай нечаканасцю было з’яўленне ў рэпертуары Вайцюшкевіча калыханак на словы Рыгора Барадуліна.

Паводле беларускі, студэнткі Праграмы імя К. Каліноўскага ў Варшаве Людмілы Асіпенка, гэтая праграма стварыла асаблівую атмасферу свойскасці сярод прысутных ды выклікала шмат прыемных пачуццяў.

**Л. Асіпенка:** «Мне вельмі падабаецца імпрэза, таму што вельмі душэўная, набрыняла пэўным пачуццём, якое натхняе. Галоўнымі якасцямі, якімі Вайцюшкевіч здабывае поспех, я лічу перш за ўсё харызму, вялікую працаздольнасць і артыстычнасць. А ягоная артыстычнасць надзвычайная, як ён сябе паводзіць на сцэне, то ён у першую чаргу артыст, а не выканаўца. Ён больш тонкі і глыбокі чалавек, чым падаецца на першы погляд. Мне вельмі падабаюцца яго лірычныя песні з альбомаў «Паравоз кахання», «Паравіны году». Мне здаецца, што ў гэтых жанрах ён паказаў сябе найлепшым чынам такім, якім ён насамрэч ёсць. Але ён вельмі таленавіты і выразны ў фолк-стылі. Сёння ён выконваў калыханкі, і праз гэта я для сябе адкрыла новага Вайцюшкевіча».

У другой частцы выступу Зміцер выканаў частку песень са сваёй новай праграмы на словы польскага паэта Рафала Ваячака. На яго думку, Ваячак ды Маякоўскі больш цікавыя яшчэ і тым, што прадстаўляюць два розныя менталітэты, паколькі паходзяць з розных частак Еўропы.

Зміцер Вайцюшкевіч распавёў пра тое, што ў верасні пабачыць свет ягоная новая кружэлка «З доўгай шуфляды», куды ўвойдуць нявыдадзеныя песні розных гадоў. Як удаецца Вайцюшкевічу выдаваць штогод па некалькі кружэлак і ў чым заключаецца яго феномен, адказвае сам выканаўца.

**З. Вайцюшкевіч:** «Я лічу, што напісаць 12 песень за год — гэта не цяжка для кожнага артыста: іх запісаць, выдаць, канцэптуалізаваць, зрабіць, прынамсі, добрую справу для беларускага кантэксту ў Еўропе паміж Усходам і Захадам — гэта няцяжка. Гэта не феномен Змітра Вайцюшкевіча. Калі казаць пра прынцып, то гэта прыклад для іншых артыстаў, каб развівацца больш дынамічна. Я люблю тое, чым займаюся. На гэты момант у мяне шмат праектаў: і радыё, і музыка, і супольныя праекты з польскімі музыкамі. Варта хапаць момант у жыцці. Трэба радавацца, што ты нязвыклае для сябе можаш зрабіць, або, прынамсі, як з Ваячакам, паспрабаваць. Галоўнае не баяцца — гэта парада для маладых. Трэба рабіць, як Барадулін, — кожны дзень сваё. Трэба радавацца жыццю, такому, якое яно ёсць, — з усімі плюсамі і мінусамі».

**Сп. Гражына:** «Я не першы раз на канцэрце Тодара і, напэўна, не апошні. Гэта пакуль што адзіны артыст з Усходняй Еўропы, на канцэрты якога я хаджу вельмі часта. Ён прыцягвае сваёй разнастайнасцю: ад фолк-музыкі да лірычных песень. Ён вельмі харызматычны. Варта звярнуць увагу на тое, як добра ён камунікуе з публікай. І чалавек, які першы раз прыходзіць на яго канцэрт, успрымае яго як свайго сябра».

Першы раз на канцэрце Змітра Вайцюшкевіча была беларуская студэнтка Вера. Яна падзялілася сваімі ўражаннямі аб канцэрце, зазначыўшы, што Вайцюшкевіч — гэта 100% беларускасці.

**Вера:** «Проста хочацца мець невялікі кавалачак Радзімы. Вельмі хочацца пачуць беларускую мову, асабліва калі яна такая сцёбная. І зараз я ганаруся, што сядзела з ім за адным сталом. А ці добра, што ён спявае ў некалькіх стылях? Ці гэта нядрэнна для музыкі? Я лічу, што гэта толькі добра. Усялякі спявак павінен быць розным. Ён павінен змяняцца».

*Зміцер Гурневіч*
*31 ліпеня 2006 года*

# На Замкавай плошчы




У Варшаве адбыўся грандыёзны канцэрт беларускіх і польскіх музыкаў «Салідарныя з Беларуссю». Імпрэза была прымеркаваная да Свята беларускай незалежнасці.

«Stand up for your rights» — «Уздымайся за свае правы», — спяваў больш за 25 гадоў таму Боб Марлі. Песні сусветнавядомага ямайскага музыкі сталіся гімнамі свабоды і актуальныя да гэтай пары ў многіх краінах свету, у тым ліку і ў Беларусі. Таму чарговы, другі ўжо канцэрт салідарнасці з Беларуссю адбыўся пад рытмы рэгі і пад бел-чырвона-белымі сцягамі.

На канцэрт «Салідарныя з Беларуссю» прыйшло больш за 7 тыс. чалавек. З беларускіх зорак на сцэне былі заўважаныя Лявон Вольскі, Зміцер Вайцюшкевіч, Аляксандр Памідораў, Руся.

**Л. Вольскі:** «У мяне сёння сапраўднае адчуванне свята. Шмат людзей, бел-чырвона-белыя сцягі. Сапраўднае свята, і дзякуем палякам за дапамогу.

«А не шкада, што сёння не былі ў Беларусі?» — запыталі мы.

**Л. Вольскі:** «У Беларусі сёння не было канцэрта. Калі я мушу выйсці на вуліцу як правадыр народа, то я сябе не бачу такім палітычным правадыром. Каб у Беларусі быў хоць нейкі канцэрт, то я б адмовіўся ад удзелу ў польскім выступе. Тут не было варыянтаў, таму няхай мне прабачаць. Мы робім прэзентацыю сваёй культуры, гэтая імпрэза будзе трансляваацца праз інтэрнэт, тэлебачанне, радыё, шмат хто даведаецца пра існаванне беларускай музычнай культуры».

**З. Вайцюшкевіч:** «Час ад часу мы граем у Беларусі, але такога маштабу канцэртаў, на жаль, няма. Прыемна бачыць, што Польшча салідарная з Беларуссю. Гэта не толькі добрая інвестыцыя ў сяброўства».

Зміцер Вайцюшкевіч не пагаджаецца са шматлікімі закідамі ў бок музыкаў, што ўзялі ўдзел у варшаўскім канцэрце. «Я ў першую чаргу музыка», — кажа Вайцюшкевіч.

**З. Вайцюшкевіч:** «Артыст павінен быць там, дзе ён патрэбен. Я быў сёння патрэбны ў Варшаве. Калі праз год я буду патрэбны ў Нью-Ёрку, Сіднеі ці Парыжы, я буду ў Парыжы. Мы займаемся музыкай больш за

15 гадоў. Хто з беларускіх палітыкаў вытрымаў 15-гадовы стаж працы для Беларусі? Таму не трэба шукаць у беларускіх музыкаў другой лініі. Мы займаемся сваёй справай. Галоўнае, каб гэты канцэрт меў сваё фінальнае прадаўжэнне, каб гэтая салідарнасць мела вынік. Маю надзею, што праз год такі канцэрт адбудзецца на плошчы Каліноўскага».

На канцэрце можна было паслухаць і пабачыць шмат вядомых у Польшчы людзей: музыкаў, артыстаў, тэлезорак. Нам удалося паразмаўляць з найбольш папулярным польскім шоумэнам, кантравэрсійным вядучым аднаго з камерцыйных каналаў польскага тэлебачання — Кубам Ваявудзкім.

«Якія асацыяцыі выклікае ў вас слова Беларусь?» — запыталіся мы Ваявудзкага.

**К. Ваявудзкі:** «Я не вельмі люблю такія словы, як прыгожая краіна ці прыгожая прырода. Я не быў у Беларусі. Але я б хацеў, каб такія людзі, як я, ездзілі не толькі ў Рым ці Парыж, але і ў Беларусь ці на Украіну. Спадзяюся, што ў хуткім часе такія стэрэатыпы знікнуць адносна Беларусі і Украіны. Я хачу пажадаць беларусам, каб яны мелі такіх людзей, як у Польшчы мы мелі — Яна Новака-Езяраньскага, Леха Валенсу, каб мелі свой 1989 год. Каб вам удалося і ўсё было нармальна».

Як аднак аказалася, не ўсе вядомыя ў Польшчы людзі разважаюць стэрэатыпамі. Пра свае ўражанні ад паездкі ў Беларусь распавядае вядомы польскі музыка Сідней Поляк.

**С. Поляк:** «Я хачу, каб мы ў хуткім часе змаглі ездзіць свабодна ў Беларусь, а беларусы каб прыязджалі да нас. Тым, якія ўжо сталі на баку свабоды і дэмакратыі, я жадаю трываласці».

Канцэрт працягваўся каля чатырох гадзін, разам з беларусамі і палякамі бавілася шмат турыстаў. Таму можна спадзявацца, што ў свае краіны яны завязуць невялікі ўспамін пра Беларусь. Нагадаем, што другі па ліку канцэрт «Салідарныя з Беларуссю» арганізавала польская недзяржаўная арганізацыя «Вольная Беларусь» пры падтрымцы мэрыі Варшавы.

*Зміцер Гурневіч*

*26.03. 2007, 15:51 Польскае радыё для замежжа, polskieradio.pl*

# Беларускі артыст вачамі Анджэя Лойкі



Спявак Зміцер Вайцюшкевіч прыняў удзел у фотасесіі знакамітага польскага фатографа Анджэя Лойкі. На здымках Вайцюшкевіч у беларускім строі спраўляе сабе дудку, трымае ў руках гліняны кубак альбо проста сядзіць у задуменні.

Анджэй Лойка — адзін з самых вядомых фатографаў Польшчы. У снежні 2005 года ў прэстыжнай варшаўскай галерэі Staraja Kordegarda прайшла ягоная выстава фотакарцін, тэматыкай якіх было жыццё польскага сяла 50–100 гадоў таму. Але гэта сталася толькі пачаткам. Пасля Лойка дадаў да гэтага ля дзесяці фота, навеяных украінскімі традыцыямі. Пазней прыйшла ідэя стварыць серыю фотаработ з польскімі народнымі інструментамі, у чым Анджэю дапамагае пані Марыя Памяноўска — кіраўніца «Польскага Ансамбля».

Якраз у той час у Варшаве праходзіў міжнародны фестываль апавядальнікаў гісторый. А ці магчыма распавядаць гісторыю без музыкі? Лойка запрашае да сябе ў майстэрню азіяцкіх удзельнікаў фэсту з іх незвычайнымі інструментамі і ў адмысловых, амаль казачных народных строях. Так распачалася праца над новым цыклам фотакарцін. У ім здымкі прадстаўнікоў дваццаці краін з чатырох кантынентаў. Сярод іх Ангола, Кітай, Эквадор, Нігерыя, Японія, Мексіка, Арменія, Індыя, Шры-Ланка, Украіна, Славаччына, далёкаўсходняя Расія — Алтай, Якуція, Сібір.

Натуральна, сп. Лойка не мог абмінуць сваёй увагай і бліжэйшую суседку — Беларусь. Такім чынам, напачатку снежня ён запрасіў беларускага артыста Змітра Вайцюшкевіча прыняць удзел у фотасесіі. «Ідэя была — паказаць людзям хараство і адмысловасць народных строяў. Гэта не нейкі застыўшы жывапіс — гэта сапраўды цудоўнае і жывое мастацтва. Фотакарціны, маляваныя святлом і ценем, стылізаваныя

пад барока», — кажа Зміцер. На пытанне, як праходзілі здымкі, Вайцюшкевіч распавёў: «Усё было проста выдатна, адзінае — мне выдалі боты на два ці тры памеры меншыя, чым я маю. Давялося трываць».

Плануецца выданне вялікага, па-мастацку аздобленага альбома, а таксама выставы ў Польшчы і за яе межамі.

*music.fromby.net*

# Песня італьянскіх партызанаў



Той факт, што песню «Бэла, чао!» спявалі ў Супраціўленні, дакументальна пацверджаны. Аднак вобласць распаўсюду песні была абмежавана Эміліяй — паміж балонскімі Апенінамі і раёнамі, кантралюемымі Монтэфіярына. Менавіта недзе там, у мадэнскіх Апенінах, нарадзілася песня «Бэла, чао!», згодна з легендай, і яе напісаў нехта з партызан. Пра яго нічога не вядома, акрамя таго, што ён, па ўсёй відавочнасці, быў урачом ці фельчарам.

Тэкст падобны на народную песню Fior di tomba («Кветка на магіле»). Сёння існуе некалькі італьянскіх варыянтаў тэксту песні. Адрозненні ў іх не маюць прынцыповага характару. Напрыклад, «stamattina» (аднойчы рана) можа саступіць «una mattina» (аднойчы з раніцы). Паколькі апавяданне ідзе ад першай асобы, то, у залежнасці ад полу выканаўцы, змяняюцца формы мужчынскага і жаночага роду. Мелодыя «Бэла, чао!» узятая са старажытнай дзіцячай песні.

Знаёмства масавай аўдыторыі з песняй «Бэла, чао!» адбылося на 1- м Міжнародным фестывалі моладзі і студэнтаў, які праходзіў у Празе з 25 ліпеня па 16 жніўня 1947 года. Накіроўваючыся на фестываль, яе спачатку пелі ў цягніку былыя партызаны-эміліянцы, а затым вывучылі і ўсе астатнія дэлегаты. Яна гучала паўсюдна і ў самой Празе, стаўшы вельмі хутка адной з самых папулярных песень у свеце. Адразу ж пасля Пражскага фестывалю «Бэла, чао!» была перакладзена на іншыя мовы і яе можна было пачуць на міжнародных форумах у абарону міру і наступных фестывалях моладзі і студэнтаў.

У 60-я гады першымі прафесійнымі выканаўцамі папулярнай песні сталі італьянская спявачка Мільва і французскі акцёр, тасканец па паходжанню, Іў Мантан. Пазней яе спявалі вядомыя музыкі ва ўсім свеце. На Кубе «Бэла, чао!» стала традыцыйнай песняй моладзі, італьянскае «partigiano» было пры гэтым заменена на іспанскае «guerrillero». У Савецкі Саюз гэта песня была прывезена з Італіі ў 1963 годзе Муслімам Магамаевым, а Дзін Рыд, гарачая зорка часоў халоднай вайны, прыехаў з гэтай песняй у СССР ужо ў 1975 годзе.

Уздым папулярнасці песні адбыўся ў перыяд студэнцкіх хваляванняў 1968 года, пасля чаго яе сталі звязваць з левым рухам. У тэкст песні быў дадзены фінал: «Era rossa la sua bandiera… c’era scritto libertà».



# Масако Тацумі:
# «Мы розныя, але патрэбныя адно аднаму»

Грацыёзная і далікатная жанчына з выразнымі вачыма кіруе Цэнтрам японскай культуры пры дзіцячай бібліятэцы № 5 ва Уруччы ў Мінску. Мастацкія выставы, стварэнне музычных твораў на вершы вядомых японскіх паэтаў, паказ кімано, кампазіцый ікебаны, традыцыйныя цырымоніі піцця гарбаты і знаёмства з японскай кухняй адбываюцца з яе ініцыятывы. Яна застаецца вернай сваёй этнічнай радзіме і разам з тым шчыра любіць Беларусь. Праект «Месяц і сонца», які спалучыў японскую музыку з беларускай, быў задуманы і ажыццёўлены па задумцы Масако Тацумі. Мы сустрэліся з гаспадыняй цудоўнага японскага асяродка ў Мінску і яе дачкой Юйэ.

*— Масако-сан, скажыце, калі ласка, як даўно Вы прыехалі ў Беларусь?*

— У турыстычным падарожжы я ўпершыню пабачыла Беларусь ў 1992 годзе, мне вельмі спадабаўся Мінск. У 1995 годзе я прыеха-

ла сюды ўдасканальваць расейскую мову на гадавым курсе ў БДУ і пазнаёмілася з беларускай мовай. На радзіме я скончыла ўніверсітэт па спецыяльнасці «Сацыёлаг-педагог».

Мяне цікавілі сістэмы адукацыі ў розных краінах, у прыватнасці рэформы, якія адбываліся пасля перабудовы ў краінах СНД, таксама і ў вашай краіне. У тыя часы пачалі актыўна вывучаць родную мову ў гімназіях, школах. Тры гады я выкладала японскую мову на факультэце міжнародных адносін у БДУ.

Цэнтр японскай культуры быў створаны ў Мінску ў 1999 годзе пры дапамозе фонду «Чыра» і японскага інжынера Усуі Хіро. Цэнтр адчыніў свае дзверы для наведвальнікаў 9 верасня, у дзень вялікіх спадзяванняў і надзей, калі ў нас адзначаецца Свята хрызантэм. На адкрыцці прысутнічаў пасол Японіі сп. Ямасіта-сан.

Нашу дзейнасць падтрымліваюць шмат простых японцаў. Дзякуючы іх дапамозе мы набылі кнігі для бібліятэкі, дзіцячыя выданні, мастацкія вырабы. Японскія дзеці дораць беларускім аднагодкам свае кніжкі.

*— Праз любоў да нашай зямлі і каханне да беларуса Вы засталіся тут назаўсёды?*

— Так. Майго мужа завуць Сцяпан Бугайчук. Нас пазнаёміла мая сяброўка. Ён быў падобны на героя японскай легенды, мужнага стралка з лука Насу-На Ёйці. Сцяпан у маладосці быў дэльтапланерыстам. У 26 гадоў ён перанёс аварыю на дэльтаплане, але потым зноў вярнуўся ў спорт, цяпер займаецца стральбой з лука, працуе ў Sporting Clube, удзельнічае ў паралімпійскіх гульнях. Нашу дачку завуць Юйэ.

*— У Вашых сяброў з Японіі чулыя сэрцы. Мы ведаем, што Вы дапамагаеце беларускім дзецям, якія пацярпелі ад наступстваў радыяцыйнага забруджання, перадаяце медыцынскую тэхніку ў дзіцячыя клінікі.*

— Тэма здароўя дзяцей для нас вельмі актуальная. Мы, японцы, перажылі ўздзеянне радыяцыі, і ведаем, наколькі гэта сур’ёзна і мае працяг у наступных пакаленнях. Таму фонд «Чыра» дапамагае беларускім дзецям праходзіць даследаванне па стану ўтрымання радыенуклідаў у арганізме і прымаць неабходныя лекі, каб такія накапленні выводзіць. Вы ведаеце пра існаванне дзіцячай SOS-вёскі ў Бараўлянах. Мы супрацоўнічаем і сябруем з гэтай установай, выхавацелямі, хлопчыкамі і дзяўчынкамі, прыязджаем да іх улетку. Кожны год там праходзяць рэабілітацыю дзеці з Гомельскай вобласці.

Мы звязваемся са спецыялістамі з інстытута радыяцыйнай бяспекі «Белрад» і набываем для дзяцей прэпарат «Вітапект-2», каб яны за час адпачынку змаглі прыняць курс прэпарата для вывядзення радыенуклідаў з арганізма. Для Цэнтра дзіцячай хірургіі ў Мінску прадстаўнікі нашага фонду набылі тэхніку для лапараскапічных аперацый, і мы перадалі яе вашым дактарам. Такім чынам можна праводзіць больш малатраўматычных аперацый. Фонд «Чыра» перадае дзіцячыя кніжкі пра нашу краіну ў бібліятэкі, школы, шпіталі.

Разглядаючы экспанаты выставы, сярод якіх — карціны, папяровыя кветкі, ліхтарыкі, чароўныя парасон і веер, я запыталася ў Масако:

*— А што гэта за агромністыя рыбіны побач з паветраным змеем?*

— Карп — гэта сімвал хлопчыка, а Дракон — знак сапраўднага мужчыны. У нас існуюць традыцыі адзначаць дзень хлопчыкаў і дзень дзяўчынак, гэта датычыцца толькі дзяцей. Да 5 траўня кожная японская сям'я, дзе гадуюцца хлопчыкі, ставіць у двары слуп і падвешвае на яго каляровых карпаў. Яшчэ ў красавіку паветраныя карпы лунаюць па небе.

Дзень дзяўчынак — гэта 3 сакавіка. Для дзяўчынкі бацькі падрыхтоўваюць лялькі імператара з імператрыцай, прынца з прынцэсай, пры магчымасці — яшчэ і палац са слугамі.

Лічыцца, чым лепш убраныя лялькі, чым больш яны падобны на імператарскую сям'ю, тым больш шчаслівы і багаты будзе шлюб у дачкі. Але зранку 4 сакавіка ўсе каробкі з лялькамі прыбіраюцца, а калі яны застануцца пазней, то і дачушка, кажуць, можа застацца надоўга самотнай.

*— Як нарадзіліся ў Вас ідэі музычных праектаў?*

— Я шмат разважала над тым, як зрабіць цікавай для беларусаў японскую культуру. Мне падалося, што праз музыку вы нас лепш зразумееце. Японцы спяваюць шмат песень на іншых мовах свету. Яшчэ ў нас добра знаёмыя рускія песні ў перакладзе, такія, як «Кацюша», «Тройка», «Вочы чорныя» і іншыя. Яны да таго папулярныя, што іх спяваюць у школе. Адабраўшы 10 добра вядомых японскіх песень, я зрабіла падрадковы пераклад. Дапамог Алесь Камоцкі, які стварыў беларускі літаратурны варыянт гучання твораў. Прадзюсар Юрась Цыбін думаў прапанаваць іх дзесяці беларускім музыкам.

Першая песня патрапіла да З. Вайцюшкевіча. Выканаўцу захапіў іх рамантычны накірунак, і ён сказаў: «Пакіньце ўсе творы мне». Пес-

ню «Радзіма» добра ведаюць японцы, яна гучала падчас правядзення Алімпійскіх гульняў у Нагана. Гэта своеасаблівы сімвал сяброўства паміж народамі.

*— З Вашага запрашэння адбыліся канцэрты беларускага спевака ў Японіі ў 2008 годзе?*

— Песні з альбома «Месяц і сонца» прагучалі на японскім радыё. Жыхарам нашай краіны было цікава іх паслухаць. Мы запрасілі Змітра выступіць у сталіцы Токіа і ў горадзе Кіёта. У самалёце Зміцер паўтараў па-японску тэкст песні «Поўня», што я напісала яму на паперы. Мне хацелася, каб ён пабачыў на свае вочы прыгажосць нашай прыроды, акіян, горы, як цвіце сакура. Спявак наведаў два самыя буйныя астравы — Хансю і Сікоку, пабачыў гару Фудзіяма, вадаспады, самае вялікае возера Біва, рысавыя палі. У Кіёта жывуць мае бацькі, бабуля і дзядуля, сястра. Яны прыйшлі на канцэрт са сваімі сябрамі. Выступ атрымаўся вельмі цёплым, людзі не хацелі разыходзіцца дадому. У памяць аб нашай краіне спявак набыў сабе гітару.

*— Пры Вашай дапамозе ў зале Саюза кампазітараў адбыўся канцэрт, прысвечаны класіку японскай паэзіі Мацуо Басё.*

— Паэзія Басё вельмі глыбокая. Мне падаецца, што спалучэнне старажытнай японскай паэзіі і музыкі сучасных беларускіх кампазітараў дае яскравы вынік. У аснове паэзіі вялікіх майстроў ляжаць галоўныя тэмы: любоў да Радзімы, адносіны да прыроды і людзей, чалавечыя пачуцці. Гэта робіць нацыянальную паэзію даступнай людзям іншай культуры.

*— Ці не сумуеце Вы, знаходзячыся далёка ад роднай зямлі?*

— Не. Тут усё побач са мной. Я кожны дзень прыходжу ў маю маленькую Японію, бачу на карцінах выявы нашых гор, бурлівыя патокі рэчак, дрэвы ў квецені. Пераглядаю кнігі і раблю пераклады для дзяцей, слухаю музыку, праводжу экскурсіі.

Па сваёй працы адчуваю сапраўдную цікавасць беларусаў да Японіі і яе культуры. Мы розныя, але патрэбныя адно аднаму.

*Гутарыла Эла Дзвінская*
*«Новы час», 20 чэрвеня 2008 года*

# «Я ехаў у Японію з адкрытым сэрцам»



Тодар распавёў карэспандэнту часопіса «Пра адпачынак» Любові Гаўрылюк.

— Мая вандроўка адбылася пасля сумеснай працы з Масако Тацумі (дырэктарам інфармацыйнага Цэнтра японскай культуры ў Мінску) у сувязі з выхадам альбома «Месяц і сонца», у склад якога ўвайшлі 10 папулярных песень у перакладзе на беларускую мову. Да гэтага ніхто ва Усходняй Еўропе не рабіў такія версіі японскай музыкі: гэта погляд з Беларусі на іх традыцыйныя мелодыі. Калі мне сказалі: «Ты паедзеш у Японію», я нават не паверыў. Ды калі японцы штосьці кажуць, яны гэта робяць. Хаця і не адразу, але паездка атрымалася.

Спачатку ў мяне прайшлі два канцэрты ў Кіёта, а потым мы праехалі па краіне, каля 1000 кіламетраў на поўдзень. Інфраструктура, дарогі, масты, свяшчэнная для японцаў гара Фудзіяма — усё гэта ўражвае еўрапейцаў. З улікам таго, што краіну пастаянна трасе, — яна неверагодная! Але самае вялікае ўражанне на мяне аказала прырода. Я спецыяльна не імкнуўся загадзя чытаць пра архітэктуру і помнікі, каб сфарміраваць уласную думку. Галоўнае для мяне — новыя ўражанні. Гэта праца будзе мець працяг. Цяпер мы думаем, у якім фармаце, хочам паехаць з квартэтам, пабываць у буйных гарадах — Токіа, Осака. Японцам важна, што іх культуру ведаюць і паважаюць у іншых краінах, яны ўважлівыя да таго, як іх успрымаюць. Адсочваюць прэсу, перакладаюць артыкулы. Нідзе, нават у Польшчы, да PR майго альбома не адносіліся з такой сур’ёзнасцю.

— *Чаму можна навучыцца ў японцаў?*

— Шмат чаму. Добра было б навучыцца паважаць сваю культуру, сімволіку, мову — адно гэта шмат каштуе. У Японіі захоўваюцца храмы X стагоддзя, і нікога не здзіўляе, што яны «старыя». У звычайных японцаў лічыцца нармальным ведаць сваю радаслоўную да VIII ста-

годдзя. Добра было б навучыцца іх скрупулёзнасці, дакладнасці ў дэталях, у быце.

Японцы паважаюць дзяцей і старэйшых па ўзросце — і гэта нам было б нядрэнна пераняць. І заўсёды яны выконваюць свае абяцанні.

Японцы не баяцца вучыцца. Гэта рыса ў іх ёсць, прычым у розных сферах жыцця. Калі іх пра што-небудзь распытваюць, яны самі рады распавесці пра свае гарады і сваю культуру. Чым больш распытваеш — тым спакайней і гасцям, і самім гаспадарам.

Сярод гатэляў можна выбраць еўрапейскі альбо традыцыйны японскі. Такія, як вы бачыце ў кіно, — пустыя пакоі з цыноўкамі, пера-соўнымі шырмамі, — нам трапляліся на поўдні краіны. На ўзбярэжжы акіяна ў гатэлях ёсць невялікія лазні на гарачых крыніцах.

Японская кухня мне спадабалася ўся: ад розных гатункаў рысу, кісла-салодкіх сліў да разнастайных далікатэсных сушы і сашымі. Больш чым два тыдні я не трымаў у руках відэлец і нож. Зараз часта ўзгадваю японскую ежу, а японцам, якія пабывалі ў Беларусі, падабаецца наша кухня. І італьянскую кухню яны таксама любяць.

У рэлігійным сэнсе Японія — зусім іншая цывілізацыя. Тут прытрымліваюцца спавядання сінтаізму і будызму. У сінтаістаў 8 мільёнаў багоў. Адным словам, там іншае, прыгожае жыццё са сваім парадкам.

Я прызвычаены дзейнічаць інтуітыўна, па натхненню. Калі я прыглядаўся да Масако-сан, то адчуваў, што ў яе паводзінах ёсць Вышэйшая справядлівасць і праўда, і нават часам яе пабойваўся, — сказаў Зміцер рэжысёру відэафільма «Цікавае жыццё», які адлюстроўвае дзейнасць Цэнтра японскай культуры ў Мінску, Таццяне Матыгінай.

*«Пра адпачынак», май–чэрвень 2008 года*

*На здымку: мост паміж астравамі Хансю і Сікоку.*
*Фота з архіва Масако Тацумі*



# З вышыні Эйфелевай вежы

Беларускія незалежныя артысты паступова пашыраюць геаграфію сваіх паездак. Ужо звыклыя канцэрты айчынных рок-гуртоў у Польшчы ды Украіне. Але, пэўна, далей за ўсіх глядзіць Зміцер Вайцюшкевіч. Летась ён паехаў з канцэртамі ў Японію, а сёлета выпраўляецца ў міні-тур па Францыі. Выканаўца распавёў «Радыё Рацыя», чым ён збіраецца зацікавіць жыхароў Парыжа, Тулузы і Нансі. Беларускі выканаўца выпраўляецца ў Францыю 11 сакавіка 2009 года. Цягам некалькіх дзён у яго запланавана некалькі канцэртаў у Парыжы і Тулузе. Вайцюшкевіч кажа, што збольшага едзе не сябе паказаць, а ў людзей павучыцца.

— Для мяне канцэрты ў Францыі маюць асаблівы сэнс, бо я туды паеду найперш вучыцца. Па некалькі канцэртаў адбудзецца ў Парыжы і Тулузе, да ўсяго запрасілі даць канцэрт у Нансі ў лютым 2010 года.

*— Шмат хто з айчынных выканаўцаў з задавальненнем бы выступіў у Парыжы, але лічаць тое за немагчымае. Як Вы туды трапілі?*

— На самай справе, не толькі нас клічуць. Там ужо выступалі «Гурзуф» і «Нагуаль». Там ёсць суполка з французскіх студэнтаў, што цікавяцца Беларуссю, якая называецца «Белпраект». І яны пакрысе раскручваюць гэтую ідэю знаёмства з нашай краінай, бо сапраўды важна, каб пра нас не думалі, што мы частка Расіі, скажам.

*— Ці могуць канцэрты беларускіх гуртоў у Францыі вырасці за межы кавярняў?*

— Ясна, што могуць. Проста і нам, артыстам, трэба ведаць дакладна, чаго б мы хацелі. Бо можна зрабіць такі канцэрт у Парыжы, як АНТ ладзіла ў Варшаве — нагнаць туды невядома каго, французскіх камуністаў ды іншых, і будзе ўражанне, што супераншлаг. Каб працаваць на французскіх пляцоўках, трэба ўваходзіць у іх асяродак, прычым з матэрыялам цікавейшым ці хоць бы на ўзроўні мясцовага. Галоўнае не спяшацца, бо ў часы «KRIWI» я хацеў стаць імгненна папулярным у Берліне. Трэба спакойна рабіць сваю справу, і калі хочаш — то будзеш.

*Сяргей Будкін*
*«Радыё Рацыя», Мінск, сакавік 2009 года*

# Парыж гаворыць: «Беларусь!»



На працягу тыдня ў Парыжы праходзіў фэст «Мы гаворым — Беларусь!», які быў прымеркаваны да традыцыйнага Дня беларускай салідарнасці, што праводзіцца ў 16-ы дзень кожнага месяца. Фэставая праграма ўключала ў сябе больш за дзясятак культурных і грамадскіх мерапрыемстваў, якія адбываліся ў розных залах французскай сталіцы.

Дні салідарнасці з Беларуссю, якія штомесяц праводзяцца грамадскімі, палітычнымі і культурнымі арганізацыямі ў Еўропе і Паўночнай Амерыцы, у апошні час перайшлі са статусу лакальных акцый у статус буйных грамадска-культурных мерапрыемстваў. У іх прымае ўдзел усё больш палітыкаў, грамадскіх дзеячаў і дзеячаў культуры першай велічыні.

Варшаўскі канцэрт рок-музыкаў у падтрымку Беларусі з удзелам Анджэя Вайды; выступ беларускіх акцёраў і музыкаў на сцэне Шведскага каралеўскага тэатра; праект «Музыкі свету ў падтрымку Беларусі», які стартаваў з выступу ў Мінску тройкі вядучых еўрапейскіх дзі-джэяў; прэзентацыя п’ес беларускіх драматургаў у Нью-Ёрку, якая праходзіла пад патранажам Тома Стопарда — гэта толькі няпоўны пералік апошніх культурных падзей, што праводзяцца ў рамках Дня салідарнасці.

Фэст «Мы гаворым — Беларусь!» паспрабаваў пазнаёміць парыжан не толькі з прадстаўнікамі беларускай контр-культуры, але і далучыць французаў да дыскусіі аб тым, якімі могуць быць узаемаадносіны паміж Беларуссю і Францыяй; як могуць дапамагчы прадстаўнікі французскага грамадства ў справе вяртання дэмакратыі ў Беларусь; наколькі цікава для Францыі беларуская культура.

Праграма фэсту была насычанай і разнастайнай: фотавыстава, спектакль, канцэрты, кінапаказы, дыскусіі. Усе мерапрыемствы ня-

зменна праходзілі ў перапоўненых залах і выклікалі вялікую цікавасць парыжан.

Канцэрты Змітра Вайцюшкевіча з яго «WZ-Orkiestra» і Касі Камоцкай адбыліся з аншлагамі і былі падтрыманыя авацыямі на працягу ўсяго выступу беларускіх музыкаў. Напярэдадні іх выступу адбыўся паказ прац беларускага кінарэжысёра-дакументаліста Юрыя Хашчавацкага. Французская публіка, якая цалкам запоўніла залу «Дома Еўропы і Усходу», прагледзела працоўны матэрыял новага фільма рэжысёра «Плошча Каліноўскага». Пасля паказу гледачы не адпускалі рэжысёра на працягу дзвюх гадзін, закідваючы яго пытаннямі.

На працягу ўсяго часу фэсту ў Парыжы працавалі дзве фотавыставы, якія знаёмілі французаў з жыццём і людзьмі Беларусі. Адна з іх — выстава прац фотамастака Джэфа Баніфацына — пазнаёміла парыжан з партрэтамі вядучых дзеячаў нефармальнага мастацтва Беларусі.

Кульмінацыяй фэсту стаў паказ спектакля «Свабоднага тэатра» «Пакаленне Jeans», які праходзіў у тэатры Theatre-Studio, што з’яўляецца рэзідэнцыяй «Свабоднага тэатра» ў Заходняй Еўропе. На сцэне менавіта гэтага тэатра на вясну запланаваныя першыя вялікія гастролі тэатра ў Парыжы, падчас якіх будзе паказана каля 20 спектакляў «Свабоднага тэатра».

Кажучы пра ўражанні ад спектакля, Крысціян Бенэдэцці сказаў: «Падчас падзення Берлінскай сцяны я быў у нямецкай сталіцы, і ўсе мы стаялі ў чарзе за абломкам сімвала таго часу, які абрушыўся. Тады кожны з нас атрымаў на памяць па кавалачку Турмы. Падчас спектакля «Пакаленне Jeans» мне працягнулі джынсавую стужку, і я зразумеў, што гэтым разам атрымаў у падарунак кавалачак сапраўднай Свабоды».

Парыжскі праект стаў магчымы шмат у чым дзякуючы энтузіязму дырэктара праекта Ганне Дзідзье, якая не ўтойвала валанцёрскую аснову акцыі: «Перавага беларускага праекта — у яго прастаце: мінімальная колькасць сродкаў і максімум вынаходлівасці. Акрамя таго, усё адбылося дзякуючы духу салідарнасці, які панаваў паміж арганізатарамі, удзельнікамі праекта і парыжскай публікай. Мы ведалі, што зможам закрануць сэрцы парыжан, але не маглі выказаць здагадку, што іх увага і падтрымка будуць настолькі гарачымі».

*20 лістапада 2006 года*

# Фэст «Be Free» — быць вольным — наша права!

Адна з найбольш яскравых падзей беларускай рок-музыкі 2008 года адбылася на тэрыторыі Украіны 9–10 жніўня ў слаўным сваёй гісторыяй і традыцыямі горадзе Львове. Там пад патранатам Львоўскай гарадской рады (і гэта, як высветлілася, вельмі важна для беларусаў!) адбыўся вялікі міжнародны рок-фестываль «Be Free» — «Быць вольным».

Яго ўдзельнікамі сталі больш за 30 калектываў з Украіны, Беларусі, Польшчы і Францыі. А колькасць гледачоў, якія патрапілі на канцэрты фэсту ў парку імя Б. Хмяльніцкага і на плошчы Рынак, па прыблізных падліках пераваліла за дзесяць тысяч!

Трэба аддаць належнае арганізатарам фэсту з беларускага боку — Еўрапейскаму радыё для Беларусі, Беларускай Музычнай Альтэрнатыве, маладзёвай ініцыятыве «СтудФармат», а з боку гаспадароў — Саюзу ўкраінскай моладзі, — якія выбралі менавіта Львоў месцам правядзення фэсту «Be Free».

Бо гэты горад з’яўляецца носьбітам сапраўднага Украінскага Духу, традыцый вольнасці і «обіріжного» стаўлення да роднай мовы. Гэта пераканаўчы прыклад, у першую чаргу, для маладых беларускіх рокераў, якія, бывае, сумняваюцца ў правільнасці абранага, беларускамоўнага шляху. Такі моўны патрыятызм львавян акрыляў гасцей фэсту, дысцыплінаваў тых, хто не вельмі трымаўся сваіх каранёў. Для іншых жа моўнага бар’еру паміж беларусамі і ўкраінцамі Львова абсалютна не назіралася. Гэта яшчэ адзін аргумент на карысць Львова, як месца правядзення «Be Free»…

З гаспадароў адзначу вельмі прафесійнае выкананне і самабытнае пераасэнсаванне нацыянальнай тэмы ў рок-музыцы, якое прадэманстравалі ўкраінскія гурты «Інкунабула» і «Гайдамакі». Іх цудоўныя выступы наводзілі на думку, што ўкраінскія і беларускія музыкі маюць шмат агульнага ў тым, што тычыцца пошукаў адметнасцяў у межах сваіх нацыянальных рок-школ. Але была заўважна і розніца, якая вызначаецца становішчам рок-музыкі ў нашых краінах.

Потым, калі пляцоўка парку Б. Хмяльніцкага была цалкам запоўнена слухачамі, сцэна была прадстаўлена выканаўцам «цяжкага» адгалінавання беларускай рок-музыкі. З выступу Алеся Памідорава

пачаўся сапраўдны фестывальны ўздым і паяднанне душ прыхільнікаў року! І цудоўна, што гэтае свята братэрства музыкантаў і слухачоў з розных краін падтрымалі і польскі гурт «Rockaway», і французы з гурту «Vladivostok», беларускія каманды «Znich», «Żygimont Vaza», «Zet», і ўкраінскія зоркі з гурту «Гайдамакі».

Іх намаганнямі фэст набыў новы маштаб і гучанне цэнтральнаеўрапейскай музычнай сустрэчы. І гэтаму факту не перашкодзіў нават лівень, які на завяршэнне першага дня «Be Free» абрынуўся на слухачоў. У большасці з іх яшчэ больш замацавалася ўпэўненасць, што заўтра трэба ісці ў парк зноў, каб вітаць незвычайнае музычнае відовішча і яго ўдзельнікаў…

Наступны, больш сонечны дзень абяцаў новыя музычныя сустрэчы, але на гарадской плошчы Рынак. Там павінны былі выступіць гурты фолк- і медыевальнай накіраванасці, таксама калектывы, якія выступаюць у акустычным варыянце. Таму вядучы фэсту Алесь Круглякоў на сцэну першай запрасіў Насту Някрасаву, якая прадставіла ў гэты дзень уласны фолк-праект. Пакуль яго праграма яшчэ не поўнасцю сфарміравалася канцэптуальна. Але тое, што музыкі ў пошуку, відавочна. Таму выступ Насты Някрасавай выклікаў у слухачоў толькі пажаданні поспехаў у абраным музычным накірунку.

Фолкавыя спевы на фестывальнай сцэне змянілі акустычныя рок-н-ролы, блюзы і востра-сацыяльныя зонгі ад Андрэя Плясанава і гурту «P.L.A.N.». І хоць Андрэй і яго нязменныя музыкі гралі «непадключанымі», гук на сцэне набыў сакавітую рок-н-рольную афарбоўку. Гэта адбілася на ўспрыманні іх музыкі: слухачы пусціліся ў скокі, падпявалі Плясанаву, актыўна набывалі дыскі «P.L.A.N.» і іншых беларускіх гуртоў. З цікавасцю былі сустрэты выступы фолк-гуртоў больш мадэрновай і эксперыментальнай накіраванасці. Маю на ўвазе творчасць дуэта «ЯR» і гурту «Джамбібум», якія выканалі песні са сваіх новых альбомаў «Хоха» і «Жавароначкі».

Але сапраўднае свята для львавян, якія ў гэты дзень прыйшлі на фэст, пачалося, калі на сцэну былі запрошаны лідар медыевальнай сцэны Беларусі гурт «Стары Ольса». Трэба адзначыць, што сустрэча з «жывым» выкананнем «Старога Ольсы» — гэта доўгачаканы падарунак для беларусаў Львова. Як адзначыў адзін з актыўных дзеячаў беларускага руху ў Львове Сяржук Горбік-Нехамец, гэтую сустрэчу з музыкай знанага гурту яны чакалі вельмі даўно і вельмі задаволены магчымасцю пачуць тыя кампазіцыі, якія вядомы ім па дысках. Асаблі-

ва зацікавіла львавян балада «Бітва пад Оршай», у якой праслаўляецца вядомы ў Беларусі і ва Украіне князь Канстанцін Астрожскі.

Улюбёнцам украінскай публікі стаў артыстычны і выкшталцоны Зміцер Вайцюшкевіч са сваім гуртам «WZ-Orkiestra». І гэта зразумела, бо Зміцер — вядомы выканаўца як беларускіх песень, так і блізкіх ім украінскіх. Асабліва памежнага палескага рэгіёна. Падчас выступлення Змітра плошча Рынак была запоўнена найбольш і жыхары горада адчынялі вокны сваіх кватэр, каб лепш была чуваць цудоўная музыка беларускага выканаўцы…

Праўда, трохі пазней вокны давялося прычыняць, бо на сцэну выйшлі гурты значна больш гучныя, хоць даволі арыгінальныя. Гэта тычыцца беларусаў з «Litvintroll» і гурту з Івана-Франкоўска «Кораллі». Аб’ядноўвала іх не толькі магутная гітарная «падкладка» ў гучанні, але і выкарыстанне старадаўніх народных інструментаў: беларускіх дудаў і гуцульскай трэмбіты адпаведна. Беларускі гурт выконваў «металічны» рок з сярэднявечнымі акцэнтамі, украінцы — рытмічны этна-фанк пад завадныя гуцульскія рытмы-«каламыйкі». А паміж выступам гэтых каманд сваё баявое майстэрства прадэманстравалі ўкраінскія ваяры з рыцарскага клуба «Чорны Галич».

Пакуль музычна-тэатральная дзея, якая адбывалася на плошчы Рынак, блізілася да завяршэння, як у парку культуры імя Б. Хмяльніцкага распачаўся фінальны канцэрт фэсту «Be Free» — «Быць вольным». Яго распачалі выступленні ўкраінскага гурту «Ху4», вядомых у Беларусі каманд «IQ-48», «Mauzer». Далей зайгралі польскія музыкі з гурту «Metanoia», якія трапілі на фэст праз удзел у конкурсе маладых выканаўцаў Rocko-Go. Дарэчы, сваю праграму польскія выканаўцы вялі па-беларуску.

З асаблівай увагай слухачы аднесліся да твораў знакамітай «Крамы», якая ў гэты дзень выконвала толькі хіты. Трэба было адчуць, стоячы ў сярэдзіне натоўпу, як большасць слухачоў падпявае «Краме» і іх песням «Камендант», «Будзь разам з намі», «Выпі са мной да дна», «Хавайся ў бульбу». Адзін з актыўных прадзюсараў фэсту, лідар гурту «ULIS» Слава Корань, не зважаючы на каласальную стому ад фестывальнай мітусні, на сцэне быццам бы пераўтварыўся ў новага чалавека. Радаваў цудоўнымі кампазіцыямі, якія былі «расквечаны» віртуознымі пасажамі яго гітары. Зразумела, найбольшы поспех мела этапная кампазіцыя музыканта «Радыё Свабода».

Што тычыцца яшчэ аднаго знакамітага ўдзельніка фэсту — гурту «Neuro Dubel», то гэтым разам Аляксандр Кулінковіч і яго калегі аддалі перавагу сваёй роднай мове, што вельмі спадабалася і беларусам, і ўкраінцам.

Завяршалі фэст улюбёнцы ўкраінскай публікі, добра вядомыя ў Беларусі музыканты гурту «Тартак». Лідар каманды Сашко Палажынскі перад выкананнем кампазіцыі «Не жадаю» папрасіў ва ўкраінскіх слухачоў прабачэння за тое, што іх любімы твор гучыць не на роднай мове, у беларусаў за тое, што па-беларуску песня будзе не зусім дакладнай па тэксту і вымаўленню. Але Сашко выканаў «Не жадаю» так дакладна, што гэты варыянт кампазіцыі ўжо можна лічыць класікай беларускага рэпа, хоць і «ўкраінскага гатунку».

*Анатоль Мяльгуй*
*«Новы час», 2008 год*



# Спатканне з беларусамі ЗША



Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» аказала арганізацыйную дапамогу ў правядзенні сустрэчы беларусаў Амерыкі з беларускім спеваком Змітром Вайцюшкевічам. Канцэрт артыста прайшоў 4 снежня 2009 года ў грамадскай зале сабора Святога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку.

Пра свае ўражанні ад сустрэчы і ад канцэрта распавядае сам выканаўца: «Зала, у якой я выступаў, дастаткова вялікая. Яна была амаль уся запоўненая. Можа, не зусім шчыльна, бо людзі не чакалі, што я прыеду. Я з'явіўся як гром сярод яснага неба. Вельмі прыемна было, што былі і людзі сталага веку, і вельмі шмат моладзі, і таксама афіцыйныя асобы, якія працуюць пры пасольстве ці ў ААН, дакладна не магу сказаць. Уражанні засталіся вельмі пазітыўныя. Мяне добра прымалі, пасля канцэрта накармілі вельмі смачнай яешняй. Гэта была вельмі цікавая паездка, бо мы ж у прынцыпе мала што ведаем пра жыццё беларусаў у Амерыцы. А тут была магчымасць сустрэцца ў жывую».

«Адным з першых, хто нёс беларускае слова на замежным радыё, быў выхадзец з Наваградчыны, прафесар Янка Запруднік, які жыве ў ЗША. Яго перадачы на гістарычныя тэмы былі заўсёды змястоўнымі, дапамагалі тым, хто іх слухаў, пазнаваць мінулае і сучаснае нашага народа. Як адзначаў сакратар беларускіх грамадскіх арганізацый у Саўт-Рыверы Міхась Сенька (ураджэнец мястэчка Новы Свержань на Стаўпеччыне), праз пяць дзясяткаў гадоў знаходжання ў эміграцыі, для яго беларуская дзейнасць заўсёды з'яўлялася патрэбай душы, той нябачнай нітачкай, якая лучыла яго з Радзімай.

У суладдзі з нацыянальнымі традыцыямі Бацькаўшчыны імкнуліся працаваць у эміграцыі прадстаўнікі розных катэгорый беларускай інтэлігенцыі. Творчасць многіх з іх пакінула адметны след, унесла каштоўны ўклад у мастацкую спадчыну беларускага народа. Хтосьці далёка ад Радзімы ствараў музычныя творы, у якіх гучалі мілыя сэрцу родныя матывы, хтосьці маляваў партрэты славутых людзей, адкла-

дзеныя з юнацкіх гадоў краявіды Беларусі, займаўся нацыянальнай вышыўкай.

У 60-я гады ў амерыканскім горадзе Нью-Джэрсі Уладзімірам Бычкоўскім, выхадцам з Петрыкаўскага раёна, быў створаны першы беларускі эстрадны аркестр у замежжы. Ён праіснаваў 25 гадоў. У яго выкананні гучала толькі нацыянальная музыка…»

У час выступленняў у ЗША Зміцер выконваў песні самага рознага кшталту, з розных альбомаў. Шмат спяваў патрыятычных песень. «Былі і жартаўлівыя песні, і сумныя, і душэўна-чуллівыя. Не ўсе беларусы Амерыкі мяне добра ведаюць, таму трэба было паказаць, чым я займаўся апошнія дзесяць год. Так што гэта быў, так бы мовіць, канцэрт-знаёмства».

«Пасля вяртання з гастрольнай паездкі па ЗША Тодар прыйшоў у Тэатр беларускай драматургіі і прапанаваў гледачам і сябрам з кампаніі «Будзьма» невялічкі спектакль, які складаўся з некалькіх частак: філасофскай развагі «Дарогі» на вершы Уладзіміра Някляева, драматычных «Зорак» на вершы Рыгора Барадуліна і лірычна-жартаўлівай песні «Суседка» на верш Г. Бураўкіна», — адзначыў музычны крытык Анатоль Мяльгуй.

## «Для мяне важна будаваць мост паміж Амерыкай і Беларуссю»

Вядомы беларускі музыка Зміцер Вайцюшкевіч у рамках праграмы «International Visitor Leadership» правёў тры тыдні ў ЗША і дзеліцца сваімі ўражаннямі.

— Нашае знаёмства з Амерыкай адбывалася цягам трох тыдняў — з 14 лістапада па 6 снежня. За гэты час мы даведаліся, што яна з сябе ўяўляе з пункту гледжання культуры. Галоўны прынцып: ты ўкладаеш уласныя грошы ў любы культурны праект, табе скасоўваюць падаткі. Гэта былі тры тыдні, насычаныя сустрэчамі, адкрыццямі, новымі людзьмі, гатэлямі, самалётамі, машынамі. Мы наведалі пяць гарадоў: Вашынгтон — сталіцу, Сіэтл на паўночным захадзе ЗША, Канзас-сіці ў Цэнтральнай Амерыцы, Новы Арлеан на поўдні і Нью-Ёрк на ўзбярэжжы Атлантыкі.

*— Гэта было Ваша першае падарожжа ў Злучаныя Штаты?*

— Так, я быў у Амерыцы ўпершыню, і мне вельмі там спадабалася. Амерыканцы любяць вялікія машыны, канкрэтыку, упэўненасць у сабе і энергічны лад жыцця. Гэта датычыцца і музыкі. Мне як музыку было цікава, што слухаюць амерыканцы. Я быў прыемна ўражаны, што паўсюль, нават у звычайных прадуктовых крамах, гучыць якасная музыка. Яна грунтоўная, і ў ёй няма легкадумнага налёту. Канешне, немагчыма падагульняць, бо Амерыка ўся розная. Напрыклад, Канзас-сіці — гэта сталіца другой эпохі амерыканскага джазу. І гэта ўнікальнае месца, радзіма Паркера, павольна памірае. А ў Новым Арлеане жывуць вельмі вясёлыя людзі, нягледзячы на тое, што яны пакутавалі праз ураган Катарыну ці калісьці былі абцяжараныя барацьбой за правы чорных. Яны гэтага не хаваюць, наадварот, кажуць і спяваюць аб гэтым. І мне гэтая рыса характару ў арлеанцах вельмі падабаецца.

*— Значыць, добрую музыку варта слухаць у Новым Арлеане?*

— Новы Арлеан — найпрыгажэйшы горад Амерыкі і, бадай, самы вясёлы. Нават на вуліцы можна пачуць шмат музыкаў самага высокага ўзроўню. Калі хочаш адарвацца, паслухаць цікавую музыку і пасядзець у рэстарацыі, дзе сядзелі Нікалас Кейдж ці Брэд Піт, трэба ехаць у Новы Арлеан. У Амерыцы гэта так натуральна, што ў кожнай, нават самай непрывабнай кавярні сядзела якая-небудзь зорка. Са знакамітасцю і

сёння можна спаткацца ў звычайнай кавярні: амерыканская эліта часта п'е каву. Для нас гэта гучыць трошкі шокава: як можна ў простай кавярні ўбачыць Луі Рыда ці, скажам, Джона Траволту?

*— А ці добра амерыканцы ведаюць тых, хто жыў з імі побач?*

— Амерыка ў гэтым сэнсе дзіўная краіна. Напрыклад, мы наведвалі Сіэтл. Кажуць, што гэта радзіма гранжу. Аднак амерыканцы часам гэтага не ведаюць. Былі на магіле Джымі Хендрыкса — легендарнага амерыканскага гітарыста. Пра яго таксама не шмат хто ведае. Калі кажаш, што ён тут, чуеш у адказ здзіўленае пытанне: «Really?» А ўвогуле, Сіэтл — прыгожы індустрыяльны горад, дзе над пэўным раёнам увесь час лятаюць «Боінгі»: іх там выпрабоўваюць. Горад вядомы і тым, што недалёка ад яго жыве Біл Гейтс: мае над возерам вялізную дачу.

*— Пераканаліся ў тым, што Амерыка — краіна кантрастаў?*

— Так, напрыклад, у Вашынгтоне насупраць Белага дома можа сядзець дзед з дрэдамі, апрануты ў парваныя джынсы, вельмі падобны да Бога Джа. Ён — мясцовая легенда, якую ўсе фатаграфуюць. Прычым ён не патрабуе за гэта грошай і спіць тут жа, на лаўцы, нікому не замінаючы і нічога не парушаючы. Альбо насупраць таго ж Белага дома можа стаяць намёт, дзе жыве жанчына, якая нечага дамагаецца. Калі жанчыне трэба сысці, яе падмяняе сябар. У намёце заўсёды нехта ёсць: і ў залеву, і ў спёку. А Нью-Ёрк — гэта горад, які ніколі не спіць. З аднаго боку, Нью-Ёрк уражвае. Мы былі на Брадвеі, хадзілі на мюзікл «Чыкага», сустракаліся з тэатраламі, якія цікавяцца ў тым ліку і беларускім тэатрам. Я выступаў перад беларускай дыяспарай у царкве. У гэтым горадзе вельмі насычанае культурнае жыццё. З іншага боку, самае галоўнае, і не толькі ў Нью-Ёрку, а ў любым іншым амерыканскім горадзе, — выбіраць раён, па якім можна хадзіць. У кожным горадзе ёсць пэўныя вуліцы, на якія лепш не выходзіць: цябе могуць абрабаваць ці збіць. Амерыка не самая бяспечная краіна. Там нямала паліцэйскіх, і яны працуюць па шчыльным графіку, як у амерыканскім кіно. Да законапаслухмяных грамадзян паліцэйскія ставяцца вельмі добразычліва. Так, каля Белага дома з імі часта фатаграфуюцца турысты.

*— Падчас Вашага падарожжа Амерыка пачала рыхтавацца да святаў…*

— Мы якраз трапілі на Thanksgiving day. Дзень, калі ўсе адно аднаму дзякуюць. Гэта сямейнае свята, калі амерыканцы едуць да сваіх бабуль, дзядуляў ці бацькоў, каб сустрэцца ўсёй сям'ёй, з'есці святочнага ін-

дыка і даволі весела правесці час, штосьці ўзгадаць, памаліцца Богу. У Нью-Ёрку мы жылі літаральна за сто пяцьдзясят метраў ад 5-й авеню і вельмі блізка ад галоўнай ёлкі Амерыкі. У першы дзень нават мелі праблемы з пропускам, бо, калі ўсталявалі ёлку, павінна было адбыцца яе ўрачыстае адкрыццё, і вуліцы заблакавалі. За некалькі тыдняў да Каляд каля кожнай крамы ці рэстарацыі з'яўляецца «зазывала», які са званочкам у руках спявае калядныя песні «Jingle Bells» ці «I Wish You a Merry Christmas!» Яны запрашаюць зайсці і набыць што-небудзь. У гэты час у Амерыцы пачынаюцца вялікія распродажы, sales, падчас якіх адбываюцца сапраўдныя штурмы гіпермаркетаў. У савецкія часы так штурмавалі ГУМ альбо ЦУМ, калі з'яўляліся імпартныя рэчы. Увогуле, амерыканцы ўвесь час нешта набываюць. Для іх — гэта частка жыцця, яны так прызвычаіліся.

*— Амерыканцы вядомыя ва ўсім свеце тэмпам свайго жыцця, у якім прытрымліваюцца прынцыпу: «Хто паспеў, той і з'еў». Наколькі гэта адчувальна?*

— Сапраўды, гэта можна адчуць і ў прамым, і ў пераносным сэнсах. Сярод іншага, амерыканцы прызвычаіліся вельмі хутка есці на вуліцах. Паход у рэстаран звычайна нешта каштуе. Можна паабедаць ад 50 даляраў і да бясконцасці. А можна і за 10 даляраў мець абед. Калі за маленькім столікам акрамя цябе будуць сядзець дзед з бабуляй — для Амерыкі гэта не страшна. Кожны сам сабе, ніхто нікому не перашкаджае, у рот не глядзіць, але адначасова і не адгароджваецца. З еўрапейскай кухняй таксама праблем няма. Мы і боршч елі, і салату з буракоў, і ўкраінскі аліўе, і грэчку — гаспадыня адной з рэстарацый з Урала прыехала. Амерыка — тая краіна, дзе можна знайсці ўсё: хочаш — найлепшую французскую кухню, хочаш — італьянскую, японскую ці кітайскую. Патрапіўшы ў гіпермаркет, я таксама быў шакаваны разнастайнасцю асартыменту. Я быў шмат дзе: і ў японскіх, і ў нямецкіх, і ў французскіх гіпермаркетах. Там таксама ўсяго багата, але ў амерыканцаў гэтага ў сотні разоў больш. Гэта тычыцца ў першую чаргу зеляніны, садавіны, агародніны, морапрадуктаў і кулінарных вырабаў.

*— А крызіс не паўплываў на разнастайнасць гэтага выбару?*

— Амерыканцы шмат кажуць пра крызіс. Нам не пашанцавала: мы прыехалі ў год, калі ў Амерыцы крызіс, але нам так не падалося. З аднаго боку, я разумею, што жыць там не проста. Так, адзін паркінг у цэнтры Вашынгтона каштуе шэсць даляраў за гадзіну. У нас — тры тысячы рублёў. Вядома, скажуць, што ў іх зарплаты вышэйшыя, але

там і машын у дваццаць разоў больш. У Амерыцы шмат багатых людзей, а гэта дае магчымасць сярэдняму класу адчуваць сябе больш вольна эканамічна. З іншага боку, я ўпершыню ў жыцці бачыў творы Эль Грэка, Веласкеса, Гоі, Шагала ў арыгінале. Для мяне Амерыка застаецца найбагацейшай краінай у свеце. Краінай, дзе магчыма ўсё.

— *Так званая «амерыканская мара»?*

— Людзі часта едуць у Амерыку за няспраўджанымі марамі. Там усё нашмат прасцей і, адначасова, усё нашмат складаней. Пытанне не толькі ў грашах. Ты павінен праявіць цікавасць да таго, да чаго імкнешся. Тады будуць і грошы, і прапановы, і мара спраўдзіцца. Людзі там цікавыя. Гэта першае, што важна ў любой краіне. Адразу кідаецца ў вочы, што абсалютна не знаёмыя людзі даволі добразычліва вітаюцца паўсюль: у гатэлі, у краме, калі ты ідзеш па вуліцы… Хтосьці скажа, што гэта «дзяжурная» ўсмешка. Магчыма. Аднак гэта прыемна і для чалавека-чужынца, які ўпершыню ў Амерыцы, вельмі важна.

— *А ці адчуваеш сябе чужынцам у «краіне эмігрантаў»?*

— Наведваючы гарады, якія былі запланаваныя праграмай, мы рабілі перасадкі ў Чыкага, Даласе і іншых месцах. У аэрапортах і ў гарадах вельмі шмат людзей розных нацыянальнасцяў. Гучыць шмат моваў: і мексіканская, і партугальская, і польская. У Новым Арлеане я нават бачыў помнік эмігрантам. У гэтым сэнсе ў ЗША я адчуваў сябе вельмі камфортна.

— *Настолькі камфортна, каб там жыць?*

— Мне вельмі спадабалася Амерыка, але гэта не азначае, што я хацеў бы там жыць. Мне хацелася б быць у гэтай краіне турыстам, чалавекам, якому цікава мець справу з амерыканцамі.

— *Напрыклад, супольны праект?*

— Для мяне важна будаваць мост паміж Амерыкай і Беларуссю, адсюль — туды. Дзеля гэтага не трэба кідаць усё тут і жыць там. Дзеля гэтага дастаткова чытаць вершы амерыканскіх паэтаў, пазнаёміцца з кімсьці і ездзіць у госці. Жыць там паўгода, хадзіць у крамы, гатаваць сабе ежу, знаёміцца з краінай, набываць музычныя інструменты, выбар якіх вельмі вялікі. Туды варта ездзіць, каб глядзець, вучыцца. Мне ў Амерыцы дасягаць чаго-небудзь ужо запозна. Мой шоу-бізнес, мая песня — тут.

*Гутарыла Яна Шыдлоўская*
*«Турызм і адпачынак», 2010*

# Любоў і павага да прыроды – галоўная частка шведскай душы



Дні культуры Беларусі ў Швецыі прайшлі 23–26 лютага 2010 года. Пра гэта паведамлялася на сайце аднаго з ініцыятараў мерапрыемства — шведскай арганізацыі Forum Syd, мэта якой — міжнароднае супрацоўніцтва дзеля справядлівасці ў глабальных пытаннях. Што да супрацоўніцтва Forum Syd з Беларуссю, то, паводле аднаго з лідараў арганізацыі Анікі Холмберг, галоўны прыярытэт у гэтым напрамку — падтрымка грамадзянскай супольнасці ў краіне.

У праграме «Беларускіх дзён» былі семінары, практыкумы ды культурныя вечарыны. У мерапрыемствах узяла ўдзел міністр па справах ЭЗ Й. Біргіта Ульсан. Сярод беларускіх удзельнікаў знаходзіліся актывісты няўрадавых арганізацый. Менавіта «правы чалавека і грамадзянскай супольнасці ў Беларусі» сталі адной з галоўных тэмаў мерапрыемства.

25 лютага 2010 года на сцэне папулярнага Hugos kafe ў старажытным універсітэцкім горадзе Упсала, непадалёк ад Стакгольма, даў канцэрт беларускі музыка Зміцер Вайцюшкевіч.

Мерапрыемства праходзіла ў межах «Дзён Беларусі ў Швецыі». Як засведчыў адзін з арганізатараў «Дзён», кіраўнік праваабарончай ініцыятывы Ostgruppens Марцін Угла, запрашэнне ў Швецыю «легенды сучаснай альтэрнатыўнай беларускай музыкі» было невыпадковым.

«Летась увосень Зміцер прыняў удзел у нашым праекце — выпуску музычных кружэлак "Messages from Belarus". Гэта своеасаблівая акцыя падтрымкі свабоды няўрадавых арганізацый у Беларусі», — сказаў шведскі праваабаронца. Па словах Марціна Углы, Вайцюшкевіч зрабіў на шмат каго добрае ўражанне як музыка, «да таго ж ён быў неверагодна смешным». Зміцер Вайцюшкевіч выступіў з канцэртам у Стакгольме.

Акрамя канцэртаў у межах Дзён Беларусі ў Швецыі праходзяць семінары, прысвечаныя свабодзе СМІ, праблемам «Усходняга партнёрства», стасункам паміж Еўразвязам і Беларуссю, так званыя «workshops» — мерапрыемствы для прадстаўнікоў няўрадавых ар-

ганізацый, падчас якіх абмяркоўваюцца гендарныя пытанні, праблемы экалогіі ў Швецыі і ў Беларусі. Пра свае ўражанні ад наведвання Швецыі Зміцер распавёў журналістам:

«Швецыя — невялічкая паўночная краіна, якая менш за стагоддзе ператварылася з жабрацкага прымітыўнага сельскагаспадарчага краю ў адно з самых сучасных грамадстваў дабрабыту ў свеце.

Любоў і павага да прыроды — цэнтральная частка шведскай душы. У нашых паўночных суседзяў існуе старажытны, унікальны ў сусветнай практыцы закон, які дае магчымасць усім без выключэння свабодна знаходзіцца на ўлонні прыроды — ставіць намёты, збіраць грыбы, кветкі, ягады, купацца. Гэтае права распаўсюджваецца нават на прыватныя тэрыторыі, умова адна — каб вас не было відаць з дома ўладальніка. Прынцып, які ляжыць у аснове гэтага, — "свабода ў спалучэнні з адказнасцю" — вядомы ўсім і кожнаму. Людзі не павінны забруджваць прыроду, пакідаць смецце, ламаць голле дрэваў, абавязаны дбайна ставіцца да вогнішчаў. На міжнародным узроўні Швецыя даўно і актыўна працуе над пытаннямі глабальнай экалогіі ў рамках ААН.

На самай поўначы знаходзіцца агромністы лапландскі свет: голыя скалы, нізкарослыя лясы, моцныя вятры. Скандынаўскія горы цягнуцца на поўдзень уздоўж Заходняй мяжы краіны, быццам хрыбетнік, які аддзяляе Швецыю ад Нарвегіі.

Ля ўсходняга ўзбярэжжа Швецыі знаходзяцца дзве вялікія выспы — Готланд і Эланд, унікальныя сваім хараством: з шыпастым вапняком берагоў, квяцістымі лугамі і верасовымі пусткамі, якія пераліваюцца багаццем фарбаў, якое звычайна можна сустрэць толькі на паўднёвых шыротах. На поўдні краіны месціцца Сконтэ — самая багатая і ўрадлівая сельскагаспадарчая правінцыя краіны, дзе гойдаюцца раўніны, мякка перакочваюцца ўзгоркі, шумяць лісцем лясы і мілямі цягнуцца пясчаныя пляжы.

Тыпова шведскай можна назваць рэдкае і супярэчлівае спалучэнне амаль экстрэмальнай мадэрнасці і для многіх іншаземцаў дзіўнай і экзатычнай замілаванасці прыродай і простай культурнай спадчынай. Шлях "залатой сярэдзіны", — так шведы кажуць пра свой народ, які цэніць кампраміс, узаемапаразуменне, заўсёды выбірае меншае з двух ліх. Яны маюць грамадства з меншай эканамічнай розніцай паміж класамі, чым у іншых, блізкіх па развіццю краінах».

Зміцер Вайцюшкевіч запісвае новы альбом на вершы вядомых шведскіх паэтаў Кэнэта Клемэца, Крыстафера Леандаэра, Катарыны Фростэнсан у перакладзе на беларускую мову. Вершы шведскіх паэтаў насычаныя свежым паветрам, пошукамі свабоды асобы і свайго «я».

Адна з аўтараў, Катарына Фростэнсан, паэтэса, драматург, жыве ў Стакгольме, сябра Шведскай Акадэміі. Крыстафер Леандаэр, паэт і крытык, які напісаў кнігу пра Марселя Пруста, нарадзіўся ў Стакгольме, а жыве ў Мінску.

Кэнэт Клемэц, народжаны ў 1964 годзе ў Готрэры, жыве і працуе ў Гэтэборгу. У 90-я гады ён выдаваў часопісы «Худыні» і «Шэхерэзадэ», удзельнічаў у паэтычнай сябрыне «Вундэрбаўм», якая мела на мэце абнаўленне шведскай паэзіі для сцэны.

*Па матэрыялах інтэрнэту*

# Чалавек і аркестр

Кожны месяц з году ў год ён выходзіў на сцэну, слухаў, як танютка, з журбой настройваецца на свой лад скрыпачка, разыгрываюцца баян і клавішныя, як адбівае рытм ударнік. Трамбон распачынаў сваё блюзавае сола, яму адгукаўся кантрабас. Паступова ўсе гукі ядналіся ў адну мелодыю, і яна ператваралася ў супольнае музычнае падарожжа аркестра і слухачоў.



Ужо дваццаць гадоў свайго жыцця ён прызвычаіўся быць у цэнтры вадаспада гукаў. Хваля гукаў абуджала знявераных, узмацняла разгубленых, люляла і закалыхвала закаханых. Ён пачаў адчуваць сябе чалавекам-аркестрам, які мысліць канцэртна, задумвае сцэнар, надае кожнаму інструменту сваю партыю і знітаваны з імі.

Яму трэба было бачыць твары слухачоў у першых шэрагах: узнёслыя, лагодныя, усмешлівыя. Адчуваць прысутнасць тых, хто падхопіць песню, хоць і не ведае ўсіх словаў.

І раптам — сцэна знямела. Пагасла святло. Дзверы зачыніліся. Паэт патрапіў на бальнічны ложак. Тэлефон змоўк. Засталася адна гітара.

Ён браў з сабой гітару і заплечнік, сядаў у машыну, руліў трыста кіламетраў па магістралі і гравейцы, прыязджаў у клуб, дзе яго ўжо чакалі і было не прабіцца, дзе паветра было нагрэтае, а юнакі — вясёлыя і жанчыны — гасцінныя.

Ён граў так, што гітара і ягонае слова замянялі аркестр, а госці ўяўлялі сабе, што яны не ў кавярні з драўлянымі дубовымі стойкамі, а ў сталічнай канцэртнай зале. Іх твары свяціліся шчасцем, яны пляскалі ў далоні так, што ён зноў пачынаў чуць клавішныя і баян побач з сабой.

Ён сядаў у самалёт, уздымаўся вышэй аблокаў, пераадольваў часавыя паясы і прылятаў з ночы ў дзень. Ён выходзіў да грамады і вітаў родных яму па духу і мове людзей за акіянам.

Ён верыў, што калі-небудзь зноў выйдзе да вялікай залы. Што студыйныя запісы пальюцца з дынамікаў і экранаў і здзейсніцца яго мара: песня яго краіны паляціць па ўсім свеце.



# Сустрэча праз гады

Новы восеньскі сезон на вялікай сцэне пасля трохгадовага перапынку распачаў Зміцер Вайцюшкевіч і «WZ-Orkiestra» 29 кастрычніка 2014 года ў Палацы культуры імя Шарко.

Тры з паловай гады, не маючы магчымасці выйсці да вялікай аўдыторыі, артыст выступаў у офісах грамадскіх арганізацый і на касцельных фэстах, у «Арт-сядзібе» і Еўрапейскім клубе, на курсах «Мова нанова», спрабаваў сябе ў новых амплуа.

У студзені 2012 года артыст выступіў для беларусаў Іркуцка. У рамках грамадскай кампаніі ***«Салідарнасць з Беларуссю»*** ён здзейсніў у 2012 годзе аўтапрабег Прага–Браціслава–Кракаў–Амстэрдам–Вена–Берлін, дзе яго прымалі ў мэрыях, студыях і кавярнях. Спявак атрымаў у 2013 годзе ў Бычках прэмію ***«За свабоду думкі»***. У 2013 годзе артыст выдаў дыск шансону «Варанок» на вершы Генадзя Бураўкіна.

У 2014 годзе Зміцер з болем перажыў адыход настаўнікаў і сяброў: Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна. Але яны пакінулі запавет: працягваць іх справу, працаваць для Беларусі, для беларускай культуры.

У 2015–2016 гадах пры сустрэчах са слухачамі спявак пачаў разважаць на такія цяжкія тэмы, як старасць, смерць. «Я наведваў дамы саста-



рэлых у Польшчы і спяваў для іх жыхароў. Ва ўсёй Еўропе шмат дамоў для «сеньёраў». Аднойчы ў час такіх выступленняў з намі быў 90-гадовы Анджэй Вайда. Ён і пажылыя кабеты былі поўныя аптымізму, дзяліліся сваім жыццёвым досведам і натхнялі мяне сваімі словамі. Час ідзе — і чалавек непазбежна мяняецца, сустракаецца з жыццёвымі стратамі, пераадольвае цяжкасці», — казаў Зміцер.



Перапынак у тры з паловай гады вызначаўся не толькі сумнымі падзеямі, выпрабаваннямі і стратамі, але і шчаслівымі момантамі. У артыста павялічылася сям'я: нарадзілася дачушка Стэфанія, пра якую ён кажа: «Маё святло!».

У 2015 годзе спявак атрымаў стыпендыю польскага Міністэрства культуры і знаходзіўся на стажыроўцы ў Варшаве з сям'ёй, дзе вывучаў асаблівасці музычнага афармлення спектакляў у сучасных тэатрах Польшчы. У 2015–2017 гадах маштабныя канцэрты спевака адбываліся ў Вільні ў памяшканні гарадской ратушы і ў Польскім доме.

У летні перыяд артыст слушна перанёс цэнтр сваіх выступленняў на аграсядзібу над Нёманам Вайцюшкі, дзе ў 2014 годзе правёў шэсць



музычных фэстаў. Тут адбыліся фестываль «Салаўё», прысвечаны паэзіі і паэтам, «Ліпеньскі сямейнік» і «Чароўны чэрвень», «Джазавы фэст» і іншыя музычныя сяброўскія сустрэчы.

У кастрычніку 2014-га перапоўненая зала зноў сагрэлася гучаннем гітары, клавішных і баяна. Новы канцэрт Зміцер Вайцюшкевіч прысвяціў памяці адышоўшых настаўнікаў. Прагучалі песні на словы Генадзя Бураўкіна «Месяц — жоўтая лодка», «Гітара», «Суседка», «Дачакайся, матуля». З настальгіяй праслухала зала песні Рыгора Барадуліна «Пані трошкі ў гадах» і «Калыханка». Зміцер узгадаў, як Алесь Камоцкі 10 гадоў таму пазнаёміў яго з Рыгорам Барадуліным, ён натхніўся яго высокімі радкамі і стварыў дыск «Паравоз кахання».

Другая палова канцэрта была прысвечна драматычным творам на тэмы песень Уладзіміра Някляева «Паланэз» і Уладзіміра Маякоўскага «Разговор с товарищем Костровым из Парижа о сущности любви». Прагучалі песні на вершы Рафала Ваячака і Яраміра Нагавіцы.

Шмат пяшчотных словаў пачулі дзяўчаты, жанчыны і матулі ў свой адрас. Знайшоўся ключык да мужчынскіх сэрцаў праз словы Уладзіміра Някляева ў песні «Ты — залаты». Шчырасць, чуласць ашчаслівяць беларусаў, палепшаць дэмаграфічную сітуацыю і дапамогуць вырашыць эканамічныя праблемы, — упэўнены артыст.

Выкананне песні на словы Уладзіміра Някляева «Сукенка» спявак адрасаваў сваёй дачушцы, з вуснаў якой ён чуе пяшчотныя словы. Зноў прагучалі самыя светлыя і трапяткія песні, напісаныя на Нёмане. Новым канцэртам Зміцер Вайцюшкевіч пацвердзіў сваё высокае пакліканне артыста, якому належыць народнае прызнанне.

Яго сябры з «WZ-Orkiestra» за прайшоўшыя гады мелі свае поспехі і дасягненні. У лепшага баяніста Беларусі Аляксандра Шувалава нарадзілася дачка Настачка, ён выступаў у Польшчы, Літве, Эстоніі, зрабіў шмат запісаў, займаўся са студэнтамі Беларускай акадэміі музыкі і стаў загадчыкам кафедры баяна.

Піяніст і кампазітар Андрэй Лабчэўскі выступаў на Беларусі і за мяжой, стварыў музыку для спектакля «Нямое каханне» для Тэатра беларускай драматургіі, штогод выступаў з калектывам «Дыліжанс-джаз». Цудоўная Ксюша Мінчанка стала Ксеніяй Кап’ёвай. Яна падгадавала старэйшую дачушку Марыю і нарадзіла двух блізнятак — Апанаса і Ціхана.

*Эла Дзвінская*

*«Наша слова», 6 лістапада 2014 года*

# Зміцер Вайцюшкевіч: класік «паэзіі спяванай»

Вядомаму беларускаму спеваку, кампазітару і мультыінструменталісту, кіраўніку гурта «WZ-Orkiestra» Змітру Вайцюшкевічу споўнілася 45 гадоў. Развагамі пра свой лёс і пакліканне ён падзяліўся з чытачамі «Новага часу».

Няма неабходнасці пераконваць, наколькі выдатны ўнёсак ён зрабіў у сучасную беларускую культуру за гады сваёй творчай дзейнасці. Я б вылучыў, што Вайцюшкевіч сваімі песнямі, яркімі мелодыямі, мяккім выкананнем зацікавіў шмат маладых слухачоў беларускай паэзіяй — як класічнай, так і сучаснай. Знайшлося ў творчым багажы Вайцюшкевіча месца і для высокіх узораў сусветнай паэзіі, збольшага перастворанай па-беларуску.



*— Зміцер, з чаго пачыналася Ваша беларуская самасвядомасць?*

— У тыя часы, калі я вучыўся ў Лідзе ў музычнай вучэльні па класе кларнета, я, як і многія беларусы і слухачы ў іншых краінах, упадабаў песні Уладзіміра Мулявіна і «Песняроў». Мяне ўражваў меладызм твораў Мулявіна, арганічнасць беларускай мовы ў іх выка-

нанні. Безумоўна, гэта прыгажосць роднага слова выклікала ў мяне жаданне дакрануцца да нацыянальных крыніц, звязаць сваю будучую музычную кар'еру з беларушчынай. Я нават марыў, каб самому стаць удзельнікам «Песняроў».

Потым былі «KRIWI» і «Палац», які ў той час меў назву «Дворец кукурузных палочек». Падчас працы ў «Дварцы...» мы ўжо свядома зрабілі выбар на карысць беларушчыны і змянілі назву гурта на «Палац». Акрамя гэтага, мне захацелася адысці ад фальклору на карысць «паэзіі спяванай».

*— З моманту выхаду Вашага першага альбома «Цацачная крама» прайшло ўжо 15 гадоў. Можна заўважыць, што Вы ў сваіх песнях аддаяце перавагу класічнай паэзіі. Якія вершы натхняюць найбольш?*

— Сапраўды, «Цацачная крама» — гэта першая мая спроба ў рэчышчы супрацоўніцтва з прафесійнымі паэтамі. Я звярнуўся да Леаніда Дранько-Майсюка з прапановай парэкамендаваць некалькі яго вершаў для маіх музычных кампазіцый. Вынік быў добры, і так з'явіўся сатырычны музычны цыкл «Цацачная крама». І хаця пасля гэтага цыкла ў мяне быў дыск «Балады» з беларускім фальклорам, песнямі на вершы Дранько-Майсюка я запачаткаваў серыю праграм на вершы знакамітых паэтаў мінулага і сучаснасці.

Потым былі песенныя цыклы на вершы Алеся Камоцкага, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Уладзіміра Караткевіча. У рамках



канцэпцыі «WZ-Orkiestra» («Усход-Захад-аркестр») была падрыхтавана праграма на вершы замежных паэтаў — Уладзіміра Маякоўскага, Рафала Ваячака, Яраміра Нагавіцы, а таксама на японскія вершы і на творы шведскіх паэтаў, перакладзеныя на беларускую мову. Цікавіла мяне і стварэннеквераў на знакамітыя беларускія песні мінулых гадоў. Так я заспяваў знакаміты твор «Бывайце здаровы» Ісака Любана і Адама Русака, а потым выдаў кружэлку «Наша песня».

*— «WZ-Orkiestra» — Ваша канцэртная падтрымка, гурт сяброў і аднадумцаў. Як у гэтай суполцы нараджаюцца творы: Вы дыктуеце, як трэба граць, ці гэта супольная творчая праца? Склад «WZ-Orkiestra» не змяняецца?*



— У нас няма дыктату: бывае, асноўныя ідэі для аранжыроўкі песні прыношу я, бывае, што твор нараджаецца высілкамі ўсёй каманды. Галоўнае, каб супольная творчасць спрыяла гарманічнаму спалучэнню музыкі і паэзіі. І тут давяраю такім цудоўным музыкам-прафесіяналам, як Аляксандр Шувалаў ці Канстанцін Гарачы...

Што тычыцца «WZ-Orkiestra», то большасць яго ўдзельнікаў працуюць і ў іншых калектывах, бо гэтага патрабуе стан беларускага шоу-бізнесу. Але склад нашага гурта стабільны на працягу многіх гадоў. Былі праблемы з бубначом і бас-гітарыстам, але іх ратацыя ў мінулым. Толькі Ксенія Мінчанка цяпер знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку. Але, спадзяюся, хутка вернецца ў гурт і ўпрыгожыць яго гучанне сваёй скрыпкай.

*— Апошнім часам у СМІ шмат гаворыцца пра Ваш культурніцкі праект «аграсядзіба Вайцюшкі». Ці можна казаць, што гэтая вясковая канцэртная пляцоўка ўладкавана канчаткова і гатовая да*

*сустрэчы слухачоў? Што ў гэтым сэнсе паказала правядзенне «Традыцыйнага Купалля на Нёмане»?*

— Так, нядаўна прайшло наша «Традыцыйнае Купалле на Нёмане», якое сабрала даволі шмат для аграсядзібы ўдзельнікаў: каля сотні чалавек з усіх куткоў краіны. Былі наведвальнікі нават з Мазыра...

Ведаеце, уся гэтая гісторыя з забаронамі канцэртаў мае і станоўчы бок. Бо акрамя творчых ідэй у мяне заўсёды былі і матэрыяльныя планы. Забароны якраз і падштурхнулі мяне ўзяцца за ажыццяўленне матэрыяльнай мары пра сваю аграсядзібу з культурніцкім напрамкам дзейнасці. Хоць яна таксама патрабуе шмат фізічнай працы, фінансавых укладанняў, адміністрацыйных узгадненняў.

*Анатоль Мяльгуй*

*«Новы час», 20 ліпеня 2016 года*

# Дзецi змяняюць погляд на свет

Дзіцячыя сандалі айчынныя, савецкі кубачак, карціны са сметніцы, купленыя і падораныя... Гісторыю жыцця ў беларускіх рэаліях мы прыехалі паслухаць у госці да музыкі Змітра Вайцюшкевіча.



Дом, па словах артыста, яшчэ не даведзены да розуму. Але ўсё працуе, у хаце цёпла. «Працы шмат, канечне, але калі-небудзь таксама будзе горад-казка». Паўсюль шмат абсалютна розных рэчаў, якія нібы жывуць сваім асобным жыццём. Некаторыя падараваныя, як, напрыклад, канапа ад Стэфана Эрыксана. Былы пасол Швецыі ў Беларусі і яго жонка — хросныя бацькі дзяцей музыкі.

Зміцер Вайцюшкевіч жыве ў Астрашыцкім Гарадку, дзе знаходзіцца адна з рэзідэнцый прэзідэнта. Тут жа ў мясцовую школу ходзіць Коля Лукашэнка. Музыкант сустракае нас з малымі і папярэджвае, што спецыяльна не прыбіраўся. У гэтым доме музыка, што называецца, у прымаках. Тут жылі бацькі яго жонкі, пакуль не з’ехалі ў Ізраіль.

Цяпер у гэтым доме прыстанак Вайцюшкевіча з жонкаю і двума малымі дзецьмі, якія, па словах музыкі, у Астрашыцкім Гарадку — «на поўнай свабодзе».

Дом Змітра Вайцюшкевіча нічым не адрозніваецца ад астатніх дамоў на вуліцы Лясной. Есць гародзік, на якім растуць кветкі і ўсё, што

трэба да стала: радыска, морква, трускаўкі, зеляніна, буракі. «Гэта так прыемна — з'есці са свайго гарода». На гародзе працуе жонка.

Цяпер Вайцюшкевіч робіць прыбудову да свайго дома, дзе будзе кухня, хол з прыгожым відам на лес. У дом на Нёмане Вайцюшкевіч уклаў усё, што зарабіў за сваю кар'еру артыста.

«Тут усё на маіх хрупкіх плячах, — усміхаецца Зміцер. — Нармальны чалавек навёў бы парадак. Але сілаў і сродкаў не стае». І тут жа Вайцюшкевіч хваліцца, што ў яго доме на Нёмане з гэтым лепш.

Зміцер ставіць на стол савецкія кубачкі з гарбатай і запрашае частавацца цукеркамі — украінскімі «Бджілкамі», сярод якіх ляжаць беларускія «Алёнкі».

Пакуль няма імпрэзаў, звычайна да абеду Зміцер сядзіць з дзецьмі. «З раніцы мне не трэба спяшацца на працу, таму прачынаемся ў 10–11 гадзін».

Язэпу 4 гады, Стэфаніі — 2. Астатнюю палову дня з малымі займаецца няня. Мясцовай жанчыне з Астрашыцкага Гарадка плацяць за паслугі 3 долары за гадзіну. Старэйшы Язэпка ходзіць у прыватны садок.

Сын Вайцюшкевіча ад першага шлюбу жыве ў Мінску, але плануецца, што разам з мамай пераселіцца ў Берлін.

Жонка Змітра — Галіна Казіміроўская — артыстка хору Белдзяржфілармоніі, кіраўнік самадзейнага хору кампаніі ІВА. Цяпер жанчына працуе і адначасова знаходзіцца ў адпачынку па доглядзе дзяцей — ужо пяць год. Зміцер адзначае, што грошы, якія зарабляе яго жонка, вельмі смешныя: «Больш сыходзіць на транспарт ці бензін — ездзіць два разы на тыдзень».

Дарэчы, у сям'і дзве машыны. Subaru Forester ужо 12 год. «Мы карыстаемся машынаю два-тры разы штодзень, на Subaru выходзіць не эканомна, таму ў нас ёсць яшчэ Toyota Aygo, якая амаль нічога не "есць"». Калі якая з машын у рамонце, Зміцер і Галіна не грэбуюць ездзіць у Мінск стопам, на маршрутцы ці на рэйсавым аўтобусе.

Галоўны прыбытак у сям'ю прыносіць Зміцер. Ён, як сёння кажуць, — фрылансер. «З 1995 года, як скончыў універсітэт культуры, фактычна не ведаю, што будзе ў наступным месяцы, — расказвае Вайцюшкевіч, — Быў час, працаваў на "Аўтарадыё" за досыць смешныя грошы. Пасля яго закрылі».

Вайцюшкевіч калекцыянуе карціны. Некаторыя купляў сам, нешта падаравалі. «Артыст не абавязкова мусіць быць багаты, каб мець прыгожыя працы». Адну з карцін цешча знайшла на сметніку на Сахаліне.

А працу скульптара Буралкіна 1974 года Вайцюшкевіч набыў за смешныя грошы ў чалавека, які на сметнік вывозіў з кватэры рэчы сваёй памерлай маці. Карціны хаваюць недаробленыя сцены.



Асноўны прыбытак артыста — канцэрты, імпрэзы.

З іншага боку, давялося знайсці новыя формы супрацоўніцтва са слухачом. Вось, напрыклад, новы альбом «Варанок» — гэта беларускі шансон. Набыць альбом можна будзе нават на запраўцы, «бліжэй да народа», — кажа Вайцюшкевіч. Каб з заробкам было б лепей і каб не будаўніцтва, сям'я магла б дазволіць сабе часта ездзіць у адпачынак. Пакуль жа выходзіць раз на год — да жончынага бацькі ў Ізраіль.



З карпаратыўнымі прапановамі да Новага года ў Вайцюшкевіча спакойна. У мінулыя гады былі прапановы, але музыка выстаўляе такія ўмовы, каб правесці свята з сям'ёй на Нёмане.

Зміцер шмат выступае ў розных краінах свету: Японіі, ЗША, Нарвегіі, Скандынавіі. Супрацоўнічае з рэжысёрам Янушам Юзэфовічам, таму 1–2 разы на месяц ужо напрацягу 5 год працуе ў польскім тэатры. «Ёсць сувязі, якія дазваляюць жыць нармальна».

*Марына Варабей, фота Яўгена Ярчака*
*news.tut.by/society, 17 снежня 2013 года*

# Фота з сямейнага альбома



*— Зміцер, Вы з дзяцінства ведалі, што будзеце музыкам?*

— Не скажу, што паходжу з музычнай сям'і, але песня ў нашым доме была заўжды, нават пасля смерці бацькі. Цяпер мама мне кажа, што я раблю тое, што не паспеў бацька. Маё захапленне музыкай выбухнула, калі я патрапіў у лагер «Зубраня» і ўвесь час спяваў там, бо закахаўся ў дзяўчынку Юлію. Хацелася звярнуць на сябе ейную ўвагу.

*— У «Зубраня» траплялі пайдзеткі. Вы былі такім?*

— Не, папросту захварэў старшыня савета піянерскага атрада. Яго звалі Дзіма. Я «тожа Дзіма», быў ужо без бацькі, а там набірался змена для дзяцей-сіротаў. Настаўнік гукнуў мяне на лесвіцы і спытаў: «Хочаш паехаць?» — «Хачу». Для мяне гэта быў шанец кудысьці выбрацца. Да 6-га класа, акрамя Гародні і Менска, іншых гарадоў я ўвогуле не бачыў. Бедная сям'я, было не да паездак. З лагера я вярнуўся разбуджаным чалавекам. Я пакаштаваў прызнанне падлеткаў і выкладчыкаў, паглядзеў нармальныя гульні, жыццё дзяцей, якія маюць шырокія магчымасці. Бо я ж рос, як партызанскае дзіця: лес, грыбы, ягады, бярозавы сок, драўляныя аўтаматы, авіяцыйны палігон.

*— У такой абстаноўцы Вы патрапілі ў музычную школу?*

— Не ўсё так проста. Я запісаны быў на фартэпіяна, але ж дзе ўзяць грошай на інструмент?! Ды за школу трэба было плаціць 16 рублёў штоквартал, а мы з мамай не маглі сабе гэтага дазволіць. Я пайшоў у дзіцячы духавы аркестр. Гэта супер! Інструментаў шмат. Іграй на чым хочаш. Пасля 5-га класа мяне зноў завялі ў музычную вучэльню, і я там



застаўся. Падабалася прыгожая выкладчыца. Я іграў у школьным ВІА на бубнах, спяваў песні пра каханне, і, натуральна, была дзяўчына...

Менавіта першае каханне мела для мяне найбольшае значэнне. Я закахаўся ў яе яшчэ ў садку, потым марыў пра яе і ў школе. Тут быў элемент непрызнанага кахання, бо яна была з багатай сям'і, з начальства. Прыгожая, выдатніца. Калі б не гэта незрэалізаванае каханне, я шмат чаго б не зрабіў. Сядзеў бы там на шклозаводзе. Хаця, пры ўсім гэтым, я люблю Бярозаўку і гуту.

*— Ездзілі туды з канцэртамі?*

— Толькі з «Палацам». Але калі ідуць выступы на тэлевізіі і радыё, уся Бярозаўка тэлефануе маці дахаты: «Уключы тэлевізар, Дзімку круцяць!»

*— Маці падабаецца Ваша кар'ера?*

— Яна ўвесь час плача, калі бачыць мае выступы. А каб ганарыцца? Яна занадта для таго просты, сціплы, самастойны чалавек. Я таксама магу плакаць па нейкіх родных, інтымных рэчах, калі бачу іх на экране тэлевізіі. Затое радня ганарыцца.

*— Вам імпануюць вынікі Вашай працы?*

— Так. Я 10 гадоў у гэтым бізнесе. І што файна: у Беларусі што ні зробіш: калі ты гэта зробіш творча, усё будзе гучаць, як упершыню.


*Станіслаў Брыль і Ян Вайцюшкевіч*

Прыемна быць першаадкрывальнікам. Прытым Беларусь — артыстычная краіна з пункту гледжання музыкі.

*— Асабліва фольк-музыкі...*

— За апошні год я браў удзел у двух міжнародных конкурсах этнамузыкі, і ў абодвух быў лаўрэатам. Прафесійна заходнія музыкі вышэйшыя на некалькі галоў, але матэрыял, які мы даём, мацнейшы. У нас ёсць людзі, якія і самі могуць ствараць традыцыю. Лявон Вольскі можа быць айцом-заснавальнікам у якой хочаце сферы. Міхаіл Фінберг таксама.

*— З чым звязаны такі пад'ём у беларускай музыцы? Ледзь паспяваеш набываць новыя кампакты. Гук лепшае проста на вачах.*

— Не на выспе жывём. Вакол нас суседзі пачынаюць цаніць прафесіяналізм. Нават калі няма грошай. Трэба проста прыйсці ў студыю і працаваць. Нават калі год выдаецца кепскім, працуючы, ты паляпшаеш яго і для сябе, і для краіны.

*Гутарыла Святлана Курс*

*«Наша Ніва», 28 сакавіка 2003 года*

# Прэм’еры ля вогнішча

Цудоўны вечар у канцы жніўня правялі вандроўнікі з Магілёва ў аграсядзібе Вайцюшкі. Гаспадар прадбачліва сустрэў аўтобус на вузкай, размытай дажджом каляіне і запрасіў паследваць за яго машынай. Зміцер і Галіна гасцінна размясцілі падарожнікаў з намётамі на зялёнай пляцоўцы, а асоб старэйшага ўзросту прынялі ў самой сядзібе.

У гэтым летнім сезоне Зміцер Вайцюшкевіч правёў шэсць невялічкіх музычных фэстаў на сваім хутары над Нёманам. Аматары музыкі прыязджаюць сюды на машынах з сем’ямі. Камусьці падабаецца традыцыйнае Купалле са спевамі «Гуды», з танцамі ў бел-чырвона-белых строях, іншым вельмі па душы «сямейнікі».

«Лета прайшло даволі актыўна, — падзяліўся творчымі навінамі спадар Зміцер. — Акрамя шансону мы прапаноўвалі незвычайныя забавы — выступленне духавога аркестра з Ліды і джазавага калектыву. У маі ў нас быў фестываль салаўёў, прысвечаны паэзіі і паэтам. Мы правялі "Ліпеньскі сямейнік" і "Чароўны чэрвень". Але паколькі адлегласць ад цэнтра вялікая, то не заўсёды ведаеш, ці прыедуць на-



ведвальнікі, ці не. Выступаць у ролі гаспадара цяжэй, чым у ролі артыста. Свята ў нас лакальнае, існуе свая непаўторная атмасфера, і мы не будзем пашыраць яго фармат больш за 100 чалавек, каб не страціць утульнасці і спакою ўсіх прысутных.

Увесь час дапамагалі мне жонка, дзеці, валанцёры. Спонсараў у гэтым годзе не было. Кампанія "Будзьма" вырашала пытанне з транспартам для артыстаў. Саюз беларускіх пісьменнікаў прывозіў і адвозіў паэтаў, за гэта ім вялікі дзякуй! Фэсты для нас не бізнес, а спроба сабраць беларусаў, паказаць, што мы можам бавіць час па-сяброўску шчыра і весела. Новы год мы звычайна адзначаем тут, на Каляды будзем чакаць гасцей.

Сёлета мы страцілі дарагіх людзей, якія былі роднымі як бацькі, настаўнікі і суаўтары. Да 28 жніўня, да дня нараджэння Генадзя Бураўкіна, мы падрыхтавалі відэакліп на яго песню. Мы будзем прэзентаваць яго на Tut.by і ён будзе размешчаны на маёй старонцы ў You.Tube. Стаіць пытанне майго ўдзелу ў праекце "Re: Песняроў". Я запісаў "Вераніку" на словы Максіма Багдановіча, так, як я сабе яе ўяўляю. Стары склад "Песняроў" успрыняў песню станоўча. Канцэрт мусіць адбыцца 12 верасня ў клубе Re:Public», — распавёў артыст.

Гэтым вечарам у Вайцюшках турысты праслухалі запісы мінулых гадоў, а потым ля вогнішча артыст выканаў песні з новага праекта на словы чэшскага барда Яраміра Нагавіцы, які спявае, грае на гітары, скрыпцы, флейце і акардэоне. У 2008 годзе Ярамір Нагавіца стаў лаўрэатам літаратурнай прэміі імя Бажэны Нямцовай, якую прысуджае Акадэмія чэшскай літаратуры.

*Эла Дзвінская*

*«Наша слова», 2014 год*

# На беразе Міжземнага мора

Я купіў стос паперы,
Напісаў, што я веру,
На карабель сеў — і вось я ў Ерусаліме.
Між каменняў у Сцяне плачу,
Гэты ліст паклаў я на ўдачу,
А раптам ды ўбачыць
Той, хто над намі ўсімі.

*Я. Нагавіца*

28 сакавіка ў Тэль-Авіве прайшоў першы ў гісторыі Ізраіля беларускамоўны канцэрт сучаснага беларускага выканаўцы. Зміцер Вайцюшкевіч правёў у клубе «ПраРок» кватэрнік, выканаўшы свае найлепшыя песні.

Кватэрнік аказаўся больш чым знакавым. Па-першае, сучасная беларуская музыка ў Ізраілі ніколі да гэтага не гучала. Па-другое, у клуб прыйшлі беларускамоўныя ізраільцяне. Па-трэцяе, гэты кватэрнік у клубе можа стаць добрым пачаткам для культурнага дэсанту беларускіх музыкаў.



Гледачы цёпла сустракалі беларускага спевака. Большасць песняў былі ім добра вядомыя. Многія пасля канцэрту прызналіся, што было вельмі прыемна чуць у цэнтры Тэль-Авіва беларускую гаворку, амаль як дома.

— Краіна ўражвае субтрапічным кліматам і разнастайнасцю прыроды: горныя ланцугі Галілеі, Іарданская даліна, пустыня Арава, тры моры, — гаворыць спявак. — Гарыстыя масівы пакрытыя ерусалімскімі соснамі і таборскімі дубамі. У Верхняй Галілеі растуць дзікія масліны, узрост якіх перавышае тысячу гадоў. З імі суседнічаюць лаўры, фісташкавыя дрэвы, платаны і сірыйскія кедры. Гарады ўпрыгожваюць кіпарысы і фікусы, тамарыск і алеандр.

У габрэяў вельмі мала зямлі, і яны — працавіты народ, таму і змаглі дзякуючы сваёй нацыянальнай ідэі пабудаваць незалежную дзяржаву ў XX стагоддзі. Мы жартуем, што Беларусь дала Ізраілю больш прэзідэнтаў і нобелеўскіх лаўрэатаў, чым мы маем самі. Большасць насельніцтва жыве ў Прыморскай даліне.

Я наведваў Тэль-Авіў, Ерусалім, Хайфу і Эйлат. Выдатны мастацкі музей Тэль-Авіва займае тры будынкі. Побач знаходзіцца культурны цэнтр, а на бульвары Шауль Ха-Мелех — галоўны будынак з пастаяннай экспазіцыяй ізраільскага і сучаснага мастацтва, з вялікай калекцыяй еўрапейскага мастацтва XIV–XIX стагоддзяў.

У Ізраілі жыве бацька маёй жонкі, Сяргей Веніямінавіч Казіміроўскі. Яго бацька быў родам з Бабруйска. Ён загінуў у вайну, і спадара Сяргея выхаваў дзядзька — Саламон Казіміроўскі. Ён скончыў інстытут тэатральнага мастацтва ў Маскве і быў рэжысёрам Віцебскага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў 1967–1975 гадах, а потым — рэжысёрам тэатраў у Краснаярску, Алма-Аце і Саратаве. Ён бачыў маладым Алега Янкоўскага.

Дзядзька Саламон пражыў 96 гадоў. У свае 75 пасля смерці жонкі ён пераехаў у Стакгольм і забраў з сабой настаўніцу з Віцебска, якая была вельмі падобная на Фаіну Ранеўскую.

*2 красавіка 2012 года*

# «Струны сэрца чыстага»

Канцэрт памяці паэтаў Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна адбыўся 10 лістапада 2015 года ў Белдзяржфілармоніі. Ідэя правесці мемарыяльную вечарыну належала народнаму артысту Беларусі, дырыжору Міхаілу Казінцу, лаўрэату прэміі «За духоўнае адраджэнне». У вялікую залу Філармоніі сабраліся родныя, сябры і аднадумцы двух паэтаў.

Ад творчага калектыву і ўсіх прысутных глыбокую пашану і ўдзячнасць выказала любімым паэтам вядоўца канцэрта Вольга Брылон. Асветнікі, сыны Полацкай зямлі, яны ішлі па жыцці поруч, служылі роднаму слову, іх хвалявалі адны і тыя ж праблемы. Да спадчыны Генадзя Бураўкіна і Рыгора Барадуліна звярталіся многія кампазітарыпесеннікі: Юры Семяняка, Ігар Лучанок, Уладзімір Мулявін, Эдуард Ханок, Васіль Раінчык, Ігар Палівода.



У канцэртнай праграме ўдзельнічалі Народны аркестр імя І.Жыновіча, Дзяржаўны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла імя Рыгора Шырмы. Са спевамі выступілі Зміцер Вайцюшкевіч, Андрэй Коласаў, Ігар Задарожны, Анастасія Рачыцкая.

У першым аддзяленні вечарыны шчыра, залівіста, пад звон цымбалаў, флейтаў, скрыпак гучала папулярная песня «Конь незацугляны» ў выкананні Андрэя Коласава, «Зачарованая» — у выкананні Сяргея Якуша.

Зміцер Вайцюшкевіч у чорным фраку, бадзёры і поўны энергіі, выканаў песні «Дачакайся, матуля», «Зоркі нашыя», «Пані трошкі ў гадах», «Месяц — жоўтая лодка» пад акампанемент лепшага баяніста Беларусі Аляксандра Шувалава і Канстанціна Гарачага за фартэпіяна.

Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч заспявалі «Завіруху» 70-х гадоў, узгадаўшы, што з ёй было ў людзей звязана шмат спатканняў і прызнанняў у каханні. Дзяўчынкі і хлопчыкі з узорнай эстраднай сту-

дыі «Спяваем разам» з Маладзечна кранальна зацягнулі «Калыханку», якую любяць усе дзеці.



З барадулінскай жыццесцвярджальнасцю, гумарам і весялосцю заспяваў песню «Будзьма» Эдуарда Зарыцкага Андрэй Коласаў. З аўдыязапісу слухачы пачулі вершы: «Народ мой, дзякую табе», «Малітва», «Трэба дома бываць часцей».

У другім аддзяленні прафесар Міхаіл Казінец дырыжыраваў Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам. Была выканана Шостая сімфонія Андрэя Мдзівані «Полацкія пісьмёны». Постаці вялікіх паэтаў сучаснасці пастаўлены ў адзін шэраг з выдатнымі дзеячамі беларускай асветы.

«Вельмі прыемна сёння бачыць сяброў нашых народных паэтаў, бо, безумоўна, Генадзь Бураўкін таксама заслугоўвае звання "народнага", — адзначыў журналіст Сяргей Шапран, укладальнік зборніка «Тры мяхі дзядзькі Рыгора». — Самы галоўны запавет, які пакінуў дзядзька Рыгор: не прадаць душу д’яблу і застацца сумленным. Генадзь Мікалаевіч у апошнія дні загадваў нам берагчы Беларусь і працягваць справу папярэднікаў».

«У мяне засталося больш за 300 негатываў чорна-белых фотаздымкаў кожнага з паэтаў, — падзяліўся вядомы фотамайстар Яўген Коктыш. — Я ставіўся да іх з вялікай павагай. Мы разам ездзілі на сустрэчы з чытачамі, у падарожжы. Генадзю Мікалаевічу было дастаткова знайсці кажух, каб спакойна застацца начаваць у хаце ў Бярэзінскім запаведніку».

«Я вельмі люблю творчасць Генадзя Бураўкіна, яна мне блізкая па духу, — сказаў Міхась Міцкевіч, сын Якуба Коласа, які наведаў канцэрт. — Мякка, паслядоўна, з выдатнай інтанацыяй Бураўкін сам чытаў вершы. Мы былі знаёмыя асабіста, сустракаліся. Ён мне дарыў свае кніжкі, а я яму — свае».

*Эла Дзвінская*
*«Наша слова», 17 лістапада 2014 года*

# У горадзе Альгерда

Кампанія вандроўнікаў з Мінска — сяброў ТБМ імя Ф. Скарыны, музыкантаў, журналістаў, прадзюсараў і проста ахвочых да новых уражанняў — не так даўно зладзіла паездку ў Віцебск.

Мэта гэтай вандроўкі, арганізаванай актывістамі ТБМ, культурніцкай кампаніяй «Будзьма беларусамі!» пры падтрымцы віцебскага арт-паба «Torvald» і яго ўладальніка Віталя Броўкі, стала знаёмства з лепшымі кампазіцыямі з апошніх альбомаў вядомага аўтара і выканаўцы Змітра Вайцюшкевіча.



У Віцебску Змітру і яго сябрам віцябчане зладзілі змястоўную экскурсію па горадзе, які гісторык, краязнаўца і экскурсавод Мікола Півавар назваў «найлепшым горадам у свеце».

Пад патранажам спадара Міколы мінчукі агледзелі экспазіцыі Віцебскага краязнаўчага музея, ратушу, прайшліся па вуліцах горада, пабачылі віцебскія святыні — Свята-Уваскрасенскую царкву, царкву Прачыстай Багародзіцы і базыльянскі кляштар, царкву Звеставання Багародзіцы. А таксама наведалі помнікі часоў руска-французскай вайны 1812 года, мясціны, якія памятаюць Марка Шагала, і іншыя славутасці

горада. Шмат пытанняў узнікла ў гасцей з Мінска адносна выдатнага па задуме і выкананні коннага помніка віцебскаму князю, а ў далейшым і вялікаму князю літоўскаму Альгерду, які паўстаў на пастаменце ў адным з самых прыгожых месцаў. На жаль, усе гістарычныя мясціны Віцебска за адзін дзень абысці немагчыма, таму, пасля падзякі спадару М. Півавару за яго веды і сапраўдны патрыятызм, грамада рушыла да ўжо вядомай гарадской культурніцкай пляцоўкі — арт-паба «Torvald», дзе чакалі Змітра Вайцюшкевіча з яго новымі песнямі.

Гасцей з Мінска сустракаў гаспадар арт-паба Віталь Броўка, які шчыра вітаў усіх падарожнікаў і заклікаў у госці да «Torvald'а». Думаю, што ўжо многія ў Беларусі ведаюць пра Торвальда-вандроўніка з Ісландыі, які, паводле некаторых гістарычных звестак, як хрысціянскі місіянер высадзіўся на землях Полацкага княства і першым пазнаёміў нашых продкаў з верай у Хрыста і ахрысціў іх.

Сёння арт-паб «Torvald» нясе не толькі адукацыйную функцыю, але і дапамагае маладым віцьбічам умацаваць цікавасць да беларускай мовы, культуры, гісторыі, знаёміць з лепшымі прадстаўнікамі віцебскай інтэлігенцыі, з беларускімі выканаўцамі і мастакамі. Артыстычную накіраванасць «Torvald'а» падкрэслівае і вінтажнае афармленне залы і галерэі арт-паба, а яго нацыянальную накіраванасць — беларуска-



моўнае меню і абслугоўванне наведвальнікаў. Усім гэтым акалічнасцям мінчане шчыра парадаваліся, бо і ў сталіцы не часта такое сустрэнеш.

На пачатку канцэрта аўтар гэтых радкоў і па сумяшчальніцтву суаўтар кнігі «Беларускае слова ад спеву» распавёў пра стылістычную і жанравую разнастайнасць кампазіцый, запісаных у альбомах і складанках Змітром Вайцюшкевічам. А таксама звярнуў увагу на негалосную забарону канцэртаў выканаўцы, на бюракратычны ціск, які суправаджаў яго апошнім часам. Тым не менш справядлівасць абавязкова пераможа, бо песні Змітра Вайцюшкевіча заўсёды вышэй забаронаў і перашкод. Пасля кароткай журналісцкай інтрадукцыі да віцебскіх і мінскіх слухачоў выйшаў сам спявак.

Першую частку свайго канцэрта ў арт-пабе «Torvald» выканаўца прысвяціў песням Яраміра Нагавіцы ў перакладах А. Хадановіча і В. Воранава з альбома «Камета». Філасафічныя творы Нагавіцы ў выкананні Вайцюшкевіча яшчэ больш уражваюць, калі спяваюцца ў камерных умовах, калі слухачы знаходзяцца побач з выканаўцам.

Таму кантакт паміж усімі, хто знаходзіўся ў «Torvald'зе», быў усталяваны адразу, як толькі прагучалі першыя акорды песні з альбома «Камета» — «Святло Сараева». Затым былі іншыя творы — «Як бралі мяне ў салдаты», «Коўдра-магіла», «Стары муж», «Амерыка», прысвячэнне канадскаму спеваку Леанарду Коэну «Танец смерці», якія дадалі слухачам светлага роздуму над сэнсам і каштоўнасцю жыцця.

А вось гумарыстычныя прыпеўкі наладзілі слухачоў на гуллівы лад. Такі настрой ужо дамінаваў у другой частцы песеннай праграмы Вайцюшкевіча на вершы паэта Уладзіміра Някляева для праекта «Жаночае імя Беларусі», які выканаўца запісвае ў Польшчы са струнным квартэтам. Тым больш, што Зміцер з уласцівым яму артыстызмам заахвочваў слухачоў паспрабаваць сябе ў якасці бэк-вакалістаў у такіх яго песнях, як «Дамініка», «Будзьце самымі жаданымі і каханымі»...

Завяршаючым акордам канцэрта сталі беларускія эвергрыны «Жыве Беларусь, Беларусь жыве!» на верш Уладзіміра Някляева, «Я нарадзіўся тут» аўтарства Лявана Вольскага, «Бывайце здаровы!» Ісака Любана і Адама Русака, якія зала ўжо выконвала не ў якасці падпеўкі, а саліравала нароўні са Змітром Вайцюшкевічам. Вечарына скончылася масавым сэлфі і пажаданнямі новых сустрэч з выканаўцам у слаўным горадзе на скрыжаванні Дзвіны з Лучосай і Віцьбай.

*Анатоль Мяльгуй*
*«Новы час», 5 кастрычніка 2016 года*

# Песня, якая стала народнай

Папулярнай беларускай песні «Бывайце здаровы, жывіце багата!» споўнілася 80 гадоў. Пра гэта нагадаў 8 красавіка 2017 года ў сваёй новай праграме Зміцер Вайцюшкевіч. Канцэрт быў доўгачаканым пасля перапынку і вельмі меладычным па сваёй танальнасці, складзеным з беларускіх, сербскіх і польскіх песень.




Прагучалі творы, якія рэдка выконваюцца, на вершы Адама Русака аўтарства Ігара Лучанка, Ісака Любана, Юрыя Семянякі: «Мой край», «Дзе ты, зорка мая?», «Не шукай ты мяне», «Песня Марыны». Адчувалася, што яны знітаваныя з думкамі і лёсам самога спевака. Ужо не ў першы раз артыст звяртаецца да песеннай спадчыны легендарнага паэта і музыканта.

«Не магу я знайсці тое слова, каб красу расказаць тваю», — пісаў Адам Русак. З чым жа параўнаць самую дарагую дзяўчыну? Знаходзіцца адказ:

Толькі з песняй цябе параўнаю,
Што у сэрцы сваім я нашу,
Тую песню я вечна спяваю,
Без яе я пражыць не магу.

У 2004 годзе да 100-годдзя Адама Русака выканаўца падрыхтаваў цэлую праграму, у якой песня «Бывайце здаровы» ўпершыню прагучала па-італьянску. А ў 2017 годзе праграма на вершы Адама Русака атрымалася яшчэ больш разнастайнай.

Праз некалькі дзён пасля канцэрта мы пагутарылі з дачкой паэта і музыканта Людмілай Адамаўнай Русак, былой выкладчыцай кафедры раманскіх моваў БДУ.

— Мае калегі-перакладчыкі пазнаёмілі мяне са Змітром Вайцюшкевічам у 2004 годзе. Ён прыйшоў да нас у госці, праглядаў фотаздымкі і вершы і быў вельмі ўзрушаны, адчуўшы, што лёс і творчасць Адама Русака яму глыбока роднасныя. Тады ён падрыхтаваў цэлы канцэрт, прысвечаны майму бацьку.

Тата нарадзіўся ў 1904 годзе ў вёсцы Пясочнае Капыльскага раёна на вуліцы Воўчы Хвост, — працягвае Людміла Адамаўна. — Яго бацька Герасім Сямёнавіч часта граў на вяселлях, і малы Адась з васьмі гадоў граў на скрыпачцы разам з ім. Русакоў называлі цыганамі за іх вясёлы нораў і за тое, што больш за ўсё на свеце яны любілі песні і танцы. Дзед Сямён, сапраўды, прывёз на радзіму пасля службы ў царскай арміі смуглявую малдаванку, з якой у іх нарадзілася чацвёра сыноў. У яе і пайшлі ўсе смуглявыя і музычна адораныя хлопцы. Чароўны голас





скрыпкі запаў у татаву душу. Ён часта браў яе ў рукі, падбіраў полечкі і кадрылі, а потым разам са сваім бацькам граў на вяселлях і вечарынках. Гэты хатні аркестр і вызначыў яго незвычайныя здольнасці.

У 1924 годзе тата пешкі пайшоў у Мінск, каб паступіць у музычнае вучылішча. Спыніцца яму не было дзе, і ён начаваў на лаве ў парку імя Горкага. У той жа год у вучылішча паступілі будучыя кампазітары Ю. Семяняка, У. Алоўнікаў.

Пра гісторыю стварэння самай вядомай песні Адама Русака напісаў у асобнай кніжачцы «Жыццё песні» Іван Цішчанка. Ён зазначае, што ў 1930 годзе пасля заканчэння Мінскага дзяржаўнага музычнага тэхнікума Адам Русак быў залічаны ў Ленінградскую кансерваторыю ў клас прафесара М.М. Буяноўскага і адначасова прыняты салістам сімфанічнага аркестра Малога опернага тэатра. Ён палюбіў горад на Няве, але кожнае лета прыязджаў на радзіму. Ліст да матулі склаўся ў яго ў форме верша: «Бывайце здаровы, жывіце багата...» Назаўтра ён дапісаў верш, які ператварыўся ў вельмі ўдалую песню. Першай яе заспявала ў 1936 годзе яго матуля Марыя Ігнатаўна на вядомы вясельны матыў.

Адам Русак падзяліўся ўдалым вершам з земляком, маладым паэтам Анатолем Астрэйкам, а той перадаў верш у Мінску рэдактару «Літаратуры і мастацтва» І.Д. Гурскаму. Потым вучоны-філолаг з Масквы ўключыў тэкст у зборнік «Творчасць народаў СССР». Адчуваючы рытміку, напеўнасць верша, вобразнасць і трапнасць слова, якія ідуць ад вуснай народнай творчасці, вучоны засумняваўся ў аўтарстве і падпісаў тэкст так: «Записано в колхозе "Красный пахарь" Копыльского района от Адама Русака».

У 1937 годзе песня была надрукавана ў навагоднім нумары газеты «Праўда». З гэтага часу яе заўважылі кампазітары. Мастацкі кіраўнік хору імя Пятніцкага У. Захараў напісаў музыку на гэты тэкст. Песня ў выкананні калектыву загучала ў канцэртных залах, па радыё і патрапіла на грампласцінкі. Аднак сапраўдную славу вершу Адама Русака

прынесла мелодыя Ісака Любана, якая і зрабіла «Бываце здаровы» беларускай музычнай класікай.

Пазней Рыгор Шырма адзначаў, што русакоўскі верш глыбока музычны, напеўны і лірычны і кампазітар Любан улавіў менавіта ўнутраную мелодыю твора. «Між яго вершаваных радкоў, — сцвярджаў Г.І. Цітовіч, — нябачна прысутнічаюць лініі нотнага стану».

Для вялікай аўдыторыі песня ўпершыню прагучала 15 чэрвеня 1937 года ў выкананні Ларысы Александроўскай і засталася ў рэпертуары артысткі назаўжды. Калі яна спявала яе ў час гастрольных паездак у Германіі, Англіі і Францыі, беларусы, рускія і ўкраінцы, што жылі ў эміграцыі, плакалі, бо ўспаміналі страчаную Радзіму. У гады Вялікай Айчыннай вайны Ларыса Пампееўна выконвала песню на фронце і ў глыбокім тыле. У 1974 годзе ў лісце да Адама Русака народны артыст СССР Леанід Уцёсаў пісаў: «Вашу цудоўную песню я пачаў пець яшчэ ў 1938 годзе. Поспех быў велізарны. Як ні дзіўна, яна гучала не толькі ў мірныя дні, але і на фронце, дзе мы яе спявалі, выклікаючы ў байцоў добрую, радасную усмешку, падзяку за нястрыманы аптымізм гэтай песні». Аднак Леанід Уцёсаў выконваў песню Адама Русака ў перакладзе на рускую мову Міхаіла Ісакоўскага. Савецкі паэт, стварыўшы пераклад, не звярнуў увагу на аўтарства А. Русака і прыпісаў тэкст сабе.



*Адам Русак і Ісак Любан*

Сапраўднае аўтарства было пацверджана тады, калі ў 1940 годзе Саюз беларускіх пісьменнікаў звярнуўся да М.Ісакоўскага з лістом, у якім засведчыў пра беларускага аўтара. У адказе на ліст паэт выбачаўся за памылку, але ў 1949 годзе ў Расіі ён зноў выдаў тэкст песні з нотамі ў асобнай брашуры пад сваім прозвішчам.



За свае жыццё Адам Русак напісаў шмат душэўных песень. Натхняла яго на іх яго жонка Марыя Яўгенаўна.

— Тата з мамай пазнаёміліся ў Ленінградзе, — успамінае Людміла Адамаўна. — Яна была родам з Карэліі і вучылася ў літаратурным інстытуце. Аднойчы мама пайшла на Новы год у малы Леніградскі оперны тэатр. Там яны з татам і пазнаёміліся. Песню «Толькі з табою» тата прысвяціў менавіта маме. Жывучы ўжо ў Мінску, яна старалася вывучыць беларускую мову. Мама захоўвала ўсе татавы рукапісы.

Толькі з табою мне хочацца быць,
Толькі з табою,
Радасць, і гора, і шчасце дзяліць
Сэрцам, душою.

— Майму тату, па вялікаму рахунку, не шмат чаго было трэба ў жыцці акрамя песень, — успамінае спадарыня Людміла. — Да Ігара Міхайлавіча Лучанка як да старшыні Саюза беларускіх кампазітараў многія звярталіся з просьбамі: «Машына, кватэра, гараж». А той адказваў: «А дзе песні?» Бацька жыў менавіта песнямі, а кватэра ў нас была яшчэ з пасляваенных часоў. У двух пакоях жыла наша сям’я, а астатнія былі аддадзеныя пад камуналку. Мама, скончыўшы курсы кройкі і шыцця, абшывала ўсіх суседзяў і знаёмых. Жонкі паэтаў і пісьменнікаў ішлі да яе. Яна шыла такія выдатныя строі, паліто і спадніцы, што ўсе думалі, што дзеці Русакоў апранаюцца за мяжой.

Аднойчы мама пашыла мне аксамітны строй з чырвонымі гузікамі, якія немагчыма было адрозніць ад куплёнага.

Тата быў сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў і Саюза пісьменнікаў СССР. Яго песні часта гучалі па радыё, і тады ён не стрымліваў слёз. У 50–60-я гады імя яго было на слыху. Ён карыстаўся ўсенароднай любоўю і пашанай. Тату было ўласціва пачуццё гумару. Ён казаў: «Я лепшы паэт сярод музыкантаў (маючы на ўвазе свой аркестр) і лепшы музыкант сярод паэтаў». З 1949 года ён працаваў салістам аркестра Белдзяржфілармоніі. Бацька выдаў зборнікі паэзіі «Песні і вершы», «Пад голас баяна», «Толькі з табою», «Звонкія крыніцы», «Закрасуйся, Нёман», «Засцілайце сталы», «Песні радасці» і іншыя.

Калі Зміцер Вайцюшкевіч гартаў у нас дома кніжачку «Жыццё песні», ён убачыў фотаздымак бацькавага першага вясковага аркестра і адчуў, што яго лёс як музыкі вельмі блізкі да лёсу Адама Русака. З тых часоў ён пастаянна ў сваіх праграмах выконвае песню «Бывайце здаровы, жывіце багата!» на розных мовах.

Зараз гэту песню спяваюць у Літве, Казахстане, Расіі, на Украіне. Акрамя таго, яна будзе перакладзена на кітайскую мову і выдадзена ў Кітаі ў зборніку нашых песень. Мы спяваем яе на кожным сямейным свяце разам з сястрой Наталляй, з сынам Юргесам і дачкой Крысцінай, — паведаміла Людміла Адамаўна Русак.

*Эла Дзвінская*

*«Наша слова», 26 красавіка 2017 года*

*Фота «Будзьма» і з архіва сям'і Русакоў*

# Амбасадар незалежнай культуры

Ці чакала ты мяне
З пяшчотай і журботай лёгкай,
Калі я доўга быў далёка?
*Адам Русак*

Нядаўна вядомы і папулярны артыст, лаўрэат прэміі «За свабоду думкі» вярнуўся з паездкі ў ЗША і Канаду. Выступы Змітра Вайцюшкевіча з поспехам прайшлі ў Нью-Ёрку, Нью-Джэрсі, Вашынгтоне, Таронта, Атаве і Сан-Францыска. Усяго на амерыканскім кантыненце адбылося 9 канцэртаў спевака. На іх прыходзілі прадстаўнікі беларускай дыяспары ў ЗША і Канадзе. Кампазітар і выканаўца з'ядноўвае беларусаў на любові да мовы, літаратуры і музыкі, мінуўшчыны, ён кансалідуе нацыю.

Наш герой, вольны, моцны і вясёлы, скарыў публіку ў самай багатай і заможнай краіне свету. Па вяртанні артыст адказаў на пытанні сяброў ТБМ.



— *Зміцер, якую песню Вы прывезлі з Амерыкі?*

— У першую чаргу, я вазіў свае песні. І ездзіў не толькі як музыка, але як эксперт па беларускіх справах, якія тут адбываюцца і тычацца

культуры, музыкі, палітыкі. Мая задача была данесці мэсыдж: расказаць тым, хто ў эміграцыі, як у нас ідзе жыццё. Прыходзілася канцэнтравацца на словах. Адна справа — выступаць ад імя сваіх песенных герояў, а другая — адказваць за Бацькаўшчыну. Я чытаў шмат вершаў Караткевіча і Някляева, спяваў песні Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна. Беларус і ў Мінску, і ў Барысаве, і ў Нью-Ёрку заўсёды жыве надзеяй. Ім было важна пачуць меркаванне з першых вуснаў, а не толькі з сайтаў «Нашай Нівы» і Фэйсбуку. Да мяне былі розныя пытанні: пра тое, хто з палітыкаў найбольш актыўны, як дзейнічае моладзь, а некаторыя цікавіліся «Песнярамі». Людзі жывуць памяццю ў тым свеце, які яны пакінулі.

*— Хто з прадстаўнікоў дыяспары прыходзіў на Вашы канцэрты?*



— У Нью-Джэрсі прыходзіў Янка Запруднік. У Атаве была Івонка Сурвіла, госць высокага рангу. Шмат людзей, хто даўно з'ехаў, і тыя, хто там нарадзіўся. Моладзь нясе агеньчык беларускасці, шануе нашыя нацыянальныя сімвалы, моцна перажывае за Бацькаўшчыну і шчыра жадае, каб тут жылося па-людску і Беларусь была беларускай. У Вашынгтоне прыходзілі тыя, хто працуе ў Амерыцы. Прафесар хіміі і вельмі прыгожая жанчына 80 гадоў Ала Орса Рамана, якая нарадзілася тут і большую частку жыцця пражыла ў Нью-Ёрку, добра да мяне паставілася і прыняла ў сваім доме. У ніводным з амерыканскіх і канадскіх гарадоў я не пачуў сябе непатрэбным. Паўсюль мной добра апекаваліся, нідзе я не быў галодны, нават сняданкі не давалі рабіць, я прачынаўся — і мяне ўжо чакала на стале амерыканская ежа.

*— Як прайшло Ваша выступленне ў саборы Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку?*

—Я прыехаў 27 студзеня, а 28 трэба было спяваць.Там сабралася шмат людзей, мне было фізічна цяжка, таму што канцэрт пачынаўся па беларускім часе а чацвёртай гадзіне ночы. Але флюіды публікі дапамаглі. Людзі радаваліся, успрымалі ветліва, частавалі. З іншага канца Амерыкі — з Лос-Анжэлеса — госці прыехалі на канцэрт. Завіталі нашы мастоўскія і слонімскіх хлопцы, прыходзілі амерыканцы і нарвежцы.

Юрка Захарка, які там нарадзіўся, узначальвае супольнасць беларусаў у Нью-Джэрсі. Ён размаўляе з амерыканскім акцэнтам. Было шмат людзей, якія з'ехалі яшчэ пасля вайны з бацькамі. Мілыя бабулі і дзядулі, якія ўжываюць амерыканізмы: «мы ўключаем тэлевіжн», «выязджаем на гайвэй»! Яны засталіся па сваёй сутнасці беларусамі. Эмігрантаў, якія выехалі на працягу апошніх 60–100 гадоў, там мільёны, але тых, якія засталіся беларусамі, — не шмат. Амерыканскі істэблішмэнт ведае іх дзякуючы Радзе БНР і тым, хто здзяйсняе грамадскія справы. Наша зямля, як птушка Фенікс, адраждаецца і прадаўжае прыцягваць да сябе выхадцаў з яе прастораў. Я аглядаў беларускія цэрквы ў Нью-Ёрку, Нью-Джэрсі і ў Таронта.

*— Раскажыце, калі ласка, пра Вашых сяброў у Амерыцы і Канадзе.*

— Валянціна і Юрась Шаўчэнкі ініцыявалі маю паездку ў Канаду. У Атаве жыве навуковая інтэлігенцыя: хімікі, медыкі, біёлагі. У кожнага былі свае шляхі эміграцыі, але яны дагэтуль не згубілі сувязь з Радзімай.

Прырода Канады падобная на беларускую. У паўночнаамерыканскіх гарадах цэнтр забудовы складаюць высокія будынкі, гатэлі, дзелавыя офісы і гіпермаркеты. А прыватная забудова — меншых паверхаў і некрыклівых, спакойных колераў. Нідзе не бачыў, каб людзі палілі папіросы. Амерыканцы і канадцы актыўна займаюцца здароўем, гуляюць па парках, накрочваюць кіламетры, ходзяць у трэнажорныя залы. Там ёсць шмат сучасных цэнтраў культуры і мастацтва, абсталяваных па апошнім слове тэхнікі. Мы былі ў Парламенце ў Атаве. Можна прыйсці на пасяджэнне і паслухаць, пра што там гавораць. Звонку будынак канадскага Парламента выглядае, як сапраўдны брытанскі. Унутры квадрат з ярусамі крэслаў, дзе дэпутаты абмяркоўваюць важныя пытанні.

Вельмі горача ў Амерыцы і ў Канадзе ўспрымаюць кандыдатуру новага прэзідэнта. «Трамп, Трамп, Трамп», — гучыць паўсюль. Ёсць

шмат каналаў, на якіх крытыкуюць Трампа, але іх ніхто не збіраецца зачыняць. Амерыканскія зоркі падзяліліся: адны за Трампа, іншыя — катэгарычна супраць, але свабода слова прысутнічае.

*— Якая музыка зараз папулярная ў Амерыцы?*

— Амерыка дазваляе кожнаму жыхару знайсці нешта сваё. Вельмі папулярная музыка кантры. Народная музыка ў сучасных аздабленнях з блюзам.

*— Як удзейнічаюць такія помнікі прыроды, як Ніягара, возера Антарыа? Што адчуваецца на такім прасторы?*

— Каля самога вадаспада вельмі халодна, вялікія плыні вады, моцны вецер, там немагчыма доўга стаяць. Побач з рэчкай Ніягарай мы спявалі з Валянцінай Шаўчэнка «Цвяток радзімы васілька» Максіма Багдановіча. З аднаго боку — Амерыка, а з другога — Канада. Я выканаў там песню «Шалік» на вершы Някляева, яна будзе на дыску «У нашых снах». Туды ўвойдуць лепшыя песні, напісаныя з Уладзімірам Някляевым і «WZ-Orkiestra» за 10 гадоў, і пяць новых песень. Альбом будзе прэзентаваны ў Вільні 4 сакавіка.

*— Ці праехаліся Вы па Залатым мосце ў Сан-Францыска?*

— Амерыканцы называюць яго «голдэн гэйт» — «залатая брама». І я ўвесь час у сваёй творчасці будую культурныя масты паміж Захадам і Усходам. У мяне ў душы нарадзілася аналогія: сёлета спаўняецца 80 гадоў песні «Бывайце здаровы, жывіце багата» Адама Русака і таксама 80 гадоў, як пабудавалі мост, які злучае Сан-Францыска з прыгарадам Саўсаліта. Культура таксама з’ядноўвае краіны і кантыненты.



Сан-Францыска — гэта горад кантрастаў, радзіма хіпі, горад вольнасці і дэмакратыі, цёплы і сонечны. У Сан-Францыска я сустрэўся з Алесем Пузынем, з якім мы разам ігралі ў «Палацы» і ў «Крыві». У мяне быў час праехаць у электрычцы, пачытаць кніжкі, паглядзець у акно, убачыць усю інфраструктуру.Там я адчуў, што я шчаслівы чалавек, бо ў мяне ёсць Вайцюшкі. Па амерыканскіх мерках, я вельмі багаты, бо вакол майго хутара ў радыусе 10 кіламетраў можна не сустрэць ніводнага чалавека.

*— Што Вы прывезлі ў падарунак Вашым дзецям Язэпу і Стэфе?*

— Стэфе — сукенку з Сан-Францыска, Язэпу — майку з акулай і цёплую шапку з надпісам «Канада». Дзеці зараз у Варшаве з мамай. Яна праходзіць стажыроўку. Я заехаў да іх і спяшаўся ў Мінск на канцэрт «Народнага альбома» ў «Prime Hall».

*— Ёсць паняцце «амерыканская мара», а якая Ваша беларуская мара?*

— Мая беларуская мара — каб наша песня была пазнавальная ва ўсім свеце. І не важна праз каго. Што тычыцца настрою — гэта агульначалавечыя радасці.

*— Калі Генадзь Мікалаевіч Бураўкін вярнуўся з ЗША, то напісаў верш:*

*Я прыду ссівелым і стамлёным*
*Да маёй любімай Беларусі,*
*Паздароўкаюся з кожным клёнам,*
*З кожнаю бярозкай абдымуся.*

*А якія пачуцці нарадзіліся ў Вас у душы, калі Вы прыехалі дадому?*

— Мне ўвесь час хацелася паехаць на хутар у Вайцюшкі, на Нёман. Я вярнуўся, каб адчуць вясну і абуджэнне прыроды. Але і Нью-Ёрк, і Атава, і Нью-Джэрсі, і Філадэльфія, людзі, якія там жывуць, усе разам спявалі бураўкінскую «Калыханку». Для іх гэта важная песня!

*Гутарыла Эла Дзвінская*
*«Наша слова», 1 сакавіка 2017 года*

# Лірычны дзённік у свабодным фармаце

Ён чаруе сваім словам,
Спевам, вечна маладым

*Якуб Колас*

У 2017 годзе спявак наважыўся выдаць кніжачку падарожных нататкаў «Простыя словы». У яе ўвайшлі думкі і разважанні, выказаныя ў перадачах на хвалях «Радыё Рацыя».



«Я вельмі ўдзячны запісам на радыё тым, што я пачаў працаваць са словам, — кажа Зміцер. — Бо вельмі мала выканаўцаў на сцэне размаўляюць. Сапраўды, бывалі шчаслівыя моманты, калі запусціў нешта ў эфір, потым слухаў і адчуваў, што гэта было трапна. Праграму запісалі і забылі, але з музычнага досведу ведаю, што ўсе твае думкі павінны быць хоць часткова матэрыялізаваныя. Шмат беларускай музыкі было выканана, але не запісана, на жаль. Мне было важна фіксаваць свае жыццёвыя назіранні, эмоцыі, звязаныя з падарожжамі. Напэўна, захочацца гэта рабіць далей. У кніжцы для мяне было важна ўступнае слова Уладзіміра Някляева. Алесь Камоцкі пазнаёміў мяне з Рыгорам Барадуліным. Яны першыя далі мне дарогу ў свет беларускай літаратуры».

Ва ўступным слове да выхаду кніжкі Змітра Вайцюшкевіча Максім Жбанаў прызнаўся: «Мы дзесяць год працавалі са Змітром на "Радыё Рацыя". Дзіма цудоўна распавядае. Ён шыкоўны стыліст. І мне было заўсёды шкада, што ён не піша. Я вельмі рады, што ў рэшце рэшт мы пачулі яго аўтарскі голас. Кніжку можна чытаць з любой старонкі і гэта будзе стаадсоткавая музыка і драйв. Гэта працяг нашай радыёгісторыі. Тут ёсць аўтарская шчырасць. Тут сапраўднае беларускае прамаўленне. І гэта вельмі файна. Атрымаўся лірычны дзённік у свабодным фармаце».

## Простыя словы

Рыгор Барадулін збудаваў свой уласны храм паэзіі. Дай Божа і мне збудаваць, зрабіць музычны храм. Песенны, свой. Важна, каб гэты храм быў беларускі, звязаны з сэрцам і душой нашай зямлі. Хай гэта і гучыць трошкі пафасна і банальна.

***03.07.2014***

Сон. Што такое сон? Укладацца самому ці закалыхваць кагось? Вось пытаннечка. Калі толькі сам — ну, нецікава. Важна, каб ты мог кагосьці пакласць спаць і сам легчы побач. Ну, хіба не шчасце — заснуць з каханай? Хіба не шчасце — заснуць з дачкой ці сыночкам? Заснуць ненадоўга і толькі пасля прачнуцца, рабіць свае важныя і патрэбныя справы. А пазней — і самому пакласціся спаць. Усім салодкіх сноў, дабранач!

***01.02.2014***

Хочацца прытуліцца да каго-небудзь цёпленькага. Накрыцца коўдрай. Запаліць камін. Не, спачатку запаліць камін, накрыцца коўдраю і ўключыць камп'ютар ці чытаць кніжку. Заснуць і прачнуцца ад спеваў жаўранка. Вясна, ау! Што ты нам прынесла? Малым дзеткам па яечку, старым бабкам па кіечку, агу! Да вясны яшчэ доўга, зараз зімушка-зіма. Можна нават трохі пахварэць. Толькі адзін дзень — легчы і ляжаць. Каб цябе жоначка лячыла, а ты ўздыхаў ды стагнаў: ратуйце! Мандарыны, сок, гарбата з мёдам — і нічога не рабіць. Працаваць хвораму забаронена. А назаўтра — як агурок! І праца, праца, праца.

***30.01.2014***

Адзін хлопец на імя Дамінік напісаў мне падчас канцэрта цыдулку з пытаннем: «У Вайцюшках зорнай ноччу падаюць зоркі з неба — што вы загадаеце?» Тады я яму не адказаў. А зараз... Хіба заўсёды загадваю, каб усё было добра з маімі роднымі, каб не хварэлі дзеці, каб была шчаслівай жонка, каб дабудаваць Вайцюшкі. Сядзіш і глядзіш у зорнае неба з падрыхтаваным спісам пажаданняў. Каб не ламалася машына, каб новую набыць неўзабаве ці каб напісаць добрую песню, і каб тая песня цябе па ўсім свеце праслaвіла. Каб людзі праз песню даведаліся пра Беларусь, каб канцэрты не забаранялі, каб «Рацыя» гучала і ў Менску, і ў Гомелі. Каб бландынка і парыжанка сваё шчасце знайшлі. Ну, і каб мама жыла і нешта яшчэ. Вось такія сціплыя пажаданні.

***07.08.2014***

Бывае так, што табе дапамагаюць абсалютна незнаёмыя людзі — не праз што-небудзь, не з карысці, а проста таму, што табе патрэбная дапамога. І калі ўсё зроблена і вы седзіце і вячэраеце разам, стомленыя, адчуваеш, што адбыўся маленькі цуд, — і апаноўвае шчасце. Сапраўдныя эмоцыі не патрабуюць матэрыяльнай матывацыі. Дамагчыся проста: адгукнуцца на чыюсь просьбу, выслухаць чалавека. Я не кажу, што так трэба рабіць заўсёды, але хоць раз на год, у месяц. Каб адчуць стомленасць і весялосць, каб хоць трошкі быць шчаслівейшым. Дзякуй маім памочнікам за дапамогу! Напэўна, і я стану крыху лепшым.

***24.04.2014***

Пра каханне і пацалункі небяспечна казаць услых. Але ж каханне і пацалункі вельмі патрэбныя. Можна страціць веру ў каханне — пацалункі ўжо не будуць такімі. Як знайсці месца ў сваім жыцці для кахання? Гэта ж архіважныя і найдасканалейшыя пытанні! Ці ёсць яно ўвогулле? Куды яно хаваецца? Каго яно пакідае? За што перастае быць у чалавека? Што прыходзіць на месца кахання — звычка ці нешта яшчэ? Калі я гляджу на Стэфу і Язэпа, ведаю: каханне ёсць. Магчыма, каханне як птушка, якая ў сезон адлятае ў вырай. А можа і добра, што адлятае. Трэба ж неяк жыць, працаваць, будавацца. Трэба, калі хочаце, засумавацца па каханні. Трэ яго шукаць, і чакаць, і прагнуць кахання. Напэўна, каханне ёсцейка. Толькі ў сорак гадоў яно трошку іншае. Не, не горшае — іншае. З усімі вельмі складанымі пытаннямі і бытам: з дзецьмі, памперсамі і ўсім, што ёсцейка ў жыцці дарослага чалавека. Ну, і канешне, з пацалункамі!

***13.02.2014***

Журналіст запытаў пра маё светлае заўтра, якім я яго сабе ўяўляю. Дык вось, светлага заўтра можа і не быць, калі сёння нічога не рабіць. Нават калі і рабіць, яго таксама можа і не быць. Чаму? Каб ведаў, дык сказаў бы. Светлае заўтра — што гэта? Краіна Беларусь — беларуская, а не транзітная тэрыторыя. Беларуская, шматнацыянальная, дзе ўсе жыхары: начальства, міліцыянеры, артысты, леснікі, будаўнікі, п’янтосы — усе не тое што гавораць па-беларуску, а і думаюць па-беларуску! І жывуць Беларуссю і маюць Беларусь у сваім сэрцы. І ўсе суседзі нам страшна зайздросцяць, бо мы ўсе найразумнейшыя, найпрыгажэйшыя, найлепшыя ў свеце. Рай, рай, рай. Рай. Дарогі —най-най-най! Жанчыны — най-най-най! Турысты — ад турыстаў не адбіцца. Габрэі пачалі вяртацца ў Мір, Валожын, у Наваградак, у Бабруйск — най-най-най! У нашай гаспадзе шырокае поле... Такое вось светлае заўтра атрымалася.

***21.06.2014***

# Фестываль «Салаўё-2017» на сядзібе незалежнага музыкі



4 чэрвеня на аграсядзібе Вайцюшкі ў Лідскім раёне адбыўся мастацка-паэтычны і музычны фестываль «Салаўё-2017». Тут цягам тыдня праходзіў пленэр творцаў з розных гарадоў, прысвечаны 500-годдзю беларускага кнігадрукавання. У пленэры ўдзельнічалі мастакі і скульптары з Мінска і Гародні: Кацярына Сумарава, Алег Усціновіч, Валянціна Шоба, Ігар Засімовіч і Кацярына Зантарыя.

Заўважыўшы ў шэрым валуне абрысы крылаў, скульптар Ігар Засімовіч тры дні шліфаваў і апрацоўваў камяні. Яны склалі кампазіцыю «Крылы» і былі прымацаваны непадалёку ад сядзібы. Сябра скульптара, пабачыўшы працу, узгадаў метафару У. Караткевіча «Зямля пад белымі крыламі».

На чатыры дні прыехала ў Вайцюшкі скульптар і выкладчыца Кацярына Зантарыя. Звычайны шэры валун яна ператварыла ў стол,



засланы ручніком, на якім па-хатняму размясціліся чыгунок з бульбай і плошка з яблыкамі.

«Працаваць тут нам спрыяла паветра, і ўсё рабілася па натхненні!» — кажа Ігар Засімовіч. Уладзімір Панцялееў з Гродна перадаў на пленэр сваю працу ў камені «Лідзейка». Яна сімвалізуе прыток Нёмана.

Алег Усціновіч зрабіў ліхтары і пячаткі з дрэва. Кацярына Сумараваператварыла магутны дубовы зрэз у скарынаўскі знак «Месяц і сонца». Яе дачка Марыйка натхнілася скарынаўскімі літаграфіямі і зрабіла свае малюнкі. Вядомая мастачка з Гродна Валянціна Шоба вырабіла ліхтары і кампазіцыі з пяску. Пясок успрымаецца ёй як культурны слой, які наслойваецца адзін на другі.

4 чэрвеня на фестываль прыехалі больш за 100 чалавек з Мінска і розных куткоў Гарадзеншчыны. Надвор'е стаяла цёплае і лагоднае. Наведвальнікі фэсту гулялі па лесе, дзе дубы схіляюць свае шаты, і ўздоўж Нёмана, плавалі ў рацэ, хадзілі басанож па чыстым і цёплым пясочку. Свята распачалося а другой гадзіне.



Разнастайнай была літаратурная частка фестывалю. Яна пачалася з прэзентацыі кнігі падарожных нататкаў «Простыя словы» Змітра Вайцюшкевіча. Артыст падараваў сваю кніжачку і падпісаў яе ўсім ахвочым.

На фестывальнай сцэне пад тэнтам з чытаннем вершаў выступілі маладыя лірыкі і аўтарытэтныя ў літаратуры асобы: Ігар Рыжкоў, Наста Кудасава, Аксана Спрынчан, Алесь Ліпай, Уладзімір Някляеў. Слухачы

месціліся на зялёнай траўцы і лавах пад дрэвамі. З вуснаў актывістаў ТБМ прагучалі вершы Ларысы Геніюш, Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Разважаючы пра падрыхтоўку да юбілеяў волатаў і песняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа, Уладзімір Някляеў адзначыў, што дзяржаўныя юбілейныя мерапрыемствы, хутчэй за ўсё, будуць насіць фармальны характар, а ў той час неабходна, каб паэзія нашых геніяў даходзіла да сэрцаў людзей і сілкавала дух народа.



У. Някляеў паведаміў, што напісаў аповесць, прысвечаную Янку Купалу, дзе ён імкнуўся перагледзець факты жыцця і гібелі паэта, а таксама пераасэнсаваць сваю творчасць з вышыні ўзросту, большага за купалаўскі. Яго дэкламацыя вершаў і ўрыўка з паэмы «Прошча» атрымалася ўзрушанай і эмацыйнай. У фармаце «Вольны мікрафон» выступілі паэты з Берасцейшчыны.

Арганізатар, менеджар і дырэктар фестывалю З. Вайцюшкевіч быў прыемна ўражаны вялікай колькасцю гасцей, у тым ліку і дзяцей. Ён падзякаваў усім удзельнікам пленэра і літаратурных чытанняў і гасцям сядзібы. Спявак зладзіў невялікі імправізаваны канцэрт з папулярных твораў для грамады. Прагучалі песні на вершы У. Някляева, Г. Бураўкіна, Я. Нагавіцы. Потым са спевамі выступіў бард Сяржук Чарняк з Ліды. Мерапрыемства мела нефармальны характар і асаблівую атмасферу цеплыні і сяброўства. Фестывалі на Нёмане, арганізаваныя артыстам, з кожным годам набываюць большую папулярнасць. Падобныя імпрэзы пройдуць сёлета ў ліпені і жніўні.

*Эла Дзвінская*
*«Наша слова», 14 чэрвеня 2017 года*

# Дом сярод лесу

З нашых пекных сноў пабудую дом,
З дубу будзе ён і з белых камянёў,
Ведае хай кожны, як цябе любіў,
Будзе ён стаяць на вякі, а мы — ў ім.

*Я. Нагавіца*

Драўляны дом супакойваў пахам смалы, утульнасцю. На падваконні ляжаў адчынены другі том вершаў Рыгора Барадуліна і апошні часопіс «Дзеяслоў». Мастакі, якія жылі на сядзібе ўжо тыдзень, варылі на вогнішчы юшку з рыбы, налоўленай на Нёмане, і кашу ў кацялку. Дзеці гойдаліся на арэлях, збралі кветкі і шышкі і майстравалі з іх чалавечкаў. Скульптар да позняга вечара прымацоўваў каменную фігуру да падмурку новай кампазіцыі. Мастачка расстаўляла на верандзе графічныя працы. Эцюды, напісаныя тут, атрымаліся ў выглядзе адлюстраванняў неба ў воднай гладзі. На хутары да яе вярталася натхненне, прыходзіла адчуванне свабоды і спакою.



Пасля вячэры яна абагнула плот і спусцілася па сцяжынцы ў лес. У вільготным гушчары яна натрапіла на зараснікі лубіну. Ёй захацелася прывітаць гаспадара сядзібы букетам кветак, і яна сарвала некалькі пругкіх, сакавітых сцяблін. Бліжэй да берага Нёмана хвоі былі яшчэ маладзенькімі, яны цягнулі да неба свае свежыя парасткі. Вольхі падступалі да вады і схіляліся над сіняй гладдзю. Верхавіны хвояў ціха годаліся, шапацелі чараты. На другім беразе ў лесе чуліся пералівістыя трэлі салаўёў. Перад захадам сонца салоўкі цурчэлі на ўсе лады, не ведаючы гарадскога сполаху.



Яна вярнулася ў дом, дзе ўсе чакалі, калі з канцэрта позна ноччу вернецца гаспадар сядзібы. Ён прыехаў, стомлены і вясёлы, і адразу ў доме на другім паверсе загарэлася святло, а ў альтанцы ўспыхнулі жоўтыя ліхтары. Зоркі ззялі на небе так ярка, што ей падалося, што яна больш нідзе не бачыла над сабой такога шчодрага россыпу сузор'яў і самых маленькіх кропачак святла, як тут, у Вайцюшках.



Яна падумала: як добра было б прыехаць сюды ўзімку, на Каляды, калі дрэвы ў лесе апрануцца ў белыя пухнатыя футры, вокны ў доме будуць упрыгожаны карункамі інею, а над дахам будзе віцца белымі колцамі дымок з коміна. Нёман будзе скуты панцырам лёду, можна будзе пахадзіць па ледзяной тоўшчы пасярод ракі, перабрацца на другі бераг, коўзацца ў снезе, збіраць галлё для вогнішча. Вакол

будзе ціха-ціха, толькі дзяцел будзе выступкваць па кары азбуку морзэ для ляснога абшару...

«Наш дом не замыкаецца ў чатырох сценах. Ён трымаецца на нашай ідэнтычнасці, гісторыі, культуры, мове. Зямля пад нагамі, лес, рэчка, дрэвы і скалы, звяры і расліны, якія мы сустракаем ад нараджэння ці пра якіх мы слухаем казкі, акружаюць нас. Наш вялікі дом бясцэнны, ён большы за эканамічную вартасць», — пісаў польскі журналіст Януш Корбель, рыцар і абаронца Белавежскай пушчы, які неаднаразова сустракаўся са Змітром Вайцюшкевічам. Менавіта ён лепш за іншых адчуваў знітаванасць спевака з родным кутком. Ён фатаграфаваў яго на фоне старых магутных дрэваў, адчуваючы, якая сіла ад іх ідзе. Распытваў пра назвы суседніх хутароў, пра словы, якія ён чуў з дзяцінства.

«Хутар — гэта завершанае ў сваёй паўнаце жыццё, — пісала паэтка Данута Бічэль пра сядзібы на Лідчыне. — Ён расце ў нябёсы дрэвамі, ён заглыбляецца ў гісторыю радаводам, ён упрыгожваецца працаю, чыстым росквітам неба, бярозамі каля хаты, зоркамі язміну, што падаюць на падворак. Хутар збірае адзінае багацце — любоў»....

У студзені 2017 года на хутар прыехаў Стэфан Эрыксан. Ён не быў у Вайцюшках чатыры гады і засумаваў па маляўнічым кутку над Нёманам. Высокі далікатны швед з прыемнасцю заўважыў, што сярод





пляца з’явілася новая прасторная альтанка. Кожны год падчас летніх фэстаў тут выступаюць барды і паэты, дэманструюць свае працы мастакі. А побач з’явілася агароджа з батутам, турнікі і гушкалкі для дзетак. На высокім дрэве прымацаваныя арэлі. Ля сядзібы гаспадыня пасадзіла кусцікі руж. Былому шведскаму амбасадару спадабаліся новыя скульптурныя кампазіцыі.

Ён увайшоў у хату, прытуліў да сябе сваіх хрэснікаў — Язэпа і Стэфанію, абняўся са Змітром і Галінай. Гаспадыня пачаставала яго бульбай з грыбамі і смятанай, а гаспадар наліў у келішкі «Белавежскай». Пасля вячэры яны разам адправіліся на Нёман. Было яшчэ даволі цёпла, рака не замерзла, але вада падступала высока да самага берага.

# У краіне сонца і мора

Даўнія вежы суровыя,
З сухім палыном і ўзлётам,
Сатканыя з нашай любові,
Са скалаў, тугі і пяшчоты

*У. Караткевіч*

Летам артыст падарожнічаў з сям'ёй па Еўропе. Яны з дзецьмі накіраваліся ў Апулію, паўднёвую правінцыю Італіі. Яго прыцягвалі выбеленыя сонцам ландшафты, серабрыстыя аліўкавыя гаі, марскія пейзажы. Там, дзе геаграфічны абцас паўвыспы разразае хвалі Адрыятычнага і Іанічнага мораў, воды чароўна прыгожыя. Іх колер з раніцы да апоўдня вар'іруецца ад блакітна-бурага да паўпразрыстага ізумрудна-зялёнага.



Яны спыніліся ў горадзе Бары, сталіцы Апуліі. На пароме, не ведаючы, як звярнуцца да матроса, ён прамовіў некалькі радкоў песні «Бывайце здаровы» па-італьянску: *«che ora partiamo e grazie per tutto!»*. Той адразу ажывіўся, сказаў «si, signore!» і пачаў яму дапамагаць з рэчамі.

Днём яны ўсёй сям'ёй аглядалі гістарычны цэнтр і пляц з базілікай Святога Мікалая, блукалі па таямнічым лабірынце маленькіх вулачак. Пакуль мама з татам у кавярні каштавалі італьянскія віны, дзеці былі ў захапленні ад піцы, мноства аліўкаў і вінаграду. З цікавасцю разглядалі яны старажытны сярэднявечны замак з бела-шэрай цэглы.

Яны падумвалі, што можна было б прыехаць на наступны год у траўні, на фестываль святога Мікалая, калі заступніка дзяцей і мараходаў будзе вітаць цэлая працэсія, а потым флатылія лодак правязе ўздоўж берага статую святога апекуна ў суправаджэнні феерверкаў.



Яны з сынам і дачкой збіралі закручаныя ракавінкі і каменчыкі, падстаўлялі рукі і ногі пеністаму прыбою, адпачывалі ў цені платанаў. «Пакуль дзеці ў такім пяшчотным узросце, трэба больш быць побач з імі, — думаў ён. — Дарыць ім радасць і цешыцца разам з імі. Потым яны вырастуць і паляцяць на сваіх крылах у вялікі свет».

Вінаграднікі, якія раскінуліся вакол старажытнага гарадка, чарапічныя дахі, званіцы цэркваў і купалы базілік зачароўвалі непаўторнай прыгажосцю. Здавалася, што час абмінае калоны з белага мармуру і антычныя скульптуры, і яны захоўваюць на вякі ідэалы храмавай сакральнасці і гарманічнага чалавечага цела.

Ён адчуў сябе зноў маладым і бадзёрым, адроджаным для творчасці, як быццам не было тых гадоў цемры і няпэўнасці.

Упершыню ён пабываў у Італіі ў 1995 годзе з гуртом «Палац». Гэта быў тур удзячнасці італьянцам за аздараўленне дзяцей з чарнобыльскай зоны.Тур быў арганізаваны «Беларусбанкам». Эмацыйныя і тэмпераментныя італьянцы горача віталі беларускіх музыкаў. Яны



з «Палацам» далі шэсць канцэртаў у розных гарадах і наведалі Рым. Вечны горад пакінуў непаўторныя ўражанні.

Яны агледзелі Калізей, Рымскі форум і Палацінскае ўзвышша, ахутаныя подыхам старажытнасці. Яму думалася пра тое, што тут, па Рымскім форуме две тысячы гадоў таму праходзілі сенатары, народ збіраўся пад калонамі, каб паслухаць палітыкаў, шматлюдныя працэсіі па Via Sacra ўшаноўвалі вайсковыя перамогі, а цяпер адны сівыя руіны захоўваюць веліч былой імперыі.

На заходнім беразе Цібра ўзвышаўся велічны купал сабора Святога Пятра. На месцы былога цырка Нерона, дзе пацярпеў апостал Пётр, імператар Канстанцін загадаў пабудаваць базіліліку ў яго гонар. Над упрыгожваннем купала сабора працавалі ў XVI стагоддзі Рафаэль і Мікелянджэла.

Здавалася, тут зямля і вада дыхалі антычнай і першахрысціянскай гісторыяй, і Боскі агонь творчасці сыходзіў з саміх нябёсаў. Чароўная, пульсуючая сталіца Італіі з яе скарбамі эпохі Рэнэсансу, рамантычнымі плошчамі, кварталамі і завулкамі надоўга захапіла яго думкі. Спявак кінуў манетку ў фантан Трэві, каб вярнуцца сюды калі-небудзь яшчэ раз.

І вось, ужо ў 2017-м, яго дзеці былі шчаслівыя, што пабылі на моры ў Італіі. «Мы збіраліся да дзядулі ў Ізраіль, але тата не мог бы паехаць з намі, і таму мы вырашылі, што лепш усе разам паедзем у Італію. Там было так добра!» — успамінаў Язэп.

За апошнія гады спявак наведаў больш за два дзясяткі краін свету. Часцей бываў у Швецыі і ўпадабаў Стакгольм з доўгімі каналамі, караблямі і яхтамі. Спадабалася яму Эстонія і яе ветлівы народ. Часцей за ўсё ён бываў на Беласточчыне і любіў яе за маладыя сосны, якія ўвесь час мігацяць за акном аўтобуса, цягніка ці машыны. За сяброў з Бельска, Гайнаўкі, Белавежы, Беластока, Чарэмхі, Мельніка. За ўсмешкі беластоцкіх дзяўчат і за песні бабулек. За «Радыё Рацыя», за «Басовішча» і «Бардаўскую восень».

## «Ты мне родная самая»

Самыя галоўныя тэмы пранізваюць творчасць Змітра Вайцюшкевіча. Важнейшая з іх — тэма кахання. «Кожны чалавек хоча кахаць і быць каханым, народжаны для кахання, шукае яго ўсё жыццё, моліцца яму і памірае з успамінам аб ім», — пісаў Уладзімір Караткевіч у апавяданні «Барвяны шчыт». Беларускі артыст апявае святое і ўзвышанае каханне.

Для дзяўчат, жанчын, якія могуць у сённяшнім зманлівым свеце расчаравацца, згубіць веру ў існаванне сапраўднага кахання, важны прыклад дзеяча культуры, які нясе праз усю творчасць ідэал любові, захоўвае і аберагае яго і служыць яму ў сваім асабістым жыцці.

Ты — як пасланніца светлага дня,
Поўная замілавання,
Ты недасяжная, як вышыня,
Арыстакратка кахання.

Светлыя, непадробныя перажыванні пераконваюць сваёй шчырасцю. Таму песні на словы Рыгора Барадуліна, Адама Русака, Уладзіміра Някляева «Зоркі нашыя», «Толькі з табою», «Прыйдзі, мой каханы», «Пад ранне» становяцца сучаснай класікай. Пачуцці апісваюць такія словы, як «мілаваць», «галубіць» , «люляць» і «калыхаць». Яны гучаць са сцэны толькі з вуснаў Змітра. Ніхто з іншых выканаўцаў сёння не ўжывае такіх далікатных словаў.

Я цябе закалышу, як калыша Бог душу,
Залюляю, залюляю, як кахаю, як кахаю.

Яшчэ адна з вечных тэм — пяшчота да матулі і ўдзячнасць ёй. У 2014 годзе Зміцер Вайцюшкевіч прэзентаваў кліп на песню «Мама». Аўтарам тэксту з'яўляецца Генадзь Бураўкін.

— Гэта песня — споведзь перад мамай і пажаданне доўгага жыцця для ўсіх матуль, — кажа спявак. — Па-беларуску шырокавядомай песні пра матулю няма, таму для мяне было важна гэта зрабіць.

Кліп не багаты, але кранальны. Вайцюшкевіч зазначыў, што кліп і песня — знак падзякі паэту.

Калі шчасце атуліць ці аціхну ў журбе,
Я заўсёды, матуля, ўспамінаю цябе.
Ты мне родная самая, па душы, па крыві,
Ты жыві, мая мама, доўга-доўга жыві.



Відэакліп атрымаўся прыгожым і душэўным. Артыст спявае, а худзенькі хлопчык гадоў дзесяці з блакітнымі вачыма і радзімкай ля вуснаў бяжыць праз поле ў росных травах, праз сасновы бор і ўздоўж ракі да сваёй матулі. Такім, напэўна, быў сам Зміцер у дзяцінстве.

Гэту песню Вайцюшкевіч спяваў шматкроць: на курсах «Мова нанова», у беларускіх цэрквах і залах у Амерыцы падчас свайго турнэ ў 2017 годзе. Слухачы не стрымлівалі слёз. Іншы раз спявак успамінаў, што яго мама вельмі любіла і часта пела песню на словы Адама Русака «Толькі з табою».

«У мяне засталося адчуванне, што мы не дагаварылі з мамай, — кажа артыст, перажыўшы адыход матулі. — Я прыязджаў з Лідскай вучэльні, кідаў заплечнік, бег у лес і на рэчку.Так заўсёды бывае, пра нешта мы не паспяваем пагаварыць...»

І нясу як закляцце, перад Богам віну,
Што цябе, мая маці, я пакінуў адну,
Ты мне родная самая, па душы, па крыві,
Ты жыві, мая мама, доўга-доўга жыві.

*Эла Дзвінская*

# Ваяр

Тэма абароны Радзімы хвалюе пасіянарнага артыста. Як кожны мужчына моцнага духу, спявак ставіць сябе ў сітуацыю, калі трэба бараніць Айчыну.

Патрыятычныя песні былі ўключаны ў альбом «Я нарадзіўся тут» у 2000 годзе. На дыску ў выкананні Веранікі Кругловай, Лявона Вольскага і Змітра Вайцюшкевіча быў запісаны «Ваяцкі гімн» БНР Макара Краўцова на музыку Уладзіміра Тэраўскага, вядомы сёння як гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Пад акампанемент флейты, гітары і ўдарных Лявон Вольскі і Зміцер Вайцюшкевіч у лацінаамерыканскіх рытмах тэмпераментна выконвалі песню «Сонца нам дапаможа».

Дарэмна канкістадоры
Спяваюць песню вайны.
Заваяваць наша сонца і зоры
Ніколі не змогуць яны.
Нас любіць калматае сонца,
Нас любіць месяц сівы,
І сонца, і месяц дадуць нам моцы
Для нашае барацьбы.

Не аднойчы артыст адзначаў Дзень беларускай вайсковай славы спевамі на Крапівеньскім полі разам з іншымі бардамі.

7 верасня 2014 года на гістарычным полі пад Оршай каля крыжа пад бел-чырвона-белымі сцягамі сабраліся арт-актывісты, мастакі і барды. Зміцер Вайцюшкевіч заспяваў песню «Сцяг». Грамада падтрымала выкананне вядомага твора воклічамі «Жыве Беларусь!».

«8 верасня 2016 года на аграсядзібе "Гасціна" прайшоў фэст патрыятычнай беларускай песні, — паведамляла газета «Наша слова». — Такім чынам лідзяне адзначылі Дзень беларускай вайсковай славы. Па словах паэта Міхася Скоблы, фэст пад Лідаю стаў добрай альтэрнатывай аналагічнаму фестывалю на Крапівеньскім полі.

А пачаўся фэст з самага старажытнага беларускага ваярскага гімну "Багародзіца", які гучаў на Грунвальдскім полі ў 1410 годзе. Гімн захаваўся, таму што ён быў надрукаваны на старабеларускай мове ў шмат якіх выданнях, пачынаючы ад Статута Яна Ласкага 1506 года.

Гукі свята дабеглі да Вайцюшкоў, і на фэст завітаў без цырымоній Зміцер Вайцюшкевіч».

Тэма ваярскага духу гучыць у песне «Лісоўшчыкам», напісанай кампазітарам на вершы Міхася Чарняўскага.

> Ах, якія былі пагоні, ах, якія былі баі,
> Быццам птушкі ляцелі коні на чатыры бакі зямлі...
> Мы Масковію дзідай мерылі, шабляй мерылі сіні Дунай...



Аднойчы, спяваючы гэту песню ля вогнішча для турыстаў, артыст узгадваў гістарычныя факты пра тое, як лісоўшчыкі праявілі сябе ў вайне 1609–1618 гадоў паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскім царствам.

Фарміраванні лёгкай кавалерыі атрымалі назву ад імя першага камандзіра — віленскага шляхціча Аляксандра Язэпа Лісоўскага. Ствараліся яны ў асноўным з самаахвотнікаў дробнай шляхты і месцічаў з ВКЛ, належалі да лёгкай кавалерыі казацка-татарскага тыпу і валодалі мінімумам даспехаў, шабляй і пісталетамі. Падчас вайны лісоўшчыкі занялі некалькі гарадоў, прымалі актыўны ўдзел у абароне Смаленска ад маскоўскіх войскаў. Узброеныя дзідамі і мушкетонамі, лісоўшчыкі рабілі імклівыя рэйды па варожых тылах. Спяваючы песню, артыст уяўляў сябе ваяром, які шле прывітанне шляхетным пані з поля бітвы.

*Эла Дзвінская*

# Kupalnocka w chutorze białoruskiego pieśniarza

Kobiety uczą młode dziewczyny pleść kupalskie wianki przed rozpoczęciem tradycyjnego pochodu ku rzece Niemen, nad którą leży chutor Wajciuszki. Znany białoruski pieśniarz i kompozytor Zmicier Wajciuszkiewicz zaprosił do swojego gospodarstwa wszystkich chętnych, by wspólnie świętować Noc Kupały.



W chutorze Wajciuszki, który leży na Nowogródczyźnie, po raz kolejny zebrali się miłośnicy autentycznego świętowania Kupalla — białoruskiej Nocy Kupały. Inicjatorem i gospodarzem imprezy na brzegu Niemna był znany białoruski muzyk Zmicier Wajciuszkiewicz — multiinstrumentalista i pieśniarz, członek zespołów Krywi i Pałac, kompozytor muzyki filmowej.

Obchodom jednego z najważniejszych białoruskich świąt towarzyszyły warsztaty, między innymi ze śpiewu tradycyjnego. Świętujący śpiewali przy akompaniamencie dudziarzy.

Atmosferę obrzędu tworzył Aleś Łoś, znany białoruski mistrz gry na tradycyjnych dudach. Aleś Łoś akompanował kupalskim śpiewom przy ognisku nad Niemnem.

Kupalle u Wajciuszkiewicza to ludowe śpiewy, pochód z pochodniami na brzeg rzeki, wyplatanie i puszczanie wianków na wodę, zabawy, korowody




wokół ogniska i skoki przez płomienie, tańce do rana i poszukiwania kwiatu paproci.

Oczyszczające kupalskie ognisko zapłonęło na brzegu Niemca podczas świętowania Nocy Kupały w chutorze Wajciuszki w nocy z 6 na 7 lipca.



Uczestnicy świętowania tańczyly w korowodzie dookoła ogniska przy akompaniamencie białoruskiego dudziarza Alesia Łosia.

Dudziarze, tancerze i śpiewacy rozniecają muzyką ogień, by ten przepalił pal, na którym zawieszono kupalskie koło. Dziewczyna lub kobieta, w której stronę spadnie koło, zostanie mianowana Kupalinką.

Trzej dudziarze graly na białoruskich dudach – tradycyjnych kupalskich instrumentach. Na Białorusi istniał nawet kiedyś zwyczaj, że grajek w kupalskim ognisku palił swoją starą dudę, by potem stworzyć nową.

Białoruski muzyk Zmicier Wajciuszkiewicz puszcza wianki na wody Niemna. Kupalskie wianki płyną po Niemnie. Wajciuszkiewicz przeskakuje przez ognisko wraz z żoną.

Kupalle celebrowane w gospodarstwie Wajciuszkiewiczów odróżnia się od tego współczesnego, miejskiego. Gospodarze i goście starają się maksymalnie zbliżyć do kształtu i sensu, jaki nadawali mu dawni Białorusini.

*www.belsat.eu*

# Koncert z okazji Dnia Niepodległości Białorusi

Białoruski muzyk i bard, artysta-legenda, multiinstrumentalista, kompozytor muzyki filmowej, król białoruskiego undergroundu.



Trudno sklasyfikować jego muzykę, bo wymyka się ze wszystkich szablonów. Od poezji śpiewanej, przez alternatywny rock, po tango i klasyczne nuty. Wajciuszkiewicz wydał 15 solowych albumów, występował z zespołami Pałac, Krywi, nagrywał z Czeremszyną, a obecnie z WZ-Orkiestrą. Współtworzył «Narodny album», artystyczny projekt, który opowiada historię Białorusi w piosenkach.

Ma swoich wiernych słuchaczy w Szwecji, Francji, Japonii. Przyjaźni się z największymi współczesnymi białoruskimi poetami, którzy z ufnością powierzają mu kolejne teksty. Doskonale wyczuwa potrzeby słuchaczy, dlatego ma swoim dorobku płyty o miłości i poezję więzienną, pieśni patriotyczne, ale i kołysanki dla dzieci.

Właśnie wszedł do studia, by zapisać materiał na nowy album, tym razem z pieśniami klasyka — Jaromira Nohavicy, ale po białorusku. To samo kilka lat temu zrobił z twórczością Rafała Wojaczka. Z powodzeniem nagrał i w 2012 roku wydał znakomitą niepokorną płytę.

W Poema Cafe, Todar przedstawi swój najnowszy projekt — pieśni Jaromira Nohavicy po białorusku, który doczekał się wydania płytowego «Kameta»

*www.bluenote/poznan*
*16. Kwiecień 2016*
*Фотаздымак з польскага сайта*

# Загучала шведская паэзія

Вайцюшкевіч дабраўся да шведскіх паэтаў. І не таму, што беларускія скончыліся, проста такі «скандынаўскі» альбом прасіўся даўно, каб адкрыць цікаўнаму тутэйшаму люду паэзію гэтай краіны ды на знак пашаны шведскаму амбасадару Стэфану Эрыксану за ўсё, што ён зрабіў і зробіць яшчэ на беларускай зямлі.




Ад першага трэка чуваць, што да апявання шведскай класікі Вайцюшкевіч паставіўся звышсур’ёзна. Была рызыка спаўзці ў малацікавую меладэклямацыю ці проста зрабіць шэрыя песенькі.

«Чара» выйшла містычнай, падобнай па атмасферы да аднаго з узорных альбомаў «WZ-Orkiestra» «Баллады» (2002). Слухаючы «Ёсць тунэль» і «Ліст», адчуваеш, што спявак у сваёй стыхіі. Ён не імкнецца тут да эпатажу і стварэння гіта, а проста размаўляе з публікай, чаруе, шэпча, нагаворвае, чытае.

Альбом «Чара» няпросты ў тым сэнсе, што ён не адкрываецца адразу — разлік відавочна зроблены на ўважлівае шматразовае праслухоўванне. Гэта той выпадак, калі спачатку табе западае адна песня, пры наступным праслухоўванні — другая, а яшчэ пры адным — трэцяя і гэтак далей. Пры тым дзякуючы эмацыйнай роўнасці «Чара» можа пасаваць і ў якасці фону. Безумоўны поспех запісу «Глыбока ў маёй галаве». Пэўна, супраць ніхто б не быў, каб Аляксандры Эрыксан даверылі выканаць яшчэ два-тры трэкі.

Пры канцы Вайцюшкевіч усё ж вырашыў трошкі ўсміхнуць публіку і заспяваў у іранічна-пазнавальным рэчышчы песню пра шведскіх і, адпаведна, пра беларускіх мужчын. Мужчыны вырашаюць, факт.

*Сяргей Будкін*
*www.tuzinFM.by*



Упершыню гэтую праграму давялося пачуць у канцэртным варыянце, што дало магчымасць загадзя, да праслухоўвання альбома, скласці пэўнае пра яе ўяўленне. Праслухоўванне студыйнага варыянта толькі ўмацавала пачутае ў «жывым» увасабленні.

Пачну з таго, што з пункту гледжання музыкі гэтая праграма ў даробку Вайцюшкевіча — найбольш складаная і, я сказаў бы, — найбольш актуальная, сучасная. Цалкам магчыма, што абраць менавіта такую музычную стылістыку Змітра якраз і змусіла шведская паэзія, якая па ўнутранаму ладу, рытміцы адрозніваецца ад славянскіх паэтычных узораў. І тады Вайцюшкевіч ступіў на амаль што цалкам новы для яго музычны шлях, дзе рэй вядуць ламаныя рытмы, дзе фолку куды менш, чым этнікі, дзе поўна таго, на чым стаіць цяперашні больш-менш свабодны (free) джаз. Але, варта прызнаць, тое выпрабаванне Зміцер вытрымаў у цэлым годна, бо ў альбоме практычна няма слабых месцаў.

Сапраўды, альбом атрымаўся вельмі злітны, стыльны, але пры гэтым — зусім не аднастайны. Агульны настрой пэўнага чарадзейства (не паганства!), настрой музычнае варажбы задае першы ж загалоўны трэк. А пасля ідуць вельмі ладна скампанаваныя «Ліст», «Ёсць тунэль», «Першая». І нават удзел у запісе Аляксандры Эрыксан з ладным, чыстым голасам не дае падставаў казаць пра нейкую спекуляцыю: удзел шведскай спявачкі якраз абсалютна пасуе да агульнай канцэпцыі і дадае праграме яшчэ адзін плюс.

*Зміцер Падбярэзскі*
*2011 год*

# Гісторыя чалавека ў цяжкіх жыццёвых абставінах

Ты чакай мяне былога.
Я такім, ягога помніш ты, прыйду.
*Г. Бураўкін*

Прэзентацыю свайго новага альбома «Варанок» Зміцер Вайцюшкевіч вырашыў зрабіць у адной з мінскіх саўнаў. Каб падкрэсліць задушэўнасць сваёй працы.

Апрануты ў белы гарнітур Вайцюшкевіч сустракае журналістаў з шырачэзнай усмешкай на вуснах. «Шчыра казаць, хвалююся, бо даўно прэс-канфэрэнцыяў не даваў, — сцішаным голасам прызнаецца спявак ды тут жа голасна запрашае ўсіх частавацца. — Заўважце, усё без спонсараў!»




Новая праграма «Варанок» вырашана ў жанры шансону і запісана разам з музыкамі «WZ-Orkiestra» ды «Apple Tea». «Ідэя альбома належыць Генадзю Бураўкіну. Хацелася зрабіць беларускамоўны альбом у такім жанры, раней ніхто не верыў, што такое магчыма», — распавядае выканаўца.

Праграма ўжо прагучала ў Берліне, рыхтуюцца канцэрты ў Маскве, Піцеры, Варшаве, Гданьску, Беластоку і Вільні. Частку песень з альбома «Варанок» Вайцюшкевіч прадставіў раней у выглядзе самотніка «Шо-шо», выдадзеным пад творчым псеўданімам Хведар Шчавель. У тым ліку і загалоўную.

*— Спадар Зміцер, якая гісторыя стварэння альбома «Варанок»?*

— Ідэя цалкам належыць Генадзю Бураўкіну. Два гады таму ён мне яе агучыў. Я, праўда, быў моцна здзіўлены, таму што тады ўвогуле не ўяўляў сябе ў ролі песняра беларускага шансону. Але час дае маг-



чымасць падумаць, і маё меркаванне змянілася. Мы запісалі 12 песень, адна з іх — на словы Уладзіміра Някляева, астатнія 11 — на словы Генадзя Бураўкіна.

*— Слова «шансон» мае даволі розныя значэнні. Калі ў расейскай культуры гэта турэмная песня, дык у традыцыі заходняй, найперш французскай, шансон абазначае гарадскі раманс. «Варанок» бліжэй да якой традыцыі?*

— У гэтых 12 песнях прасочваецца гісторыя чалавека ў цяжкіх жыццёвых абставінах. Гэта можа быць турма, а можа быць і абмежаванне волі ў цэнтры горада. Я раблю выснову, што панятак «турма» стаў значна шырэйшы. У песнях з альбома «Варанок» мы імкнуліся расказаць пра чалавека ў цяжкіх жыццёвых абставінах, калі частка яго жыцця ўжо пражытая і за спінай пагарэлі масты, а будучыня яшчэ не акрэсленая. У гэтым зборніку ёсць месца для іроніі, для аптымізму, для асэнсавання пражытага. Мне здаецца, што гэта патрэбная праца. На што гэты альбом будзе падобны? Думаю, тыя, хто любіць расейскі шансон, скажуць, што «Варанок» бліжэй да расейскага шансону. Тыя, хто ведае французскі шансон, заўважаць лірычныя моманты.

*— Ці можна сказаць, што лірычны герой «Варанка» — гэта не абавязкова былы зэк, а што гэта абагульнены вобраз сучаснага беларуса, які, будучы фармальна на волі, усё ж не лічыць сябе свабодным?*

— Я проста хацеў бы, каб людзі ў музычных працах узгадвалі цяжкія моманты жыцця, такія, як смерць і зняволенне. Зараз музыка моцна скіраваная ў забаву, увасабляецца ў цалкам радасным успрыманні жыцця. Але без асэнсавання гора чалавек не можа зрабіць крокі наперад.

*Сяргей Будкін*
*Tuzin.fm, снежань 2013 года*

## «Наша песня» аб'ядноўвае слухачоў

Беларускі партал TUT.BY прадставіў інтэрнэт-прэзентацыю новага альбома Змітра Вайцюшкевіча «Наша песня», які складаецца з 12 песень класікаў і сучасных беларускіх аўтараў. Усе кампазіцыі так ці інакш прысвечаныя тэме Радзімы.




— Звярнуцца да такой складанай тэмы прымушае час, — лічыць Вайцюшкевіч. — Хопіць дзяліцца на «чэсных» і «нячэсных», на левых і правых, на беларускамоўных і рускамоўных. Хопіць дзяліцца паводле колеру сцяга ці паводле палітычных сімпатыяў. Натуральна, што мы ўсе розныя і маем розныя перавагі. Але глабальна ўсе, хто дбае пра Беларусь і яе культуру, на адным баку.

Быццам падкрэсліваючы такую думку, альбом спалучае розныя пласты матэрыялу. З аднаго боку, шэраг класічных беларускіх песень савецкіх часоў: «Мой край» Ціхановіча, «Я люблю бярозку» Семянякі, «Вераніка» Лучанка. З іншай — «Паланэз» Агінскага, «Магутны Божа» Равенскага, «Я нарадзіўся тут» Вольскага, «Сцяг» Вайцюшкевіча. А таксама новыя песні Вайцюшкевіча на словы Някляева: «Жыве Беларусь», «Красуня-вясна», «На дальняй старане».



— Усе песні ў цалкам новых версіях і ў іншым прачытанні. «Я нарадзіўся тут», напрыклад, гучыць зараз ад імя пасталеўшага героя і з іншым настроем. Яна змяшчае дагэтуль нявыдадзены кавалак першапачатковага тэкста, які ў свой час забракаваў прадзюсар праекта Алесь Суша. Некалькі песень гучаць з хорам — я вельмі хацеў гэта зрабіць, і зараз вельмі задаволены, — тлумачыць спявак.

*TUT.BY, 25 чэрвеня 2015 года*

Ёсць выраз «настольная кніга» пра ўпадабаны твор. Кружэлка «Наша песня», сапраўды, стала настольным дыс-

кам у 2015 годзе. Упершыню дыск быў прэзентаваны на канцэрце ў Вільні. А пасля артыст запрасіў кола сяброў на вечарыну ў мінскую кнігарню «ЛогвінаЎ» і прадставіў новыя песні ў літаратурным асяродку.

— Выява чырвонага мака на вокладцы нагадвае сімвал французкіх і італьянскіх партызанаў, сімвалаў змагання ў шэрагах Руху Супраціўлення ў гады Другой сусветнай вайны, — пракаментаваў спявак.



«"Нашу песню" прывёз у Магілёў Зміцер Вайцюшкевіч, — пісаў Алесь Сабалеўскі ў лістападзе 2011 года. — У новым альбоме сабраны вядомыя і любімыя беларускія творы розных часоў, ад класічных "Магутны Божа" і "Вераніка" да сучасных "Я нарадзіўся тут", "Красуня-вясна" і "Сцяг". Апроч згаданага альбома магілёўцы пачулі і шмат іншых песень, гумарлівых і сур'ёзных, паспявалі разам са Змітром, пацешыліся з ягоных жартаў, і безумоўна, атрымалі бязмежнае задавальненне з добрым настроем у дадатак.

Канцэрт быў арганізаваны магілёўскай суполкай ТБМ імя Ф. Скарыны пры падтрымцы грамадскага цэнтра "Кола". А хто не здолеў прыйсці паслухаць Вайцюшкевіча гэтым разам, праз месяц зможа сустрэцца з ім у Магілёве на курсах "Мова нанова"», — паведаміў Алесь Сабалеўскі.

*12 лістапада 2015 года*

## «За пагоркам гэтым — Сараева святло»

Зміцер Вайцюшкевіч выпусціў альбом «Камета», у якім пераспяваў па-беларуску хіты знакамітага чэшскага музыкі Яраміра Нагавіцы. Закрытую прэзентацыю дыска ў сталічным гатэлі «Рэнесанс» зладзіла 19 лістапада Амбасада Чэшскай Рэспублікі ў Беларусі.




«Гэта цалкам перапрацаваная творчасць Нагавіцы, праект, які ўкладаецца ў маю канцэпцыю міжнародных музычных праектаў — міжнародных масточкаў, якія можна рабіць так, як было з Ваячкам, можна рабіць больш лайтовую версію, як з Нагавіцам — проста пераасэнсаваць. Мне была цікавая чужая творчасць, як аснова, каб параўнаць, выйсці ў ролі інтэрпрэтатара, выканаўцы ці прадзюсара. Лічу, што гэта патрэбна не толькі чэхам і палякам, якія шалеюць ад Нагавіцы, гэта можа быць цікава і беларусам», — перакананы Вайцюшкевіч. На канцэрце Зміцер падрабязна распавёў пра ўсе песні з альбома, пра асаблівасці арыгінала і беларускамоўнай версіі. Перакладамі з чэшскай мовы займаліся Андрэй Хадановіч і Віталь Воранаў. Песні, якія Нагавіца выконвае проста пад гітару перад 15-тысячнай аўдыторыяй, у варыянце Вайцюшкевіча набываюць яшчэ і карункавую аранжыроўку.



«Зміцер пераспяваў гэтыя песні вельмі прыгожа, асаблівa. Ён уклаў у гэта сваю душу. Многім чэхам, якія праслухалі дыск, ён спадабаўся. І вы бачыце ў зале, як добра прысутныя рэагуюць на версіі вядомых песень ад Змітра, — не хавае захаплення ад канцэрта і падзеі Дагмар Дзідзенка-Наваградска, намесніца амбасадара Чэхіі ў Беларусі. — Увогуле, мы вельмі ўзрадаваліся, што чалавек па сваім жаданні захацеў



зрабіць такі праект, што беларусам падабаюцца чэшскія песні, чэшская культура, — для нас гэта істотна».

Прэзентацыя альбома «Камета» прайшла у межах святкавання Дня барацьбы за свабоду і дэмакратыю, вельмі важнага свята для Чэхіі і Славакіі, які адзначаецца 17 лістапада. І прэм'ера дыска Вайцюшкевіча ў гэты дзень — сімвалічная, — адзначыла Дагмар. Намесніца амбасадара правяла рытуал, традыцыйны для чэхаў: разам з калегай з Амбасады Славакіі і Змітром яны «хрысцілі» дыск Вайцюшкевіча, паліваючы салодкім чэшскім лікёрам «Бехераўка» — каб добра прадаваўся!

14 траўня 2016 года песні з дыска «Камета» прагучалі ў новай праграме ў сценах Віленскай ратушы. Словы і музыка ў іх маюць асаблівыя сэнс і гучанне.

На зорным вакзале трымцяць вагоны,
Пан доктар выпісаў неба законы,
Шукаў і знайшоў іх у зорных трыядах,
Таемтва, якое нясем цяпер разам...

*(«Камета»)*

Ужо 21 лістапада Зміцер Вайцюшкевіч спяе беларускага Нагавіцу ў Празе. Ёсць дамова, што неўзабаве музыка выступіць ва ўласным тэатры Яраміра Нагавіцы, які прызнаўся, што атрымаў асалоду ад беларускага варыянта сваіх песень.

***www.budzma.org, 20 лістапада 2015 года***

# Дзесяць гадоў супрацоўніцтва паэта і спевака

У 2017 годзе музыка і паэт выдалі сумесны альбом з нагоды 10-годдзя творчай супрацы. У дыск увайшлі як раней вядомыя творы, так і зусім новыя песні і вершы.




За дзесяць гадоў супрацоўніцтва нарадзілася больш за 25 песень — шляхетных і патрыятычных, якія нясуць ідэальны вобраз Радзімы, памяць пра яе святыя сімвалы. Рамантычная героіка, блізкая па пафасу радкам Багдановічавай «Пагоні», адлюстравана ў песні «Наш сцяг», якая ўпершыню прагучала ў 2010-м годзе.

Айчына, Бог і гонар,  
Малітва на губах —  
Крывіцкая «Пагоня»  
Нясе наш крэўны сцяг.

У трывожны веснавы час, у красавіку 2011 года кампазітар напісаў песню ў падрымку свайго сябра на яго верш «Красуня-вясна». Яна перадае стан прыроды, якая з новай сілай абуджаецца пасля зімовага сну. Адпаведна і чалавечая душа ажывае з промнямі вясновага святла да спадзяванняў на лепшае, пераадольвае разгубленасць.

Хай душа ўскалышацца да дна  
І туды пакліча, дзе святая,  
Дзе на ўзлеску юная вясна  
Першыя пралескі рассыпае.

Гучыць гімн прыродзе і жыццю, ён здольны ратаваць ад расчаравання і дэпрэсіі, выкліканай аб'ектыўнымі падзеямі ў грамадстве:

Красуня-вясна звініць ручаінамі ў полі
Красуня-вясна — сястра нашай волі,
Красуня-вясна ў бела-чырвоным убранні
Красуня-вясна — чароўная фея кахання.

За дзесяцігоддзе супрацы з'явіліся выдатныя лірычныя творы. Паэт не аднойчы прыязжаў на Нёман да спевака, гасцяваў у яго сядзібе і тонка перадаў пачуцці і перажыванні свайго сябра ў вершах, пакладзеных за аснову песні «Пад ранне»:

У доме адчынены дзверы
Для ўсіх выпадковых сяброў,
Я ўсё спадзяюся і веру,
Што некалі прыйдзе любоў...

«Сутнасць паэтычнага таленту незямная, адрозная ад паўсядзённага жыцця, — пісаў Алесь Бяляцкі пра аднаго з сучасных творцаў. — Паэты дзякуючы магічным магчымасцям блізкія да Бога. Яны — безабаронныя жыхары нябесных мараў і ўяваў. Яны пазначаныя пячаткаю Божага блаславлення». Таму іх радкі так моцна ўздзейнічаюць на слухачоў.

Першы сумесны дыск Някляева і Вайцюшкевіча пабачыў свет у 2006 годдзе. Песня з яго «Дарога» трапіла ў «залаты тузін» па выніках сезона, а «Паланэз» і «Не дазволь мне пайсці» ўвайшлі ў лік галоўных гітоў «WZ-Orkiestra». Асобна на Дзень Перамогі 9 траўня ў 2006 годзе Вайцюшкевіч прэзентаваў песню «Дзявяты плач». Тэма тугі па Радзіме знайшла адлюстраванне ў кампазіцыі «На дальняй старане», якая ўвайшла ў складанку «Наша песня».

Новы дыск «У нашых снах» склалі ў 2017 годзе 18 запісаў, добра вядомых і нядаўна створаных. Дыск каштоўны аўтарскім чытаннем твораў У. Някляева: урыўка з паэмы «Паланэз», вершаў «Прыбегла з марозу», «Ветраны ранак», «Пярсцёнак», «У нашых снах».

Самі аўтары імкнуліся пазбегнуць слова «найлепшае» і назвалі запісы «пэўным зрэзам». На дыску з'явілася новая кампазіцыя «Шалік». Ад даўно мінулых рамантычных сустрэч у спевака засталіся некалькі шалікаў. «Чалавека ў тваім жыцці ўжо няма, а шалік вось ён — вісіць. Вельмі дакладны вобраз. Падарунак ад шчырага сэрца дорыць цяпло», — кажа артыст. Меладычнай, з добрай аркестроўкай атрымалася сугучная па тэме песня «На Каляды». Ёй папярэднічае верш Уладзіміра Някляева, які перадае настрой зімовых святаў:



Прыбегла з марозу, на вейках — зара,
І хрустка, і свежа, і снежна з парогу.
Яшчэ ў нас наперадзе, дзякаваць Богу,
І срэбная, і залатая пара...

Жыцейскімі, жартаўлівымі, па-харошаму сямейнымі, з пеўнямі, свістам і бубянцамі выйшлі запісы: «Ты залаты», «Гуляць дык гуляць», «Ірка Ермалінская», каб не сумаваць у любую паравіну года. Калыханка для закаханых ашчасліціць і супакоіць слухачоў любога ўзросту.

4 сакавіка 2017 года, Зміцер Вайцюшкевіч, Уладзімір Някляеў і «WZ-Orkiestra» далі вялікі супольны канцэрт у Вільні з праграмай «Нашы каханыя». «За гэтыя гады Зміцер стаў для меня сапраўдным сябрам. Ён праявіў сябе як чалавек, які цвёрда стаіць на грунце беларушчыны», — прызнаўся Уладзімір Някляеў.

*Эла Дзвінская*

## У старажытнай Вільні

У 2015—2017 гадах канцэрты спевака праходзілі ў Вільні. Арганізоўвала іх Алена Бутурля, якая клапоціцца пра культурныя імпрэзы. Слухачы, што складаюць пастаянную аўдыторыю выканаўцы, набывалі квіткі ў Мінску, адкрывалі шэнгенскія візы і выпраўляліся ў двухдзённае падарожжа ў старажытную сталіцу ВКЛ. Пасля агледзінаў памятных мясцін, звязаных з дзейнасцю Францішка Скарыны ў «слаўным месце Віленскім», з руплівасцю Францішка Багушэвіча



і нашаніўцаў, аматары музыкі крочылі ў будынак мэрыі ці ў Польскі дом, дзе іх чакала сустрэча з беларускім артыстам.

— Вільня — вольны горад, дзе ёсць месца для літоўскай культуры, беларускай і польскай культуры.Час быў складаны, — узгадвае З. Вайцюшкевіч, — хацелася кантактаў з публікай і было жаданне, каб Уладзімір Някляеў мог выступіць менавіта як паэт, а не палітык. Мы былі не першымі. «Ляпіс Трубяцкі» і «Крамбамбуля» рабілі такія выезды, аказалася, што іх не цяжка арганізаваць. Хочацца падзякаваць роднай беларускай публіцы, якая адгукалася і прыязджала на канцэрты за мяжой.

На канцэрце 4 сакавіка 2017 года Уладзімір Някляеў, якога ўсе добра ведаюць і любяць, не толькі чытаў вершы, але яшчэ і спяваў. Для паэта публічная прастора вельмі важная. На прэзентацыі дыска ў «Нашых

снах» быў прадстаўлены мікс з нашых лепшых песень, створаных за 10 гадоў. Наша супрацоўніцтва — тандэм, які добра склаўся.

На канцэрце 6 чэрвеня 2016 года з «Нашай песняй» была прапанавана трошкі іншая канцэпцыя. Праект быў у некаторым сэнсе канцэптуальным, была спроба праз песню звязаць пакаленні. Праз народную, харавую музыку, мае слова і стаўленне да песні (якая можа быць сучаснай, а можа быць традыцыйнай) акрэсліць нашу духоўную і культурную прастору. Вельмі важна не толькі ствараць песні, але і запісваць іх на кампакт-дысках, відэа, каб яны мелі матэрыяльнае ўвасабленне. У праекце ўдзельнічаў «WZ-Orkiestra», хор «Неруш», «Concordia Chor» Галіны Казіміроўскай. У фінале з камерным аркестрам мы запісалі песню на словы Наталлі Арсенневай «Магутны Божа». Я лічу, што ўся класіка, якая была створана да майго існавання (напрыклад, такая песня, як гімн БНР «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»), павінна быць запісана з добрым абсталяваннем, класічнымі інструментамі, каб яна захоўвалася на вякі, — упэўнены артыст.

# Паўтары гадзіны шчасця

Тое, што мне давялося перажыць увечары ў нядзелю, 4 верасня 2016 года ў Падляшскай оперы ў Беластоку, не параўнаць ні з чым. Прынамсі, за апошнія гады. Там адбывалася падзея, пра якую аўтар гэтых радкоў і ўжо і не марыў, — спектакль «Народны альбом — 20» з удзелам амаль усіх тых, хто спрычыніўся да стварэння музычнага праекту. Сказаць, што гэта было класна, — не сказаць нічога.

Гэта той выпадак, у які мала верылася. Сабраць на адной сцэне сапраўдных легенд беларускай сучаснай музыкі — дарагога варта. А тут яшчэ трэба было атрымаць магчымасць, каб аксакалы беларускага року — удзельнікі запісу «Народнага альбома» — знайшлі час і сабраліся зноўку ў адзін калектыў праз амаль дваццаць гадоў пасля стварэння праекта. Тым больш, што некаторыя, як то Вераніка Круглова, жывуць нават не ў Беларусі.

Перад пачаткам канцэрта ў цудоўнай запоўненай зале Падляшскай оперы ўзнікала хваляванне — што гэта будзе? Ці варта было дзеля гэтага ехаць дзевяць гадзінаў у аўтобусе? Адразу адкажу — варта. І той, хто не патрапіў на гэтую імпрэзу, ніколі не адчуе таго адрэналіну, што адчулі гледачы выбітнага спектакля.

Скажу адразу, што музыкі «нацярпеліся» — цягам трох дзён па некалькі рэпетыцыяў на сцэне ад самага ранку. Рэжысёры і арганізатары літаральна высмоктвалі ўсе сокі з выканаўцаў, нягледзячы на тое, што галоўныя асобы альбома — сапраўдныя прафесіяналы, імёны якіх шмат гадоў вядомыя не толькі ў Беларусі: Кася Камоцкая, Лявон Вольскі, Аляксандр Памідораў, Вераніка Круглова, Зміцер Вайцюшкевіч, Сяр-





гей Ахрамовіч, Сяргей Кагановіч, гурты «Apple Tea» і «Aquarelle Quartett». Неверагодна! Ніякая тэлевізія не перадасць той атмасферы, якая панавала ў зале.

Эмоцыі перапаўнялі гледачоў, сотні з якіх прыехалі з Беларусі. Там, на канцэрце ў Беластоку, можна было сустрэць людзей, якіх не бачыў дзесяцігоддзямі. Людзі абдымаліся, размаўлялі, і было бачна, што не толькі сама імпрэза мела для іх значэнне, але і магчымасць зноўку ўбачыцца, пагаманіць, вочы проста іскрыліся, а атмасфера нібы вібравала.

Дарэчы, не прамінулі наведаць пастаноўку і вядомыя асобы.

На самім канцэрце ўжо ад першай песні зала проста ашалела. Аказалася, што людзі памятаюць словы ўсіх 27 песень, што прагучалі (апошнюю кампазіцыю «Простыя словы» музыкі выканалі яшчэ і на «біс»). Зала літаральна раўла, зрываючы галасы і адбіваючы ладкі да барвовага колеру. Кожнага саліста сустракалі такімі апладысментамі, што ўзнікаў страх, каб дах не абрынуўся (нашых папсавікоў так не сустракаюць нават па разнарадках).

Атмасфера эйфарыі ды пачуццё ўдзячнасці на адрас усіх, хто спрычыніўся да свята. Хоць далося яно нялёгка. Да прыкладу, музыкі на рэпетыцыях выкладваліся так, што маглі і не выйсці на сцэну. Так, за два дні да выступу ў «фронт-вумэн» «Народнага альбома» і нашай неаднаразовай рок-князёўны Касі Камоцкай сарваўся голас. Але да пачатку канцэрта голас у Касі аднавіўся, і яна адспявала ўсе свае партыі так, што ніхто і не заўважыў, што надоечы ў яе былі сур’ёзныя праблемы.

Пасля завяршэння спектакля гледачы, стоячы, доўга пляскалі ў ладкі і выклікалі музыкаў на сцэну. Крыху пазней удзельнікі праекта выйшлі ў фае і размаўлялі з людзьмі, давалі аўтографы. Усмешкі не сыходзілі з твараў абсалютна ўсіх. Застаецца толькі сказаць музыкам і арганізатарам — велічэзны дзякуй за гэтыя паўтары гадзіны сапраўднага шчасця, якое завецца «Народны альбом»!

*Генадзь Кеснер*
*«Новы час», 6 верасня 2016 года*

# Вяртанне легендарнага мюзікла

Сёння ў Мінску адбылася падзея, якая прыглушыла бляск і рытмы знакамітага карнавала ў Рыа-дэ-Жанэйра, які таксама стартаваў у гэту пятніцу.



У клубе «Prime Hall» у Мінску адбыўся легендарны беларускі мюзікл. На сцэну выйшлі рок-зоркі: Лявон Вольскі, Вераніка Круглова, Аляксандр Памідораў, Зміцер Вайцюшкевіч, Кася Камоцкая і іншыя ўдзельнікі «Народнага альбома». Канцэрт прайшоў пры падтрымцы Польскага Інстытута ў Мінску і Інстытута Адама Міцкевіча.

«Народны альбом» быў запісаны ў 1997 годзе ў былой студыі легендарнага радыё «101,2» і стаў адной з буйнейшых культурных з'яў незалежнай Беларусі: ён аб'яднаў не толькі яго стваральнікаў, але і тысячы слухачоў ва ўсёй краіне. Супольны музычны праект з'явіўся на свет дзякуючы Міхалу Анемпадыставу, якому належыць ідэя альбома і амаль усе тэксты. Удзел у праекце бралі папулярныя беларускія рок-музыкі сярэдзіны 90-х: "N.R.M.", "ULIS", «Новае Неба» і іншыя.

На фестывалі «Рок-каранацыя-97» «Народны альбом» быў прызнаны альбомам года і праходзіў у намінацыі «Найлепшыя тэксты года». Паводле словаў Лявона Вольскага, падчас запісу «Народнага альбома» з'явіліся ідэі запісаць асобны дыск патрыятычных песень «Я нарадзіўся тут».

4 верасня 2016 года ў Беластоку з аншлагам адзначылі 20-годдзе «Народнага альбома». Музычны спектакль па кампазіцыях з «Народ-

нага альбома» прайшоў на сцэне Падляшскай оперы. На спектакль прыехалі вядомыя беларусія палітыкі, грамадскія дзеячы, журналісты, беларусы, якія жывуць у Польшчы, і многія іншыя.

«Самае галоўнае, што "Народны альбом" праз 20 гадоў не страціў сваёй актуальнасці. Аўдыторыя ўжо засумавала па яго героях і выканаўцах. Сабраць іх разам было даволі складана, але падзея адбылася паспяхова», — успамінае З. Вайцюшкевіч.

*Charter97.org , 24 лютага 2017 года*

# Песня на вершы Уладзіслава Галубка

Зміцер Вайцюшкевіч прэзентаваў у межах праекта «(Не)расстраляная паэзія» партала «TuzinFM» нечаканы трэк, напісаны на словы Уладзіслава Галубка, заснавальніка беларускага сучаснага тэатра і першага народнага артыста краіны.

Уладзіслаў Галубок увайшоў у гісторыю як паэт, празаік, драматург, рэжысёр, актор, мастак. Ён пачаў друкавацца ў «Нашай Ніве» ў 1908 годзе, напісаў каля 40 п’есаў, на пачатку 1920-х стварыў беларускі вандроўны тэатр, які праз некалькі год атрымаў статус дзяржаўнага. Менавіта Галубок першым у гісторыі краіны атрымаў званне народнага артыста Беларусі (1928), і практычна пасля гэтага пачаўся ягоны пераслед. Галубка расстралялі ў 1937-м, трохі раней, чым большасць ягоных калегаў, 28 верасня. Разам з ім былі арыштаваныя і рэпрэсаваныя ўсе, хто граў у ягоным тэатры (БДТ-3).




Менавіта на верш Уладзіслава Галубка напісаў песню ў межах праекту «(Не)расстраляная паэзія» Зміцер Вайцюшкевіч: «Я ведаў, што ён стваральнік беларускага тэатра. Сярод тых вершаў, якія дайшлі да нас, я шукаў нешта пазітыўнае. І на шчасце, знайшоў! Будучыню!»

Верш Галубка «Будучыня» датаваны 1912 годам. Вайцюшкевіч называе гэты твор аповедам пра нашыя беларускія мары. «Тут усё супала — і заклік Галубка адбудаваць свой сапраўдны дом, і маё зацікаўленне камп’ютарнымі тэхналогіямі ды сімфанічнай музыкай, пагатоў, я маю класічную адукацыю», — кажа Зміцер. У запісе песні на студыі «Everest» паўдзельнічалі таксама Алесь-Францішак Мышкевіч (бас) і Павал Мамонаў (бубны).

*www.budzma.org*

# Зімовы фэст з удзелам музыкаў

Званы зазвінелі, Хрыстос усміхнуўся з нябёс,
Калядная зорка то гасла, то ззяла.
*У. Някляеў*

Амаль увесь суботні дзень 14 студзеня пасярод новабудоваў Каменнай Горкі ў Мінску чуліся спевы, якія неслі ў сабе радасць Божага Нараджэння. У гэтыя святочныя дні вернікі хацелі паказаць, што варта захоўваць традыцыю калядавання, а значыць, абвяшчэння радасці Божага Нараджэння.



«Зімовы фэст» — далёка не першы музычны фестываль, які ладзіць праваслаўны прыход святога Мікалая Японскага. Вернікі ладзілі і «Траецкі фэст», дзе хэдлайнерам быў Алег Хаменка, і «Восеньскі фэст». А зараз вернікі наўпрост захацелі пакалядаваць. Яны вераць, што тыя, хто праслаўляе Хрыста ў гэтыя дні, прыўносяць радасць у жыццё іншых.

Шмат хто з прыходу святога Мікалая Японскага — людзі, якія любяць беларускасць, з’яўляюцца экспертамі ў галінах краязнаўства і этнаграфіі. Таму «Зімовы фэст» атрымаўся фэстам, які падыходзіць пад азначэнне «Беларуская форма — хрысціянскі змест». На фэсце можна было пазнаваць беларускую культуру праз народныя гульні ды танцы. Для дзетак і людзей з асаблівасцямі развіцця працавалі майстэрні, дзе ўсе жадаючыя маглі зрабіць рэчы сваімі рукамі.

Пра радасць Божага Нараджэння спявалі не толькі самі прыхаджане, але і госці з Польшчы — калектыў з горада Бяла-Падляска. Права-

слаўны прыход запрасіў выступіць на свяце і досыць вядомы каталіцкі гурт «Laudans». «Laudans» не толькі выконваў калядны рэпертуар, але, канечне, спяваў гурт і пра хрысціянскае адзінства.

«Нам патрэбна адзінства!» — менавіта гэтыя словы гучалі на тэрыторыі храма. Хэдлайнеры свята — Лявон Вольскі і Зміцер Вайцюшкевіч запалілі ўжо прадрогглых калядоўшчыкаў апрацаванымі імі калядкамі і ўласнымі хітамі.

Айцец Павел Сярдзюк, святар прыхода, кажа, што такія мерапрыемствы яны ладзяць ужо каля двух гадоў: «Мы не хочам абмяжоўвацца толькі службамі ў царкве. Мы хочам, каб хрысціянскае адзінства трансфармавалася ў агульную справу. Я прытрымліваюся прынцыпу «Літургія пасля Літургіі».

Той факт, што на свяце, якое ладзіць праваслаўны прыход, сустрэліся культуры іншых канфесій, айца Паўла не пужае: «Мы запрашаем людзей не ў літургічную прастору, але ў культурную. Сюды прыходзяць тыя, хто хоча праслравіць Хрыста. Нашая прастора — адкрытая. Тое, што не можа аб'яднаць у сабе соцыум, Хрыстос аб'ядноўвае з вялікай лёгкасцю. І тое, што мы ўсе можам разам пасядзець за кубкам гарбаты і праспяваць калядку, — гэта вопыт Любові. Мы ж пакланяемся Богу жывому, Богу Любові, Богу Евангелля. І гэтае свята — невялікі крок Любові, крок да збліжэння адзін аднаго. Прынамсі, мы на гэта спадзяемся».

*Вікторыя Чаплева*
*www. krynica.info, 2017 год*



# Барды дзвюх краін сустрэліся ў тэатры «Хелігонка»

У лістападзе 2017 года артыста і «WZ-Orkiestra» запрасіў выступіць у сваім тэатры папулярны чэшскі спявак Ярамір Нагавіца. Калектыў здзейсніў турнэ па Чэхіі, наведваючы пяць гарадоў. У гарадку Астрава, недалёка ад чэшска-польскай мяжы ў XIX стагоддзі існаваў вялізны металургічны камбінат, які займаў плошчу 10 квадратных кіламетраў.

Манументальная забудова, якая страціла сваё індустрыяльнае прызначэнне, ператворана ў грандыёзны арт-праект. Сярод будынкаў, перарobленых на сучасны манер, знаходзіцца тэатр знанага чэшскага спевака, зала, у якой могуць змясціцца каля 300 чалавек.



...Яны правялі ў дарозе шмат дзён, пераязджаючы з месца на месца. За две гадзіны да канцэрта на трасе праз гару, у тунэлі аўтобус з му-



зыкантамі выпадкова зламаўся. На дапамогу падарожнікам прыехаў высокі, ужо не малады мужчына з доўгімі валасамі. Ён прыязна павітаўся, узяў у рукі інструменты і перанёс іх у сваю машыну. У дарозе яны размаўлялі на сумесі трох моваў пра мясцовыя старажытнасці, пра музыку і сучаснасць, і лёгка разумелі адзін аднаго.

Толькі на сцэне, пры яркім святле ліхтароў, піяніст з «WZ-Orkiestra «зразумеў, што іх спадарожнікам быў сам знакаміты Нагавіца. Сумесны канцэрт, задуманы як экспромт, атрымаўся паспяховым. Ярамір Нагавіца спяваў па-чэшску, Зміцер Вайцюшкевіч — па-беларуску. Пазней Зміцер дзяліўся ўражаннямі аб гэтай падзеі:

— Два з паловай гады таму быў выдадзены мой новы дыск «Камета» з песнямі Яраміра Нагавіцы ў перакладзе Віталя Воранава і Андрэя Хадановіча. Я імкнуўся паказаць чэшскую музычную культуру. Мы выдалі дыск і сустрэліся ў Астраве з Ярамірам Нагавіцай.

Ён — кумір пакалення і здольны сабраць на свой канцэрт у Празе 17 тысяч чалавек. Ён шмат гастралюе па Чэхіі, займаецца перакладамі, піша, стварае сучасную сатыру. Таму яго рэакцыя на выхад майго дыска была не хуткай. Пазней я атрымаў ад Нагавіцы эмэйл, у якім ён паведамляў, што яму спадабаліся аранжыроўкі, і прапаноўваў выканаць іх у ягоным прыватным клубе.

Я быў уражаны, што чалавек, вядомы ў Чэхіі, Славакіі, Нямеччыне і ва ўсім свеце, арганізаваў для мяне магчымасць выступіць у сваім сольным канцэрце. Ён прайшоў 18 лістапада 2017 года ў Астраве ў клубе пад назвай «Хелігонка» (што азначае — мадэль акардэона).

Мы спявалі па чарзе. Гэта быў вельмі адказны канцэрт для мяне. Па нервовай напрузе ў мяне не было ў жыцці ніводнага такога экзамена. Гэта выглядала як battle паміж чэшскім і беларускім спевакамі. Закраналіся тэмы, зразумелыя беларусам і чэхам: каханне, смерць, сатыра, у тым ліку палітычная.

Нагавіца спяваў разам з залай, якая ведае яго песні шмат гадоў, а мне прыходзілася спяваць з імі адразу з ліста, але кантакт з публікай быў. Кожны з нас варты свайго шчасця і сваёй публікі, мы — самастойныя і самадастатковыя, але я рады, што ў нас склаўся добры кантакт. Усё атрымалася добра! Думаю, што роўнага Яраміру Нагавіцы сёння няма ні ў Расіі, ні ва Украіне. Няма Акуджавы, няма Высоцкага. А ён трымае сваю марку. Вельмі цікавы чалавек, шмат чаму ў яго можна павучыцца.

— Магчыма, мы возьмемся за ўкраінскі і грузінскі праекты ў будучыні. Калі мы робім міжнародныя праекты, то падкрэсліваем, што мы ведаем пра нашых суседзяў: шведаў, чэхаў, палякаў, японцаў. Тут ідзе сацыяльнае даследванне грамадства, як яно цікавіцца паэзіяй, вобразам і літаратурай нашых суседзяў. Большасць, напрыклад, ведаюць паэта Шата Руставелі ці джазавую спявачку Ніно Катамадзэ. Можна адкрыць новага паэта і сказаць, што мы думаем пра грузінаў. Гэта, у пэўным сэнсе, адукацыйная задача.

У кожным часе праяўляюцца свае цікавасці і складаюцца кантакты. Было б прыцягальна, калі б нехта яшчэ рабіў падобныя праекты ў літаратурна-музычным рэчышчы, каб мы маглі канкураваць і падштурхоўваць адзін аднаго развагамі і інтрыгамі. Раней існавала савецкая сістэма з яе адбудаванымі літаратурнымі кантактамі і стасункамі, цяпер трэба самім адбудоўваць новую сістэму. Працэс гэты патрэбны як паэтам, так і музыкам.

*Эла Дзвінская*
*2018 год*

# Музыканты з вялікай літары

Вядучую партыю баяна ў «WZ-Orkiestra» выконвае Аляксандр Шувалаў, дацент кафедры баяна Беларускай акадэміі музыкі.



*— Спадар Аляксандр, на дысках «Наша песня», «Камета», «У нашых снах» выразна гучыць голас баяна.*

— Баян — надзвычай багаты інструмент: шматгалосы, вельмі рухавы, тэмбрава разнастайны. «WZ-Orkiestra» каштоўны тым, на мой погляд, што ў гэтым калектыве граюць Музыканты з вялікай літары. Усе яны маюць вышэйшую адукацыю, у кожнага з іх — свой калектыў, і не адзін. Гэта адыгрывае велізарную ролю, бо артысты здольныя імправізаваць на хаду і адразу рабіць аранжыроўкі. Шмат музыкі мы запісваем у кароткія тэрміны ў студыі. Таму нараджаюцца паспяховыя песні. Зміцер дае аснову, а мы нанізваем на яго ідэі свае думкі. Не вельмі часта ў нас атрымліваецца сустракацца і рэпетаваць, бо у кожнага — праца і сям'я. Часам мы на ляту прыдумваем мелодыі, змяняем танальнасці.

*— Цудоўным і гарманічным быў красавіцкі канцэрт 2017 года. Вы выконвалі беларускія і сербскія песні. Яны прыйшліся ўсім па душы.*

— Гэтыя песні мы рыхтавалі да вяселляў і юбілеяў нашых сяброў. Нас прасілі іх выконваць на розных мерапрыемствах. Сербскія песні — незвычайныя, адну з іх мы гралі сем разоў, яна аказалася вельмі запатрабаванай. У апошнія гады я больш займаўся педагагічнай дзейнасцю, выхоўваў студэнтаў, быў заняты як член журы на рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах, ездзіў у розныя краіны, запісваўся ў студыях з рознымі музыкантамі. Выступаў з польскім спеваком Андрэ Аходла, супрацоўнічаў з музыкантамі з Расіі, Германіі, Польшчы, Беларусі, ездзіў у Літву, Латвію, Эстонію. Было запісана шмат новай музыкі. Цікава было ўдзельнічаць у музычным спаборніцтве на высокім узроўні з Ярамірам Нагавіцай. Ён добра арганізаваў наш сумесны выступ у сваім клубе ў Астраве.

*— У музыцы Змітра Вайцюшкевіча прысутнічае шмат еўрапейскіх джазавых матываў.*

— Сапраўды, гэта так, бо большасць музыкантаў з нашага калектыву слухае джаз, джаз-фанк, мы выраслі на джазе і року. Сёння наша калекцыя папаўняецца менавіта такой музыкай. Мы падтрымліваем таксама нашых айчынных джазмэнаў, такіх, як «Apple Tea».

У маёй калекцыі — звыш тысячы дыскаў, большасць — арыгінальныя. На першым месцы — класічная музыка. Мы гадаваліся яшчэ на пласцінках, відэакасетах. З першага курса вучэльні імя Глінкі мне падабалася музыка калектыву «Shakatak», а таксама Джорджа Бэнсана, Аскара Пітэрсана, Чыка Карыя. Слухаючы сучасных выканаўцаў, я не згубіў цікавасці да іх папярэднікаў. Спачатку я вывучаў бас-гітарыстаў, потым школы ўдарных. Я праслухаў, запісаў і перапісаў вялікую колькасць музыкі. Мы перасылаем адзін аднаму запісы, абменьваемся, аналізуем. Гэта цікава і па-сапраўднаму салідна!

*— Вы напаўняеце гэтай музыкай гучанне кампазіцый «WZ-Orkiestra»?*

— Так. Нас натхняе паэтычная аснова, на якую мы ствараем музыку. Па знаку задыяка я — Рыба, чалавек вельмі эмацыйны і дастаткова сентыментальны, рэагую на сітуацыі вельмі раніма. Лепшыя ўзоры паэзіі выклікаюць ў мяне слёзы, прымушаюць граць эмацыйна і выразна, каб тыя, хто нас слухае, зразумелі тэму.

*— Спадар Аляксандр, у Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Вы вучыце баяністаў не толькі іх спецыяльнасці, але і выкладаеце ім уводзіны ў імправізацыю. Што гэта за дысцыпліна, навошта яна, на Вашу думку, патрэбна?*

— Выпускнік акадэміі павінен быць прафесіяналам не ў нейкай адной, а ці не ва ўсіх сферах музычнага выканальніцтва. Будзем рэалістамі: большасць цяперашніх баяністаў не мае магчымасці працаваць выключна салістамі — часцей яны размяркоўваюцца ў разнастайныя творчыя калектывы, дзе пажадана валодаць не адным баянам, а некалькімі народнымі інструментамі. А яшчэ — граць не толькі па нотах, але і на слых, мець навыкі імправізавання. Да ўсяго, такія навыкі маюць, так бы мовіць, выратавальнае значэнне: яны дапамагаюць ператварыць выпадковасць, што можа здарыцца на сцэне, у «падрыхтаваны сюрпрыз».

*Гутарыла Эла Дзвінская*

# 25 гадоў руху ў стылі «фолк-мадэрн»

Прайшло ўжо чвэрць стагоддзя, як беларускія слухачы ўпершыню пазнаёміліся з гуртом «Палац», упадабалі яго экспрэсіўныя апрацоўкі фальклору і іх сучаснае гучанне.

Музыканты «Палаца» ўсе гады радавалі слухачоў новымі песнямі, альбомамі, відэакліпамі, а слухачы дзівіліся энергіі лідара гурта Алега Хаменкі, які выступаў як кампазітар, аранжыроўшчык, спявак, тэлевядучы... Нават цяпер, калі Алег Хаменка адзначае сваё пяцідзесяцігоддзе, ягоныя творчыя планы звязаны з гуртом «Палац». А гэта добрая падстава нагадаць некалькі фактаў з гісторыі калектыву і яго лідара.



Гурт «Палац» быў утвораны ў 1992 годзе ўдзельнікамі аматарскага калектыву «Дворец кукурузных палочек» — выпускнікоў і студэнтаў БДУКіМ. Касцяк гурта складалі клавішнік і аранжыроўшчык Юрась Выдронак, вакаліст і гітарыст Алег Хаменка (а з 1998 года — лідар і мастацкі кіраўнік гурта), трубач і вакаліст Юрась Белякоў, акардэаніст, лірнік і вакаліст Зміцер Карабач. Першы канцэрт гурта пад назвай «Палац» адбыўся ў чэрвені 1992 падчас святкавання Купалля на Камсамольскім возеры ў Мінску. У гэтым жа годзе да «Палаца» далучыўся Зміцер Вайцюшкевіч (сышоў з «Палаца» ў 1998 годзе), які граў у гурце на флейце, кларнеце, жалейцы, дудзе.

Гурт не раз быў уганараваны рок-каронай на «Рок-каранацыі»: у намінацыі «Традыцыі і сучаснасць» (атрымоўвалі іх у 1994, 1995, 1996 гадах), за «Кліп года» («На турэцкіх палях», 2001). «Палац» — сталы ўдзельнік фэсту «Басовішча» ад 1992 года. Адным з першых гурт Алега Хаменкі рэпрэзентаваў незалежную беларускамоўную



фолк-рок-сцэну на дзяржаўных фэстах «Маладзечна-93» (разам з «Крамай» і «Мрояй», «Ulis»), музыканты выступалі на гэтым фестывалі ў 1994, 1995, 1998 гадах. Гурт «Палац» удзельнічаў у праграме «Славянскага базару», фестывалі духоўнай музыкі «Магутны Божа».

«Палац» паспяхова ўдзельнічаў у міжнародных конкурсах, прадстаўляў сучасную беларускую музыку на міжнародных фэстах: «Tanz und folkfest» Еўрапейскага вяшчальнага саюза (EBU) (Рудальштат, Германія, 1994), «Краіна Мрій» (Украіна), «Siklegos» (Літва) і іншых. А ў 1993 годзе гурт з песняй «Русалкі» стаў лаўрэатам III прэміі конкурсу «Discovery-93», арганізаванага радыё «France Internacional» (Парыж, Францыя). Удзельнічаў у Міжнародным фестывалі «Азія даусы» («Галасы Азіі»), які прайшоў у Алматы (Казахстан) у 1995 годзе. Трансляцыя канцэрта адбывалася на больш чым мільярдную аўдыторыю азіяцкага рэгіёна.

У 2003 годзе гурт прадстаўляў сучасную беларускую музыку ў рамках Дзён беларускай культуры ў Францыі, у горадзе Клермон-Феран. У час гастрольнай паездкі «Палац» меў паспяховы сумесны канцэрт з французскім фолк-рок-калектывам «Lasaro».

У творчым багажы гурта «Палац» восем музычных альбомаў (з іх 6 нумарных і 2 альбомы-праекты), а таксама ўдзел у 7 тэматычных складанках з песнямі беларускіх гуртоў і трыб'ютах. Трэкі гурта «Палац» прадстаўлены на шматлікіх міжнародных фанаграфічных праектах: на дысках «Нашествие. Шаг второй» (Расія, 1999), «Belarusian Red Book. Music of Belarus» (Германія, 2006), «БУМеранг» (Расія, 2004) і іншых.

У дыскаграфіі гурта «Палац» ёсць не толькі музычныя дыскі, але і казкі. Напрыклад, гурт запісаў і выдаў дыск «Салдат-доктар» паводле беларускай народнай казкі. Тэма папулярызацыі народнай творчасці Алегам Хаменкам была працягнутая праектам «Беларускія народныя казкі», які складаўся з 10 дыскаў. На падставе казак дзіцячы фонд

ЮНІСЭФ выдаў маляўнічую кнігу з аўдыядадаткам, які атрымалі ў падарунак усе дзяржаўныя бібліятэкі Беларусі.

Песні і апрацоўкі гурта «Палац» і яго лідара Алега Хаменкі не раз былі ў цэнтры ўвагі беларускіх тэле- і кінематаграфістаў. Так, у 1997 годзе на студыі «Белвідэацэнтр» быў зняты аднайменны фільм (рэжысёр Ю. Ялхоў), у якім была адлюстравана гісторыя калектыву. Той жа рэжысёр запрасіў гурт для ўдзелу ў здымках і запісе галоўнай песні да мастацкай стужкі «Анастасія Слуцкая» («Беларусьфільм», 2003).

Тэрмін мадэрн-фолк (modern folk, «сучасны народны»), які лічыцца мастацкім напрамкам, Алег Хаменка прапанаваў разглядаць і як музычны стыль «фолк-мадэрн» у дачыненні да «Палаца». Сёння апрацоўкі фальклору ў сучасных аранжыроўках не толькі ў Беларусі, але і ў многіх краінах Усходняй Еўропы атаясамліваецца са стылем фолк-мадэрн (folk modern), «як з магістральным напрамкам у развіцці пост-фолк-року».

«Мы вырашылі аб’яднаць 25 гадоў "Палаца" і маё 50-годдзе. З тае прычыны можна было б зрабіць сур’ёзнае "Палацаўскае шоу", але мы падрыхтавалі канцэрт для сябе і для сяброў. Усё рабілася лёгка і разнявoлена, як святочная праца. Я з цеплынёй узгадваю гэты канцэрт. Гэта быў падарунак для ўсяго калектыва», — успамінае Алег Хаменка.

*Анатоль Мяльгуй*
*«Новы час», 31 сакавіка 2017 года*

# Душы нязгасная сіла

Харавая культура на Беларусі развіваецца сёння ў новых варунках. Спяваць у хоры па-ранейшаму любяць вучні школ і студэнты ВНУ, супрацоўнікі фірм і кампаній, ветэраны прадпрыемстваў. Сведчаннем гэтага стаў Трэці адкрыты нацыянальны фестываль-конкурс «Рэха». У ім прынялі ўдзел 38 спеўных калектываў і вакалістаў з Барысава, Салігорска, Мінска.

На свята музыкі прыехалі навучэнцы музычнага каледжа імя М.К. Агінскага з Маладзечна, сярэдняй школы № 20 г. Барысава, Віцебскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя П.М. Машэрава. У прыгожых строях, узнёслыя і шчырыя, яны выконвалі апрацоўкі беларускіх кампазітараў, украінскія песні. У праграме фестывалю адбыліся конкурсныя праслухоўванні, майстар-класы, форумы.

Аўтарам ідэі і кіраўніком праекта выступіла дырыжор і кіраўнічка «Concordia Chor» Галіна Казіміроўская. Яна скончыла Беларускую акадэмію музыкі па спецыяльнасці «Харавое дырыжыраванне» і працавала спачатку ў харавой капэле імя Рыгора Шырмы. Каля сямі гадоў таму з яе ініцыятывы быў створаны Творчы цэнтр «BelArtSound» Беларускага саюза музычных дзеячаў з мэтай арганізацыі фестываляў харавой музыкі. «Мы ладзім такія конкурсы адзін раз у тры гады, —



распавяла дырэктар фэстываля «Рэха» Галіна Казіміроўская. — Колькасць іх удзельнікаў пашыраецца».

Гала-канцэрт Трэццяга фестывалю-конкурсу адбыўся ў Белдзяржфілармоніі. Сваё выканаўчае майстэрства прадэманстраваў хор БНТУ з Мінска пад кіраўніцтвам Алены Клімавай, дзіцячы і юнацкі хор «Тоніка» з Ашмянаў, хор «Гармонія» сярэдняй школы горада Барысава, хор «Сябрына» мінскай гімназіі № 4 пад кіраўніцтвам Таццяны Барташук, акадэмічны хор «Спадчына» Палаца ветэранаў Мінска. Салістка Алена Грыцкевіч падзялілася духоўнымі спевамі, блізкімі па тэме да свята Вялікадня.



Гран-пры фестывалю атрымаў камерны жаночы хор Лідскага музычнага каледжа пад кіраўніцтвам Людмілы Пясецкай. Арганізатары свята падзякавалі рэктару БАТУ Івану Мікалаевічу Шылу, які прадаставіў актавую залу для канцэртных праслухоўванняў і спрыяў правядзенню фестывалю.

«Мне спадабаліся салісты, якія выконвалі народныя спевы. Дзеці і дарослыя, якія спяваюць, выдатна выбіраюць рэпертуар і перадаюць яго на высокім узроўні! Мне давялося праслухаць шмат сапраўднай акапэльнай музыкі Беларусі. Ведаю, што ёсць яшчэ шмат хораў, гэта сведчыць, што традыцыі захоўваюцца», — адзначыў старшыня журы конкурса Раймундас Даўгела з Каўнаса, кіраўнік калектыва «Kantate Domino» пры Вітаўтас Магнас-касцёле.

*Эла Дзвінская*
*www.budzma.org*

# Дзецi i музыка

— У нас дома жыве музыка, — кажа спадар Зміцер. — Язэп займаецца на фартэп'яна, музіцыруе. У яго ўжо добра пастаўлены рукі для ігры. Ён падыходзіць творча і выконвае Грыга ў розных імправізацыях. Ён спявае, а Стэфа пішчыць, як птушаня.



Дзеці ўсім радуюць, нават і тымі рэчамі, да якіх ты яшчэ не падрыхтаваны. Мне падабаецца ў Язэпе яго накіраванасць на беларускія справы. Ён не пераносіць несправядлівасці. Назіраць за дзецьмі — гэта цікавы досвед для мужчыны.

Мае дзеці — гэта мае сябры! Зараз гэта так, і спадзяюся, што будзе назаўсёды. Дзякуючы Стэфаніі я пачаў па-іншаму глядзець на жанчын. Усе гэтыя дробязі — упрыгожванні, пяшчоты, пацалункі — бязмернае шчасце ў Стэфкіных вачах. Яна ніколі не патрабуе падарункаў — абдыме і ўсміхнецца. Язэпу, наадварот, трэба мець нешта ў руках — машынку ці пісталет. Затое мой Язэп умее сябраваць! Мужык расце мэтанакіраваны і з добрым сэрцам. Часам здаецца, што я не варты іх любові. Але, дзякуй Богу, гэта бывае вельмі рэдка.



Беларуская мова ў нас прысутнічае. Нанач я чытаю дзецям казкі па-беларуску. Дзеці вельмі часта ходзяць на мае канцэрты. Мы ладзім разам вечарыны і святы.

# Вера і дабраславенне Ксеніі

Праз пяць гадоў пасля нашай сустрэчы мы завіталі ў госці да Ксеніі Мінчанкі, якая шмат гадоў выступала з «WZ-Orkiestra». Кранальная скрыпка і пяшчотны голас былі фонам многіх кампазіцый, запісаных на дысках. Цяпер яна — матуля трох дзетак і носіць прозвішча Кап'ёва.



*— Ксенія, многія запытваюцца: ці вернецеся Вы на сцэну ў бліжэйшым часе?*

— Жанчыны стаяць перад выбарам: працягваць кар'еру, наймаць няню, альбо быць з дзецьмі. Я лічу, што ў раннім дзяцінстве дзецям асабліва патрэбна матуля. Тады яны будуць псіхалагічна ўстойлівымі, не будуць адчуваць боязі. З асновай таго, што матуля побач, дзеці дзейнічаюць больш упэўнена.

Таму я буду больш часу заставацца з імі.

*— Раскажыце, калі ласка, як Вы сустрэліся з Уладзімірам, як ён знайшоў Вас?*

— Мы даўно працавалі разам у Нацыянальным цэнтры, ён — у тэатры, я — у «Зорачцы», але мы праходзілі міма адзін аднаго. А потым лёс звёў нас.

Уладзімір быў адным з кіраўнікоў тэатральнага калектыву, педагогам. Потым ён перайшоў працаваць у храм, зараз ён служыць старэйшым алтарнікам. Ён вучыцца дыстанцыйна ў маскоўскім Праваслаўным Свята-Ціханаўскім універсітэце, атрымлівае багаслоўскую адукацыю. Калі здае прадмет, яму трэба шмат чытаць, а дзеці патрабуюць увагі да сябе, цягнуцца да яго.

Быў час, калі мае бацькі перажывалі, што ў 30 гадоў я яшчэ не замужам. Ну хіба я пайду выпускаць стрэлы на пошук жаніхоў, як у той казцы? Каму страла патрапіць, той і будзе мой жаніх. Вядома, што не.

І вось у 32 гады я выйшла замуж. Уладзімір быў старэйшым за мяне на сем гадоў. Першай нарадзілася Маша, а праз тры гады ўжо з'яві-



ліся на свет хлопчыкі Апанас і Ціхан. Таму я сцвярджаю: «Дзяўчаты, не спяшайцеся, не сумуйце і ў 30 год, даверце свае сэрца Госпаду, ён усё ўладкуе!»

Я думала, калі Госпад даў мне голас, то я павінна паслужыць сваім голасам, і я пачала спяваць на клірасе ў Свята-Уваскрасенскім прыходзе. Аляксей Пальчонак, рэгент царкоўнага хору, якраз працаваў у Нацыянальным цэнтры з намі. Ён навучыў мяне ўсёй службе, я вывучыла партыі ўсіх галасоў і магу замяняць кожны з іх (альт, сапрана, тэнар і нават бас). Тры разы на тыдзень я спявала на літургіі. Потым я выкладала спевы ў нядзельнай школе. Мая матуля дапамагае нам, прыглядвае за дзецьмі, і я магу пець у будзённы дзень.

*— Ваша новае прозвішча — Кап'ёва — гучыць моцна!*

— Калі жанчына кахае мужа і давярае яму, адчувае з ім еднасць, то яна пераходзіць звычайна на яго прозвішча. Нават калі табе падабаецца тваё ўласнае прозвішча, такая ахвяра няцяжкая.

Іншая справа — мая свякроў Зінаіда Аляксандраўна Бандарэнка. У яе да замужжа было ўсенароднае прызнанне, яна ўжо была вядомым у краіне чалавекам і не хацела разбураць прыняты тэлевізійны вобраз.

Яе сын Валодзя рос у Мінску. Ён знаёміў мяне з вуліцамі свайго дзяцінства. Ён наведваў храм з маладосці. Уладзімір скончыў філалагічны факультэт БДУ. У тэатры ён вёў літаратурны гурток. Мая кіраўніца Ала Міхайлаўна Навіцкая заўважыла мой самотны стан і звярнула ўвагу на

Уладзіміра — побач ёсць добры чалавек! І ў той жа час яна падказала Уладзіміру: паглядзі на нашу Ксюшу...

Ён запрасіў мяне паспяваць. У той час у яго была свая невялікая група, не ставала толькі скрыпкі. Па яго просьбе я выканала партыю скрыпкі на адным канцэрце. Разгаварыўшыся, мы зразумелі, што мы — роднасныя душы. У такім узросце не перажываеш рамантычных захапленняў, бачыш чалавека больш духоўна.

*— Слухачам запомніўся Ваш удзел у праекце «Мой сябра анёлак». Цяпер Вы можаце прапаноўваць Вашы запісы сваім дзецям?*

Захацеў анёлак Рома
Музыкантам стаць вядомым,
Каб на скрыпцы і валынцы,
На цымбалах і катрынцы,
На пузатым барабане,
На тамтаме і баяне
Кожнаму зайграць вясёла,
У мястэчках, вёсках, сёлах...

— Я хачу звесці мелодыі з розных дыскаў у адзін. У мяне быў яшчэ ранейшы дыск «Ксюша» .

*— Ці слухаюць дзеці беларускія песні? Ці знаёміце Вы іх з класікай?*

— Маша любіць «Калыхынку» менавіта Генадзя Бураўкіна, хаця ёсць «Спі мая радасць, засні» і іншыя. Яна ўжо вывучыла тэкст на памяць. Мы знайшлі ў інтэрнэце і спампавалі менавіта той запіс, які мы слухалі самі ў дзяцінстве, калі яшчэ Зінаіда Аляксандраўна вяла гэту перадачу. Усё сышлося такім чынам, што Маша любіць менавіта гэту калыханку. Каля яна падрасце, мы абавязкова распавядзём ёй пра ўсе перадачы яе бабулі. Маша любіць дзіцячыя песні, мы самі граем на гітары і спяваем.

Калі дзеці непакояцца, тады я стаўлю ім хор Толгскага ці Горнінскага манастыра. Калі яны ўзбуджаныя, то мелодыі жаночага кляштара дзейнічаюць на іх дабратворна. А дзіцячыя песні іх падбадзёрваюць, надаюць энергію.

Маша танчыць і прыдумляе свае фігуры. Я склала спіс меладычных твораў Рахманінава, Чайкоўскага, Шапэна і іншых кампазітараў, зразумелых дзецям. Мы з Валодзем не слухаем папсу. Такія рэчы ў нас не гучаць.

*— Сям’я мужа падтрымлівае Вас?*

— Зінаіда Аляксандраўна не шкадуе сябе, яна шмат працуе і імкнецца ўсім дапамагчы. Яна вельмі інтэлігентная і цярплівая. Цяпер яна шчаслівая, бо яны з мужам даўно чакалі ўнукаў. Свёкар Генадзь Мікалаевіч радуецца, назіраючы за малымі, як яны коўзаюцца па канапе, бегаюць па пакоі.

*Эла Дзвінская*
*«Народная воля», 13 студзеня 2016 года*

# Алег Хаменка:
# «У мастацтва Змітра прыйшла мудрасць»

**2** лістапада ў вялікай зале КЗ «Мінск» адбыўся сольны канцэрт Змітра Вайцюшкевіча «25 гадоў на сцэне». У святочнай імпрэзе ўдзельнічаў гурт «WZ-Orkiestra», а таксама адмыслова запрошаныя госці.



Падчас канцэрту Зміцер Вайцюшкевіч выканаў вялікую колькасць песень са свайго рэпертуару. Гэта было падарожжа праз розныя часы, гурты і праграмы. Жывы водгук у наведвальнікаў імпрэзы выклікалі песні на словы Уладзіміра Някляева, Генадзя Бураўкіна, Алеся Камоцкага ды іншых аўтараў. Зміцер узгадваў цёплымі словамі свайго сябра паэта Уладзіміра Някляева, а таксама перадаў букет кветак жонцы Генадзя Бураўкіна Юліі Якаўлеўне.

Да выканання песень гэтым разам далучаліся Ксенія Мінчанка, Алег Хаменка і напрыканцы нават звычайныя гледачы, якіх Зміцер Вайцюшкевіч запрашаў на сцэну.

Поўная зала КЗ «Мінск» праводзіла свайго ўлюбёнага музыку авацыямі. Зміцер доўгі час заставаўся са сваімі прыхільнікамі, рабіў з усімі ахвотнымі сэлфі і знаходзіў для кожнага некалькі цёплых шчырых слоў на развітанне. Падзею пракаментаваў лідар гурта «Палац» Алег Хаменка:

«Я з задавальненнем удзельнічаў у справаздачным канцэрце "25 гадоў на сцэне" Змітра Вайцюшкевіча. Пасля гадоў перапынку гэта была, безумоўна, вялікая культурная падзея. Я адчуў атмасферу людзей, якія прыйшлі, было ўсведамленне таго, што ў зале прысутнічае элітная грамадзянская супольнасць людзей, якіх аб'яднала творчасць Змітра.

І гэта варта вялікай хвалы! Праграма была вельмі моцная. Зміцер выглядаў на сцэне як мэтр, правадыр, майстра. Паколькі мы прайшлі з ім палову жыцця, то я адчуваў, якая моцная ў яго харызма. Мне было вельмі прыемна бачыць, што мой найбліжэйшы сябар такога ўзроўню! У Змітра ёсць вельмі адданыя слухачы, якімі толькі можна ганарыцца!

Ягоная музыка — для людзей сталых і дарослых, (не такая ўжо моладзевая, як музыка "Acute", Паліны Рэспублікі ці гурта "Мікіта"). Ён прапануе рознабаковыя падыходы да каштоўнасцей мінулага, і гэта заўсёды цікава!

У мастацтва Змітра прыйшла мудрасць. Калі ён выпускае новыя і новыя альбомы, то яму ёсць што сказаць слухачу. Чалавек піша шмат гадоў, і яго песні становяцца народнымі па сутнасці. Дзімавы песні застануцца з народам і праз 50, і праз 100 гадоў! Калі трэба будзе ўзгадаць лепшае, то ўзгадаюць яго песні. Гэта ўвойдзе ў музычны летапіс сучаснасці».

*Арцём Лява, Эла Дзвінская*



# Праз пяць стагоддзяў пасля Францыска Скарыны

Панёс ён людзям песень дар,
Агонь душы і сэрца жар,
Панёс пяснярскай каляінай...
*Я. Колас*

У 2017 годзе, у год 500-годдзя беларускага кнігадрукавання, песня Змітра Вайцюшкевіча на вершы У. Караткевіча «Дзе мой край» гучала як гімн перад адкрыццём XVII з’езда Саюза беларускіх пісьменнікаў і на прэзентацыі твораў маладых літаратараў. Радкі хіта «Я нарадзіўся тут» былі зашыфраваныя ў рэбусе для праграмы моладзевага Скарынаўскага квізу. Сам Вайцюшкевіч правёў чэрвеньскі фестываль на Нёмане «Салаўё-2017» пад знакам сігнета Ф. Скарыны «Месяц і сонца», прадстаўляючы не толькі песні, але і працы сучасных мастакоў на тэму кнігадрукавання. А разам з тым пазнаёміў са сваёй першай кніжкай «Простыя словы».



Творчасць артыста глыбока ўкаранілася ў сучасным культурным кантэксце і стала неад’емнай часткай культурнай спадчыны. Відэакліп песні «Сцяг» у інтэрнэце адзначаны 38 000 праглядаў. Самую рэкордную колькасць — 64 000 праглядаў — у сеціве заваявала песня «Дзе мой край».

Сучасны хрысціянскі мысляр Георгій Салаўёў вобразна адзначаў, што беларуская нацыянальная ідэя можа быць выражана ў 1000 пікселях розных праяў. Можна сказаць, што творчасць Змітра Вайцюшкевіча ахоплівае сто такіх пікселяў, сярод якіх — беларуская паэзія, фальклор, адмысловая аўтэнтыка беларускай музыкі, асаблівасці менталітэту, каларыт непаўторнага наднёманскага кутка Гарадзеншчыны і іншае. У аснове ўсяго ляжыць глыбокае пранікненне ў строй беларускага народнага меласу.

Паплечнікаў Змітра Вайцюшкевіча па «WZ-Orkiestra» адрознівае стаўленне да музыкі як да цуду, найвышэйшай праявы чалавечай духоўнасці, уменне апрацоўваць багаты песенны матэрыял, высокі прафесіяналізм, узвышанае арыстакратычнае выкананне.

Захапленне паэтычнымі і музыкальнымі ідэямі, натхнёная мэтанакіраванасць выяўляюць велізарную творчую волю артыста. Яго творчая воля на працягу многіх гадоў пераўзыходзіць знешнія і ўнутраныя перашкоды, як быццам бы іх не было. Чым больш спявак паглыбляецца ў сэнс і значнасць выконваемых твораў, тым менш ён залежыць ад знешніх абставін і выпадковасцяў. Яму ўласціва непаўторная цэльнасць асобы, яркая індывідуальнасць, якая дамінуе над знешнімі перашкодамі. Высокія камунікатыўныя і лідарскія якасці прыцягваюць да яго слухачоў.

Пасля турнэ па Еўропе, падарожжаў у ЗША і Канаду выразней акрэслілася сувязь артыста з беларусамі замежжа, паглыбіўся яго дыялог з прадстаўнікамі дыяспары, імкненне зразумець, чым жывуць выхадцы з Беларусі ў вялікім свеце, і прывесці ім цёплую вестачку з Радзімы. З. Вайцюшкевіч адкрывае беларусам сучасных еўрапейскіх паэтаў, служыць нацыянальнай ідэі і культурнай камунікацыі.

У клубе «Мерыдыян-23» у Нью-Ёрку 25 сакавіка 2016 года, несучы надзею, прагучала песня «Жыве Беларусь!», як некалі гучалі выступленні Генадзя Бураўкіна з трыбуны ААН і спевы «Песняроў» у 13 штатах і гарадах Амерыкі. Эксперыментатар, авангардыст і стваральнік новай музыкі ўпэўнена крочыць далей.

Спявак — адзін з нешматлікіх артыстаў беларускай эстрады, які паслядоўна выступае ў абарону незалежнасці краіны, беларускай мовы і культуры, праўды і свабоды. Атлант беларушчыны трымае неба нашага слова на сваіх плячах.

*Эла Дзвінская*

## «Зазззяе ў сэрцы зорка»

Радасцю і цеплынёй адарыў на Раство сваю публіку беларускі артыст. Найперш, ён ашчаслівіў дзетак, якім дазволіў выйсці на сцэну і патанчыць 7 студзеня ў Палацы культуры імя М.П. Шарко. Па-другое, даў магчымасць заспяваць іншым папулярным музыкам, якія летась прадстаўлялі Беларусь на Еўрабачанні, — Арцёму Лук'яненку і Ксеніі Жук з гурта «NaviBand». На святочны сямейны канцэрт прыйшлі вядомыя ў краіне асобы: вядоўцы курсаў «Мова нанова», тэлежурналісты, моладзевыя актывісты.



А распачаў артыст канцэрт песняй са складанкі «Мой сябра анёлак», якая гучала ў зімовай праграме 2007 года ў вялікай сталічнай канцэртнай зале «Мінск». Трэба сказаць, што сёлета патанчыць разам з артыстам выйшла значна больш дзяцей — з сынам і дачкой спевака Язэпам і Стэфаніяй Вайцюшкевічамі весяліліся дачушка Алеся Міхалевіча, сын Глеба Лабадзенкі і яшчэ каля 20 маленькіх беларусікаў.

Зміцер Вайцюшкевіч заспяваў песні Рыгора Барадуліна і Уладзіміра Някляева пра Новы год. Прагучала аркестровая версія песні «Шалік».

Зала прывітала прысутнага на канцэрце былога шведскага амбасадара Стэфана Эрыксана. Спадар Эрыксан распавёў, што зараз ён працуе ў Рызе і мае намер часцей прыязджаць на Беларусь. Гарачымі апладысментамі слухачы прывіталі паэта Уладзіміра Някляева, аўтара шматлікіх песень, уключаных у калядную праграму. Як заўсёды, прагучалі калыханкі і нядаўна запісаная новая калядка.

Усю праграму на Божае Нараджэнне пранізвала думка, выказаная ў вершы Алеся Ліпая: «Усё без кахання — дарма!» Напрыканцы вечарыны Зміцер Вайцюшкевіч развучваў з дзецьмі спеў: «Ямін-яміна, весяліся дружына Хрыстовая!» Гранне «WZ-Orkiestra» ў святочны вечар выдатна дапоўнілі труба, саксафон і трамбон.

*Эла Дзвінская*
*«Наша слова», 17 студзеня 2018 года*

# У каментарах

**Dzianis Kurgan:** Вайцюшкевіч — гэта нешта. Паслухаеш яго — вяртаецца вера ў Беларусь! Дзякуй!

**Aliaksiei Buranok:** Час мінае, а Зміцер усё той жа: гумар, кампліменты да дзяўчат, шмат новых песень! Поспехаў яму!

**Forza-Forza:** Словы і музыка — чароўныя. Вельмі пранізліва і пяшчотна атрымалася. Дзякую.

**Vlad Melnik:** Песня льецца з душы і кранае сэрца.



**Inessa Ggg:** Як хораша, як проста, як шчыра і пяшчотна! Дзякуй!

**Nasta:** Зміцер спявае з поўнай самааддачай. Артыст аддае неверагодную колькасць энергіі на канцэрце! Яго самога можна параўнаць з каметай на небасхіле, якая ляціць і гарыць.

**Zappa Frank:** Piękne słowa... piękny głos. Serce placze.

**Radzion:** Песня пра нашу слаўную Радзіму — Беларусь!

**Bielarus z-za miazy:** Адзін з найлепшых музыкаў Беларусі!

# Аўтары-складальнікі

Анатоль Мяльгуй (1957–2017) — беларускі журналіст і музычны аналітык, былы старшыня рок-клуба «Няміга». Аўтар сумесных з В. Мартыненкам кніг «Праз рок-прызму» (Нью-Ёрк: БІНІМ, 1989), «222 альбомы беларускага року і не толькі…» (Мінск: Медысонт, 2006). Сябра ТБМ, сябра клуба «Спадчына». Узнагароджаны медалём Чэшскай Рэспублікі імя Масарыка.

Эла Дзвінская (Оліна) — беларуская журналістка. Нарадзілася ў Віцебску ў 1965 годзе. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Сябра рэдкалегіі газеты «Наша слова», аўтар артыкулаў на тэмы культуры, літаратурнага, духоўнага і грамадскага і жыцця, краязнаўства. Сябра ТБМ імя Ф. Скарыны, сябра СБП з 2016 года. Аўтар ідэі, канцэпцыі і ўкладання кніг «Беларускае слова ад спеву» (2010), «Носьбіты вольнага слова» (2012), «Алесь Пушкін» (2013), «Добру вечно побеждать!» (2014), «Еднасць абаронцаў волі» (2017).

У кнізе таксама выкарыстаны артыкулы, інтэрв'ю і рэцэнзіі Вітаўта Мартыненкі, Сяргея Будкіна, Змітра Гурневіча, Генадзя Кеснера, Змітра Падбярэзскага, Міхася Скоблы, Вікторыі Чаплевай, Яны Ілліной, Вальжыны Корсак, Яны Шыдлоўскай, Марыны Варабей, Святланы Курс.

Фотаздымкі з архіва Змітра Вайцюшкевіча, Джона Кундстадтара, Януша Корбеля, Анджэя Лойкі, Ганны Марыі Бялецкай, Анатоля Мяльгуя, Арцёма Лявы, Глеба Лабадзенкі, Элы Дзвінскай, Канстанціна Гарэцкага, Яўгена Ярчака і іншых.

Фота на вокладцы — Таццяны Менскай.

Укладальнікі кнігі ўдзячныя ўсім аўтарам тэкстаў і фотаздымкаў.

# Спіс літаратуры


1. Барадулін, Р. Збор твораў : у 5-і т. / Рыгор Барадулін. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1996–2002.
2. Барадулін, Р. Парастак радка, галінка верша / Рыгор Барадулін. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1987.
3. Бацька наш Нёман / уклад. Я. Хвалей. — Мінск : Юнацтва, 2001.
4. Беларуская энцыклапедыя : у 18 т. — Мінск : БелЭН, 1996–2004.
5. Бураўкін, Г. Выбранае / Генадзь Бураўкін. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1998.
6. Бураўкін, Г. Паміж зоркай і свечкай / Генадзь Бураўкін. — Мінск : Бацькаўшчына, 2000.
7. Бяляцкі, А. Бой з сабой. Творчы партрэт паэта Эдуарда Акуліна / Алесь Бяляцкі. — Мінск : Регистр, 2016.
8. Владимир Мулявин. «Сэрцам і думамі...» / сост. Л. Крушинская. — Мінск : Мастацкая літаратура, 2015.
9. Камоцкі, А. Глыбіня дажджу / Алесь Камоцкі. — Мінск : Мастацкая літаратура, 2007.
10. Караткевіч, У. Быў. Ёсць. Буду / Уладзімір Караткевіч. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1986.
11. Караткевіч, У. Зямля пад белымі крыламі / Уладзімір Караткевіч. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1977.
12. Колас, Я. Сымон-музыка / Якуб Колас. — Мінск : Кнігазбор, 2007.
13. Лыч, Л. Міжнацыянальныя дачыненні на Беларусі / Леанід Лыч. — Мінск : Галіяфы, 2009.
14. Мяльгуй, А. 222 альбомы беларускага року і не толькі / Анатоль Мяльгуй, Вітаўт Мартыненка. — Мінск : Медысонт, 2006.
15. Сасноўскі, З. Гісторыя беларускай музычнай культуры XIX–XX стагоддзя / З. Сасноўскі. — Мінск : Харвест, 2011.
16. Севярынец, П. Нацыянальная ідэя / Павал Севярынец. — Вільня : Інстытут беларусістыкі, 2008.
17. Старчеус, М. С. Личность музыканта / М. С. Старчеус. — Москва, 2012.
18. Цішчанка, І. К. Жыццё песні / І. К. Цішчанка. — Мінск : Навука і тэхніка, 1984.
19. Шиманский, Н. В. Методология современного музыкознания / Н. В. Шиманский. — Минск : БДАМ, 1992.
20. Яна і я : зборнік паэзіі. — Мінск : Радыёла плюс, 2005.
21. Korbel, J. Jesteśmy jak ogniwo w lancuchu / J. Korbel. — Czasopis. 2007. № 5.

# Альбомы



**Цацачная крама** (2001)

**Балады** (2002)

**Паравіны году** (2003)

**Паравоз кахання** (2004)

**MW** (2005)

**Месяц і сонца** (2005)

**Танга з ружай** (2006)

**Песні з доўгай шуфляды. Нявыдадзенае** (2006)

**Калыханкі** (2007)

**Liryka** (2007)

**Тое, што трэба** (2008)

**Мой сябра анёлак** (2009)

**Беларуская песня** (2010)

**Чара** (2011)

**Што на сэрцы** (2011)

**Ваячак** (2012)

**Варанок** (2013)

**Наша песня** (2015)

**Камета** (2015)

**У нашых снах** ( 2017)

**Скрыпічныя квартэты на вершы Уладзіміра Някляева** (2018)

# Супольныя праекты і складанкі

Палац «Палац» (1994)
Палац «Дарожка» (1996)
KRIWI «Хэй-лёлі» (1996)
KRIWI «За туманам» (1997)

Палац «Лепшае» (зборнік, 1999)
KRIWI «Людзям...» (1999)
Народны Альбом (1997)
Я нарадзіўся тут (2000)
Сьвяты вечар (2000)
Personal Depeche (2002) — «I Want You Now»
Бывайце здаровы. Bella Ciao (2004)
Скрыпка дрыгвы
Прэм’ер Тузін 2005 (2005) — «Вясновы дзень», «Я ішоў да цябе»
Прэм’ер Тузін 2006 (2006) — «Дарога», «Сьвята ў вёсцы»
«Народны альбом live» (канцэрт, CD, 2007)

## У Сеціве

Афіцыйны сайт Змітра Вайцюшкевіча www.todar.net
Livejournal Змітра Вайцюшкевіча
Старонка Змітра Вайцюшкевіча на West Records

**Фестывалі:** У складзе «Палаца» — «Басовішча» (Гродэк, Польшча, 1992, 1995–1997), «Tanz und Folkfest» (Рудольштат, Германія, 1994), «Азія Даўысы» (Алматы, Казахстан, 1995), «Маладзечна» (Маладзечна, 1995–1997); у складзе «KRIWI» — «Dzwieki Polnocy» (Польшча, 2008), «Fete Des Cultures» (Люксембург, 2002), «Radio MultiCulti Party» (Берлін, 2002), «Pogranicze» (Франкфурт-на-Одэры, Германія, 2002).

**Узнагароды:** У складзе «Палаца» — «Традыцыі і сучаснасць» (лепшы фолк-праект) на «Рок-каранацыі-1996»; у складзе праекта «Народны альбом» — «Альбом года» на «Рок-каранацыі-1998»; у складзе «KRIWI» — «Традыцыі і сучаснасць» (лепшы фолк-праект) на «Рок-каранацыі-1997», «Гурт года» (галоўная ўзнагарода) і «Кліп года» («За туманам») на «Рок-каранацыі-1999»; у складзе праекта «Я нарадзіўся тут» — «Падзея года» на «Рок-каранацыі-2001»; сола — «Традыцыі і сучаснасць» (лепшы фолк-праект) і «Музыка года» на «Рок-каранацыі-2001», «Незалежная музыка» — «Альбом года» на «Містэрыі гуку — 2006» (па выніках продажу сярод беларускіх выканаўцаў), «Спеўная паэзія» (за альбом «Танга з ружай») на «Рок-каранацыі-2006».

**Узнагароды «Experty.by»:** Альбом «Тое, што трэба» патрапіў у топ-10 па версіях «Experty.by» і «Вялікага журы» па выніках 2008 г.

# Беларуская песня

*Уладзімір Караткевіч*

## Дзе мой край

Дзе мой край? Там, дзе вечную песню пяе Белавежа,
Там, дзе Нёман на захадзе помніць варожую кроў,
Дзе на ўзвышшах Наваградскіх дрэмлюць суровыя вежы
І вішнёвыя хаты глядзяцца ў шырокі Дняпро.

Ты ляжыш там, дзе сіняя Прыпяць ласкава віецца,
Дзе Сафія плыве над Дзвіною, нібы карабель…
Там, дзе сэрца маё з першым крокам, як молат, заб'ецца,
Калі б нават сляпым і глухім я прыйшоў да цябе.

Што сляпым? Нават мёртвым успомню высокія зоры,
Над ракою чырвонай і цьмянай палёт кажаноў,
Белы ветразь на сініх, на гордых, як мора, азёрах,
І бары-акіяны, і неба — разлівы ільноў.

Дзе мой край? Там, дзе людзі ніколі не будуць рабамі,
Што за поліўку носяць ярмо ў безнадзейнай турме,
Дзе асілкі-хлапцы маладымі ўзрастаюць дубамі,
А мужчыны як скалы, — ударыш, і зломіцца меч.

Дзе мой край? Там, дзе мудрыя продкі у хвоях паснулі,
Дзе жанчыны як радасны сон у стагах на зары,
А дзяўчаты як дождж залаты. А сівыя матулі
Як жніўё з павуціннем і добрае сонца ўгары.

Там звіняць неўміручыя песні на поўныя грудзі,
Там спрадвеку гучыць мая мова, булатны клінок.
Тая гордая мова, якую й тады не забудзем,
Калі сонца з зямлёю ў апошні заглыбяцца змрок.

Ты — наш край. Ты — чырвоная груша над дзедаўскім домам,
Лістападаўскіх знічак густых фасфарычная раць,
Ты — наш сцяг, што нікому, нікому на свеце, нікому
Не дамо абсмяяць, апаганіць, забыць ці мячом зваяваць.

Мы клянёмся табе баразной сваёй першай на полі
І апошняй раллёй, на якую ўпадзём у журбе.
Мы клянёмся табе, што ніколі,
Ніколі,
Ніколі,
Так,
Ніколі не кінем,
Не кінем,
Не кінем цябе!

*Анатоль Астрэйка*

## Нёман

*Музыка Н. Сакалоўскага*

Ой, Нёман, і песня, і слава
Народу майго і зямлі.
Магілаю ворагам цеснай
Не раз твае хвалі былі.

Рака наша слаўная Нёман,
Чысцейшая чэрвеньскіх рос,
Хто мар не ўплятаў у твой гоман,
Табе хто пашаны не нёс?

Ой, Нёман, ой, бацька мой Нёман,
Як сонца, як дзень дарагі,
Касцямі звяроў ды шалёных
Усланы твае берагі.

А бераг высокі і роўны,
Жарсцвяны і крыты лазой.
Нясеш тыя грані чароўна
Блакітнаю хваляй сваёй.

Ой, Нёман, ой, бацька любімы,
Як сонца, як дзень дарагі,
Садамі цудоўнай Радзімы
Тваё расцвілі берагі.

*Лявон Вольскі,*
*Змiцер Вайцюшкевіч*

## Я нарадзіўся тут

Я нарадзіўся тут —
У краіне пад шэрым небам.
Я нарадзіўся тут —
У краіне бульбы, калгасаў і чорнага хлеба.
Я нарадзіўся тут —
У краіне прапіскі і скручаных кранаў.
Я нарадзіўся тут —
У краіне сотняў парушаных храмаў.

*Прыпеў:*

Радзільня, дзіцячы садок,
Школа ды інстытут.
Я нарадзіўся тут,
І я буду жыць тут.

Я нарадзіўся тут —
Дзе білет у адзін бок —
Гэта шанец для тых, хто нязгодны.
Я нарадзіўся тут —
Я тут жыву, і мне тут яшчэ не ўсё роўна.
Я нарадзіўся тут,
Таму гэта — мая краіна.
Я нарадзіўся тут —
На пяць стагоддзяў пасля Францішка Скарыны.

*Прыпеў.*

Я нарадзіўся тут,
Дзе нараджацца было небяспечна.

Я нарадзіўся тут,
Дзе ўсе да ўсяго прывыкаюць, але мне гэта
Недарэчна.
Я ведаю, што
Паслязаўтра на нашых калгасных палетках
Замест пустазелля й палыну
Ўзыдуць белыя і чырвоныя кветкі.

*Адам Русак*

## Бывайце здаровы

Бывайце здаровы, жывіце багата,
А мы ўжо ж паедзем дадому, дахаты.

У зялёнай дуброве мы начаваць будзем
І вашае ласкі вавек не забудзем.

У вашай гасподзе шырокае поле,
Няхай жа на шчасце цвіце ваша доля!

На рэчках на вашых бурлілі каб воды,
Каб плавалі з крыкам гусей карагоды.

Каб жыта у полі трубою вілося,
Каб сала у хаце кублямі вялося.

Штодзень у капусце каб плавала шкварка,
Да шкваркі часінай вялася б і чарка.

Яшчэ вам жадаем прыбытку у хаце
Ні мала, ні многа — штогод па дзіцяці.

Не будзем у крыўдзе яшчэ і на тое,
Калі пашанцуе — на год і па двое.

Дарогу ж мы знаем да вас, ягамосьці,
І ездзіць мы будзем да вас часта ў госці.

Эй, хто на адведы, эй, хто на радзіны —
Вазіць караваі па дзве паўасьміны.

*Рыгор Барадулін*

## Зоркі нашыя

Зоркі нашыя ў небе без нас
Пазнаёміліся выпадкова,
Мы якраз на зямлі ў гэты час
Прашапталі спрадвечнае слова.

Зоркі нашыя ў небе без нас
Шчырасцю незямной пакляліся,
Мы якраз на зямлі ў гэты час
Зазірнулі ў прадонныя высі.

Зоркі нашыя ў небе без нас
Весці нас па зямлі захацелі,
Мы якраз на зямлі ў гэты час
Думалі аб патайным вяселлі.

Зоркі нашыя, толькі б не згас
Позірк ваш і ўначы, і ў блакіце
І апошнюю сцежку для нас
Велікодным святлом асвяціце.

*Рыгор Барадулін*

## Гаспадыня

Я прашуся ў парабкі да Вас,
Гаспадыня Зорнага палаца,
Клапаціцца, каб агонь не згас, —
Незямная і зямная праца.

Ваш палац, ён з мрой маіх аб Вас,
І агонь — пасаг ад бліскавіцы,
Блаславіла мілавіца час,
Каб палацу шчасцем засяліцца.

Сподзеў любіць грэцца ля агню,
Што з нябёс абнізіўся на долы,

Навальніца чуе цішыню,
Сам сябе суцешыць сум вясёлы.

Здольны той жыццём рызыкаваць,
Хто прыйшоў у гэты свет, каб закахацца.
Я прашуся ў парабкі да Вас,
Гаспадыня Зорнага палаца.

*Рыгор Барадулін*

## Актрыса

Над сонмам гледачоў Вы светла панавалі
Самотнаю душой, саперніца жыцця.
І захлыналі ўсіх пяшчоты Вашай хвалі,
І неслі ў акіян святога забыцця.

Ад рэўнасці да Вас сябе губляла мэта,
І рэкі ўсе назад да Вашых ног цяклі,
І перайначыць лёс валадара й паэта
Вы позіркам адным з усмешкаю маглі.

Згаралі залі ўсе ад воплескаў гарачых.
Паклоннікі ніжэй схіляліся ў журбе,
Ігралі каралёў, манашак ці жабрачак,
Ды толькі не змаглі сыграць адно сябе.

Шалёны поспех — хітры пан,
Ды Вы яго перахітралі,
І зоры ў зайздрасці згаралі,
І палатнеў тэлеэкран.

## Святлана

Тваё імя саткана са святла,
З маіх юначых сноў яно саткана.
Я так хацеў, каб ты ў мяне была,
І ты ўвайшла ў жыццё маё, Святлана.

*Прыпеў:*

Святлана — зорка мая ясная,
Святлана — ясная, нязгасная,
Святлана — небам калыханая,
Святлана — любая каханая.

Жыццё пражыць — не поле перайсці,
Па ім ідуць, узяўшыся за рукі,
І мы пайшлі з табою па жыцці,
І павялі па ім дзяцей і ўнукаў.

Цвілі сады, і падала лісцё,
І вечар гас, і ранак разгараўся,
Налюбаваўся ўсім я за жыццё,
Адной табою не налюбаваўся.

## Радзіма

*Пераклад з японскай*
*Алеся Камоцкага*

Гульні дзіцячыя, рэчка і лес
Мне упрыгожваюць лепшыя сны.
Ва ўспамінах аб мінулым па Радзіме сум жыве
Мроямі светлымі вечнай вясны.

Час няўмольна там старыць матуль
І успамінамі кліча дзяцей.
Дождж і вецер там такія ж, сонца свеціць, як усюль,
Толькі чамусьці там неба бліжэй.

Веру, што здзейсніцца мара мая —
Тымі мясцінамі ціха прайсці.
І адчуўшы, як чакала мяне родная зямля,
Больш не шукаць сабе новых мясцін.

## Свята ў вёсцы

*Пераклад з японскай*
*Алеся Камоцкага*

У вёсцы гаспадараць барабан з дудой,
Збіраемся на свята ўсёю грамадой,
Дон-дон, дзілі-дон-дон.
Дзячым Бога, славім Бога песняю сваёй!

Даў сёлета нам Божа шчодрыя палі,
І мы з цяжкай працай справіцца змаглі.
Дон-дон, дзілі-дон-дон.
Пасля працы танцы скачуць па ўсёй зямлі.

А ў свеце, дзякуй Богу, восень і спакой,
Ёсць што на стол паставіць доўгаю зімой.
Дон-дон, дзілі-дон-дон!
Дзячым Бога, славім Бога песняю сваёй!

*Невядомы японскі аўтар*

## Сын мора

*Пераклад А. Камоцкага*

Прабеглі па пагорках сосны да вады,
Хвалі белай пенай змылі з берага сляды.
Вось з коміна пускае дым малы дамок.
Я сын мора, я жыву тут, гэта мой куток.

З морам я ад нараджэння, з самых першых дзён.
Мора раніцай будзіла і дарыла сон.

Баяў хвалямі мне казкі мудры акіян,
І яго паветрам дыхаў на ўсе грудзі я.

Пах мора — нібы водар кветкі медавой,
Бор паслухаць маю песню стаў вакол сцяной,
Разам з ветрам падпявае голасу майму.
Мы глядзім на мора разам і пяём яму.

А калі сядаю ў човен і вяслом сваім
Спрытна хвалю рассякаю на шляху марскім,
Нібы кветка, расцвітае зноў душа мая.
Я сын мора, тут гуляю, як па садзе, я.

*Адам Русак*

## Толькі з табою

Толькі з табою мне хочацца быць,
Толькі з табою,
Радасць, і гора, і шчасце дзяліць
Толькі з табою.

Ранняй часінай к табе я лячу,
Позняй парою,
Толькі к табе прыхіліцца хачу
Сэрцам, душою.

Выйсці у поле, дзе нівы шумяць,
Там, за ракою,
Першую зорку на небе спаткаць
Толькі з табою.

Гэтак не страшны цяжкія пуці
Будуць з табою,
Гэтак ісці неразлучна ў жыцці
Толькі з табою.

*Алесь Камоцкі*

## Ты прымусіла пець

Ты прымусіла пець абарваныя струны,
Ды стаміліся пальцы, ўзяўшы першы акорд,
І сама цішыня усміхнулася сумна,
А пасля быў уздых, а за ім быў паўтор.

І чаму тая песня раптоўна узнікла
Запрашэннем патанчыць сярод летняга сну?
І ад гэтае песні так цяжка адвыкнуць,
І ужо немагчыма не кратаць струну.

І нябачны матыў раздае свае ноты
Таямнічаю хваляй сляпога цяпла.
І мінаюць імгненныя летнія ночы,
І апошняя раніца не надышла.

*Генадзь Бураўкін*

## Суседка

Калі раніцай вёдрамі ляскала
І да рэчкі спяшалася босая, —
Я цябе цалаваў краскамі,
Я цябе цалаваў росамі.

Калі ў поўдзень ішла палеткамі,
Маладога спакою поўная, —
Я цябе цалаваў кветкамі,
Я цябе цалаваў промнямі.

Калі ўвечар да вясніц выйшла
І стаяла пад вішнямі колкімі, —
Я цябе цалаваў цішаю,
Я цябе цалаваў зоркамі.

Што, як ноччу ў акно пагрукаю,
Недасяжная і спакусная?

Я цябе цалаваў думкамі,
А хачу цалаваць вуснамі.

*Алесь Камоцкі*

## Будзе дождж

Летні вечар прапануе свой спакой.
Я гляджу ў яго пранізлівы падман.
Я пайду, калі паклічаш, за табой
Стараною, дзе шляхоў пакуль няма.

Не захоча хай ніхто мяне шукаць.
Нічыіх я не вазьму з сабой праблем.
Разумею, што не гэтага чакаў.
Прычакаецца галоўнае пазней.

Неба зоры паказала — гэта ноч.
Хмары зоры атачылі — будзе дождж.

Я пайду, калі паклічаш, за табой.
І нікога, калі хочаш, не знайду.
Летні вечар прапануе свой спакой,
Запавольвае развагамі хаду.

## Бэла, чао!

*Песня італьянскіх партызанаў*

*Пераклад А. Камоцкага*

Аднойчы рана расплюшчыў вочы,
О бэла, чао, бэла, чао, бэла, чао, чао, чао!
Аднойчы рана расплюшчыў вочы,
Пабачыў ворагаў наўкол.

Адзіны шлях мой — да партызанаў,
О бэла, чао, бэла, чао, бэла, чао, чао, чао!
Адзіны шлях мой — да партызанаў,
Чакае нас смяротны бой…

Як я загіну у партызанах,
О бэла, чао, бэла, чао, бэла, чао, чао, чао!
Як я загіну у партызанах,
Хай забярэ мяне зямля…

Мая магіла пад самым сонцам,
О бэла, чао, бэла, чао, бэла, чао, чао, чао!
Мая магіла пад самым сонцам
Між гор знаёмых зацвіце.

Убачыць кожны, хто пройдзе побач,
О бэла, чао, бэла, чао, бэла, чао, чао, чао!
Убачыць кожны, хто мяне ведаў,
Якая кветка узышла.

## Святы вечар

Пане гаспадар, ці спіш, ці ляжыш?
Ой, прыйдуць к табе йшчэ й малойчыкі!
Йшчэ й малойчыкі — тры малойчыкі!

*Прыпеў:*

Шчодры вечар добрым людзям.
Святы вечар добрым людзям.

Як першы госцік — ясны месяц,
Як другі госцік — ясна сонейка,
Як трэці госцік — светла сонейка.

Чым пахвалішся, ясны месячык?
Вазрадуецца жыта, пшаніца
За етым сталом — святым Ражаством.

*Уладзімір Някляеў*

## Жыве Беларусь

Жыве Беларусь! Беларусь жыве!
Жыве Беларусь! Беларусь жыве!
Яна пяе, цалуецца ў скверы,
Вянком купальскім  па Дняпры плыве,
Жыве ў надзеі, любасці і веры.
У нашых сэрцах Беларусь жыве.
Жыве Беларусь! Беларусь жыве!
Жыве Беларусь! Беларусь жыве!
Яна жыве ў Крэве і Смаргоні,
На скрыжаваннях часу гнёзды ўе,
І ўсё ляціць крывіцкая пагоня
І час ляціць — і Беларусь жыве!
Жыве Беларусь, Беларусь жыве!
Жыве Беларусь! Беларусь жыве!
Яна жыве, бо духам не змарнела,
Бо вольны  дух на Сожы і Дзвіне,
І сцяг лунае бел-чырвона-белы,
Лунае сцяг — і Беларусь жыве!

*Рыгор Барадулін*

## Будзільнік

Закруціў будзільнік вус.
Перастаў гудзець гудок.
Прытаміўся хлусіць хлус.
Лёг мядзведзь на левы бок.

Свой пакінуў сонны трон
Сонаў сын, самотны сон.
Не спыняецца нідзе,
Добрых дзетак спаць кладзе.

Каб шукаць патайны клад,
Запаліла ноч ліхтар.

Вечар збег за далягляд.
Спаць плывуць чароды хмар.

Калыхаў калыску дзед
І заснуў, як немаўля.
Спаць уцёк заечы след.
Спяць нябёсы, спіць зямля.

*Рыгор Барадулін*

## Ціха ноч ступае

Ціха ноч ступае
З зорнаю сявенькай.
Па сінім Дунаі
Дзед плыве сівенькі.
А вязе ён кадку,
Мёд салодкі ў кадцы,
Кожнаму дзіцятку
Па цікавай казцы.
Мёдам вочкі мажа,
Доўга казку кажа.
А гэтага дзеда
Дзеткам трэба ведаць.
Не рыпяць завесы,
Калі зойдзе ў хату.
Добрым сном завецца
Дзядок барадаты.
Ты, дзядок, у лодку
Забірай Ілонку.
Няхай засынае на сінім Дунаі.
Як засне, да мамы
Завязі малую.
Хвалі б’юць памалу,
Месячык вяслуе.
Люлі-люлі, лодка.
Засынай, Ілонка.
Люлі-люлі,
Зоранькі паснулі…

## Залюляю, як кахаю

Як неба люляе аблокі,
Як возера хвалі люляе,
Дрыготка, пяшчотна, высока
Цябе калышу-калыхаю.

Я цябе закалышу,
Як калыша Бог душу,
Залюляю, залюляю,
Як кахаю, як кахаю.

Як лісце з азяблага вецця
Ляціць, залюлянае ветрам,
Як месяц, як месяц, як месяц
Плыве, залюляны, на ветах.

Я цябе закалышу,
Як калыша Бог душу,
Залюляю, залюляю,
Як кахаю, як кахаю.

Як неба аблокі калыша,
Як возера хвалі люляе,
Як музыка доўжыцца цішай,
Калі ўжо знікае, знікае.

Я цябе закалышу,
Як калыша Бог душу,
Залюляю, залюляю,
Як кахаю, як кахаю.

## Хрызантэмы

Хрызантэмы — кветкі восені,
Не цвітуць яны вясной,
А ты любіш іх — дык вось яны,
Цудам знойдзеныя мной.

*Прыпеў:*

Вясною гэтай хрызантэмы
Падараваў табе я зноў,
Цяпер не знаю іншай тэмы,
Як пра няверную любоў.

Калі ты любіш хрызантэмы,
Дык, калі ласка, без праблем.
Такое вось жыццё багемы,
На фоне белых хрызантэм.

Хрызантэмы — кветкі вернасці.
Дагараюць аж да зім.
Да мяне зімою вернешся,
А вясною ты — з другім.

Ты маё каханне позняе,
Развітальнае святло,
Хрызантэмы, кветкі восені,
Белым снегам замяло.

Хрызантэмы — кветкі восені,
Не цвітуць яны вясной,
А ты любіш іх — дык вось яны,
Аж з Малайзіі самой.

## Развітанне з Радзімай

Сонца праменне стужкай вузкай
Ператкала помны вечар.
Край бацькоўскі, край мой беларускі,
Я табе кажу на развітанне:
«Да спаткання, да сустрэчы».
Я табе кажу на развітанне:
«Да спаткання, да сустрэчы».

Водар закінутага саду,
У небе зорка Мілавіца,
Таямніцы паркавых прысадаў,
Пэўна, неаднойчы на чужыне
Будуць мроіцца і сніцца.
Пэўна, неаднойчы на чужыне
Будуць мроіцца і сніцца.

*Прыпеў:*

Зноў залунае наш штандар, палыхне ўначы пажар,
І паходнаю трубой зноў пакліча нас з табой
На мужны бой
Мая Радзіма — край адзіны,
Да яго з выгнання
Шлях вяртання — шлях змагання.

Ростань на ростанях краіны.
Раніць думкі шлях абраны.
Прагне сэрца ў родныя мясціны,
І Радзімы вобраз ажывае
Растрывожанаю ранай.
І Радзімы вобраз ажывае
Растрывожанаю ранай.

Дахі мястэчак, стрэхі вёсак,
Вежы замкаў і палацаў,
Гонкіх храмаў звонкі адгалосак
Клічуць да сябе,

Бо немагчыма з гэтым краем развітацца.
Клічуць да сябе,
Бо немагчыма з гэтым краем развітацца.

*Прыпеў.*

Воі прагнуць волі,
Воля — свет і доля.
Броні звон ды коні,
Коні — кліч «Пагоні».
Крочым з багны ночы,
З ночы шлях прарочы.

*Прыпеў.*

Золак, ахутаны туманам,
Далягляды ў барвах бэзу.
І гучаць нябесныя арганы,
І жывуць у сэрцы,
І зліваюцца у гуках паланэзу.
І жывуць у сэрцы,
І зліваюцца у гуках паланэзу.

# Змест

**На арбіце сусветнага гучання**



**«Дух нашых надзеяў па свеце блукае»**

## Незабыўныя выступленні і запісы



## Дыскаграфія



## «Раскажы мне пра дождж»

*Тэксты песень*

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

# БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА АД СПЕВУ

*Выданне 2-е, дапоўненае*

Складальнікі: **Дзвінская** Эла Ігараўна,
**Мяльгуй** Анатоль Мітрафанавіч,
**Севярынец** Павел Канстанцінавіч

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Алена Спрытніч*
Вёрстка *Ларысы Гарадзецкай, Марыны Пятровіч*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 23.05.2018. Фармат 60×84 $^{1}/_{16}$.
Друк лічбавы. Папера афсетная.
Ул.-выд. арк. 7,59. Ум. друк. арк. 12,37 + 0,63 укл
Наклад 99 асобнікаў. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.